

# Натхнення!

*У сучасным культурным сусвеце журналіст павінен быць не толькі прафесіяналам, але і крэатыўнай асобай. Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта можа ганарыцца сваімі выпускнікамі, якія заявілі пра сябе ў сучаснай беларускай літаратуры. Іван Пташнікаў, Іван Чыгрынаў, Пятро Васючэнка, Янка Сіпакоў, Леанід Дайнека…*

*Калі на журфаку нарадзілася ідэя студэнцкага літаратурнага конкурсу, асабіста ў мяне гэта не выклікала здзіўлення. Конкурс, які праводзіць кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі, працягвае добрую традыцыю як у плане змены літаратурных пакаленняў, так і ў справе адкрыцця новых літаратурных талентаў.*

*На журфаку не шукаюць лёгкіх шляхоў. Таму фармат конкурсу першапачаткова планаваўся як рэспубліканскі. Інстытут журналістыкі дае спрыяльныя магчымасці для арганізацыі конкурсу, паколькі стварае ўмовы для інфармацыйнага забеспячэння, цеснага супрацоўніцтва са спецыялізаванымі СМІ. Сярод сяброў і членаў журы — літаратары і прадстаўнікі розных літаратурна-мастацкіх выданняў (дырэктар «Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, дырэктар выдавецтва «Галіяфы» Зміцер Вішнёў, дзіцячыя пісьменнікі Раіса Баравікова і Уладзімір Ліпскі, пісьменніца Галіна Багданава, загадчык і выкладчыкі кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Людміла Саянкова, Наталля Кузьміч, Сяргей Трунін...*

*Фактычны бок конкурсу — каля 1000 удзельнікаў за тры гады з 34 ВНУ краіны з 15 гарадоў.*

*Безумоўна, ёсць і духоўна-эстэтычны складнік — выхаванне новага пакалення беларускіх літаратараў.*

*Ініцыятыва часопіса «Маладосць» паказвае, што «БрамаМар» кожны год выходзіць на новы ўзровень, ставіць новыя задачы. Напрыклад, у гэтым годзе сярод сяброў журы «БрамаМар-юні» — нашы былыя фіналісты намінацыі «Паэзія» — Ірына Карэліна і Марыя Дуброўская.*

*З гонарам магу адзначыць з'яўленне ў гэтым годзе рэспубліканскага літаратурнага конкурсу «БрамаМар-юні» для школьнікаў 9–11 класаў. Гэта можа спрыяць прафесійнай арыентацыі школьнікаў і іх паступленню на творчыя спецыяльнасці Інстытута журналістыкі.*

*Жадаю конкурсу «БрамаМар» прытрымлівацца самага высокага прафесійнага ўзроўню, а яго ўдзельнікам — наватарскіх думак і натхнення.*

*С. В. ДУБОВІК,*
*дырэктар Інстытута журналістыкі БДУ*

# *Гід па нумары*

*Перагарнуўшы старонку, можна будзе прачытаць, навошта яны патрэбны ўвогуле — літаратурныя конкурсы розных кшталтаў, маштабаў і вартасцей.*

*Перагарнуўшы дзве — даведацца, як стварыць літаратурны конкурс хаця б студэнцкага ўзроўню.*

*Далей ідзе процьма парад і рэкамендацый, напісаных удзельнікамі і арганізатарамі конкурсу «БрамаМар», студэнтамі і выкладчыкамі. Чытаць іх часам весела, месцамі — карысна, у цэлым — цікава.*

*У астатнім гэты нумар амаль цалкам конкурсны. Сярэдні ўзрост большасці аўтараў усіх намінацый — да дваццаці. «Дваццаткі не хопіць на рандэву — так, кавы папіць і пагрэцца». Гэта ў Алісы Мінінай, «Паэзія», трэцяе месца.*

*«У дваццаць — хадзіць толькі па краях сваіх і чужых памылак». Дазволім?*

*«У дваццаць — згубіць і зноў адшукаць свой асабісты востраў». Пагодзімся?*

*Калі так, то просім перагарнуць старонку.*












*Мала хто ведае, што конкурс «БрамаМар» першапачаткова называўся інакш — «Белая костка». А «БрамаМар, калі прамаўляць, то гучыць як «брама мараў». Запісаўшы, атрымаем амаль што паліндром. І гэта частка — паліндромная — як паліндромная літара М — люструецца. Гэта брама люструецца з марай! Хто ў яе ўвойдзе, у таго ўсё-ўсё здзейсніцца! Хаця арганізатары конкурсу кажуць, што «БрамаМар» — гэта ніякія не вароты, а жывая істота…*

# З ІНШЫМІ І ДЛЯ ІНШЫХ

## • Што даюць літаратурныя конкурсы?

### ПРАФЕСІЙНЫЯ ДУМКІ



***Міхась ПАЗНЯКОЎ,***
***кіраўнік Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня літаратурных конкурсаў:***

— Безумоўна, адна з галоўных нашых задач — засяродзіць увагу маладых літаратараў на важных падзеях у жыцці краіны. Другая задача — адшукаць новыя таленты, працаваць з імі, дапамагаць развівацца. Мінскае гарадское аддзяленне СПБ з 2012 года пачало выдаваць кнігі маладых літаратараў у серыі «Мінскія маладыя галасы». Так, Ганна Чумакова стала пераможцай конкурсу, прысвечанага 120-годдзю Максіма Багдановіча, у сувязі з гэтым выйшла яе кніга «Мой анёл прысніў мяне…» Маргарыта Латышкевіч — удзельніца шэрага творчых конкурсаў. Як вынік — кніжка пад назвай «Пульс навальніц» у той жа серыі. Пры аддзяленні працуе школа юнага літаратара, ствараем таксама студыі такога ж кшталту пры бібліятэках, школах, гімназіях. Менавіта такім чынам і атрымліваецца знайсці новыя літаратурныя таленты.

***Аксана БЯЗЛЕПКІНА,***
***кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ:***



— У літаратуры адсутнічаюць фармальныя крытэрыі, якія адназначна паказалі б іерархію творцаў (хіба што можна адразу адсеяць відавочную графаманію), таму мае значэнне канцэпцыя конкурсу і адпаведны ёй падбор членаў журы, усё гэта разам уплывае на вынік. Менавіта таму я за тое, каб літаратурных конкурсаў было шмат і розных. Бо і для ўдзельнікаў, і для арганізатараў, і для членаў журы — гэта своеасаблівы спосаб знайсці аднадумцаў паводле эстэтыкі, ідэйна-мастацкіх каштоўнасцей, нават жанраў і тэматыкі. А калі людзі знаходзяць адзін аднаго — разам яны сіла. Я гэта дакладна ведаю. У конкурса «БрамаМар» няма абмежаванняў па жанрах, мове ці тэматыцы, але ёсць узроставае абмежаванне. Таму пра ўплыў на літаратурны працэс можна будзе меркаваць праз некалькі дзесяцігоддзяў.

### АЛЬТЭРНАТЫЎНАЕ СТАЎЛЕННЕ

***Ігар ЛОГВІНАЎ, выдавец:***

— У нас маленькая краіна — усе ведаюць усіх. Асабліва ў літаратуры. Таму таленавітых і здольных літаратараў мы ведаем праз размовы з іншымі літаратарамі або крытыкамі ці праз папярэднія публікацыі ў друку. Выдаўцы, як зацікаўленныя гульцы ў гэтай справе, як правіла,

у курсе кніжных планаў лепшых літаратараў. Ды і самі літаратары, звычайна дзеляцца са сваімі выдаўцамі творчымі задумамі. Таму мне, як выдаўцу, літаратурныя конкурсы не патрэбны: новых імёнаў і твораў для мяне яны не адкрываюць. Але літаратурныя конкурсы патрэбны для папулярызацыі літаратуры. Элемент спаборніцтва і фінансавы фактар узнімае цікаўнасць да нашай прозы, а гэта — тое, што трэба!





***Андрэй ФЕДАРЭНКА,***
***пісьменнік:***

— Я ўвогуле супраць тэрміну «конкурс» у літаратуры. Ён прыніжае годнасць пісьменніка. Гэта ж не шашкі і не акадэмічнае веславанне на хуткасць. Калі ў пісьменніка, на думку грамадскасці, ёсць вартыя творы, дайце яму прэмію, прычым, варта пастарацца зрабіць гэта так, каб найменш пакрыўдзіліся яго калегі.

Літаратурныя конкурсы нявечаць маладыя таленты, прымушаючы іх дбаць не пра творчасць, а пра калялітаратурныя справы.

## АПТЫМІСТЫЧНЫ ПРАГНОЗ

***Алеся КУЗЬМІНОВА,***
***журналістка, удзельніца Міжнароднага літаратурнага конкурсу Саюзнай дзяржавы «Мост дружбы»:***



— Літаратурныя конкурсы дазваляюць актывізаваць аўтараў, даюць ім штуршок як да напісання новых твораў, так і да працы над незавершанымі. Калі пісьменнік прэтэндуе на пэўны прыз, ён імкнецца зрабіць свой твор ідэальным. Да таго ж, здараецца, у аўтара ёсць пэўная задума: цікавая ідэя або сюжэт, але яна не рэалізуецца з-за недахопу часу або матывацыі. Дык вось конкурс — гэта матывацыя. Праз удзел у конкурсах творца мае шанец атрымаць канструктыўную крытыку ад журы: павучыцца ў прафесіяналаў і знайсці сваё месца ў літаратурным працэсе. Звычайна конкурсы прапануюць у якасці прыза публікацыю ў пэўных выданнях: аўтар-пераможца можа прарэкламавацца — пазнаёміць больш чытачоў са сваёй творчасцю. Нарэшце, у межах конкурсаў нярэдка арганізуюцца майстар-класы, семінары і іншыя мерапрыемствы: можна не толькі атрымаць веды, але і сустрэць «сяброў па духу», пазнаёміцца з іншымі творчымі асобамі, знайсці новыя крыніцы натхнення. Конкурсы ствараюць канкрэтнае асяроддзе і прастору для эксперыменту.



***Кацярына ХАДАСЕВІЧ-ЛІСАВАЯ,***
***дзіцячая пісьменніца, удзельніца літаратурнага конкурсу «Лепшы твор 2012 года»:***

— З’яўляецца магчымасць зарабіць або ўмацаваць імя і рэпутацыю ў літаратурным асяроддзі. Можна спадзявацца, што новы рукапіс, які прынясе аўтар, будзе разгледжаны, а не трапіць у архівы навечна. Але трэба разумець, што перамога аднаго тэксту ў конкурсе яшчэ не гарантуе выдання іншага. Нарэшце, вельмі цікава і карысна пабыць суддзёй конкурсу. Вядома, гэта адбірае час, але якую дае практыку! Адчуць сябе на месцы рэдактара і зразумець, як яго зацікавіць, заўважыць недахопы іншых і павучыцца на іх памылках, сутыкнуцца з вялікай колькасцю штампаў, каб потым старанна іх пазбягаць.

## ПРАЗ ВЫНІКІ



***Георгій БАРТАШ,***
***паэт, празаік, перакладчык, арганізатар «Фэста аднаго верша», член журы літаратурнага конкурсу сайта www.TUT.by «Музы TUT» (2013):***

— Літконкурсы задаюць адміністрацыйна-мастацкі імпульс, які выклікае ваганне сістэмы, і гэтае ваганне прыводзіць да розных вынікаў: самае простае — многія пішуць творы спецыяльна пад пэўныя конкурсы. Часам таленавітыя. Апроч таго, розныя конкурсы фарміруюць розныя задачы, што на выхадзе робіць літаратуру разнастайнай. Конкурсы дапамагаюць вызначыць стан літаратуры, дамінуючыя жанры і стылі. Яны ствараюць інфармацыйную нагоду, што востра неабходна, паколькі мы з'яўляемся сведкамі таго, як наша культура імкліва перастае быць літаратурацэнтрычнай. Упэўнены, што конкурсы дазваляюць ацаніць сумленнасць, ступень ангажаванасці і карумпаванасці іх арганізатараў. Хочаш зразумець чалавека — даручы яму правесці літаратурны конкурс.

***Карына ЦІМАФЕЕВА,***
***студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ, удзельніца конкурсу «Проба пяра»:***



— Спаборніцтва на ніве літаратуры можна назваць своеасаблівым стартам для выяўлення асабістых здольнасцей удзельнікаў конкурсу. Незалежна ад таго, якім будзе канчатковы вынік — адмоўным ці станоўчым, — трэба памятаць, што менавіта ён стане вопытам.

***Запісала Дар'я ШОЦІК***

## ПОГЛЯД З-ЗА МЯЖЫ



***Лех ЗАЦЮРА***
***(Бяла-Падляска), шматразовы лаўрэат Усепольскага літаратурнага конкурсу ім. Ю. І. Крашэўскага ў катэгорыі прозы:***

— Літаратурных конкурсаў існуе нямала, я сам часам бяру ў іх удзел. Аднак нельга не задумацца над іх сэнсам. Слава выбітных пісьменнікаў не вымяраецца колькасцю перамог у літаратурных конкурсах. (Нобелеўскую прэмію я не ўлічваю, бо гэта зусім іншая гісторыя.) Тым не менш, змаганне пісьменнікаў за лаўры павінна мець нейкія станоўчыя бакі. І сапраўды мае! Мае літаратурныя прыгоды падказваюць некалькі момантаў. Перадусім, жаданне паўдзельнічаць у конкурсе вымагае напісання як мага лепшага твора, што мабілізуе творцу. Літаратурныя дзеячы могуць быць добрымі гультаямі, у той час як набліжэнне тэрміну дасылання прац дысцыплінуе іх. Другі момант — гэта ўзнагароды! Гэтыя грошы падтрымліваюць сціплы бюджэт аўтара. Існуюць таксама ўзнагароды ў выглядзе выдання лепшага твора. Не адзінаму дэбютанту гэта дало магчымасць з'явіцца на рынку і стала пачаткам кар'еры. Можна сказаць, што ўдзел у літаратурным конкурсе дае «творчага выспятка». А вядомыя пісьменнікі адчуваюць радасць, калі іх творы ўзнагароджваюць. Нарэшце, літконкурсы — гэта магчымасць сустракаць людзей з літаратурнага асяроддзя, усталёўваць кантакты, удзельнічаць у абмеркаванні...

А якую карысць атрымліваюць тыя, якіх, нягледзячы на спробы, узнагароды абыходзяць? Яны вучацца трываласці і пакоры.



***Элігіюш ДЫМОЎСКІ***
***(Кракаў), выкладчык пастаральнай тэалогіі, паэт, член журы шматлікіх літконкурсаў:***

— Я не раз задаваў сабе пытанне, учытваючыся ў дасланыя творы: навошта гэта ўсё і для каго? Пасля пакорна б'ю сябе ў грудзі і ўсклікаю: як добра, што на свеце ёсць мастакі! Бо які б ён, гэты свет, быў бы сумны і шэры. Бо ёсць патрэба ў крупінцы шаленства, адвагі думкі і празмернай уражлівасці, каб іншым таксама было лягчэй на душы. Літконкурсы заўсёды маюць жывую і непаўторную гісторыю. І хоць адны знікаюць, не вытрымліваючы знакаў часу і канкурэнцыі, але іншыя зноў даводзяць, што пастаянна трэба быць з іншымі і для іншых, бо такім чынам ты сам не спустошваешся духоўна.

Каб стаць прызнаным мастаком патрэбны не толькі талент і знясільваючая праца, але і трошкі шанцавання… Аднак па-над усім павінны ўладарыць мудрасць, розум і вера, якія не самі па сабе, а з глыбінь вопыту бяруцца. Таму той, хто прыкладае руку да пяра, няхай паразважае, на які шлях ён хоча ступіць і ў якім небяспечным катле яму калісьці давядзецца замешваць! Шмат хто ў гэтай справе зарабіў немалыя апёкі, пакольки, атрымаўшы аднойчы ўзнагароду, упэўніўся ў сабе, зрабіўшыся ў выніку аўтарам толькі аднаго твора. Вітольд Гамбровіч адзначаў у сваім «Дзённіку», «...што быць мастаком, значыць, быць закаханым смяротна, невылечна, палка, але адначасова дзіка і без шлюбу…» Хто ж гэтага не зразумее, няхай не прыступае ні да якіх конкурсаў, бо марныя яго надзеі і несуцешныя слёзы расчараванняў. Але калі нейкая іскра распаліць сапраўдны пажар, няхай жа ён гарыць агнём палкім і захапляльным. А такія іскры можна выбіваць сярод разнастайнай конкурснай саломы, якая поўным коласам раптам адарыла ніву…

***Пераклад з польскай Тамары САРАЧЫНСКАЙ***



***Ганна НЯВЕРКАВЕЦ,***
***паэтка, член моладзевага грамадскага аб'яднання «Літаратура. РВ», Роўна, Украіна:***

— Літаратурныя конкурсы — гэта добрая справа, ад якой карысць атрымліваюць нават арганізатары. Зрэшты, што атрымала і што страціла «Літаратура.РВ»? У нас утварылася цэлая база аўтараў з іх вершамі з розных гарадоў Украіны (перавага інтэрнэт-конкурсу), мы ўсё ж такі знайшлі таленавітых людзей і цяпер ведаем, каго запрашаць на паэтычныя чытанні. А што страцілі? Магчыма, час. Але, скажу дакладна, на такую справу яго было не шкада. Наадварот — вельмі цікава не проста чытаць вершы на адну з тэм, але і ацэньваць іх, параўноўваючы адзін з адным і спрабаваць аб'ектыўна выставіць той ці іншы бал. Як прызнаўся адзін з удзельнікаў, да гэтага конкурсу ён нават не пісаў вершаў, але вырашыў паспрабаваць, таму што было цікава прыняць удзел. І атрымалася ў яго даволі нядрэнна, скажу шчыра, ён нават прайшоў у наступны тур па выніках ацэнкі. Таму конкурсы часам адкрываюць у людзях невядомыя раней для іх саміх здольнасці. Менавіта таму ўсіх маладых паэтаў і празаікаў я заклікаю выкарыстоўваць магчымасць праявіць сябе не толькі сярод знаёмых або ў сацсетках. Гэта можна назваць шанцам даказаць сабе, што вы здольны на нешта істотнае і паэзія або проза не з'яўляецца марнай справай.

***Пераклад з украінскай Рамана ЛАТУШКІ***




Уладзімір КАПЦАЎ,
Марына ЕЛІСТРАТАВА

# ТРЫ СКАРЫНКІ ХЛЕБА

## *Не так цяжка зрабіць літаратурны конкурс, як гэта здаецца*

***Для таго, каб зрабіць удалы конкурс, трэба, каб сышліся дзве прынцыповыя рэчы: умовы і канцэпцыя. І ў тым, і ў другім яны павінны быць выбітнымі, непаўторнымі. Эксклюзіўная рыса «БрамаМар» — існаванне яго ў фармаце студэнцкага праекта: студэнты і арганізуюць конкурс, і прымаюць у ім удзел. У межах нашай краіны падобных літаратурных з'яў няма. Калі ваша канцэпцыя адметная і арыгінальная, вы не маеце канкурэнтаў.***

Канцэпцыя «БрамаМар» — літаратурная вучоба для ўдзельнікаў. Слоган конкурсу — «Дакраніся да сваёй Мары» — арыентуецца менавіта на пачаткоўцаў. Сістэмай майстар-класаў, літаратурных лекцый-вечарын, сустрэч з пісьменнікамі мы дапамагаем удзельнікам зарыентавацца ў сучаснай прасторы беларускай літаратуры. Але галоўнае — гэта публікацыя фіналістаў у СМІ. Такі гучны першы крок надае ўпэўненасці і натхнення.

«БрамаМар» праходзіць у два туры. Гэта вельмі распаўсюджаная практыка, калі з прац канкурсантаў сябры журы ствараюць шорт-ліст. Яны атрымліваюць працы зашыфраванымі.

Навошта патрэбны другі тур і заданне? Гэта сістэма дазваляе паставіць усіх удзельнікаў у аднолькавыя рамкі, яна найбольш справядлівая. Можна сказаць, літаратурнае заданне выводзіць з зоны творчага камфорту. Мы ніколі не абмяжоўвалі сваіх фіналістаў тэматычна. Толькі ў форме. Прапанаваная форма — штуршок напісаць так, як пачатковец яшчэ пісаць ніколі не спрабаваў. Навізна. Эксперымент. Гэта калі сцісла пра галоўнае.

Каб зрабіць рэспубліканскі літаратурны конкурс, неабходна мець некалькі зацікаўленых энтузіястаў і тры скарынкі хлеба: PR, праца для ўдзельнікаў, праца з удзельнікамі. Дакладнай мяжы паміж гэтымі блокамі не існуе.

### PR

Для пачатку неабходна зрабіць афішу, прыдумаць намінацыі (традыцыйныя «проза», «паэзія», «крытыка», «драматургія», «пераклад», «дзіцячая літаратура» і некалькі эксперыментальных — «сцэнар» і «белетрыстыка»), устанавіць тэрмін, да якога будзе цягнуцца збор твораў для першага тура, стварыць электронную скрыню, суполку «УКантакце». А далей — як мага шырэй распаўсюдзіць інфармацыю пра конкурс. Паляванне пачынаецца!

Вельмі карысна было б наведаць мінскія ўніверсітэты са стосам афіш і развесіць іх. Не забыцца пагрукаць у кабінет загадчыка па культурна-масавай працы, паказаць афішу, запытацца пра газеты і літаратурныя аб'яднанні ва ўніверсітэце, папрасіць паспрыяць размяшчэнню інфармацыі на сайце ўніверсітэта. З гэтым, звычайна, усе пагаджаюцца.

Добра было б распаўсюдзіць афішы па ўніверсітэтах іншых гарадоў. Рабіць гэта можна самымі рознымі спосабамі. Напрыклад. Едзе адзін з арганізатараў на машыне з бацькамі па трасе Касцюковічы—Мінск. На абочыне «галасуе» хлопец. Спыняемся, забіраем. Едзем разам да Мінска. Хлопец накіроўваецца ў Брэст ва ўніверсітэт. Арганізатарка яму — афішы, маўляў, развесіш ва ўніверсітэце імя Пушкіна. Той рады незвычайнай форме разліку, а «БрамаМар» рада афішам у Брэсце. Як вынік — у сёлетні фінал упершыню прайшлі студэнты з Брэста.

Вернемся да СМІ. Было б няблага знайсці сабе інфармацыйнага партнёра. Некалькі

газет, радыёканалаў і выдавецтваў, якія будуць друкаваць пра вас інфармацыю. Тры гады супрацоўніцтва паказваюць, што ў «БрамаМар» ёсць надзейныя сябры: радыё «Культура», «Выдавецкі дом «Звязда» («Маладосць», «Нёман», «Літаратура і мастацтва») і выдавецтва «Галіяфы».

**ПРАЦА ДЛЯ ЎДЗЕЛЬНІКАЎ**

Абмежавацца толькі інтэрнэт-піярам было б рызыкоўна і сумна. Правесці толькі асноўныя мерапрыемствы (майстар-класы і фінальная вечарына) было б занадта проста і аднабакова. Таму «БрамаМар», пакуль збірае працы на першы тур, ладзіць некалькі імпрэз, творчых сустрэч. Навошта?

Лішні раз прагучаць у СМІ, што спрыяе збору патэнцыйных удзельнікаў. Радуе тых, хто ўдзельнічае. Стварае станоўчы імідж.

Арганізацыя такіх мерапрыемстваў ідзе на карысць самім арганізатарам і спрыяе стварэнню новых кантактаў. А як нам вядома, у гэтым сусвеце ўсё вырашаюць сувязі!

«БрамаМар» ладзіў лірычна-музычную вечарыну і вечарыну беларускіх народных танцаў. На лірычна-музычнай вечарыне, што прайшла ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва, брамаМараўцы мінулых гадоў чыталі свае вершы. Такім чынам у нашых канкурсантаў з'яўляецца магчымасць прадэкламаваць сваю творчасць.

І галоўнае — не забыцца паклікаць сяброў журы, якія пагодзяцца судзіць працы. Натуральна, гэта прафесіяналы, тэарэтыкі і практыкі літаратуры і літаратурна-мастацкай крытыкі, працаздольныя і адказныя, маюць бездакорны літаратурны густ і вопыт працы з моладзевай аўдыторыяй. Дзякуй Богу, такое спадарства пагаджаецца журыць творы канкурсантаў.

...Надышоў канец першага тура і варта адпраўляць творы ўдзельнікаў да журы. Для гэтага іх спачатку трэба зашыфраваць. Кожнай працы надаецца парадкавы нумар. Шыфр варта рабіць дасканальна, уважліва, бо, не дай Бог, потым нешта пераблытаць.

Зашыфравалі, даслалі журы, адпачываем.

Журы вызначылася з лепшымі 10 працамі, прыдумала літаратурныя заданні для вызначэння пераможцаў у другім туры, разаслалі ўсё гэта фіналістам, павіншавалі іх, пераканаліся, што інфармацыя дайшла.

Пакуль цягнецца дугі тур, а фіналісты выконваюць заданні, «БрамаМар» ладзіць майстар-класы і сустрэчы з пісьменнікамі. Майстар-класы праводзяцца па кожнай намінацыі з яе ўдзельнікамі і сябрамі журы.

На майстар-класах непасрэдна разбіраюцца ўсе творы, мэтры адказваюць на пытанні пачаткоўцаў, раяць, у якім кірунку лепш рухацца далей, як жыць і развівацца пасля конкурсу.

Пакуль ладзяцца гэтыя мерапрыемствы, арганізатары здабываюць узнагароды для фіналістаў. «БрамаМар» іх заўсёды радуе кнігамі і невялічкімі падарункамі. Мы стараемся кнігі адбіраць адпаведна намінацыям. Фіналістам «Прозы» — штосьці з сучаснай прозы, фіналістам «Крытыкі» — знаходкі ў гэтай вобласці літаратурнай творчасці.

Бясспрэчна, што фінал — самая прыемная частка «БармаМар». Ушанаванне фіналістаў, адчуванне таго, што конкурс існуе не дарма, што ёсць студэнты, якім наша праца карысная. Узнагароджанне фіналістаў чаргуецца з канцэртнымі нумарамі. Музыкі ў нас выступаюць тыя, каму не шкада дарыць сваю музыку слухачам.

Настаў час пахваліцца. У гэтым годзе да нас прыйшлі працы з 32 ВНУ краіны. Нягледзячы на тое, што мы страцілі крыху ў колькасці ўдзельнікаў (200 замест звыклых 250), у геаграфіі конкурс толькі дадаў. Да традыцыйных Гародні, Брэста, Магілёва, Гомеля, Баранавічаў, дадаліся Пінск, Горкі, Мазыр, Орша, Барысаў і яшчэ 7 гарадоў Беларусі.

А таксама Вільня. Але ж гэта ўжо іншая гісторыя…

У гэтым годзе першы раз праводзіўся конкурс «БрамаМар-юні» для школьнікаў 9—11 класаў. Умовы і магчымасці тыя ж самыя, што і для студэнтаў. Толькі арганізацыя конкурсу назірае за тым, як лялечкі пераўтвараюцца ў матылёў.

Кожны год распрацоўваецца непаўторная канцэпцыя фіналу. У гэтым годзе «БрамаМар» пройдзе па-каралеўску і чароўная карэта не ператворыцца ў гарбуз пасля 12 ночы, таму што ў нашым конкурсе няма ніякага чараўніцтва, а ёсць сапраўдны талент тых, хто ўдзельнічае ў конкурсе, і тых, хто яго робіць.

# КАЛІ ВЕРШЫ НЕ ЗУСІМ ВЕРШЫ, А ІХ АЎТАР ЗАВЕЦЦА BEZDAR



***У паэтычнай намінацыі «БрамаМар» перамог чалавек з дужа дзіўным псеўданімам Андрусь Bezdar. Карэспандэнт «Маладосці» Віктар Лупасін сустрэўся з Андрусём у адной з мінскіх кавярняў і меў цікавую гутарку. На жаль, дыктафонны запіс яе таямнічым чынам знік. Прапануем вашай увазе яго рэканструкцыю.***

**— Распавядзі крыху пра сябе.**

— Мяне завуць Андрэй Макоўскі. Творчы псеўданім — Андрусь Bezdar. Вучуся на шостым курсе архітэктурнага факультэта БНТУ. Працую архітэктарам. Пра хобі: люблю маляваць абстрактныя карціны і пісаць такія ж вершы. Ну, гэта вы ўжо ведаеце.

Самому цяжка ахарактарызаваць свае творы. Наогул, я б не называў гэта вершамі... Тут зламаны рытм, месцамі адсутнічае рыфма. Яны будуюцца не па правілах вершаскладання. Наогул гэта проста такія вольныя тэксты, сукупнасць слоў, часам бэсcістэмная, сэнс якой разумею толькі я і тое на нейкім эмацыйным узроўні. Гэта як абстрактная карціна. Я проста транслірую тое, што знутры, і гэта прымае аблічча тэксту. Пісаць «правільна» я не ўмею і, напэўна, не хачу ўмець. Вельмі здзіўляюся, што перамог!

**— Адкуль такі дзіўны псеўданім?**

— Гэтага пытання я чакаў. Bezdar — гэта своеасаблівая правакацыя. Людзі цікавяцца, чаму такі псеўданім, і гэтая цікавасць вымушае іх пазнаёміцца з творамі і вырашыць для сябе, ці сапраўды я Bezdar. Правакацыя — адна з адметных рыс у сучасным мастацве любога тыпу. Ну і, канешне, гэта самакрытыка. Я не лічу, што мае творы добрыя. Таму псеўданім падыходзіць.

**— Як ты пішаш? Як разумееш, што верш адбыўся?**

— Пішу ў метро, дома перад сном, па дарозе кудысьці, за абедам. Паўсюдна пакрыху. Калі ёсць пэўны эмацыянальны настрой. У мяне на айпадзе каля дваццаці няскончаных твораў. Бывае, думаю: «Колькі можна, трэба ўжо скончыць хаця б штосьці!» Хуценька прыдумваю канцоўку і скідваю ў сацыяльныя сеткі. Неяк так. Але найлепшыя творы ўсё ж пішуцца на адным дыханні. Верш адбыўся, калі ў ім прысутнічае скончаная думка, ён валодае эмацыйнай і структурнай цэласнасцю, калі там ёсць штосьці, здольнае «зачапіць» чытача.

**— Ці не хочаш выдаць кнігу?**

— Хачу. У мяне нават ідэя ёсць, прыдумаў, як яна будзе выглядаць. Праўда, гэта кніга не ў звыклым яе разуменні. Хутчэй, дызайнерская рэч. Але калі вершы не зусім вершы, а аўтар завецца «бяздарам», то няхай і кніга будзе не зусім кнігай. На жаль, якаснага матэрыялу пакуль не дастаткова для друку нават маленькай кніжкі...

**— Ці даўно пішаш? Як мянялася твая творчая манера з цягам часу?**

— Пішу з адзінаццатага класа. Манера не моцна змянілася. Гэта ў асноўным вершы-апісанні, трансляцыя, пераказ таго, што ў мяне ўнутры. Толькі раней гэта былі простыя вершыкі пра каханне, без асаблівага падтэксту. Цяпер гэта ланцуг слоў, у якім бывае цяжка знайсці адзіны дакладны сэнс. Ды і пра каханне сёння пішу меней.

**— Хто паўплываў на тваю творчасць?**

— На 50 % музыка Ян Маўзер, на 40% музыка Асаі, на 10% музыка Юрый Шаўчук. Яшчэ люблю творчасць Веры Палазковай, Сямёна Ісаева, Андрэя Хадановіча, але, на жаль, яны не паўплывалі. Як правакатар мне падабаецца Сальвадор Далі.

**— Ці спрабаваў хто напісаць пародыю на цябе?**

— Не. Цікава было б пачытаць.

**— Колькі вершаў ты напісаў за сёння?**

— Ніводнага.

**— Ці выступаеш на публіку?**

— Не. Хіба толькі чытаў свае творы сябрам некалькі разоў. Гэта хобі для мяне. Але лічу, што паэт павінен сам чытаць свае тэксты, а не толькі друкаваць іх. Асабліва калі творы такія, як у мяне: нерытмічныя, са зламанай рыфмай. Іх складана чытаць, лягчэй слухаць. Калі ёсць час, я запісваю ў аўдыяфармаце, пад музычны ці гукавы акампанемент. Думаю, так правільней, чым друкаваць. Дарэчы, і выступленні пад акампанемент больш цікавыя, чым калі проста выходзіш на сцэну і чытаеш тэкст. Было б цікава паспрабаваць выступіць.

**— Як даведаўся пра «БрамаМар»?**

— Сяброўка скінула спасылку. І за гэта ёй вялізны дзякуй.

**— Што пажадаеш чытачам «Маладосці»?**

— Пажадаю чытаць творы беларускіх аўтараў, размаўляць па-беларуску, паважаць нашу культуру, творча развівацца. Чытайце «Маладосць», сябры!

# ЯК ПАЗЛ ЗБІРАЛА

***Твор Касі Глухоўскай «Спеў адной перліны» вельмі вылучаецца на фоне астатніх конкурсных прац у намінацыі «Проза». «Маладосць» друкуе яго ў гэтым нумары, папярэдне пагутарыўшы з аўтаркай.***

— Аповед пачаў прыдумляцца зусім выпадкова: проста пасярод вуліцы гадзіны ў чатыры раніцы ахапіла натхненне, узнікла нейкая плынь свядомасці, паплылі чужыя думкі ў галаве. Спачатку я начытала іх на дыктафон у тэлефоне (нічога іншага пад рукой не было), а потым стала прыдумляць, чые б гэта маглі быць думкі. Наўмысна ж старалася не пісаць, чакаць, пакуль не пачну нанова чуць, разумець, чаго хоча гераіня. Запісвала куды патрапіць: у камп'ютар, на абрыўкі паперы, на дыктафон, без усялякай храналогіі, — а потым суткамі перапісвала, як пазл збірала. Доўгі час не магла знайсці апошнія элементы. Ведала канцоўку, бо тая прыйшла яшчэ ў першы дзень, але не ведала, як да той канцоўкі падысці. Улічваючы, што твор ахоплівае цэлае жыццё ад маленства да старасці, будзь у мяне больш цярплівасці ды ўмення, паспрабавала б напісаць раман. Бо ў апушчаных перыядах жыцця гераіні хаваецца, я ведаю, столькі вартага і патрэбнага людзям!

Гераіня, чыё імя раскрываецца толькі ў апошнім радку, для мяне выключны персанаж. Нібы ўвесь сусветны бруд, у якім купаюцца людзі, проста не мог сутыкнуцца з ёй нават тады, калі яна нырала ў яго з галавой. І гэта неверагодна. Самае моцнае ўздзеянне на чытача аказваюць пакуты і боль галоўных герояў. Але ў гэтым творы гераіня не ўмее пакутаваць! Яна жыве, радуецца, смуткуе, але толькі не пакутуе. Мабыць, у тым і ўвесь сэнс твора, увесь сэнс, які б я хацела ўкласці, — сэнс летуценнасці і майстэрства жыць.



# У ДВАЦЦАЦЬ — НАПЕРАД РУШЫЦЬ

*Андрусь BEZDAR*

**КРОПЛЯ**

Я маленькая кропля вялізнага ліўня.
Я тут. Вядзі мяне. Знайдзі мяне
Сярод мільёнаў людзей.
Шчаслівымі, непаўторнымі, сарамлівымі,
Летуценнымі, дзіўнымі, як Сальвадор Далі,
Маўклівымі мы будзем ствараць наш дзень.
Ты дзе?
Мне трэба заснуць пад чароўныя гукі ліўня.
Кроплі падаюць і разбіваюцца па чарзе.
Каханне надыходзіць прылівамі.
Унікальнымі, уяўнымі, незаўважнымі хвілінамі.
Каханне заўсёды з'яўляецца пакрысе.
Я сеў. Спаць зараз зусім не магчыма.
За акном ці то дождж, ці то мяцель.
Цемра. Настольная лямпа. Мой цень
У пакоі шукае свой адпачынак
Паміж чатырох бетонных сцен.
Дзіўна. Адзіны. Пачуцці гадзінамі.
Маё сэрца зараз — нібыта мішэнь
У ціры.
Гэтая ноч, як быццам дзень.
Гэты дзень, як стары фотаздымак.
Скажы, калі ласка, ты дзе?
Маленькая кропля вялізнага ліўня...
Вядзі яе. Знайдзі яе.
Сярод мільёнаў людзей.

* * *

Быць птушкай,
Што не ўмее лётаць…
Быць камусьці
Надзейнай апорай.
Бегчы за ветрам —

Фініш на гарызонце...
Пакуль утыкаюцца
У сэрца свёрлы!
Быць маўклівым
Каб не пакрыўдзіць словам.
Штодзённа верыць
Няздзейснай мары.
Рассыпацца ў попел —
Калі дабрацца да Сонца.
Для кагосьці застацца
Тыранам.

## Я ЗАВІС

Я завіс.
Напэўна паміж небам і зямлёй.
Не ведаю, уверх нагамі ці, магчыма, галавой.
Марудна падаў я ўніз
І затрымаўся ў галінах сваіх мрой.
Завіс у барацьбе з сабой.
І сам сабе не свой. Герой.
І нейкі непарушны неспакой.
Як мой камп'ютар, я завіс.
Перагрузіце мяне, пліз!

*Аліса МІНІНА*

* * *

Двaццаткі не хопіць на рандэву —
Так, кавы папіць і пагрэцца.
Глядзець, як другім да стала нясуць
Тваё трапяткое сэрца.
І рукі хочацца вымыць пасля,
Калі залішыўся абмылак.
У дваццаць — хадзіць
Толькі па краях
Сваіх і чужых памылак.
У дваццаць — не дрэва
Расціць і не дом
Будаваць у цені
Раскідзістых грушаў.
Згарэць, аднавіцца і стаць як медзь.
У дваццаць — наперад рушыць.
Заплюшчыўшы вочы,
Сабраўшы ў хвост

Пажар сваіх доўгіх косаў.
У дваццаць — згубіць і зноў адшукаць
Свой асабісты востраў.
З ціхенькай гаванню, з белай царквой
(Пасля раскладзеш па паліцах).
У дваццаць — кахацца — дык кожную ноч
І паліць, каб не папаліцца.

* * *

Набіраю чужога паветра
У лягені, у кішэні, у банку,
Каб пазней з беларускім ветрам
Намяшаць яго сінім ранкам.

Набіраю мора ў скрыні,
Каб правезці яго па свеце,
Каб пазней са сваіх далоняў
Паналіць яго па праспекце.

Забіраю ўжо і неба —
Велізарны мядзведжы коўш.
Усміхаюся: «Не, не трэба...
Хіба нашыя зоры горш?»

* * *

Гэта не сум для песні,
(Ганна праліла алей),
Ты ўжо гэта здейсніў,
Трэба ісці далей.
Босым выходзіць у раніцу,
Не апускаць стульчак,
У рондалі з ночы варацца
Сто маіх матыльчат.
Звонку званок інкогніта —
Барытон.
Больш не чакаць аніводнага
У здымны дом.
Як адзіноту знесці мне?
Быць грамчэй.
Бачыць галоўныя меціны
Без вачэй.
Лезці па гэтай лесвіцы
У самы боль.
І культаваць, што месціцца
У далонь.

Падаць кропелькай стомленай
За каўнер,
Чуць скрозь любыя кілометры,
Як пяе.

* * *

Напішы яшчэ, а пасля падлічы
Колькасць надбітых пасудзін.
Колькі іх там, на тваім плячы
Ужо і было, і будзе.
Гэта літаратурны залік,
Гэта хронікі-вершы:
Тут крутануўся,
Там падклаў цвік
І фінішыраваў першым.
Плаваў глыбока —
Выходзіў сухім.
Баіў простыя рэчы.
Віў шаўковыя ланцугі —
Пасвіць сваіх авечак.

Напішы яшчэ.
Разнясі ўшчэнт,
Патані ў мане,
Пастаў на РАНДОМ.
Ты губляеш мяне
З кожным новым радком.
Я губляю цябе
З кожным
Новым
Радком.

* * *

Мне замала цябе і добрага і благога.
Замаўляю болей, расплачвацца буду танцам.
Ты прыйшоў ад людзей, а стома твая — ад Бога,
Ці не ён выдумляе мелодыі з тваіх пальцаў?

Ці не ён загадаў не прачынацца ранку?
Ці не ён зачыняў нам вочы і вокны?
Ці не ён мне пасля пазычаў запалкі?
Ці не ён мой галоўны доктар?

Гэта ён завузіў нашу адлегласць
У дзесяць пакояў таемных,

У дваццатку крокаў.
Але ён не ведаў,
Чаму ён не ведаў?!
Што
ад блізкасці
так
далёка.

*Анастасія АНЦІМОНІК*

* * *

Сатанінскі тур нашых жыццяў.
Перакручвае сэрца ад болю, нястачы, смагі.
Ты працягваеш рукі да сонца,
А сонца на свята
Пахавання зімы неспадзеўкі сышло.
Магія.
І на што ж ты здатны,
Калі прага матэрый прыбівае цябе да межаў,
Калі ў глебе душы прарастаюць адны цвікі?..
Ты здалёк да нас трапіў.
І ўжо не паспееш набыць квіткі.
Хутка мнуць цябе колы.
І высмоктвае д'ябал твае неспакойныя вочы.
Ты нічога не бачыш наўкол.
І на месцы душы ў цябе
Прочырк.

* * *

Калі-небудзь у мяне будзе сябра з доўгімі валасамі.
Калі-небудзь людзі пачнуць усміхацца самі.
Адчыняй усе вокны, не губляй сярод пекла сэрца.
Кожны марыць аб тым, каб хутчэй узляцець і сагрэцца.
Мне б вярнуцца дадому, але ці заўсёды ён вечны?
Сарамлівыя зоркі хаваюцца ў Шлях свой Млечны.
Далягляд працінаецца сонцам адвеку шалёным.
Гэты свет калі-небудзь ды стане мне добрым знаёмым.

* * *

Твая здань у шэрым акне
Абуджана снегам
Працята тугой
Збіраюцца ў хованкі
Пальцы гуляць
Цябе не крануць
Бо цябе не спазнаць

І маніш
І клічаш
І вееш маўчаннем
Ў наступную ноч
Я буду зданню.

*Ганна САЛАДКЕВІЧ*

**ПРОСТА ВЕРШ**

У самоце схілілася галава.
Але тое не самота. А радасць.
Што дыхаеш на поўныя грудзі,
Жывеш, бы ў Хрыста за пазухай —
Беларусь тое самае месца, далібог.
Тут утульна, цёпла, мякка
(Бывае, дзьме злосны вецер,
Але тое не бяда).
Людзі раз-пораз дораць свае ўсмешкі,
Дзе-нідзе і калі-нікалі пачуеш
Беларускую мову.
Сэрца захлынецца, захінецца пякучым замілаваннем
Гукамі песні,
Што складзена паводле слоў
Нашанскіх паэтаў.
Усё добра. Паўсюдна светла. Прасякнута ўсё
Надзеяй. Шчырасцю, подыхам, лагодаю…
Але існуе боль. Як па Караткевічу.
За людскія пакуты, страты, беспрасветнасць.
Гэты боль мяшаецца з прагаю,
Імкненнем
Падзяліцца, паспачуваць — і не даць веры (ні ў якім разе!)
На дрэнны канец. Толькі не так.
Такога не бывае. Хіба ж дарэмна
Складаюцца казкі, чуюцца спевы?
Навошта танчыць, калі не існуе добрага?
Яно ёсць, бо ёсць творчасць.
Таму мы жывём. Дзеля кахання,
Імпэту, натхнёнасці, проста жадання. Жыць. Жыць вечна.
Мы ёсць. Мы існуем дзеля Любові.
І намі рухае жаданне пакінуць след. Хай то вялікі ці малы.
Ці то ў дзецях, ці то ў мастацтве,
Ці то ў вырабе хлеба… Ды што там.
Проста ствараем.
Бо мы таксама стваральнікі. То наша існасць.
Нам гэта дадзена, на гэтае маем права.
І проста любім сваё.
Шануем.

*Крысціна БАНДУРЫНА*

* * *

Ружовай квеценню аблокаў
Крывавіць неба над палямі.
Я не люблю матывы Блока,
Бліжэй мне тое, што між намі.

На чырвані абруса скача
Бялюткай плямай, нібы снежны,
Адбітак сонца — цёплы зайчык —
І летні водар лье бязмежна.

Цяплее малако паміж далоняў,
Усмешка — промнямі з рамонкавых вачэй.
Пяшчотна ранак абдымае поўню —
Мая краіна, маё сонца… Мне лягчэй.

Адно крыло квітнее ружай,
Другое высцілаеш снегам.
Паміж двума не будзе сцюжы —
Заняты ложак сёмым небам.

Народзіны майго радкоўя
Імчаць пагоняй пры нязгодзе.
І, скрозь працятыя табою,
Праходзяць дні, гады, стагоддзі.

*Кірыл АЗІМКА*

**ІДЗЕ БЕЛАРУС**

У правай руцэ яго — кніга Купалы,
У левай — адпор на ўсялякі прымус.
Народную песню пяе ён з запалам,
Каб бачылі ўсе, што ідзе беларус!

**ІЛЮЗІЯ БЯСПЕКІ**

А выхад аварыйны ў самалёце
У час, калі ляціце вы высока, —
Ілюзія бяспекі пры палёце:
Сысці хіба што можна на аблокі...

*Ірына КАРЭЛІНА*

# БРАМАМАРЭЗІЯ

***Конкурс — гэта заўсёды стымул. У любым выпадку — перамогі альбо «накаўта» — з'яўляецца неадкладнае жаданне дзейнасці, часцей — у напрамку самаўдасканальвання. «Калі я такі таленавіты\здольны\геніяльны, трэба ствараць яшчэ больш шэдэўраў!» Або іншы варыянт: «Калі я графаман\няздара\безнадзейны, я дакажу ўсім адваротнае!»***



Таму аб'ява пра літаратурнае спаборніцтва пад паэтычнай назвай «БрамаМар» выклікала ў творчай частцы Інстытута журналістыкі БДУ відавочны энтузіязм.

Своеасаблівае хараство конкурсу надавала наяўнасць майстар-класаў, якія павінны былі зрабіць з нас — выбачайце за тоеслоўе — першакласных майстроў. З шасці намінацый («паэзія», «проза», «драматургія», «пераклад», «літаратурная крытыка», «белетрыстыка») самай шматлікай па колькасці ўдзельнікаў была, канешне, «Паэзія». Таму распавяду пра майстар-класы, якія датычыліся апошняй.

## ЧАСТКА 1. ПРА КУЛЬТУРНЫ ШОК, КАРУНКАВЫЯ СТРЫНГІ І АКЦЁРСКАЕ МАЙСТЭРСТВА

Паэтычны слэм… Гучыць гэтак жа «прывабна», як хард-шансон. Але ж, спакусіўшыся назвай, прыходжу ў вызначаны час на майстар-клас літаратурнага крытыка і выкладчыцы БДУ Маргарыты Аляшкевіч. У Інстытуце журналістыкі, нягледзячы на позні час, хаос.

Для пачатку вядучая майстар-класа ўводзіць нас у курс справы: тлумачыць гісторыю паходжання паэтычнага слэма. Для нагляднасці раздае лісты са слэмаўскімі тэкстамі, дэманструе аўдыявізуальны матэрыял. Але пакуль на тварах удзельнікаў мерапрыемства мала зацікаўленасці: яны цярпліва чакаюць кульмінацыі. Маргарыта запрашае на імправізаваную сцэну Віктара Лупасіна. Хлопец вітае прысутных і пачынае здзіўляць:

Пятрусь Броўка ў карункавых стрынгах,
Кандрат Крапіва ў карункавых стрынгах,
Эдзі Агняцвет у карункавых стрынгах,
Максім Лужанін у карункавых стрынгах…

**На жаль, Мінск стаў ужо настолькі звыклым, што страціў усялякі водар**

І гэтак далей.

Аўдыторыя значна ажыўляецца і патрабуе працягу. Другі твор выконваецца з дапамогай фізічных дзеянняў, падобных да ранішняй зарадкі.

Далей — цікавей. Маргарыта Аляшкевіч прапануе скласці рыфмаваныя радкі ў стылі слэма і прачытаць іх. Трэба адзначыць, што натхнёныя прыкладам спадара Лупасіна, студэнты былі актыўнымі і дэманстравалі цуды паэтычна-сцэнічнага майстэрства.

Карацей, утрымліваць увагу людзей на сваёй творчасці ўсімі мажлівымі і немажлівымі спосабамі навучыліся. Засталося толькі даведацца, якое месца займае паэт у сучасным жыцці, кім ён з'яўляецца… «Мышка! Паэт — гэта мышка!» — запэўнівае паэт і выкладчык Арцём Кавалеўскі на сваім асабістым майстар-класе.

**ЧАСТКА 2.**
**ПРА МЫШКУ, ПАХІ ГАРАДОЎ І МЕТАФІЗІЧНЫ НУЛЬ**

Па маіх назіраннях, большая частка тых, хто з'явіўся на «Арцёмку» (так называюць яго студэнты), кіраваліся менавіта пачуццём настальгіі па спецыфічным манерам выкладчыка тэорыі літаратуры. Але, мяркую, такога шчырага і сапраўднага Арцёма Міхайлавіча студэнты яшчэ не бачылі.

Пачынае паэт з верша. Не, хлушу, з невялікай прадмовы да гэтага верша. Справа ў тым, што ідэя параўнаць паэта з жывёлай сямейства грызуноў нарадзілася ў спадара Кавалеўскага выпадкова, у гатэлі горада N.

Публіка слухае з сур'ёзным выглядам, але калі-нікалі стрымана ўсміхаецца. Выкладчык аглядае прысутных і загадвае: «Задавайце пытанні!»

Утрымліваць увагу людзей на сваёй творчасці ўсімі мажлівымі і немажлівымі спосабамі навучыліся. Засталося толькі даведацца, якое месца займае паэт у сучасным жыцці, кім ён з'яўляецца…

Усеагульнае здзіўленне выклікае сцвярджэнне пра тое, што паэт — гэта не толькі мышка, але яшчэ і нуль!

І пачалася эстафета. Як казалі раней у школе, лес рук. Пра што толькі не пыталі брамамараўцы Арцёма Кавалеўскага: пра здольнасці, пра графаманства, пра яго асабісты шлях, пра кніжкі, пра эксперыменты… Дарэчы, наконт апошняга паэт застаецца непахісным і пераканаўча акліквае: «Эксперыментуйце, эксперыментуйце і яшчэ раз эксперыментуйце!»

Але без эксцэсаў не абышлося. Усеагульнае здзіўленне выклікае сцвярджэнне спадара Арцёма пра тое, што паэт — гэта не толькі мышка, але яшчэ і нуль! Па памяшканні справядліва бяжыць шэпт абурэння і нязгоды. Але выкладчык хуценька ўносіць свае папраўкі: малюе на дошцы матэматычны графік з метафізічным нулём пасярэдзіне. Я нават засумавала, гледзячы на тое, кім з'яўляецца, па меркаванні Арцёма Міхайлавіча, сучасны паэт.

У творчых людзей павышаная адчувальнасць рэцэптараў, думаю я, калі «вінаваты імпрэзы» распавядае пра тое, якія пахі ў тых ці іншых гарадоў. На жаль, Мінск стаў ужо настолькі звыклым, што страціў усялякі водар. Такія цікавыя рэчы не кожны дзень пачуеш, пагадзіцеся.

Увогуле, майстар-клас атрымаўся больш падобным да споведзі. Ва ўсялякім выпадку, мне падалося менавіта так.

Як бы там ні было, я нават не падазравала, што майстар-класы — гэта так весела. Не думаю, што ўдзельнікі паспелі набрацца вопыту, але энергіяй творчасці зарадзіліся. Мяркую, для ўсіх стала прыемнай нечаканасцю, што паэтычныя сустрэчы праходзілі ў «фармацэ нефармата», калі так можна выказацца. Пасля наведвання майстар-класаў у мяне нарадзіўся неалагізм «брамамарэзія». Ён азначае наватарства, беларускасць і адмаўленне ўсякіх норм-рамак у паэзіі. Але ж, было б нядрэнна, каб падмуркам усяго гэтага з'яўляўся талент.

*Галіна БАГДАНАВА*



# NEXT

***Так сталася, што ў мінулым, ХХ, стагоддзі мне пашчасціла адной з першых напісаць пра Зою Белахвосцік, Віктара Манаева, Аляксандра Гарцуева, Генадзя Давыдзьку. Даводзілася сустракацца з тады маладымі, а цяпер слыннымі кінарэжысёрамі, архітэктарамі... У гэтым стагоддзі часцей пішу пра маладых пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў. Выпадковасць? Але ж навукоўцы сцвярджаюць, што ХХІ стагоддзе мусіць стаць гуманітарным. Як і ХІХ. А значыць, будуць імкліва развівацца не масавыя, а інтымныя віды мастацтва: музыка, жывапіс, літаратура. А літаратура пачынаецца з паэзіі. Ці ёсць у свеце народ, які не мае вуснай паэтычнай спадчыны? Ці ёсць у свеце пісьменнік, які ў юнацтве не пісаў вершы?***

У наш прагматычны час варта не столькі аналізаваць і ацэньваць творчасць, колькі стымуляваць тых, хто ёю захоплены. Сярод удзельнікаў, якія рызыкнулі даслаць свае паэтычныя творы на конкурс, няма тых, хто не валодае словам і каму можна было б параіць ніколі не брацца за прыгожае пісьменства. Хаця, вядома, не кожны зрыфмаваны радок можна назваць паэзіяй. Словы ў душы таленавітага чалавека, у душы паэта, мусяць нарадзіць вобраз, які для кагосьці стане першаадкрыццём, а для кагосьці... паратункам.

Першыя з прачытаных мною конкурсных вершаў паранілі маю душу песімізмам. Ілжывыя людзі, цені, пустэча, якая чамусьці адразу нагадала мне «Чорны квадрат» Казіміра Малевіча, які нарадзіўся сто гадоў таму. Яго геніяльна праасацыіраваў у спектаклі «Чорны квадрат» па п’есе Клімковіча і Шайбака рэжысёр Аляксандр Гарцуеў. «Чорны квадрат» уяўляў сабою аксамітную фіранку, за якой знікалі душы тых, хто загінуў. Сам Казімір Малевіч сцвярджаў, што ягоны «Чорны квадрат» не канец, а пачатак новай рэальнасці.

І сярод юных паэтаў ёсць тыя, хто здолеў адшукаць вобразы. Адшукаць вобраз, здольны, як зерне, прарасці з зямное ці касмічнае цемры і, здавалася б, з безвыходнасці. Чорны колер, чорны квадрат ніяк не канец, а толькі пачатак…

Як ні дзіўна, сярод юных аўтараў ёсць не толькі дзёрзкія творцы, але і філосафы, што вядуць паэтычныя дзённікі. Прачытаўшы:

«Но зато сохраню свою душу
Для мира и мудрости книг»...

зразумееш, што паэзія — з’ява пазаўзроставая. Старажытнагрэчаскі паэт Архілох мудра заўважыў:

У меру радуйся удачы,
У меру у бядзе бядуй.

Ды толькі гэта не пра нас. У творах маладых беларускіх паэтаў з аднаго боку — скепсіс і расчараванне, з іншага — жаданне пераўтварыць увесь свет.

То абсалютная пяшчота, што ўзносіць да аблокаў:

Свет у акенцы ўжо не гарыць,
Ціха коцяцца светлыя мары...
Спіць дзяўчынка і ў сне сваім сніць,
Як цалуюцца белыя хмары...

То абсалютная цвёрдасць:

Маяковский?
Он громоздкий.
Он очень
Громкий
Большой

Кіт.
Он просто
Цветом
Алым
Броский,
Он просто
Твердый
*Как гранит.*

Паэзія — з’ява пазачасавая. І калі ты баішся, што цябе не зразумеюць сучаснікі, ты маеш права звярнуцца да тых, хто жыў да цябе, хто сёння прызнаны паэт. Уладзімір Маякоўскі, Марына Цвятаева, Канстанцыя Буйло... Рытміка іхніх радкоў дапаможа гарманізаваць уласныя. Пры выхаванні дызайнераў выкарыстоўваюць сістэму аналогій. Перш чым стварыць дасканалы сучасны карабель, дызайнеры дасканала вывучаюць лодку якога-небудзь племені, якая служыць абарыгенам шмат стагоддзяў. Яны паўтараюць яе форму. А потым робяць новую распрацоўку. Але ўся справа ў тым, што рука іх памятае, што такое гармонія, дасканалая для марскіх падарожжаў форма. Старажытная лодка застаецца камертонам гармоніі. Тое ж і са словам. Перачытайце з ручкаю ды блакнотам паэтычную класіку, выпішыце строфы, радкі, словазлучэнні, словы, якія здаюцца вам дасканалымі. Пагаварыце з класікамі. Тады вы не заўважыце, як вашыя радкі набудуць музычную дасканаласць.

І яшчэ часцей звяртайцеся да прыроды, галоўнай крыніцы гармоніі.

Прырода — таямніца, адкрыццё,
Дзівосны цуд, спакой і хваляванне.

Такое прызнанне, на шчасце, мы, жыхары цэнтра Еўропы, яшчэ можам пачуць з вуснаў юных паэтаў.

Шмат вершаў пра родныя мясціны — Лагойшчыну, Жодзіна, Смалявічы, Нарач, Полацк, Вільню, маленькія вёсачкі і мястэчкі. Хтосьці згадвае легенды, архітэктурныя помнікі, хтосьці — назвы вуліц ці слынных землякоў. Але ёсць нейкі вобраз, які можа скалануць нашу душу да глыбіні, даць магчымасць адчуць радасць першаадкрыцця... Так хочацца не толькі бачыць, але і адчуваць родны для аўтара куточак на дотык, на пах, смак.

І мне згадалася, як колькі гадоў таму навучэнка Гімназіі-каледжа мастацтваў імя Ахрэмчыка Ганна Чыгір напісала пра адзін з урокаў Полацкай Сафіі:

Не будзь вялікай,
Будзь прасцей...

І з роднаю хатай, лесам, і з гарадскімі гмахамі можна весці дыялог, просты, шчыры і вобразны...

Шмат вершаў пра мову. І гэта грэе душу. Але сёння важна не столькі заклікаць шанаваць яе, бараніць, колькі раскрываць яе хараство, яе магчымасці, тое, як звязана мова з рытмамі, музыкай, колерамі, водарам роднай зямлі... Увогуле, я прыйшла да высновы, што сёння паэт, ды і кожны літаратар, калі ён прафесіянал, творца, мусіць ставіцца да розных моваў так, як мастакі ставяцца да фарбаў. Сёння бярэ белую (беларускую), заўтра — зялёную (рускую), паслязаўтра — жоўтую (французскую) і гэтак далей... Дарэчы, навукоўцы вылічылі, што ў мастакоў, якія жывуць у той ці іншай краіне, пераважае пэўны каларыт. Цёплы, гарачы там, дзе шмат сонца, адкрытага святла (Францыя, Іспанія). Шэра-блакітны, белы там, дзе шмат туманоў, дзе святло рассейваюць хмары… У словах, у мовах канцэнтруюцца не толькі колеры, але і гукі... І ці варта сябе абмяжоўваць тым ці іншым дыяпазонам гучання? Можа таму Купала, які пачынаў пісаць па-польску, і Колас, які спрабаваў пісаць па-руску, вярнуліся да мовы беларускай, як сцвярджае наш студэнт-японец, які яе вывучае, гэткай жа мілагучнай, як японская.

Кажуць, што Беларусь з вясковай ператвараецца ў гарадскую дзяржаву. Але, на жаль, вершаў, у якіх бы адчуваўся дух горада, практычна няма.

Я сжимаю
Горячую до дрожи
Чашку чая…

Горад чакае сваіх паэтаў, тых, што пакуль яшчэ збягаюць ад яго на прыроду, хаваюцца ў віртуальнай рэальнасці...

Першаадкрыццё адбываецца на мяжы шчырасці. А для гэтага трэба вярнуцца да сваёй дзіцячай непасрэднасці і чуллівасці, трэба хоць каму даверыцца, хай і аркушу белай паперы, які ўсё яшчэ неадольна вабіць паэта і чытача. Давайце верыць у тое, што напісаны сёння радок станецца першаадкрыццём. Для таго, хто яго напіша. І для таго, хто яго прачытае. Шчасця вам, натхнення, акрыленасці!

Зміцер ВІШНЁЎ



# ГАЛАСЫ ГУБЛЯЮЦЦА Ў ШОРГАЦЕ ЛЕСУ

***Скрып і скрыгат — быццам нехта падышоў да сейфа з ломам. У беларускай літаратурнай прасторы за апошнія гадоў пятнаццаць назіраюцца розныя тэндэнцыі — і станоўчыя, і вельмі адмоўныя. Разгледзім некаторыя з апошніх.***

Навідавоку праблема адсутнасці працы «аўтар + рэдактар». Кожны, хто можа рыфмаваць ночы/вочы робіцца «паэцікам, які дорыць букецікі і камплімецікі». Традыцыйныя часопісы заўсёды прапускалі творы маладых літаратараў праз рэдактарскае сіта. Гэтая праца была і застаецца вельмі карыснай для разумення слова, для яго смаку і колеру, усебаковага асэнсавання. Аўтар нібыта атрымлівае пэўныя літаратурныя заняткі. Са словам варта працаваць як са спецыямі для страў. Сумна, але сітуацыя з рэдактарствам, на мой суб’ектыўны погляд, вельмі пагоршылася. У беларускім кантэксце склалася нездаровая тэндэнцыя, калі новы літаратар выходзіць да чытача наўпрост з кнігай, абмінаючы перыядычны друк. Вядома, кніжка праходзіць праз рэдактарскае сіта. Але ж наколькі павялічваецца ў гэтай сітуацыі праца рэдактара! І добра, калі атрымліваецца «прычасаць» творы пачаткоўца. У гэтым сэнсе нядобрую справу адыгрывае і прастора інтэрнэту. Кожны можа выкласці свае «шэдэўры» ў сацыяльных сетках, таму на працу рэдактара тут можна забыцца.

Другая навала — нецэнзурная лексіка ў літаратурных творах. Мне чамусьці згадваюцца 1980 гады, так званыя «перабудовачныя часы», калі на прасторах СССР кожны рэжысёр мастацкага кіно імкнуўся ўключыць у фільм сцэны эротыкі. Гэта лічылася модным, абяцала поспех і грашовы прыбытак. Што тычыцца брыдкаслоўя, суседнія Расія, Польшча і Украіна паспяхова прайшлі адпаведны постсавецкі этап у літаратуры, а беларускія літаратары раптоўна толькі цяпер кінуліся ў гэты сумнеўны вір. Што занадта, то не здрова. Ёсць выпадкі, калі нецэнзурныя словы ладна кладуцца ў кантэсце твора і апраўдваюць свой ужытак. Творы расійскага літаратара Аляксандра Брэнера — яркі прыклад ужывання трохпавярховай лаянкі «не дзеля, а насуперак». На жаль, скарыстанне падобнай лексікі не апраўдана. Як на мой погляд, калі можна абысціся без гарачага слоўца — лепш абысціся. Літаратар абавязаны мець багаты слоўнікавы запас. Хаця, пэўна, кожны свядома абірае сваё месца ў літаратурным трамваі. Хтосьці становіцца каля выхаду, хтосьці заціскаецца паміж кандуктарам і п’яным пасажырам, нехта вісіць на прыступках. У кожнага належнае месца, свой прыпынак, суадносна таленту і размаху душы. Адны прэтэндуюць на голас аракула, другіх задавальняюць бульварныя развалы.

Апошнія некалькі гадоў у нас утварыўся новы феномен, які чамусьці пакуль аніхто не разглядае ўсур’ёз як патэнцыйную небяспеку для нацыянальнай культуры. Верагодна, з маімі высновамі можна паспрачацца. Бо і мясцовы бруд — таксама здабытак тутэйшай прасторы. Чамусьці гэтая праблема замоўчваецца. Як мне падаецца, па некалькіх прычынах. Некаторымі ўспрымаецца не як праблема, а як выратаванне, іншыя сцвярджаюць, што гэта своеасаблівае дасягенен-

не. Думак многа. Я выказваю толькі сваю пазіцыю.

У беларускай прасторы з'явіліся літаратары-пярэваратні. «Нетыповыя» кар'ерысты, якім зручна выдаваць сябе за нацыянальных герояў і пажынаць плады гэтага неаранага шматпакутнага поля. Прасцей кажучы, хлопцы і дзяўчаты, якія кепска валодаюць нават размоўнай беларускай, раптоўна захацелі быць беларускамоўнымі літаратарамі. Чым не пачэснае жаданне? Вучыце мову! І тады няма пытанняў. Але ж не. Аказваецца, ёсць новыя пакручастыя і патаемныя шляхі для дасягнення жаданай мэты. Часта падрадкоўнікі, створаныя па-руску, чароўным чынам перакладаюцца сакрэтнымі асобамі на беларускую і рэдагуюцца, імёны перакладчыкаў ніколі не пазначаюцца. Тэксты, нібыта пластылін, перарабляюцца ў даступнае чытво і выдаюцца за арыгінальныя творы. Прыкладаў такіх інсінуацый у сучасным беларускім кантэксце даволі шмат. І самае цікавае, што большасць пра тое ведае, але лічыць гэтае хамелеонства патрэбным. Быццам менавіта такім чынам ствараецца сапраўдная літаратура. Зразумела, што гэтыя жаданні звязаны з прагматызмам, бо ёсць свае выгоды: апошнія некалькі гадоў у заходнееўрапейскіх краінах назіраецца цікавасць да беларускай літаратуры. І варта падкрэсліць, што жадаюць перакладаць, у першую чаргу, з беларускай мовы. І пра тое вядома многім. З чым і звязаны раптоўныя пераўтварэнні прадстаўнікоў псеўдабеларускай культуры ў беларускіх дзеячаў. Сумна, што гэтыя літаратары актыўна пазіцыянуюць сябе як нацыянальных аўтараў. Ці шчыра гэта? Не. Напаверку іх славутыя падрадкоўнікі па-руску для перакладу на заходнееўрапейскія мовы і ёсць арыгінал. Не сакрэт, што для перакладу на замежную ў краіне абіраюць пару-тройку аўтараў. І мне вельмі сумна, калі сярод абраных не будзе сапраўдных беларускамоўных. Вельмі няшчыра. І прыкра!.. Нехта крыкне: «Герояў у студыю!» На што я адкажу: «Згадваючы іх імёны, мы робім чорны піяр».

**Творы расійскага літаратара Аляксандра Брэнера — яркі прыклад ужывання трохпавярховай лаянкі «не дзеля, а насуперак». На жаль, скарыстанне падобнай лексікі не апраўдана**

У 1990 гады ў беларускай літаратуры прагрукаталі эшалоны «Таварыства Вольных Літаратараў», «Бум-Бам-Літа». Потым успыхнулі і зніклі яркія творчыя суполкі «Шмэрцвэрк» і «Вулей». Яскравае паэтычнае шматгалоссе напоўніла нашу прастору. Здавалася, што так і павінна быць. І думалася, што так будзе і надалей. Але нешта замала стала новых імёнаў. Магчыма я ў нечым памыляюся. Бо высновы варта рабіць на падставе публікацый у перыядычным друку за апошнія некалькі гадоў, варта было б разгледзець і дэбютныя кнігі. Але ў мяне чамусьці адчуванне, што настаў пэўны штыль у беларускай літаратурнай прасторы. Не, новыя імёны з'яўляюцца па-ранейшаму. Толькі галасы іх губляюцца, як галасы птушак у шоргаце лесу. Здаецца, што сярод ветру няма іх спеваў.

Згадваюцца некаторыя з пасяджэнняў літаратурнага аб'яднання «Вобла» ў 2013 годзе. Тады адбываліся вельмі камічныя сітуацыі. Пасля выступлення чарговага пііта пыталіся ацэнкі ў паэта і рэдактара Георгія Барташа. На пытанне: «Як пракаментуе мэтр гэтыя вершы?» той толькі разводзіў рукамі, усміхаўся і саркастычна паведамляў: «Сапраўдныя вершы». Мэтр адмаўляўся працаваць з гэтым матэрыялам. Той, хто патанаў, мог сябе ратаваць толькі сам. У такіх выпадках я думаю, што не ўсе тыя, хто пішуць вершы, мусяць называцца паэтамі. Калісьці для адукаванага чалавека было нормай запісаць уласны вершык у гасцявую кнігу. Валоданне вершаскладаннем можа казаць пра добрую філалагічную школу. «Талент + веды» — вось формула для нараджэння паэта. Хаця, вядома, у кожным выпадку могуць быць свае выключэнні з правілаў…

**Кожны свядома абірае сваё месца ў літаратурным трамваі. Хтосьці становіцца каля выхаду, хтосьці заціскаецца паміж кандуктарам і п'яным пасажырам, нехта вісіць на прыступках**

*Валерыя ІСАКОВІЧ*

# Я БУДУ ЧАКАЦЬ ЦЯБЕ

*Апавяданне*



***Валерыя Ісаковіч нарадзілася 29 снежня 1994 года ў Гомелі. Вучыцца ў БДУ на факультэце міжнародных адносін. Малюе, грае на гітары, любіць катоў і марыць вывучыць японскую мову.***

У гэтай чыгункі няма ані пачатку, ні канца. Паабапал яе расхінуўся высокі і стары лес. Адзіная праплешына — шэры перон, невядомая многім станцыя, аднапавярховы будынак з аблупленай фарбай.

Калі я праводзіла цябе, жнівень набліжаўся да канца. Пахла сенам, адчуваўся надыход восені.

Ты ўсміхаўся шырока і бесклапотна, ніколькі не турбуючыся пра тое, што наперадзе цябе чакае вайна. Ты абдымаў мяне, гладзіў па галаве, калі я плакала, баючыся расстання з табой.

Цягнік нецярпліва гуў. Адтуль пачуўся незадаволены воклік, і тады ты, усё гэтак жа бадзёра ўсміхаючыся, лёгка заскочыў па прыступках у вагон.

Потым я бегла за цягніком, які імкліва паскараўся, а ты махаў мне з акна і крычаў, што абавязкова вернешся, што я павінна дачакацца і тады…

Я так і не змагла разабраць слоў.

Але я буду чакаць цябе.

Спачатку мне было страшна. Няхай нашая Богам забытая вёсачка не ведала стрэлаў, выбухаў, і неба над намі не баразнілі самалёты, але нават тут былі чутны адгалоскі вайны. Яны прарываліся скрозь шумы адзінага ў вёсцы радыё, яны прыходзілі разам з людзьмі, якія забіралі прадукты для патрэб арміі. Спачатку тыя людзі казалі, што шчасце на нашым баку, што перамога будзе лёгкая.

Міналі месяцы, але вайна ўсё ніяк не канчалася. Запасы прадуктаў вычэрпваліся, і аднойчы мы не змаглі ім нічога аддаць, бо самім давялося б памерці з голаду.

Але ўсё роўна мы чакалі іх. Бо няхай яны ведалі няшмат, але мы не ведалі зусім нічога. Часам яны прыносілі з сабой газеты, у лепшым выпадку двухтыднёвай даўнасці. Я, таксама як і іншыя — дзяўчаты, жанчыны, старыя, шмат разоў перачытвала кожны радок, спрабуючы ўявіць, дзе ты і што з табой адбываецца.

Але аднойчы гэтая горкая вайна скончылася. Сыны, браты і мужы сталі адзін за адным вяртацца дамоў. Іх, знясіленых, стомленых ад бітваў, зраненых і скалечаных, прыносіла чыгунка.

Мне не сядзелася дома. Работа не ладзілася, усё валілася з рук.

Ліхаманкава-радаснае, пакутлівае чаканне гнала мяне на станцыю. Каб першай пачуць грукат твайго цягніка, убачыць, як ты сыходзіш з яго, ужо іншы, пасталелы, з кляймом вайны на сэрцы, і ўсё ж такі, як раней.

І кінуцца ў твае абдымкі.

Шмат хто не вяртаўся, і бачыла я жанчын у чорных сукенках, з заплаканымі тварамі. Бачыла, як хадзілі яны ў нашу маленькую цэркаўку ставіць свечкі за спачын душы.

Я не магла на іх глядзець. Сэрца маё сціскалася ад таго, што ты вернешся да мяне, а да іх цягнік не прывязе нічога, акрамя ліста-прысуду.

Я кожны дзень прыходжу сустракаць цягнікі. Я нават паспела пасябраваць са старэнькім касірам і па сумяшчальніцтве вартаўніком нашай станцыі. Жыў ён тут жа, зусім адзін.

Летам я частавала яго грушамі і яблыкамі, а зімовымі вечарамі мы пілі пахучую гарбату з зёлак у яго маленькім, цёплым і акуратным пакойчыку. Ён распавядаў дзівосныя гісторыі пра сваё жыццё, пра людзей і месцы, дзе мне ніколі не бываць. Але можа, ты таксама бываў там? Ты ж раскажаш мне пра гэта, праўда?

Аднойчы я прызналася старому, што адразу пазнаю цягнік, які прывязе цябе. Я так і не змагла зразумець, чаму ён глядзеў на мяне з такой тугою.

Ты вернешся. Бо ты абяцаў мне.

Усё ж такі наш край неверагодна прыгожы. Кожны дзень тут непаўторны: прырода змяняецца, жыве. Дзякуючы майму мернаму чаканню, я навучылася заўважаць гэтыя змены. Свет вакол нас складаецца з драбнюткіх адценняў, пахаў, гукаў… І кожны з іх непаўторны. Прыбяры яго — і ўсё разаб'ецца ўшчэнт. Ці адчуваў ты калі дасканаласць гэтага адзінства?

Ці памятаеш ты, як п'янка пахне бэз, што расце ля перона? Ці памятаеш ты васількі і падсушаныя летняй гарачынёй травы, салодкія лясныя ягады? Ці памятаеш, як бойка і задорна барабаніць асенні дождж, ператвараючы дарогі ў непраходнае месіва, як лес быццам успыхвае пажарам? Ці памятаеш засыпаныя снегам сады, марозныя ўзоры на вокнах і гарэзлівых дзяцей на замёзлай рачулцы? Памятаеш?..

Калі цёпла і сонечна, я чакаю цябе, седзячы на лавачцы ля акенца касы, часта з якім-небудзь рукадзеллем. А ў холад ды непагадзь перабіраюся ў невялікую залу чакання, дзе я вывучыла кожную драпінку на сядзеннях і расколінку на шкле, выразы твараў на пажаўцелых патрыятычных плакатах. Часам я засынаю пад мерны стук тутэйшага гадзінніка, і ты прыходзіш да мяне…

Апошнім часам дзядуля нешта захварэў і цяпер я ўзяла на сябе яго абавязкі: сачу за парадкам, прадаю квіткі, перадаю і атрымліваю пошту, складаю расклад і адрываю лісткі календара. Няхай на нашай станцыі сыходзіць мала людзей, стаянка кароткая, а праца аднастайная, але я ўсё роўна адчуваю чароўнасць чыгункі. Колькі лёсаў праносіцца міма мяне! Быццам прывіды, з'яўляюцца яны з ніадкуль і знікаюць у нікуды. Мне не запомніць усіх твараў і не пабачыць іх зноў. Але я ўсё роўна на імгненне раблюся часткай іхняга незнаёмага жыцця.

Гэтай восенню старога касіра не стала. На станцыі цяпер самотна, пуста. Вельмі сумую па ім, ягоным гісторыям. Так дзіўна і сумна ўсведамляць, што больш ён сюды не вернецца. Усё ж ён не такі, як ты. Але ж як шкада, што ты так і не змог з ім пазнаёміцца!

А свет паступова мяняецца. У нашай вёсачцы праклалі добрую дарогу. Цяпер сюды пачаў ездзіць аўтобус, у краме сталі прадаваць шмат новых рэчаў і прадуктаў, а квіткі на цягнік набываюць усё радзей і радзей. І ўсё меней цягнікоў спыняецца на нашым прыпынку. Але твой дакладна прыпыніцца.

Нядаўна са мной вось што здарылася: стала горача-горача, нават у вачах пацямнела ды горла сціснула так, што дыхаць не магла. Як звычайна я збіралася цябе сустракаць, ды не змагла ўзняцца з ложка. Нават да збана з вадой дацягнуцца не змагла. Пакой пайшоў кругам, а перад вачыма мільгацелі чорныя плямкі.

Я нават узрадавалася, што твой цягнік не прыехаў.

Але ўсё ўжо ў парадку. Хвароба была ліпкім і жахлівым сном. У трызненні мне падалося, што я ці то падала, ці то мяне хавалі. Але цяпер я прачнулася і больш нічога не баюся. Таму я зноў чакаю цябе.

А будынак ужо зусім стары: рамы парассыхаліся, аскепкі аконнага шкла рассыпаліся на патрэсканыя ад часу гранітныя пліты. Непалахлівыя птушкі залятаюць сюды віць гнёзды, а вецер прыносіць смецце. А ад павукоў, якія аблюбавалі столь і сцены, няма ратунку. Яшчэ прыходзяць сюды часам вожыкі-сапуны, ды запаўзаюць баязлівыя вужакі. Сядзенні ў зале чакання падгніваюць. Стрэлкі насценнага гадзінніка знерухомелі назаўсёды.

Аднойчы цягнікі перасталі хадзіць, і цяпер рэльсы іржавеюць без справы, а паміж імі прарастае трава.

Мне будзе трошкі сорамна сустракаць цябе ў такім закінутым месцы. Але гэта нічога. Затое больш не трэба сыходзіць на ноч дадому, а дождж і холад мяне зусім не палохаюць. Такім чынам, калі б ты ні прыехаў, я буду тут.

Таму што ты абяцаў вярнуцца. Таму што я веру табе.

І я буду чакаць цябе.

Вечна.

***Пераклад з рускай***
***Тамары САРАЧЫНСКАЙ***



Вячаслаў ГЛАДКІХ

# УСПЫШКІ ПАМЯЦІ

*Апавяданне*



***Вячаслаў Гладкіх нарадзіўся 5 чэрвеня 1991 года ў Казахстане (Какшэтаў). Пачынаў з эсэ на вольныя тэмы для сястры-студэнткі. Потым «БрамаМар-2010», пісанне «ў шуфлядку»... У жыцці размаўляе па-беларуску, а вось пісаць на роднай мове пакуль што не атрымліваецца. «З цягам часу, спадзяюся, выпраўлю гэтую дзіўную акалічнасць».***

Я сядзеў у адной з усхваленых Галівудам нью-ёркскіх кавярняў і ўважліва назіраў за тым, як мой сябар Мікіта, выціскаў чайны пакецік, накручваючы яго на лыжачку. Гэтае відовішча невыносна перашкаджала мне ўявіць сябе адным са шматлікіх нью-ёркскіх банкіраў, якія ў амерыканскіх фільмах кожную раніцу забягаюць у кавярню перакуліць кубачак велічынёй з напарстак.

— Табе дапамагчы? — пацікавіўся я ў Мікіты, калі той, пракруціўшы пакецік вакол лыжачкі, ледзь не адправіў яго ў мой бок.

Мікіта нешта буркнуў і незадаволена паклаў выціснуты пакецік на сурвэтку.

— Па-першае, — пачаў я, — хто п’е ў Нью-Ёрку чай? Гэта ж не Лондан і не Шры-Ланка. Не паспытаць ранішняй нью-ёркскай кавы — гэта як не сербануць піва на Актоўбэрфэсце. А па-другое, не ганьбі мяне і сябе, сябра мой, гэтымі фокусамі з пакецікам.

Мікіта адкінуўся на спінку стула і сказаў, што я залежу ад грамадскай думкі, а ён будзе паводзіць сябе так, як паводзіў заўсёды, і, нягледзячы на тое, што мы ў Нью-Ёрку, застанецца беларусам. Потым дадаў нешта пра норавы і ўтаропіўся ў плакат, што вісеў на сцяне. Я паціснуў плячыма і, не ведаючы, што адказаць, пачаў глядзець у тым жа кірунку. Плакат паведамляў пра тое, дзеля чаго мы, уласна кажучы, прыляцелі мінулай ноччу ў Нью-Ёрк, — пра першы ў свеце мемаатракцыён. Вось што там было напісана:

***Паважаныя наведвальнікі!***

*23 лістапада ў вас з’явіцца дзівосная магчымасць на свае вочы ўбачыць мемапрадстаўленне «Запаветны факел». Вы зможаце назіраць гістарычныя падзеі XVIII — XX стагоддзяў жыўцом.*

*У праграме: вяртанне амерыканскіх караблёў з далёкага плавання, доўгачаканая сустрэча перасяленцаў з іншых краін з амерыканскім берагам... Сапраўдны цуд, народжаны навуковымі адкрыццямі, дапаможа вам перанесціся на стагоддзі назад... Прадстаўленне заснавана на выкарыстанні адкрытага не так даўно мема-*

*выпраменьвання (успышак памяці). Участак мора, з якога людзі ў розныя часы заўважалі бераг вялікай Амерыкі, — тэрыторыя, што ўвабрала ў сябе гіганцкую колькасць эмацыйнай памяці, — будзе падвергнута ўздзеянню мемарэзанансных выпраменьвальнікаў. Гэта падорыць вам незабыўнае відовішча. Працягласць шоу — пяць хвілін.*

— Мда… — працягнуў Мікіта. — Зноў навука аблажалася, — выціснуў ён з сябе і смачна сербануў.

Ад нечаканага каментарыя мае бровы папаўзлі да валасоў і я выпаліў:

— Гэта чаму? Гэта ж сапраўдны цуд! Пакажы гэта мемапрадстаўленне чалавеку, скажам, з XIX стагоддзя — дык ён маліцца пачне.

— Не тым ты, Слава, навуковыя дасягненні ацэньваеш, — у голасе сябра чуўся папрок. — Па тваёй логіцы і пап-корн пакеціраваны, які ў мікрахвалёўцы сам надзімаецца, — гэта цуд навукі. Бо чалавек з пазамінулага стагоддзя пад рост гэтага пап-корна псалом зацягнуў бы.

— Ой-ой-ой! Як гэта я забыўся пра карысць для грамадства! — хапаючыся за галаву, з'едліва пратараторыў я. — Вось жа што галоўнае ў дасягненнях навукі!

— Карысць для грамадства? — перапытаў Мікіта. — Не, гэта занадта эгаістычна. Чалавек заўсёды прыкрывае асабістыя інтарэсы карысцю для грамадства, дэмакратыяй і іншай лухтой.

— Што ж тады, па-твойму, вызначае важкасць вынаходніцтва?

— Гэта, канешне, складанае пытанне, — тут мой суразмоўца паднёс кубак да рота і так застыў.

Я ведаў: у такія хвіліны Мікіта напружана думае і складае чарговую тэорыю з дзясяткаў раздробленых думак, таму дыпламатычна чакаў.

— Мне здаецца, што адказаць, наколькі вынаходніцтва ці адкрыццё важнае і вялікае для чалавецтва ў цэлым — гэта значыць, зразумець, наколькі яно дапаможа самаму няшчаснаму ў дадзены момант чалавеку на Зямлі. Я не спрачаюся, што мемавыпраменьванне, пап-корн і фільмы ў фармаце 25D — карысныя вынаходкі. Але… — ён зноў завіс з кубкам ля рота, — але яны не дапамогуць людзям, што жывуць ля падножжа пірамiды Маслоў.

Паглядзеўшы на задумлівага Мікіту яшчэ хвілін пятнаццаць, я прапанаваў яму прагуляцца, на што атрымаў станоўчы адказ. Мы выйшлі з кавярні і пацягнуліся шумлівымі вуліцамі пад нязмушаную размову.

— Як табе Нью-Ёрк? — спытаў у Мікіты.

— Як Нью-Ёрк, — адазваўся ён. — Як і паўсюль — людзі, машыны, дамы, толькі ў іншых прапорцыях.

— Ты не рамантык!

— Гэта ты не рамантык.

І ён зноў завіс.

* * *

Пабадзяўшыся па горадзе, мы адправіліся ў атэль. Да прадстаўлення, білеты на якое мы, дарэчы, выйгралі на працы, заставалася шэсць гадзін і можна было адпачыць. Лежачы ў нумары, Мікіта з цікаўнасцю пазіраў у столь, а я ўспамінаў шчаслівы момант, калі стала вядома, што мы выйгралі конкурс на самы цікавы праект і ў якасці ўзнагароды атрымліваем паездку ў Амерыку на захапляльнае мемапрад-

стаўленне. Памятаю, як ад радасці ўзмакрэлі далоні і захацелася проста лопнуць ад перапоўненасці эмоцыямі. Памятаю і халодную рэакцыю Мікіты… Ён проста сказаў: «Ну, з’ездзім». Наш праект-пераможца быў, канешне, так сабе, проста мы апынуліся адзінымі з нашага аддзела праектавання грамадскіх пабудоў, хто праявіў актыўнасць.

Увесь наступны тыдзень я гугліў тое, што нас чакала. Я меў вельмі цьмяныя ўяўленні пра мемавыпраменьванне і хацеў ведаць, што за цуд сучаснай навукі буду назіраць.

Два гады таму навукоўцы выпадкова заўважылі слабое невытлумачальнае выпраменьванне, якое сыходзіць з некаторых прадметаў і нават мясцовасцей. Развіваючы тэму памяці вады, навука сутыкнулся з тым, што інфармацыю можа захоўваць любы аб’ект: дрэва, камень, гара, нават пясок на дне мора. Даволі хутка стала вядома, што найлягчэй прыроднымі аб’ектамі запамінаюцца чалавечыя эмоцыі. Але самае цікавае ў тым, што аб’екты могуць не толькі захоўваць інфармацыю, але і ўзнаўляць яе — выпраменьваць. Спачатку даследчыкі змаглі пачуць тое, што хаваюць дрэвы. Так званае дрэва шамана, якое здаўна расце ў Швецыі і выступае ў якасці мясцовага боства, перадало ў мемаэфір песні і шэпты старых жрацоў.

Паступова навукоўцы змаглі пачуць гукавыя мемапасланні камянёў і вады, а яшчэ пазней — цэлых стэпаў і лясоў. У хуткім часе былі створаны мемарэзанансныя выпраменьвальнікі. Гэтыя апараты маглі так уздзейнічаць на крыніцу выпраменьвання, што стала магчымым убачыць тое, што «памятае» наша рэчаіснасць. Яна дае злёгку размытую карцінку падзей, што неслі моцны эмацыйны зарад. Прычым, карцінку можна бачыць няўзброеным вокам, без аніякай тэхнікі.

Усе гэтыя падзеі сталі прычынай сапраўднага расколу ў грамадстве. Вернікі Зямлі спачатку паставіліся да адкрыцця вельмі насцярожана. Навуковы і атэістычны свет трыўмфавалі. Цяпер чалавек мог пазбавіцца вялізнай прагаліны ў веданнях, звязаных з духамі, таемнымі галасамі і прывідамі. Навука бясстрашна глядзела наперад, ірвался да новых адкрыццяў і да забойства рэлігіі. І пакуль свет заўзята спрачаўся, выгодамі мемавыпраменьванняў зацікавіліся тыя, хто ў кожнай справе бачыць прыбытак. Прэса пісала пра спробы карпарацый і мільярдэраў запатэнтаваць адкрыццё ўспышак памяці і выкарыстоўваць іх у сваіх мэтах. Навукоўцы заяўлялі пра выпадкі хабару і пагрозы ад моцных гэтага свету. Але, як кажуць, сабака брэша, караван ідзе. І вось ужо адной з карпарацый напаўлегальна набыта некалькі мемарэзанансных выпраменьвальнікаў і атрымана права на дэманстрацыю мемаграм. За грошы, ясная справа. Да Дня Незалежнасці ЗША гэтай карпарацыяй планавалася стварыць магутнае хваляванне, якое паказала б амерыканцам не падзеі аднаго дня з гісторыі, а трансчасовую мемаграму — наслаенне шматлікіх падзей, звязаных аднымі эмоцыямі. Неглыбокае дно ля Статуі Свабоды фаніла так, што арганізатары абяцалі паказаць некалькі соцень мемаграм з радаснымі прыбыццямі да берага. На месцы прадстаўлення ўзвялі гіганцкую платформу на пяць тысяч гледачоў і рыхтавалі маштабную тэлетрансляцыю. Не хапала толькі нашай з Мікітам прысутнасці.

* * *

— Фоцік зарадзіў? — пацікавіўся я.
— Я не браў фотаапарт, — кінуў ён, зашпільваючы вятроўку.
— Як?! Ты не хочаш сфатаграфаваць тое, што сёння ўбачыш?

— Не. Навошта гэта? Хіба будзе радасна праглядаць мёртвым тое, што бачыў жывым? А хваліцца перад сябрамі я не буду.

Мы скончылі зборы і выклікалі таксі. Калі прыехалі на набярэжную, то ўбачылі натоўп у некалькі тысяч чалавек. У гэтай кампаніі нас даставілі на паромах на пляцоўку для прагляду. Там ужо працавалі на разагрэве поп-зоркі.

«Калі яны разаграюць, то што ж будзе потым?» — падумаў я і даверыўся прыемным прадчуваннем. Арганізатары аб'явілі пра сюрпрыз, які для мяне сапраўды стаў сюрпрызам. А вось Мікіта чамусьці пацёр рукі і сказаў, што прадчувае нешта нашмат больш цікавае. Аказалася, што пасля прагляду мемаграмы платформу з гледачамі адбуксіруюць, мемарэзанатары адлюструюць мемаграму таго, што адбудзецца сёння. То бок, мы ўбачым сябе, а дакладней — тыя эмоцыі, якія запіша прырода, калі мы будзем радавацца, гледзячы на прадстаўленне.

— Тым цікавей, — сказаў я і паглядзеў на Мікіту.

— Вось будзе смешна, — пракрычаў той у натоўп.

* * *

Пазней адбылося тое, дзеля чаго мы прыляцелі ў краіну пап-корна і стрыжаных газонаў. Адлічыўшы ад дзесяці да аднаго, шматтысячны голас гледачоў прароў «START!» і пачалося яно — мемаграмнае прадстаўленне. Глуха запрацавала апаратура, у роце з'явіўся кіславаты прысмак.

Я не верыў таму, што бачыў. Спачатку ў паветры сфарміравалася каля дзесяці паўпразрыстых драўляных караблёў, падобных да Лятучага галандца. Караблі-прывіды марудна і змрочна праплывалі ў сотні метрах ад застылага на платформе натоўпу. Карабельныя ветразі раздзімаліся, адкідваючы на водную паверхню лёгкі цень, па палубах прабягалі ўсхваляваныя пасажыры ў старадаўніх строях, і да нас даносіліся няўцямныя гукі: людскія крыкі, рыпенне дрэва, шум вады. Караблі адных эпох змяняліся суднамі пазнейшых часоў. На людзях, што няспынна паказвалі з борта ў бок берага, мяняліся адзенне, прычоскі і колер скуры. Чуліся розныя мовы, зацягваліся песні. Тое, што мы бачылі, прымусіла здранцвець. Людзям у натоўпе рабілася дрэнна. Нарэшце, у чароўнай чарзе сталі заўважнымі жалезныя грамадзіны — судны пачатку XX стагоддзя. На імгненне мне падалося, што на адной з палуб матрос са здзіўленнем паглядзеў у наш бок, ад чаго мяне скаланула.

Праз нейкі час на вялізным экране пайшоў адваротны адлік дзесяці секунд і караблёў стала менш. Новых у полі зроку не з'яўлялася, а тыя, што плылі, ужо растварыліся. Вось ужо знікла апошняе, блакітнавата-празрыстае судна і сціх апошні шум хвалі. Я адарваў погляд ад вады і зірнуў на Мікіту. Той стаяў нерухома. Відаць было: нешта думае.

Пасля гімна ЗША надышоў час абяцанага сюрпрызу. Вядучы гаварыў нешта пра тое, што мы ўбачым след нашай радасці ад прадчування цуда, след нашага чакання, нашага здзіўлення ўбачаным і, нарэшце, гонару за ЗША. Менавіта гэта павінна была ўвабраць прырода. І менавіта гэта мы павінны былі ўбачыць у наступнай мемаграме.

Нас адбуксіравалі на новае месца і зноў запусцілі апаратуру. Я зразумеў гэта з-за кіслага прысмаку ў роце і дзіўнага паху. Усе ўзіраліся ў тое месца, дзе некалькі хвілін таму размяшчалася наша платформа, і настройвалі зумы на сваіх камерах.

— Зараз будзе, — з салодкай усмешкай вымавіў Мікіта.

— Што? — спытаў я. Гэта ўсмешка не абяцала нічога добрага.

Некалькі секунд прайшлі ў цішыні. Потым у паветры з'явілася няясная выява нашай платформы. Здавалася, што на ёй сіратліва стаіць толькі некалькі дзясяткаў чалавек, сярод якіх я ўбачыў Мікіту. Карцінка дрыжала, псавалася, перарывалася і нарэшце знікла. Ззаду пачуўся ўздых расчаравання пяцітысячнага натоўпу, а збоку — выдых задаволенага чалавека. Я павярнуўся да Мікіты. На яго твары чыталіся спакой і задаволенасць.

— Я меў рацыю, — ціха сказаў Мікіта і з усмешкай прыкусіў губу.

— Што? Ды пра што ты?

Сябар маўчаў.

— Ды пра што ж ты? Гавары, — я схапіў яго з каўнер і пачаў трэсці. Здавалася, толькі ён цяпер ведаў, чаму мемаграма была такой слабой і кароткай. — Гавары!

— Ды што гаварыць, — абарваў мяне Мікіта. — Што гаварыць? Няўжо вы самі не разумееце? Няма ў вас ніякіх эмоцый. Вы ўсе развучыліся адчуваць, прадчуваць, ганарыцца! Тыя людзі, што праплывалі паўз нас, больш рэальныя! Яны адчувалі, жылі, радаваліся! Вы — не, мы — не адчуваем, не жывём, не радуемся!

— Пра што ты?

— Пра тое, што вы жывяце вобразамі — песнямі, фільмамі, чужымі меркаваннямі! Калі не запісала матухна прырода эмоцыі, значыць што? Іх няма! Вы імітуеце цікавасць і захапленне. Вунь амерыканцы, што толькі што спявалі гімн, — дзе іх гонар запісаўся? На фотаапаратах, вось дзе! Вы ўсе — падробкі!

— Гэтага не можа быць! — у галаве маёй было цесна. — Ты хлусіш, гэта збоі ў выпраменьванні.

Мікіта спакойна глядзеў мне ў вочы і ўсім сваім выглядам сведчыў, як яму мяне шкада.

— Добра, а чаму там быў ты?

— Хаця б таму, што мая нянавісць да вас і такога свету больш шчырая, чым вашыя захапленні і радасці.

Мікіта закурыў, павярнуўся да мяне спінай і, зашпільваючы вятроўку, кіўнуў:

— Вось і выходзіць, што я ёсць, а вас няма!

*Пераклад з рускай*
*Святланы ДЗЯНІСАВАЙ*



*Ксенія КАЛАШНІКАВА*

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ

*Апавяданне*



***Ксенія Калашнікава нарадзілася 9 снежня 1994 года ў Гродне. Студэнтка тэхнічнай ВНУ, яна любіць сур'ёзныя кнігі, моцныя фільмы і натхняльную музыку. Лічыць, што ў кожнай мары, калі да яе ісці, з'яўляецца цудоўная асаблівасць — спраўджвацца.***

***Прысвячаецца
майму лепшаму сябру Андрэю***

Гэтая гісторыя да банальнасці простая: я закахаўся. На злом галавы. Палка і самаахвярна. Але, на жаль, не ўзаемна. Закахаўся ў дзяўчыну, якая нібы не мела свайго месца ў гэтым велізарным свеце. Яна была быццам з іншага свету. Больш дасканалага і чыстага, адкуль яна была невядомай бязлітаснай сілай вырвана і кінута сюды, да нас. Да простых людзей.

Яна мая аднагрупніца. Напэўна, у вашым класе ў школе або групе ва ўніверсітэце была такая дзяўчынка. Яе лёгка ідэнтыфікаваць так: моцная асоба, цалкам занятая вучобай і кнігамі, аднак асоба выбітная, незатраўленая грамадствам. Няскораная. Яна заўсёды трымалася асобна, нібы ставячы сябе вышэй за іншых. Магчыма, гэта было збольшага апраўдана. Але, азіраючыся цяпер на тыя часы, я вымушаны з сумам прызнаць, што дзяўчаты ў маёй універсітэцкай групе былі заклапочаны выключна ўласнай знешнасцю і хлопцамі. Больш глыбокія развагі на розныя тэмы наганялі на іх тугу, а пошукі сэнсу быцця адкідаліся як залішне занудныя.

А яна была не такой. Яна была задуменная і дапытлівая. Ніколі не задаволілася б паўмерамі, ніколі б не адступіла ад сваёй, толькі ёй вядомай, «вялікай мэты». Яна мела выразныя і непарушныя прынцыпы, логіку якіх я так намагаўся зразумець усе тыя гады. Яна была рашучая і смелая: здавалася, нішто не можа напалохаць або зламіць яе.

Пагадзіцеся, пад такое апісанне можа падысці не адзін чалавек з вашага атачэння. Не адмаўляйце таксама і таго, што ў большасці сваёй гэтыя людзі вас раздражнялі, здаваліся невыноснымі і сумнымі. Хутчэй за ўсё, вы проста адвярнуліся ад такога персанажа: маўляў, раз яму камфортна і без мяне, то няма чаго падтрымліваць з ім адносіны.

Але я бачыў, што гэта маска. Я разумеў, што ўсё гэта — толькі вобраз, так старанна выбудаваны і створаны выключна для «абароны». Гэта быў ідэальны ахоўны механізм, які дазваляе спраўляцца з цяжкасцямі і бязла-

дзіцамі хутка і без болю, не дазваляючы ім нават мімалётна нашкодзіць. Я таксама зразумеў гэта не адразу і спачатку гэтак жа, як і ўсе аднагрупнікі, думаў, што яна фанабэрыстая і ганарыстая. Такіх завуць завучкамі. Але пасля кароткіх сустрэч, выпадковых, як тады здавалася, пасля фраз, згубленых між іншым, я са здзіўленнем адчуў, што ў яе найбагацейшы ўнутраны свет. Свет такой глыбіні і такой прыгажосці, што прайсці міма, адкрыўшы гэта, я ўжо не мог. Ведаеце, гэта як, выявіўшы скарбніцу, проста пацiснуць плячыма і сысці.

Яна аказалася зусім іншай. Яна любіла чытаць, але да кожнай кнігі адносілася ўважліва, спрабавала знайсці ў ёй нешта, што вылучыць яе на фоне астатніх прачытаных. Такім чынам яна памятала амаль кожную. Яна любіла пах старонак свежааддрукаванай кнігі і заўсёды загінала куткі на старонках з цікавымі фразамі або выказваннямі. Яна заўсёды збіралася перанесці іх у нататнік, каб захаваць, але ніколі гэтага не рабіла.

Яна была летуценніцай і фантазёркай. Яе ўяўленне было бязмежным: аналогіі і паралелі, якія яна праводзіла, каб лепш запомніць тыя ці іншыя рэчы, часам былі па-за межамі рэальнасці. Вось тут на дапамогу і прыходзілі кнігі: яна часта ўспамінала нейкія моманты з той ці іншай кнігі, нібы ўплятаючы іх у рэальнае жыццё. Яна знаходзіла такія падабенствы пацешнымі, таму ўсе вакол лічылі яе дзіўнай.

Нашыя зносіны былі скамечанымі і нейкімі невыразнымі. Я не разумеў прычыны, чаму яна спачатку шукае сустрэч са мной, а затым старанна пазбягае. А потым зразумеў: яна баіцца. Яна баіцца наблізіць кагосьці да сябе, пачаць яму давяраць і раскрыцца, каб не параніць сябе і свае пачуцці. Яе прынцып быў просты: яна аддавала сяброўству з чалавекам усю сябе, усе свае думкі, эмоцыі і душэўныя сілы. Але ў такім выпадку і чалавек павінен належаць ёй цалкам. Вось такая парадаксальная і нейкая дзіцячая ўласцівасць жыла ў яе галаве. Пачынаючы сябраваць з кімсьці, яна глыбока прасякалася жыццём свайго «выбранніка», верыла, падбадзёрвала, суцяшала, дапамагала, адрываючы ад сябе. Гэта дзіўнае і абсурднае самаахвяраванне ніколі не знаходзіла раўназначнага водгуку: людзі былі не гатовыя да такога магутнага патоку энергіі, які яна выпраменьвала. І яны пачыналі аддаляцца, адхіляць яе пад самымі рознымі прычынамі. Спачатку яна верыла, крыху пазней разумела ўсё і рабілася жорсткай. Сэрца яе закрывалася шчыльней, галава апускалася і гарачы ды такі яскравы позірк згасаў. Ёй больш не было для каго гарэць, і яна згасала.

Я быў сведкам такой сітуацыі. У нашай групе вучыліся тры дзяўчынкі, якія весяліліся да ўпаду, часам бесклапотна і безразважна аддаючыся ўцехам. Але яны былі добразычлівымі і іх усе любілі. Палюбіла і яна. Спачатку адчайна імкнулася быць з імі, быць падобнай да іх. Яны прынялі яе ў сваю кампанію, і яна была шчаслівая. Але паступова залішняя «наварочанасць» новай сяброўкі пачала надакучаць ім, бо яна не магла ў поўнай меры ацаніць «вось таго прыгажунчыка» або «вось гэты часопіс». Яе мудрагелістыя фразы і дзіўнаватыя развагі палохалі і прыгняталі іх, і яны вырашылі ад яе пазбавіцца. Паступова пачалі выцясняць яе. Яна адчула ўсю горыч гэтай страты і старалася вярнуць прыхільнасць «сябровак». Але беспаспяхова.

Вось тады яна і змянілася. Яна была па-ранейшаму ветлівая з імі, але больш яе вочы не блішчалі, ейны смех не чуўся разам з рогатам сябровак у гулкіх калідорах. Іх бясконцае свята працягвалася, толькі вось яе вытурылі з яго, як няпрошанага госця.

Мне ніколі не патрэбны былі сябры ці шумная кампанія. Не будзем шукаць прычыны майго такога стаўлення, бо размова не пра мяне, а прымем гэта як факт. Таму спачатку яе маленькія трагедыі цешылі мяне, пасля ж сталі хваляваць. Я сачыў за кожным яе рухам, за кожнай рэакцыяй на падзеі. Я бачыў, як яе чыстая душа змагаецца з агіднасцю свету і шчыра захапляўся ёю.

Мы часам перасякаліся па вучобе ў нашых праектах, але яна не магла дазволіць сабе прасіць дапамогі. Гэта б выявіла яе слабасць, яе «чалавечнасць», а дапусціць гэтага яна не магла. Мабыць, я быў адзіным чалавекам, да якога яна звярталася па дапамогу. Але кожны раз, калі рабіла гэта, яна ненавідзела сябе, бязмежна пагарджала за глупства і слабасць, якія бачыла ў сабе. Я дапамагаў заўсёды, бо разумеў: яна прыйшла да мяне, калі ўжо ўсё паспрабавала. Гуманітарый па натуры, складаныя матэматычныя выкладкі і праграмныя распрацоўкі яна ўспрымала і разумела не адразу, некаторыя ж рэчы так і засталіся для яе незразумелымі. Але яна заўсёды змагалася, змагалася да апошняга — гэта адна з рыс, якія я так бязмежна любіў у ёй.

Крыху пазней межы нашых зносін пачалі рассоўвацца: яна звярталася цяпер да мяне не толькі, каб я ёй дапамог, але і па-сяброўску пагутарыць. Яна баялася мяне ў рэальнасці, але лёгка гутарыла са мной у сетках. Гэта і праўда было прасцей: бачачы яе перад сабой, я губляў усякую абачлівасць, страчваў нітку размовы, бо любаваўся ёю. Яна была вельмі прыгожая і абаяльная, калі казала пра важныя для яе рэчы з уласцівым ёй імпэтам. Пад маімі недвухсэнсоўнымі поглядамі яна гублялася, і дыялогі ў класных пакоях або на калідорах заўсёды мелі вельмі няёмкі канчатак. У нейкім сэнсе сеткі прыйшлі нам на дапамогу. Абменьваючыся незлічонымі паведамленнямі і хаваючы свае твары, мы не так саромеліся ў выразах. Мы ўздымалі самыя нечаканыя тэмы і весялілі адно аднаго пацешнымі навінамі. Мы збліжаліся ўсё больш, але выключна ў якасці сяброў.

Нельга сказаць, што я моцна не падабаўся ёй. Не спрачаюся, я зусім не прыгажун, але доля абаяння ўсё ж уласціва мне. Я часта лавіў на сабе яе погляд: калі яна была ўпэўнена, што я не бачу, то разглядвала мяне і злёгку ўсміхалася. Яна хмурылася і бурчэла сабе пад нос, калі нейкія дзяўчаты з патоку падыходзілі да мяне па самых розных пытаннях. Яна настойвала на тым, каб я распавядаў ёй пра сваіх дзяўчат. Сама ж ніколі ні з кім не сустракалася і кахання, гэтак натуральнага для нашага ўзросту, не ведала.

Яна адштурхоўвала мяне, але, у той жа самы момант, адчайна мела патрэбу ўва мне. Я ведаў гэта, разумеў. І я гатовы быў чакаць, ахвяраваць рэальнымі адносінамі з іншымі дзяўчатамі, толькі каб застацца з ёй. Але нешта здарылася. Нейкая няўлоўная змена, якая палохала і насцярожвала. Яна стала нелюдзімай, нават яшчэ больш, чым раней. Яна, як бязважкі цень, плыла па калідорах універсітэта. Усё часцей на яе вачах блішчалі слёзы. Я пакутліва перажываў за яе, але не адважваўся нічога запытаць. Я ведаў, што яна давярае мне дастаткова, каб адкрыць праўду, але баіцца зрабіць такі крок. І я маўчаў, маўчала і яна.

І вось у адзін момант яна знікла з універсітэта, быццам яе ніколі і не было. Як высветлілася ў дэканаце, яна забрала свае дакументы і сышла. Вось так,  не развітаўшыся. Хоць, уласна, развітвацца ёй не было з кім: усе альбо ігнаравалі яе, альбо ненавідзелі. Казалі, што яна з'ехала ў іншую краіну вучыцца. Таксама я чуў вар'яцкія здагадкі, што яна наклала на сябе рукі. Я ведаў, што гэта не так: яна проста не магла гэтага зрабіць. Яна была ваяром, моцным і трывалым, і здацца проста так... Не, гэтага яна не магла сабе дазволіць.

Прамінула шмат гадоў, але я па-ранейшаму памятаю кожную рысачку яе дзіўнага твару. Я памятаю гучанне ейнага голасу, я памятаю залівістасць смеху. Я памятаю яе бяздонныя вочы.

І дзе б яна цяпер ні апынулася, я заўсёды гатовы падтрымліваць яе. Дапамагаць, калі яна папросіць, выслухаць, калі яна захоча гаварыць. І я гатовы чакаць яе. Чакаць яе і толькі яе ў маім жыцці і ў маім лёсе. Бо яна адна такая на свеце. Незвычайная.

Аляксандра САВІЧ

# НАД МАГІЛАМІ

*Апавяданне*



***Аляксандра Савіч нарадзілася 14 чэрвеня 1992 года ў Бабруйску. Студэнтка-журналістка. Сур'ёзна займаецца фатаграфіяй, часам піша невялічкую прозу. Глядзіць на жыццё як на вынік мінулага і імкнецца ствараць будучыню тут і цяпер.***

— Ведаеш, я ўжо столькі разоў казала сабе, што… Не, не тое. Я столькі разоў спрабавала пераканаць сябе, што змагу справіцца з адзінотай. Што гэтыя халодныя, маўклівыя сцены, якія скоўваюць мяне па начах бязлітасным страхам, які не змаўкае ні на імгненне і кроіць душу і сэрца, змогуць рана ці позна стаць маімі сябрамі. Што гэтыя карціны, якія ты, мама, некалі замовіла ў невядомага мастака, пачнуць размаўляць са мной, забяруць мяне часова ў свой свет-казку, дзе я змагу хоць на нейкае імгненне забыцца пра рэальнае жыццё. Што гэтыя фотаздымкі з табой, налепленыя на бакавую сценку лядоўні, дапамогуць мне не звар'яцець, не з'ехаць з глуздоў ад думкі, што цябе побач няма, што ты памерла… Ведаеш, я верыла ў гэта. У перамогу над адзінотай, над смерцю, якая адабрала цябе ў мяне… Пакуль, мама, гэты злы вецер, які спапяляе ўсялякую надзею на сваім шляху, не пагрукаў да мяне ў акно, у душу. Гэтыя паралізуючыя маю смеласць, мама, гукі перамогі… Аднак зусім не маёй.

Ён моцны, мама, звычайны вецер. Які гулам засеў у маёй галаве. Звычайны вецер, мама, ён стаў маім пеклам, маёй паразай. І цяпер, ведаеш, я зноў перастала быць упэўненай у тым, што я спраўлюся з адзінотай без цябе.

Цяпер я зусім па-іншаму гляджу на ўсё тое, у што я так моцна хацела паверыць, — у маё выратаванне. Гэтыя сцены, якія я амаль палюбіла і паверыла ў тое, што яны змогуць абараніць мяне ад бязлітаснага ворага, былі ўсяго толькі выдумкай, толькі грудай цэглы. Гэтыя карціны былі ўсяго толькі халоднымі, нерухомымі палотнамі, якія нагадваюць пра цябе вострым болем у грудзях. І гэтыя фотаздымкі… Такія цёплыя, спыненыя навек імгненні з табой… Цяпер я гляджу на іх, мама, і разумею, што іх больш няма… Няма імгненняў, няма цябе… Я падыходжу да акна, адкуль усё так жа дзьме вецер, і разумею: няма нічога больш страшнага, чым згубіць цябе. Няма нічога больш жудаснага за набытак, які цягнецца за гэтым, які так жахліва назваць услых, калі ён ужо зусім побач… Як незваротны працэс… Імя гэтаму набытку Адзінота. І зноў, мама, я шукаю адказы…

Шукаю выйсце з учэпістых лап гэтага бязлітаснага звера, на жаль, чалавечага паходжання. А перамога была такая блізкая, амаль адчувальная. Столькі моцы, столькі часу мне спатрэбілася, каб зрушыцца з мёртвай кропкі і пачаць супраціўляцца яму… Але ва ўсім вінаваты звычайны вецер, мама… Які знянацку так бязлітасна ўварваўся ў мой дом, у маю душу. Зімовы халодны вецер, які я так любіла, калі ты была побач.

— Прывітанне, братка. Я… Я хацеў папрасіць прабачэння, што дагэтуль не наведваў цябе. Хоць ты ляжыш тут паўгады ўжо. Проста я памятаю, як ты не любіў, калі да цябе прыходзілі госці ў здымную кватэру, пакуль ты яшчэ не паспеў абжыцца ў ёй… Я… На днях бачыў тую дзяўчыну з першага курса, з якой ты хацеў пазнаёміцца і… Так і не паспеў… Брат… А ведаеш, яна аказалася вясёлай, гарэзлівай. Я пазнаёміўся з ёй на канферэнцыі па гісторыі. І не паверыш… Ты, аказваецца, таксама падабаўся ёй. Яна чакала, што ты падыдзеш да яе і загаворыш… Ёй падабалася твая звычка, згінаючы калена, раззлавана пляскаць сябе далонню па правым сцягне, калі ў цябе штосьці не атрымлівалася.

Але ёсць і дрэнныя навіны, брат. Мама ў шпіталі. У яе быў інфаркт, але цяпер ёй ужо куды лепей. Дактары кажуць, што гэта адбылося з-за нерваў. Але ты не перажывай, я памятаю твае апошнія словы, братка, я буду сачыць, каб яна была ў парадку. А дома я надумаў рамонт. Пакуль мама ў шпіталі, я вырашыў пераклеіць шпалеры на кухні і ў прыбіральні. Але ты ж памятаеш гэтыя аблезлыя шпалеры, якія мама так любіць. Але цяпер, пасля твайго раптоўнага зыходу, у доме будуць некаторыя змены. Ды і я памятаю, як ты быў нясупраць цішком ад мамы абадраць ноччу гэтыя кавалкі паперы, што аджылі свой век, і зрабіць ёй раніцай «сюрпрыз» у выглядзе некалькіх плакатаў з «AC/DC» на сценах.

А яшчэ я знайшоў на днях той самы дыск, ліцэнзіёнку з Helloween, якую ты думаў, што згубіў у каледжы. Яна ляжала пад канапай, не ведаю, можа, Гарф яе туды зацягнуў, мяркуючы, што гэта нешта ядомае. Можаш уявіць яго расчараванне, калі ён высветліў, што гэта толькі кавалак пластыку. Беднае шчаня.

Вось, здаецца, і ўсё, братка, хоць ты б абурана ўсклікнуў: «Што гэта такое, брат, мы паўгады не бачыліся, а табе няма чаго мне сказаць?» І ты б меў рацыю. Шкада, што цябе няма з намі… Не хапае тваіх аповедаў за вячэрай пра тое, якія прыгоды на цябе абрынуліся цягам тыдня, а часам і цягам аднаго дня. Не хапае тваёй неверагоднай упэўненасці, што ўсё ў жыцці заўсёды заканчваецца добра і што ні ў якім разе нельга здавацца перад цяжкасцямі. Мне заўсёды здавалася, братка, што ты бачыў нешта, чаго не бачылі мы з мамай. Дарэчы, мама на днях павесіла ў калідоры тваю карціну. Памятаеш, яна ніколі ёй не падабалася. Казала, што яна занадта нерэальная. «Казак у жыцці не бывае, лепш бы ты напісаў карціну, дзе б адлюстраваў жыццё такім, якое яно ёсць, без прыхарошванняў», — гэтак яна казала. Але цяпер яна зразумела, брат, што не мела рацыі. На днях яна сказала мне (мы стаялі разам у калідоры і глядзелі на тваю працу): «Кожны бачыць жыццё па-свойму, і твой брат бачыў яго менавіта такім. Не варта было мне казаць яму, што ён напісаў яе дрэнна. Цудоўна тое, што ён мог бачыць свет з іншага боку. Гэтая карціна ўсё, што засталося ў мяне ад яго. Гэта надае мне сіл, не дазваляе ўпасці ў роспач. Я шчыра спадзяюся, што ён знаходзіцца менавіта ў такім свеце, якім яго бачыў, у казцы».

— Сястра кажа, што я занадта шмат часу праводжу тут, з табой. Яна кажа, што я вар'яцею. Яна думае, што я згубілася… Згубілася паміж светам жывых і светам памерлых. Яна няспынна паўтарае, што я настолькі моцна імкнуся да цябе, што

хутка сама ператваруся ў мерцвяка, калі не перастану прыходзіць сюды. Я нічога не адказваю ёй на гэта. Я маўчу. Маўчу з ёй, з дзядзькам, з калегамі, з усім светам. Я маўчу, бо баюся не пачуць цябе. Кожны дзень, кожную гадзіну, кожнае імгненне я чакаю, што ты зноў загаворыш са мной. Яны кажуць, — так, я схусіла табе, — не толькі сястра, але і ўсе яны: дзядзька, калегі і мой псіхіятр — кажуць мне, што гэта не можа цягнуцца вечна. Але горш за ўсё тое, яны кажуць, што ты больш ніколі не адкажаш мне…

На днях я пераглядала нашыя з табой фотаздымкі. Ты амаль на ўсіх усміхаешся свету і мне. Ты выглядаеш шчаслівым. Я на фотаздымках, асабліва тых, дзе я ў абдымку з табой, такая жывая. А яшчэ я знайшла той здымак, які ты зрабіў, калі мы былі ў Ялце. Я яго вельмі люблю. Ён асаблівы, не падобны да ўсіх астатніх. Я прынесла яго з сабой, я заўсёды нашу яго з сабой. На ім мора выглядае нязвыклым, не такім, якім бачыла яго я. Ведаеш, я ўпэўнена, ты б мог стаць мастаком… Пісаў бы пейзажы. Не, ты б ствараў новыя сусветы, не падобныя да нашай рэчаіснасці, але ў той жа час яны б з’яўляліся яе часткай. Твае карціны сталі б жывымі, у іх не было б смерці. Гэта як мора на тваім фотаздымку — бясконцае, велічнае, несмяротнае.

…Яны просяць мяне адпусціць цябе, тата. І цяпер, трымаючы ў руках тваё мора, адбітае на плёнцы бачанне тваёй душы, я разумею, што яны кажуць слушна. Мне трэба адпусціць цябе, адпусціць маё мора, каб яно магло быць свабодным.

— Вітаю, Настаўнік! Мой абавязак паведаміць табе, што я цяпер таксама стаў настаўнікам. Твае ўрокі не прайшлі дарэмна. Але, галоўнае, твае кнігі дапамаглі мне стаць тым, кім я цяпер з’яўляюся. І ў першую чаргу я не проста твой вучань, я твой сябар. Сябар тваёй душы, тваёй творчасці, якую ты пакінуў пасля сябе.

…Табе будзе цікава ведаць пра тое, што я знайшоў па дарозе да цябе, — паперку на зямлі. Можа быць, гэта тваё пасланне да мяне, Настаўнік?

Дык вось, я ўзняў яго, гэты скамечаны шматок паперы, здавалася б, абсалютна нікчэмны ў параўнанні з цэлым светам. Амаль змярцвелымі пальцамі (з кожным годам, Настаўнік, зіма робіцца ўсё больш суровая) я разгарнуў пасланне і прачытаў: «Толькі тое, што мы пакінем пасля сябе, дае нашым блізкім надзею на нашу несмяротнасць». І я ўсё зразумеў.

*Пераклад з рускай*
***Тамары САРАЧЫНСКАЙ***



*Пеця ПРЫГНЁТ*

# СПЯШАЎСЯ Ў ЦАРКВУ

*Апавяданне*



***Пеця Прыгнёт (Вадзім Скарабагаты) нарадзіўся 13 ліпеня 1989 года ў Мінску. Вучыцца на правазнаўцу. Марыць пабудаваць камунізм — грамадства, у якім усе будуць любіць адно аднаго хаця б так, як у той сям'і з дзевяццю дзецьмі, у якой ён вырас.***

**I**

*Гэта быў самы звычайны дзень двух самых звычайных людзей...*

Я павінен быў патрапіць туды ўпершыню, таму і спяшаўся ў царкву. Ціснуў на педалі веласіпеда, не запавольваючы рух на паваротах. Усё з-за таго, што доўга валяўся з Ганнай у ложку. Яна яшчэ не прадрала вочы і была соннай, але запытала ў мяне:

— Ты часам не спознішся ў царкву?

Сама яна амаль ніколі па нядзелях у царкву не ходзіць. Мне здалося, што хоча ад мяне адчапіцца, таму хутка ўстаў, сабраўся і пакаціў.

Зайшоў у царкву, знайшоў сабе месца і пачаў навокал вачымі шмыгаць, шукаючы яго. Цягнуліся нудныя амерыканскія перапеўкі. «Патрапіў на сваю галаву! Навошта сюды прыцягнуўся… — пачалі лязгаць думкі ў галаве. Даўно ўжо нуду наводзяць гэтыя дзевачкі-прыпевачкі — спявачкі і спевакі, — з узнятымі рукамі, якія ў перапынках між песнямі нібыта “моляцца”. — Адна, галоўная відаць, адначасова паказвала яшчэ і вачыма, што павінна адбыцца і якая песня будзе наступнай. Тэатр нейкі. Калі робіш для Бога, то навошта аблічча намазваць пакораю»?

Усе «молячыеся» сімулянты выглядалі неяк блякла. Тэатр, відаць, для пралетарыята, бо аніякіх дэкарыцый спецыяльных на сценах, без спецэфектаў. Тут няма чаго рабіць чалавеку спакушанаму прыгожай ігрой акцёраў, выдатным інтэр'ерам і забаўляльнымі падзеямі п'есы. Такі спектакль можа вабіць толькі тых, хто ніколі не бываў у сапраўдным тэатры. Разглядаючы шэрых прысутных, засохлыя сцены з рознакаляровымі рамкамі карцін, змест якіх быў вельмі падобны: звычайныя чорныя літары на белым фоне. Прасачыў пэўную храналогію ў зале: сядзенні стаялі аддзеламі.

І тут я яго ўбачыў.

Ён падаўся мне самым лепшым сімулянтам, бо ў яго выходзіла лепш за іншых. На маю думку, так прыкладна выглядае больш-менш свядомы вернік: не было маханняў

рукамі і выкрыкванне малітвы; ён выглядаў спакойна, нагадваючы равіна ў сінагозе падчас чытання святых пісанняў.

Прычына, па якой ён выглядаў лепшым сімулянтам, хавалася, у яго відавочнай шчырасці, але ўсё іншае прыпадабняла яго да іншых «молячыхся», у якіхназіралася адсутнасць разумення, каму яны моляцца.

Гэта дакладна быў ён, бо побач з ім стаяла яна. Пазнаў яе па запамінальнай прыкмеце: акуляры ў тонкай аправе. Яна спадабалася мне яшчэ тады, калі я з ёй пазнаёміўся. Некаторых людзей акуляры выстаўляюць у лепшым святле. Насунуць на нос — і выгляд, як у прафесара, думаеш: такі разумны чалавек перад табою, аж цікава робіцца, хто ён такі? У мяне так здараецца не першы раз, і людзі з акулярамі перада мною як у паранжы: хто ведае, што там хаваецца? Яна здалася мне нават прыгожай, хаця нічога цікавага я не заўважыў. Толькі па акулярах і пазнаў яе. Тварам яна не вылучалася, магчыма, калі б сустрэў на вуліцы ў іншым паліто, то б прайшоў міма, не заўважыўшы.

Падалося, яна таксама моліцца, праўда, з меншай апантанасцю, чым ён.

Я прыкаваў погляд да сектара іх знаходжання, але яны не азіраліся і мяне не заўважалі, бо стаялі спераду. Я паціху пачаў падвываць песенькам. Падсвядома спадзяваўся на добрую казань, цешыў сябе надзеяй, а самому няўтульна. Хутчэй бы гэтыя песенькі скончыліся. А яны, як на зло, хвілін на трыццаць іх расцягнулі!

Унутрана малюся: «Госпадзі, дай у казані што-небудзь светлае, вечнае, каб з'явіўся хоць нейкі мізэрны сэнс у прыходзе ў гэтае месца…» Але — не, відаць, Усявышні вырашыў сёння даць слова іншым. Адчуваў сябе жабай у каляіне: вось-вось і раздушыць мяне гэтым набажэнствам.

Не ўсе словы залятали ў мае вушы, я чуў нейкія гукі і стараўся зразумець больш, але выходзіла цяжка.

Словамі дзяліўся піяніст, на выгляд яму было гадоў за трыццаць, але паводзіў ён сябе, як выпускнік амерыканскіх біблійных школ: махаў рукамі, умеў мяняць інтанацыі з высокіх на нізкія і з гучных на ціхія. Трымаў у руках Біблію і часам паказваў яе «молячымся» тым бокам, дзе напісана слова Біблія. Піяніст часта пераігрываў альбо недаігрываў Па сваёй уласнай шкале я б не даў яму больш за сярэдні ўзровень. Ці то ролі сваёй ён не прачуў альбо не адчуваў сябе гаспадаром на сцэне.

Служба дзейнічала на мяне як сон-трава на падарожніка. Скрозь чуліся перашэптванні суседак, яўныя гукі казані, аднак больш гучна даносіліся перашэптванні. Усё гэта ператварылася ў нейкую мелодыю: павекі апускаліся…

Калі распавядаў Ганначцы пра царкву, то казаў так: «З усёй казані памятаю толькі, што я павінен вырасціць дзяцей ні такімі, як я сам, а зрабіць яшчэ лепшымі за сябе». Тады Ганна са здзіўленнем запытала: «А ў цябе што, ёсць дзеці?» — вось сутнасць гадзіннага слухання, але казань была, па-мойму, зусім пра іншае.

Падыходжу да яго. Дзіўна, але выгляд мае сумны. Я памятаў яго сумнага толькі перад іспытамі альбо, калі ён чытаў літаратуру па занятках. Павітаўся, у мяне запыталі, чаму я без Ганны. Адказаў, яна што любіць паспаць.

— Як справы, у цябе ўсё добра? — запытаў я.

— У тым і справа, што не, — пачуў я сумны адказ. мне здавалася, што спалучэнне слоў у адказ на такое пытанне даўно стала архаізмам, бо не чуў яго сто гадоў. І чамусьці абрадаваўся.

— Слухай, можа я змагу дапамагчы? — мне не хацелася даведвацца пра падрабязнасці, таму я вырашыў абмежавацца, калі трэба, толькі дапамагай.

— Так, можаш. Толькі я не ведаю, ці трэба гэта некаму расказваць.

— Дык не расказвай. Скажы, што я магу зрабіць.

Бачылася, што ён вагаўся: ці трэба ўцягваць мяне ў сваю гісторыю, узважваў гэта ў галаве.

— Ну, ладна. Справа такая: як думаеш, калі я падманваю некага, то гэта дрэнна, так?

— І?..

— Калі я хлушу, гэта ж дрэнна, правільна? Я ж не павінны гэтага хаваць. Ведаю, што некалі і так гэта скажу, толькі не хачу раніць.

Я пачаў падазраваць, што ён баіцца расказаць бацькам, што ходзіць не ў каталіцкую царкву.

— Не, я не буду табе распавядаць, — раптам прамовіў ён.

— Добра, не расказвай, — адказаў я са спакойным сумленнем.

Мы пайшлі піць гарбату і размаўляць пра нешта нязначнае.

У нашай размове з'явілася кароткае суцішша: я піў гарбату, ён павольна пасёрбваў са свайго кубка. І раптам ён пачаў гаварыць:

— Я сустракаюся са сваёй дзяўчынай і адчуваю, што яна мне не адпавядае. Яна таксама ходзіць у царкву, моліцца, але я не бачу, што для яе гэта важна. Увогуле, адчуваю, што мы не падыходзім адно аднаму.

— Так… І ты не хочаш яе параніць, парваўшы з ёй, — здагадаўся я.

— Ага, я адчуваю, што калі-небудзь мы і так разыдземся… Я не ўяўляю яе, сваёй жонкай. Але не хачу раніць, ёй гэта будзе непрыемна...

Я выслухаў ягоны маналог з усёй сур'ёзнасцю і запытаў:

— А я чым магу дапамагчы? — бо зусім не разумеў, якая мая дапамога ў дадзенай сітуацыі можа спатрэбіцца.

— Скажы, я павінен гэта паведаміць ёй цяпер? — паўстала перада мною пытанне ў лоб.

Я пачаў яму тлумачыць, што не збіраюся вырашаць за яго:

— Ты сам павінны прыняць рашэнне. Задай сабе пытанне: яна табе патрэбна? А, калі патрэбна, то тады — дзеля чаго?

— Ні для чаго яна мне не патрэбна! Мы зусім розныя людзі! — ледзь не закрычаў ён.

Дзіўна, думаю, чаму ж тады пытаешся, калі сам ведаеш адказ? Я пастараўся растлумачыць яму, што меў на ўвазе, калі казаў пра «табе патрэбная»:

— Калі разабрацца, мне Ганна, магчыма, таксама была не патрэбна, калі пазнаёміліся, але яна ж цяпер зусім іншы чалавек. Мы таксама розныя, але калі людзі разам, то гэта працэс зрастання.

Ён не слухаў, бо ягоная галава была перапоўнена высокімі матэрыямі і ён працягваў свае думкі ўслых:

— Я разумею, што я мужчына і не павінны шукаць простых шляхоў. Усё скончыць — гэта вельмі проста, але… — ён не ведаў, што сказаць далей.

— Чакай, колькі часу вы сустракаецеся? — спрабаваў я разабраць ягоныя абрыўкі думак.

— Тры тыдні.

Я аслупянеў. Бо за такі кароткі час я і не зразумеў бы, што з некім сустракаюся. Я здагадаўся, што «канфлікт» яйка выедзенага не варты. Але не ведаў, што казаць і таму паўтарыў:

— Проста адкажы на пытанне: яна табе патрэбна ці не?

— Не, яна мне не патрэбна, — пачуў ягоны халодны голас.

Было відаць, што яго не задавальняе такое заканчэнне размовы. Ён не пачуў гатовага рашэння, а хацеў, каб я ўсё вырашыў за яго. Можа, ён імкнуўся скінуць адказнасць за свой учынак на некага іншага. Такім бы чынам віна за прынятае рашэнне не ціснула б на ягонае сумленне? Ён расказаў бы гэта і іншаму, бо яму патрэбна толькі гатовае рашэнне, але не сваё, сам ён рашыцца баяўся.

Ён машынальна ўстаў і павёў мяне ў залу, дзе сядзела яна. Дзяўчына мне ўсміхнулася, а ён меў выгляд загнанай у кут жывёліны. Ён незадаволена заўважыў:

— Ты ж не адказаў на маё пытанне, — буркнуў ён.

Я прамаўчаў.

Ён застаўся чакаць у чарзе да пастара, а я з ёй выйшаў на вуліцу.

## II

Мы няспешна крочылі і я запытаў, а ці даўно яна ходзіць у гэтую царкву. Яна ўсміхнулася і адказала, што сёння прыйшла трэці раз, і толькі таму, што ён яе запрасіў. У яе вымаўленні я пачуў першыя непрыемныя ноткі. Наступныя словы мне нават спадабаліся.

— Я магу маліцца і дома, для гэтага мне не трэба прыходзіць сюды, — яна разважала як дылетант, але часам у яе атрымлівалася добра.

Дзяўчына спрабавала зазірнуць мне у душу, зразумець маю «таямніцу», прааналізаваць мяне з розных бакоў, але ў яе гэта не атрымлівалася. Мабыць, акуляры яна насіла не проста так. Паназіраўшы за паверхняй, думаючы, што бачыць глыбіннае, яна не знайшла нічога цікавага і адвяла позірк. Пачала задаваць малазначныя пытанні. Я адказваў, стараўся. Але мне было няёмка, карцела збегчы, схавацца ад ейнага позірку.

Даведаўся, што яна каталічка, «пераходзіць у іншую веру не збіраецца». Яшчэ аказалася, што я раблю шмат памылак у словах, яна вывучае мовазнаўства і ведае, як правільна гаварыць — нават трошкі «павучыўся» ў яе правільнасці маўлення. На жаль, урок не засвоіў.

Стаяць на адным месцы з чалавекам, які ўспрымае цябе, як прадмет неспасцігнутага навуковага свету, было няўтульна. Спрабаваў пераключыць размову на нешта несур’ёзнае, неістотнае, але захаваць навуковасць разважанняў. Не атрымалася, таму прапанаваў паглядзець мясцовасць, каб неяк перавесці тон размовы.

Мы накіраваліся да дарогі, каб перайсці на другі бок, там знаходзіліся старыя пабудовы. Падышоўшы да бардзюра, я заўважыў машыну, яна ехала на такой адлегласці, што пакуль мы дайшлі б да сярэдзіны, калымага паспела б мінуць пераход. Толькі я наважыўся ступіць на дарогу, як яна схапіла мяне за руку і шмарганула назад са словамі: «Ты што не бачыш — машына едзе?!» Яна пачакала пакуль праімчыць машына і перайшла дарогу.

Уся сімпатыя да дзяўчыны пачала знікаць, як апушчанае ў калодзеж вядзерца.

Я абвёў поглядам яе з ног да галавы. Маё сузіранне адразу выявіла жахлівы факт: на ёй былі велізарныя скураныя боты з вострымі мысамі. Нейкі кот у ботах стаяў перада мною. Дыспрапорцыя яе мальнькага росту да велізарнага абутку была аграмадная. Як я гэтага раней не заўважыў?!

Тут варта спыніцца, каб чытач дакладна зразумеў, што я тады адчуў.

Пачнём здалёк. Я навучаўся на правазнаўчым факультэце і ў нас быў прадмет крымінальнае права. Дык вось у ім створаны адзін накірунак пад назвай «антрапалагічная школа ў крымінальным праве», згодна з якім *чалавека-злачынцу* выдаюць

ягоныя знешнія прыродныя дадзеныя — атавізмы, запазычаныя ў старажытнага чалавека. Не памятаю дакладна, але прыкладна так выглядае вучэнне дадзенай школы: пры наяўнасці шырокіх насавых дзірак, густазасланай валасамі паверхні шыі і раздзьмутых вуснаў — чалавек генетычна схільны да жорсткіх забойстваў; худаба, тонкія пальцы рук, доўгі выцягнуты твар — генітычная прыкмета дробных бытавых злодзеяў.

Некаторыя кажуць, што адлюстраванне душы — гэта вочы, нехта сцвярджае, што на языку, тое і ў галаве. Дастаеўскі пісаў, што каб зазірнуць чалавеку ў душу, трэба паслухаць, як ён смяецца, а ў часы Вялікай Французкай рэвалюцыі гэтым крытэрыем былі далоні, — калі яны мяккія, значыць, перад табою гультай і паразіт, а калі ў мазалях, то гэта працавіты чалавек.

А я, назіраючы за людзьмі, звярнуў увагу яшчэ на адну асаблівасць. З самага дзяцінства асцерагаўся знацца з людзьмі, нават баяўся на іх глядзець, таму заўсёды хадзіў з апушчанай галавой і мае вочы сузіралі чалавечы абутак. Гледзячы на яго, я выпрацаваў уласную сістэму: самым простым спосабам для мяне зразумець сутнасць чалавека за кароткі прамежак часу — паглядзець на абутак і суаднесці яго з вопраткай і выразам твару. Але часта бывае так, што выгляд абутку невыразны і тады цяжка паставіць дыягназ «пацыенту».

Вернемся да ботаў з вострымі мысамі. Што я заўважыў? У гэтых ботах яна выглядала не па-сапраўднаму, а па-казачнаму, таму і параўнаў яе з катом у ботах. Абутак зусім не адпавядаў яе характару, бо яна была маленькім чалавекам. Падавалася, што яна дзяўчына з тонкім густам, а выходзіла зусім наадварот — грубая, чэрствая натура, жорсткая і чорная — пад колер і памер ботаў.

Яе акуляры, белая скура і танклявасць асляпілі мяне, — яна не была аскетам-пустэльнікам, нават не імкнулася ў той бок, — яе маскіроўка была ўсяго толькі супадзеннем. Нечакана з’явілася думка: а ці не закабалёны сваім асяроддзем чалавек перада мною? Абмежаваны светам у шкле сваіх акуляраў?

Пасля такіх думак размаўляць з дзяўчынай не было аніякага жадання.

Усё ж я запытаў:

— Як табе служба спадабалася?

— На самай справе я бывала раней на такіх служэннях, — адказала яна. — Хадзіла на сходы каталікоў. Там таксама былі песні, музыка з бубнамі.

— І рукі ўгору ўздымалі, і маліліся гучна? — запытаў я са здзіўленнем.

— Так, было нешта падобнае.

«Дык вось чаму ты сябе быццам рыба ў вадзе на службе адчуваеш».

«Харызматызм — Траянскі конь у каталіцкім касцёле», — прыгадалася нядаўняя аб’ява на ліхтарным слупе. Пачаў здагадвацца, што ёй няма розніцы, куды хадзіць. Яна тут проста так, каб жыццё не здавалася пустым. Яна ходзіць у «розныя» цэрквы, тэатры, выставы, можа, нават дзейнасцю якой дабрачыннай займаецца. Некаторыя людзі такім чынам напаўняюць сваё жыццё разнастайнасцю. Для іх галоўнае сам працэс і тое, што самі яны адчуваюць. Робяць дабро не таму, што любяць, а банальна таму, што ім няма куды сябе падзець. Часам выдаюць гэта ледзь не за самаахвярнасць.

Разважанні занеслі мяне ў калаўрот думак.

Мы дабрылі да дарогі, дзе яна шморгнула мяне назад. І я не ў стане болей трываць бессэнсоўнай балбатні — развітаўся ды пайшоў за сваім веласіпедам...

# ОММММММ ПЕРАЧЫТАЦЬ СВАЕ ДУМКІ

*Паліна СІХО (ПІТКЕВІЧ)*

## ЧЫСТКА ЗУБОЎ

Марк чысціў зубы. Была раніца. А можа, і вечар. Якая, у прынцыпе, розніца: у любым выпадку дзеянне тэхнічна адбываецца аднолькава.

Восенню, вясною. У дні, калі змеявік у ванным пакоі быў гарачым, гэтаксама, як і ў дні, калі ён быў халодным.

Зімою, летам. Калі ў першую хвіліну балелі вочы ад святла лямпачкі пасля цемры спальні, і калі не балелі, Марк...

...па-ранейшаму вадзіў па зубах шчоткай з боку ў бок. Злева направа і справа налева. Зверху ўніз і знізу ўверх. Краем вока ён прыкмячаў вялы рух у люстэрку. Адчуваў, як ад куткоў рота марудна сцякае белы струменьчык. Але не спяшаўся выціраць. Было ўсё роўна.

Марк чысціў зубы, бо гэта было звычкай. Іх трэба было чысціць, інакш, яны будуць балець. Усё проста, гэта частка жыцця, няхай і пустая. Ён пазіраў на яе скрозь шэрую заслону нудоты.

Марк сядзеў за чарцяжамі. Быў панядзелак. А можа, і пятніца. Якая, у прынцыпе, розніца: кожны дзень ён займаўся адным і тым жа.

Восенню, вясною. У дні, калі вуха дражніў дробны шрот дажджу за акном, а калегі злосна абтрасалі мокрыя парасоны і бубнелі ў адрас надвор'я. У дні, калі ап'яняльныя пахі расцякаліся ў паветры, а дзяўчаты прыходзілі на працу ў спаднічкай вышэй каленцаў і ўвесь час смяяліся.

Зімою, летам. Калі сонна шубуршалі дакументы і ўсе дрыжэлі ад холаду. Ці калі шмат якія сталы пуставалі, чакаючы гаспадароў пасля адпачынку, а яркае сонца так і лезла ў расчыненае акно, Марк...

...па-ранейшаму чарціў лініі на міліметровай паперы. Злева направа і справа налева. Зверху ўніз і знізу ўверх. Марк прыкмеціў, што калі прыгледзецца, то лініі ўтвараюць нешта накшталт турэмных крат. Гэта назіранне выклікала ў яго ўсмешку. Часам Марк прыкмячаў, што кубак з кавай стаіць занадта блізка да чарцяжоў і што па яго гладкай сценцы ляніва паўзе вялікая рудая кропля, рыхтуючыся кляксай расплысціся па паперы. Але ён не спяшаўся выціраць кроплю. Было ўсё роўна.

Марк хадзіў на працу, бо гэта было звычкай. Трэба было хадзіць, інакш, няма куды сябе падзець. Усё проста, гэта частка жыцця. Аб-са-лют-на пустая. Нудна, невыносна нудна.

У Марка было спатканне з дзяўчынай Мартай. Сёння ён вядзе яе ў кіно. А можа, і ў кавярню. Прынамсі, ёй у любым месцы з Маркам было добра.

Восенню, вясною. У дні, калі ў Марка прамакалі бацінкі і ў іх чвякала пры кожным кроку. Тады Марк рабіўся злосным, Марта хіхікала і адпойвала яго гарачай

гарбатай у сябе дома. У дні, калі на вуліцы яны сустракалі хлопца з дзяўчынай, якая несла букет цюльпанаў ці бэзу, і Марк вінавата сіпеў, бо Марта несла толькі пакет з прадуктамі.

Зімою, летам. Калі Марк вельмі баяўся паслізнуцца і ішоў рука ў руцэ з Мартай, хоць рабіў выгляд, што на самай справе яе падтрымлівае. Ці калі яны займалі лаўку пад квітнеючай ліпай, і Марк паказваў дзяўчыне альбом са сваімі малюнкамі, і ніякавеў, і адмаўляўся прымаць ухвалу. У любы час Марта...

...па-ранейшаму імкнулася не звяртаць увагі на дробныя крыўды і непаразуменні. Хоць, бывала, нервова хадзіла з боку ў бок. Лавіла сябе на тым, што глядзіць на Марка то зверху ўніз, то знізу ўверх. Бывала, ад куточка яе вока лянiва цякла салёная кропля. І Марк губляўся, не ведаў, ці можна яе выцерці. А Марта думала, што яму ўсё роўна.

Марк і сам не падазраваў, наколькі прывык да гэтай дзяўчыны. Калісьці ён думаў, што быць з некім — неабходнасць, інакш, адзінота. Думаў, што ўсё проста, гэта частка жыцця. Ці пустая? Няўжо ён цярпеў нудоту і з Мартай?

Марк не адказаў своечасова на гэтыя пытанні. Аднойчы і засталіся яны адны, бо ўсё сцвярджальнае, што было ў Марка, перастала існаваць.

Усё пачалося з хворага зуба.

***Пераклад з рускай Святланы ДЗЯНІСАВАЙ***

*Святлана ГРЫШКЕВІЧ*

## ЧЫСЦІНЯ РОЗУМУ

Калі ты ўвесь час думаеш толькі пра дрэннае, то яно і будзе здарацца. Але як жа пра яго не думаць, калі ты маеш вочы, слых і хоць які-ніякі розум? Бо нельга ж проста так узяць і абстрагавацца. Ці можна? Узяць і сесці пасярод палігона, ды скласці рукі і спяваць «Омммм»? А, можа, наадварот, гэта і ёсць самае адэкватнае рашэнне? Калі ў спрэчцы нехта крычыць, а апанент гаворыць спакойна, пакрыху і апанент зніжае тон. Дык, можа, тут такая ж сітуацыя? Не праяўляць аніякай рэакцыі на жыццёвыя няўдачы, пасля чаго толькі патыкаюць дубчыкам, каб удасканаліцца, што жывы, а ў адказ пачуецца: «Омммм». Паціснуць плячыма — і пойдуць далей.

Але ж не ўсе пройдуць. Хтосьці пачне крычаць, што гэта падрывае ўсе маральныя асновы, усе традыцыі і дэскрэдытуе наш слаўны народ.

Хтосьці, наадварот, пачне заступацца, маўляў, ну сядзіць сабе і няхай сядзіць, толькі б у пад’ездах чыста было ды гарэлку не пілі.

Завяжацца спрэчка не на жыццё, а на смерць.

І сапраўды, што ж гэта такое: хтосьці змагаецца за лепшую долю, а нехта сеў сабе з боку прыпёку, быццам яго гэта і не датычыцца ўвогуле. Прыхільнікі ж размалююць майкі з надпісамі ў абарону, арганізуюць сайты і суполкі ў падтрымку.

Старэйшае пакаленне так і не зразумее, а пра што спрэчка? Малодшыя ж будуць прыходзіць да месца, дзе будзе сядзець эпіцэнтр грамадскіх навін, каб папіць побач піва, сфатаграфавацца ды паспрабаваць вывесці з сябе.

Некалькі сюжэтаў пакажуць па тэлебачанні.

Побач абавязкова арганізуецца натоўп прыхільнікаў, якія сядуць паўколам ля пачынальніка і пачнуць чытаць мантры, не ўдумваючыся моцна ў іх сэнс.

Пасля хтосьці ў кагосьці закахаецца, нехта не вытрымае бяздзейнасці, а сёй-той проста не вытрымае.

Урэшце, толькі той, хто сеў побач, застанецца.

Пакрыху рэзананс сцішыцца.

Гэтая з’ява перарасце ў гарадскую легенду, якую будуць ведаць толькі госці сталіцы.

Распрацуюць новы турыстычны маршрут, а карэнныя жыхары не перастануць дзівіцца: «Што ж там такое ўбачылі?»

Толькі тыя, каму не спадабалася гэтая ідэя, будуць і далей падымаць хвалі абурэння супраць «сядзячых лайдакоў», і, калі-нікалі, рабіць розныя брыдкасці ўначы.

А як жа мне адносіцца да ўсяго гэтага? Можна было б адказаць, ды я даўно ўжо сяджу і мармычу сабе пад нос: «Оммммммм».

*МАРГАРЫТА НАВАГРОДСКАЯ*

## АБРАЗКІ

* * *

У мяне такое адчуванне, што я ўжо калісьці жыла. Жыла, а потым забылася. Можа, гэта і ёсць страшнае пакаранне Суда: забыццё.

У мяне такое адчуванне, што я памірала ўжо. Узносячыся да ўяўнага неба ў малітвах, каб было не страшна. Ці адчувалі вы калі-небудзь кожную клетачку цела? Ці ўсведамлялі, што жывяце? Удыхаючы паветра, ці задумваліся, навошта?

У мяне адчуванне, што я нараджалася зноў і зноў. Чаму мы не памятаем той час, калі ўмелі дыхаць скурай? Рэнтгенаўскія здымкі сцвярджаюць, што я мяшок з касцьмі. Гэта пацешна.

Мне здаецца, гэта я распальвала вогнішча ў хіжыне, калі мой мужчына быў на паляванні. Я збірала зёлкі і ведала, як прыгатаваць вяленага мамантa. Гэта я пасля Нараджэння Хрыстовага не разгінаючыся працавала на зямлі, хаваючы рукі ў мазалях за спіну, калі кланялася пану, што зрэдку праязджаў міма. Гэта я бабкай хавала паганскія ідалы, працягваючы рэлігію продкаў. Мне прысвячалі вершы ў эпоху асветнага рамантызму кавалеры, часам далёкія ад паэзіі і абсалютна несвядомыя, пра якое каханне яны пішуць двухсотай па ліку і, магчыма, не зусім мілай ім даме з тугім пучком на галаве. Гэта я страляла, адстойваючы свае ўтапічныя ідэі. Гэта мяне знішчалі ў канцлагеры. Гэта я займалася навукай, схіліўшыся ў цемры над кнігамі, днямі і начамі спрабуючы давесці сваю правату і ўвасобіць у жыццё сваю геніяльную ідэю. Гэта мяне называлі Джульетай. Гэта я змагалася на перадавой у сорак пятым. Гэта я была на канцэрце The Beatles і перажыла «перабудову». Я максімалістка. І мне здаецца, што я ўжо жыла.

Ведаеце, такое часам здараецца. Адчуванне, што гэты снег не першы, а чарговы. Быццам проста забылася, што ён тут і павінен быць, а ногі абавязкова павінны мерзнуць. Вы адвыклі ад марознай выразнасці зроку, праўда? Памятаеце думкі, што яшчэ трошкі — і гарачая гарбата, калі, схіліўшыся, спяшаліся дадому грэцца.

Адубелыя пальцы любяць мяне не слухацца, а яшчэ больш любяць гэты кубак з гарачай гарбатай. Бачыце, гэта ўсё ўжо было. Узгадайце: кажуць, гісторыя паўтараецца па спіралі. Цікава, чым мой папярэдні віток адрозніваецца ад цяперашняга? Людзі іншыя, але я застаюся той жа. Ці можа штосьці змяняцца, калі кожны год так бязглузда памірае восень?

Я пусціла б восень пагрэцца, але баюся заразіцца іржой ад яе лісця. Я ўтульна адчуваю сябе толькі калі гэтыя крохкасці надзейна замкнуты ў кнігах. Гэта і ёсць успаміны. Гэта лепш, чым фотаздымкі.

Ведаеце, самае трывалае — гэта акенцы дамоў, што свецяцца ў цемры. Яны аднолькавыя, дзе б ты ні быў. Яны навяваюць успаміны, меланхолію і думкі, які ж ты малы сярод соцень і мільярдаў падобных да цябе людзей. Я баюся гадоў у сорак убачыць у люстэрку змучаную жыццём жанчыну. Апошнім часам часцей бачу іх у метро ці на рынку. Задумваюся, што яны зрабілі не так і на якім жыццёвым этапе. Бо кажуць, што вучыцца трэба на чужых памылках.

Уявіце, наша гісторыя доўжыцца незлічоную колькасць год. У Сусвеце неверагодна шмат прасторы. Дзесьці там, напэўна, ёсць жыццё. Бо, калі б мы былі адны, гэта было б занадта эгаістычна з нашага боку. У параўнанні з маштабамі Сусвету праблемы, якія нас хвалююць, жудасна дробязныя і неістотныя. Ды і мы ўсяго толькі пешкі. Сем мільярдаў стомленых і шкадуючых сябе людзей. Ці гэта ёсць тое, што спрабуюць схаваць ад нас штодзённа стракатыя газеты і часопісы?

Мне хочацца ўспомніць пра гэтую нататку ў які-небудзь важны і цікавы дзень. Які-небудзь не такі, як гэты. Было б цудоўна перачытаць свае думкі ў старасці. Падумаць толькі, наперадзе ў мяне цэлае жыццё.

* * *

Раніцай у сонным горадзе людзі ездзяць у метро. Гулкія падземныя гультаі неахвотна развозяць упакаваных і расфарбаваных грымасамі млекакормячых. Аднолькава-розных, што заўсёды спяшаюцца і спрабуюць прызямліцца на ўзлётную паласу сядзенняў. Адзінкі ходзяць без заглушак у вушах і не выпраменьваюць сусветную абыякавасць.

Паміж спатыканнямі цягніка, якія называюцца станцыямі, я люблю разглядаць зрэнкі. Часам трапляюцца знаёмыя. Яшчэ мяне заўсёды цікавіць, куды цягнуцца правады за акном і як далёка могуць вывесці тунэлі гэтага хуткаснага крата.

«Пры абнаружэнні на станцыі падазроных прадметаў зрабіце падазроны твар». І ні ў якім разе не парушайце правілы: бо камусьці так падабаецца трымаць усіх у жоўтай пухірыстай рамачцы. Збірайцеся перад турнікетамі. Рассыпайцеся пры выхадзе гарохам па граніце, як у дзіцячай непасрэднасці пра рэльсы-шпалы, памятаеце? Бяжыце, плаціце і чакайце ліхтарны гук. І ведайце, пад падваламі са стомленымі вокнамі-вачніцамі паўзе цягнік.

*Пераклад з рускай*
***Тамары САРАЧЫНСКАЙ***



Кася ГЛУХОЎСКАЯ

# СПЕЎ АДНОЙ ПЕРЛІНЫ

*Аповесць*



***Кася Глухоўская нарадзілася 2 чэрвеня 1995 года ў Мінску. Студэнтка факультэта філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Любіць прыгоды, старыну, вандроўкі, рамантыку, самоту, эстэтыку і светапогляд, уласцівы для хіпі, музыку, метафары і асацыяцыі, арт-тэрапію, дзіцячы добразычлівы смех. Вырошчвае мандарынкі.***

## Частка 1. БОЙ БЫКОЎ

Ці знаёма вам становішча малодшага ў небагатай (альбо сквапнай) сям'і? Калі даношваеш за старэйшымі вопратку-лахманы — расцягнутую, пабляклую, часам нават не па памеры — і гэтак далей? Мне не. У адрозненні ад Булі.

Дарэчы, Булі — гэта мой старэйшы брат. Так склаўся лёс. Ён быў малодшым, пакуль я не нарадзілася. І яму гэта надакучыла. Ён вельмі хацеў мяне бачыць, але ж не ведаў, што я буду дзяўчынкай.

Разумееце, у нас у сям'і ажно тры хлапчукі! А я адна. Не, маці яшчэ, ды яна дарослая, ёй даўно не купляюць падарункаў. Дык вось, пакуль я не нарадзілася, Хансі даводзілася насіць вопратку пасля Ніфо, а Булі пасля Хансі. Тое самае з цацкамі. І ён, як малодшы, марыў перадаць на чацвёртае кола гэтыя анучы, каб не быць непаўнацэнным у сям'і. Але я парушыла ягоныя планы.

Ды і наогул, варта прызнацца, я была для Булі поўным расчараваннем. Гэта ж у сто разоў горай: калі мы ідзем у краму, то купляюць нешта Ніфо і мне, а калі мы разам з Булі нашкодзім, у яго няма перавагі малодшага, а мне прабачаць яшчэ і як дзяўчынцы.

Часам Булі глядзіць на мяне спадылба ды, здаецца, хоча выкінуць з акна. Будзь я на яго месцы, гэтак бы і зрабіла. Наогул, у Італіі ёсць такая традыцыя: выкідаць старую мэблю з вокнаў на Новы год. Але я ж не старая. І не мэбля. І не ў Італіі. Дзіўна.

Тата трасецца нада мной, як дзядулевы рукі, калі той бярэ шклянку: вада б'ецца аб край шклянкі ды хоча выліцца, а дзед так прагне паднесці яе да рота ды зрабіць глыток...

Што граху таіць: калі-нікалі як захачу чаго-небудзь — і давай нагамі махаць, біць па падлозе ці маўчаць, як сцяна, — а сказаць немагу, таму што не ведаю, чаго менавіта хацела. Бывае, пачну капрызіць проста так. Тады я сціскаю зубы ды тузаю тых, хто побач. Асабліва я люблю скубці Булі, бо ён маленькі і не трывае, як Хансі, і не можа залезці на дрэва, як Ніфо. Ён пачынае абурацца, а я — плакаць. Такая ўжо шкодная. Канешне, лаюць Булі.

Раз-пораз я хачу быць кітом. Яны такія вялікія і плаваюць у моры поруч з марскімі зоркамі. Калі я жую булачку, а тата казыча мне плечыка і кажа: «Малютка мая», — я хачу быць кітом. Тады б я ўсім паказала, хто тут малютка. А Булі смяецца. Ён хоча быць вогнетушыльнікам. Вогнетушыльнікі чырвоныя і бліскучыя. Яны вісяць на сценцы, нібы ўпрыгожванне, і іх заўжды не хапае. Булі кажа, што да іх у школу часта прыходзяць людзі і кажуць: «Не хапае вогнетушыльніка». Я думаю, нам таксама яго не хапае, але не ведаю дакладна, бо не бачыла вогнетушыльнік пакуль, а ўсякія людзі да нас не прыходзяць. А калі завітваюць, дык гутараць пра мяне.

Аднойчы я ўлезла ў матчыны туфлікі. Булі пабачыў гэта, узрадаваўся і сеў непадалёк. Сказаў, што чакае, пакуль прыйдуць астатнія і будуць з мяне кпіць. І сумленна чакаў. Усё распісваў, як мяне засмяюць. Але калі ўсе прыйшлі, маці пляснула ў ладкі ды ўсміхнулася: «Лэдзі расце!» — а ўсе расчуліся. І толькі Булі сказаў, што я маленькая стрэмка ў азадку. Аказалася, ён таксама некалі абуваў матчыны туфлікі. З яго смяяліся. І так, напэўна, нядобра. Дзіўна, што людзі падзяляюць смех на добры і нядобры. Яны ўсё падзяляюць. Але ж калі мы смяемся, нам здарова? Альбо не? Дарэчы, за «стрэмку ў азадку» Булі таксама перапала. Але я ж невінаватая, што ён вучыць благія словы. Трэба запомніць, дарэчы. Мне спадабалася.

Вы ведаеце, што было на Зямлі да вашага нараджэння? Вось я ведаю. На Зямлі былі дыназаўры. А потым сышлі. Нармальна так: я нарадзілася — яны сышлі! Крыўдна. Булі сказаў, што гэта яны сышлі, бо мяне спалохаліся: я нарадзілася зморшчаная, страшненькая. Гляджу ў люстэрка і не магу зразумець: як я магла быць зморшчанай і непрыгожай? Хлусіць ён усё. А Ніфо сказаў, што дыназаўры павыміралі яшчэ да дзядулі. Вось дзядуля дакладна зморшчаны, можа, яны яго спалохаліся?

Калі Хансі ў шчаку ўджаліла аса, ён не плакаў. Хансі цярплівы хлопчык. Тата любіць яго за гэта. Хансі кажа, мужчына не мусіць плакаць. Нават на хаўтурах. Нават калі яго пакрыўдзілі. А я магу плакаць. Але калі б я была мужчынам, усё адно б плакала на пахаванні бабулі. Гэта ж жудасна, калі кагосьці бяруць, апускаюць у зямлю, і ты яго больш не пабачыш. Я нават не памятаю цяпер голас бабулі. Магчыма, ён быў хрыпаты. А мажліва, дрыжэў. Ці быў высокім, як у цёці Зуа. Я не ведаю! І не зведаю ўжо. Як тут не расплакацца? А тата прамовіў, што мужчыны не плачуць на пахаваннях менавіта таму, што бачаць чалавека ў апошні раз — і не даюць слязам перашкодзіць глядзець... Як складана сказана.

Булі надраў вушы аднаму хлопцу з суседняй вуліцы, бо той мяне клікаў казой. Якая ж я каза, я ж дзяўчынка! А ўвогуле дзякуй. Не чакала. Ён так раззлаваўся, пыхцеў, быццам цягнік. Нават вушы крыху пасвіствалі.

Часам мы з Хансі ходзім у заапарк. Ён любіць стаяць ля вальера з лемурамі і назіраць. А я не люблю. Я наогул не люблю стаяць — люблю бегаць. Таму часта губляюся. Хансі трымае мяне за руку, каб я не гарэзіла ды не збягала. А калі мы мінаем вальер з ільвамі, мацней сціскае далонь, быццам паказвае, што ён тут абаронца. Насамрэч, Хансі так супакойвае сябе маім прысутніцтвам. Але ён гэтага не ведае.

А Булі дражнілі ў школе за тое, што ён аблавухі. Па мне дык нават здарова: хочацца адразу абняць ды ўкусіць за вуха... Я злая сястра. Наогул яго часта дражняць. І за вопратку таксама. Калі б я магла, аддала б Булі ўсе абноўкі, але, думаю, за дзявочыя сукенкі яго паб'юць.

Калі маці ўсміхаецца ці пяе, у яе разбягаюцца зубы. Тата так кажа. Па шчырасці, я ні разу не бачыла, каб яны разбягаліся. Проста гэтых зубоў становіцца вялікае мноства.

Хансі зваліўся з лесцвіцы ды разбіў калена. А Булі паспрачаўся з ім, што здолее мацней разбіць каленку ды не заплакаць. Хансі сказаў, што гэта глупствы, але

Булі ўсё адно ўзяў ды скочыў праз парэнчы. Забіцца мог. Зрэшты, калена ён разбіў. І нават не плакаў навідавоку ва ўсіх. Затое дома, калі мы засталіся адны, румзаў, ажно захлынаўся. Паўночы слухала яго лямант. Але ж не выдам ні за што. Дзівосны ў мяне брат. Дзіўнаваты. Цікава, на што яшчэ здольны людзі пайсці праз спрэчку, калі ім гэтак карціць?

Аднойчы Булі ўдарыў нагой кацяня. Яно было маленькае, рудое. Я гэта пабачыла і абурылася. Кацяня проста ляжала ля плетніка, нічыйная малеча. А Булі так моцна выцяў яго нагой пад самыя рэбры, што яно з віскам падляцела ў паветра. А я яго падхапіла... Булі пашэнціла, што мы былі па розныя бакі ад плетніка, інакш бы добра яго тузанула. Я расплакалася ад злосці, пабегла ў хату, адразу маці ўсё распавяла. Булі цяпер з дому не пускаюць, а тата яго пасам адхвастаў за злосны выбрык. А мы з кацянём ездзілі да ветэрынара. Потым малое да сябе ўзяў наш сусед па вуліцы Чуі (таксама руды). Цяпер іх, рудых, у хаце двое.

Ніфо распавёў мне, што ўсе людзі бываюць бязлітасна-жорсткімі. Ён вельмі добры, любіць жывёл і людзей, нават зэдлікі (Ніфо вырабляе зэдлікі, габлюе іх, лакуе, афарбоўвае), але і ён у дзяцінстве бываў жорсткім. А пра мяне Ніфо сказаў, што я ў дзяцінстве кідала камяні проста так і нават не задумвалася, што яны могуць трапіць у некага, нанесці шкоду. Наш сусед, тата Чуі, неяк сказаў майму тату, што рэвалюцыі — гэта зло. Таму што калісьці, у часы Вялікай Французскай рэвалюцыі, тыя, хто яе ўчыніў, здымалі скуру з тых, хто супраць. І той скурай кнігі ды жырандолі сабе абівалі. Увогуле, я не вельмі цямлю, нашто.

Хараство. Ха-рас-тво. Ха-раство! Я смакую кожнае слова, перакотваю, нібы цукерку ў роце. Бо гэта здорава. Вось пра што гэтае слова? Пра раство? Пра смех? Пра прыгажосць! Нізавошта б не здагадалася. Хаця і раство, і смех, канешне, з'явы прыгожыя. А вось «марудзіць» — гэта як «маці ў руды фарбуе»? Люблю руды колер. А маці смяецца, калі пачынаю гуляцца са словамі.

Я спыталаў Хансі, чаму людзі цалуюцца. Ён доўга маўчаў, назіраў за гульнямі лемураў у вальеры. Потым уздыхнуў ды сказаў, што калі людзі падабаюцца адно аднаму, то прагнуць паболей зведаць адно пра аднаго, нават на смак пакаштаваць. Атрымліваецца, калі маці мяне цалуе, гэта яна каштуе мяне?

Булі сказаў, калі сесці на ровар і вельмі моцна круціць педалі назад, то можна з'ехаць у мінуўшчыну. Але гэта сакрэт. А я не магу праверыць, бо ровар у нас адзін і ён вельмі вялікі. Праўда, баюся, калі вырасту, браты не дадуць пакатацца, бо нас шмат, а ровар дужа запатрабаваны. І татка ездзіць на ім працаваць. А здорава было б з'ехаць назад і ўсіх пабачыць маленькімі: Ніфо, Хансі, маці, тату, дзядулю, дыназаўраў. А Булі і так маленькі.

На ўзбярэжжы знайшлі чарапашак. Браты пабеглі туды адразу: чарапашкі вылупляліся, і ўсім хацелася паглядзець. Хансі ўзяў фотаапарат, а Ніфо мяне на рукі. Потым пасадзіў на шыю, і я першая ўсё ўбачыла, таму што была вышэй за ўсіх. А чарапашкі такія малюпасенькія, смешныя і спрытныя, вельмі хутка паўзлі да мора. А яно злізвала іх, як надпісы на пяску. Хансі выпусціў камеру, цяпер яна брудная і не працуе. Папа будзе лаяцца.

Дзядуля абяцаў, што мы паедзем глядзець крэпасць на скалах. Ён доўга сапеў, хадзіў з пакоя ў пакой, рыпеў аконнай рамай, гледзячы на неба, а потым грукнуў аб стол кулаком і сказаў маме, што даўно пара куды-небудзь з'ездзіць, што мы свету не бачым за шэрымі буднямі. Мама пякла хлеб і была ўся ў белая. Яна маўчала, каб не наглытацца мукі. Я не ведаю, дзе дзядуля бачыў шэрае ў нашых буднях. Па-мойму, яны вельмі яскравыя, так і стракацяць. Але казаць пра гэта не варта, бо крэпасць — гэта так цікава!

Булі забраў у мяне цацку і закінуў на дрэва. Я расплакалася, але ён адмовіўся за ёй лезці і збег кудысьці. Напэўна, каб я не паспела сказаць бацькам, а яны — прымусіць яе вярнуць.

Гэтыя вялікія сямейныя святы на вялікім двары: нехта гатуе гародніну на агні, нехта выносіць стол, тата кліча Хансі чысціць рыбу, дзядуля намагаецца тытунем забрудзіць абрус і прыпярчыць страву… Вельмі мітуслівa, асабліва калі прыбягаюць іншыя сваякі: цёткі, дзядзькі. Яны шумныя: крычаць, размахваюць рукамі. А рукі вялікія, учэпістыя — трапіш, не выслізнеш! Часам баліць галава ад гэтага ўсяго. І пакуль астатнія лётаюць, я стаю ля акна, гультайка, і разглядаю вераб'я, што прысеў на падаконне. У яго такі дзівосны ўзор на крылцах, як лабірынт.

Гэтыя дзіўныя хлопчыкі. Яны пабілі акно ў суседскай машыне. Булі не прызнаецца, але мне здаецца, ён быў з імі. Сусед учора набыў машыну — і тут жа яму пабілі шкло. Таму што на нашай вуліцы ні ў кога не было машын. Людзі зайздросцяць, а калі зайздросцяць, то не радуюцца за іншых, а злуюцца. Але яны злуюцца на сябе, што не могуць набыць тое самае ці яшчэ нешта зрабіць. Як ім сказаць? Напэўна, ёсць асаблівы сэнс у тым, каб пераносіць з хворай галавы на здаровую.

Калі я ў школу пайду, хачу белую сукеначку. Мама, напэўна, мне яе набудзе. Нядаўна я бачыла на Наку — дзяўчынцы з трэцяй вуліцы — пышную такую. І ў валасы яна запляла рознакаляровыя стужкі. Вельмі прыгожа. У яе чорныя, густыя валасы, і скура цёмная, а сукенка бялюткая. Прыгажосць. Але ў нас няма грошай, таму наўрад ці мне варта хацець гэтую сукенку.

Калі Булі захварэў ліхаманкай, мама вельмі нервавалася. Мяне адсялілі ў пакой да дзядулі. Ніфо паехаў па доктара, тата патэлефанаваў на працу і сказаў, што не зможа быць. А Хансі ўсё роўна давялося ісці ў школу. Ён абяцаў папярэдзіць настаўнікаў Булі і запытацца ў іх, што трэба рабіць. Настаўнікі разумныя, яны ведаюць. Зрэшты, мама ведае ліхаманку не горш за іх. Гэта небяспечная хвароба. Нас з татам адправілі збіраць зёлкі. Я не ведала, якія, але тата паказваў. Потым мама з адных варыла лекі і паіла Булі, а сокам іншых яго націрала. Мяне таксама напаілі на ўсялякі выпадак. Хоць і нясмачна было.

З кожным днём Булі робіцца больш злосным. Ад хваробы ён нават не можа хадзіць, і доктар кажа, што так будзе цягнуцца доўга. Можа, месяцы. Хвароба нейкая незразумелая, гэта не ліхаманка. А лекі каштуюць дорага. Магчыма, у наступным годзе я не змагу пайсці ў школу, бо яна платная, а грошай у нас няшмат. Да таго ж, доктар настойвае, каб Булі паклалі ў шпіталь. Мама не хоча з ім расставацца, тата не ведае, дзе зарабіць грошай, таму вагаецца, а дзядуля, бачачы гэта, таксама хвалюецца. Сказаў, што калі бацькі не аддадуць Булі на лячэнне, ён адмовіцца есці, таму што не хоча паміраць пазней за сваіх унукаў.

Булі баіцца, што яго аддадуць у шпіталь. Яму здаецца, што з-за хваробы ён стаў цяжарам, і ад яго імкнуцца пазбавіцца. Шчыра кажучы, Булі ніколі не быў для нас цукрам, але пазбавіцца ад яго ніхто не хоча. Наадварот, з-за хваробы ўсе толькі пра Булі і думаюць. Ён займае кожную думку. Гэта як наплыў бясконцай любові. Не хачу, каб ён гэта заўважыў, бо тады можа падумаць, што хвароба — гэта файна. Не хачу нават, каб я сама гэта ведала, а то вырашу, што хварэць добра.

Мне здаецца, калі Булі яшчэ трошачкі пахварэе, то ў будучыні ён дакладна стане маньякам. Маньякі — гэта такія страшныя людзі, якія робяць усім навокал балюча і дрэнна. Іх вельмі баяцца і ненавідзяць. Але часцей маньякамі робяцца тыя, каму было балюча і крыўдна раней, у іх назапасілася занадта шмат злосці. Бываюць людзі, якія не злуюцца, калі хварэюць, ці ўмеюць выплюхнуць сваю злосць, а бываюць тыя, хто перажывае і нічога не забывае. Вельмі дрэнна: ці можна быць шчаслівым, калі ўвесь

час памятаеш, што быў няшчасным? Таму я не люблю злапамятнасць. Баюся, Булі сапраўды можа стаць дрэнным. А ён і так не вельмі добры: нікога ў сям'і не лаюць і не б'юць часцей за яго, вопратка заўжды парваная (таму што старая і танчэйшая за вопратку іншых, і яе складаней зашываць, але ён усё роўна атрымлівае), адзнакі абы-якія, а яшчэ ён ведае дрэнныя словы і абзываецца, каб яго не абазвалі першым. Вось так.

Тата часам жартам называў Булі «хлопчыкам трэцяга гатунку» — цяпер шкадуе. Калі шчыра, я таксама саромеюся дрэнных слоў пра Булі. Усё ж такі ён брат, які любіць мяне, а я яго люблю. А мама заўсёды казала: «Не можаш сказаць прыемнае — маўчы».

Хансі сказаў, што сыдзе са школы і ўладкуецца на працу, паколькі нам патрэбны грошы. Тата маўчыць, бо ведае, што гэта дрэнна для Хансі, але грошы вельмі патрэбныя, губляць іх на навучанне немагчыма. А ў Ніфо ёсць дзяўчына. Я ведаю, што яны хацелі пабрацца, але цяпер іхняе вяселле адкладваецца, таму што Ніфо ўсе грошы аддае нашай сям'і. Ён баіцца, што Дарука выйдзе замуж за каго іншага, багацейшага. Але гэта лухта, яна ж любіць Ніфо… Але колькім людзям даводзіцца ахвяраваць нечым, каб аплаціць лячэнне Булі! Я ўжо не кажу пра сваю школу і белую сукенку. Добра, што Булі не ведае ўсяго гэтага, таму што калі б я была на ягоным месцы, то не вытрымала б і скокнула б у акно. Ці сышла б куды-небудзь, чым ахвяраваць самому. Цяжэй ведаць, што дзеля цябе занадта шмат чым ахвяруюць.

Дзень быў вельмі сонечны. Я замест таго, каб глядзець, як гатуе і прыбірае мама, збегла на ўзбярэжжа разам з Чуі. Дакладней, пайшла з яе дазволу, але ўсё роўна ад справаў збегла. Мы сядзелі на пясчаным узгорку і калупалі ракавіны. Чуі такі рыжы, што нават смешна, а тата ў яго лысы. Яны такія ж бедныя, як і мы, але Чуі ў сям'і адзін, таму менш пра гэта ведае. Ён трошкі малодшы за Хансі, але вучацца яны разам. Шкада, што я не ўмею яшчэ лічыць, інакш бы дакладна ведала, хто ў якім класе і каму колькі год. А яшчэ Чуі смешна гуляе з ракавінай: падносіць яе да вуснаў і дудзіць. Атрымліваецца, як на жалейцы (хоць я не ведаю, што такое жалейка).

Мама сыходзіла з дому на некалькі гадзін сёння, а потым вярнулася з грашыма. І сказала Хансі, што цяпер ніхто ніякую школу кідаць не будзе. Тым больш, Булі папраўляецца ўжо. Наконт маёй школы мама маўчыць. Наўрад ці сёлета.

Кажуць, раней дзяўчат аддавалі замуж у зусім маладым узросце. Гэта дзіўна, але калі б я выходзіла замуж, то толькі за Чуі. У яго ж кацяня ёсць. І ён умее так цудоўна дудзець у ракавіны.

Мама вучыць мяне, што трэба любіць сваё цела і сябе супольна. Пакуль я не вельмі разумею, як гэта. Можа быць, справа ў тым, што я не ўмею любіць паасобку. І зусім не ведаю, як можна сябе не любіць. Некаторыя дзяўчаты і нават жанчыны, ужо дарослыя цётачкі, баяцца свайго цела. Яны лічаць, што ў ім ёсць нешта жахлівае, агіднае, брыдкае. Што ёсць месцы, якія нельга чапаць, лепей бы іх зусім не існавала. Але як гэта так? Ці можа быць нешта пачварнае ў чалавечым целе?! Калі я ў дзяцінстве смактала вялікі палец на назе і магла мацаць сябе паўсюль, то чаму цяпер не магу? Толькі б налаўчыцца, бо ногі доўгія.

Кожны момант мае свой уласны колер. Часам нават спалучэнне колераў. Напрыклад, сённяшні дзень празрысты, як медуза, ён блішчыць на сонцы і сцякае з рукі.

Школа аказалася не такой ужо дрэннай, але і не такой добрай, як я сабе ўяўляла. У ёй шмат розных бязглуздых правіл. Правіламі дарослыя людзі называюць забароны: нельга рабіць тое, нельга рабіць гэта… Нельга нічога, што хочацца рабіць менавіта цяпер! Можна толькі тое, што табе загадалі. Але якім чынам

чалавек будзе рабіць хоць што-небудзь добра, калі ён сам не гатовы гэта зрабіць? Я сяджу за партай і вельмі хачу танцаваць. Але мне даводзіцца сядзець за гэтай недарэчнай партай і разглядаць краі, быццам кімсьці абгрызеныя. Напэўна, камусьці з былых першакласнікаў, а можа і старшакласнікаў, вельмі хацелася есці, калі ён сядзеў за партай.

Жыццё, ты велізарная кветка гібіскуса! Я спрабую нырнуць у цябе, але ўнутры — мурашы на мядовым паху. Так, калі мы ідзём па вуліцы дзесьці ў чужых раёнах, там, дзе звычайна збіраецца рынак, з мамай часам вітаюцца дзіўныя людзі. Яны ўсміхаюцца і клічуць яе па імені, але ніводны яшчэ не назваў маму так, як яе завуць на самай справе. Чаму?

Тата кажа, што мама ў нас як акцёрка — безыменная зорка. Быць акцёркай вельмі цікава, але вельмі цяжка. Мне здаецца, гэта небяспечная прафесія. Ты можаш быць тым і гэтым тысячы разоў, але калі звычайнаму чалавеку цяжка быць сабой, то што казаць пра акцёраў? Ці ім не прасцей пераблытаць сябе з кім-небудзь?

Буі не хоча вучыцца, бо хоча быць рыбаком. Я разумею, ён стаміўся ад гэтай балбатні, калі хочацца ўзяць анучу, даць яе настаўніцы і сказаць: «Памый-ка ты лепей дошку і намалюй на ёй сонейка! Таму што ні слова з таго, што ты тут пісала і тлумачыла, нам не зразумела. Але мала таго, што не зразумела, дык яшчэ жахліва баліць галава! Ад сонейка, намаляванага на дошцы, галава балець не будзе, і ўсім будзе зразумела, што сёння — добры настрой. І не толькі ў нашай настаўніцы, але і ў цэлага класа, і ва ўсіх навокал».

Вялікая драпежная птушка доўгай дзюбай ірве голуба, знойдзенага ў траве. Яна бачыць, што я цікую за ёй, азіраецца, водзіць пёркамі, глядзіць велізарным вокам. А вочы блакітныя — гэта я дакладна ведаю. Калісьці я бачыла мёртвай такую птушку: яна ляжала на спіне, раскінуўшы крылы, нібы ўкрыжаваны бог, схіліўшы даперадплечча вялікую галаву. А вока глядзела безадрыўна ў нябёсы. І мне падалося, што гэтае вока — проста нябесная кропелька, якая ўпала на птушыны твар. Шкада ўсіх драпежных птушак: яны ж невінаватыя, што вымушаныя есці іншых, каб выжыць.

Чуі мае чырвоную палатняную сумку. Калі ён бяжыць, выпнуўшы ніжнюю губу ад натугі, гэтая сумка б’е па спіне ззаду — так, мусіць, нахлёстваюць коней.

«Калі будзеш рабіць тое, што заманецца, шмат чаго не даб’ешся», — кажа цётка Зуі. Але я не хачу дабівацца нечага, я ўвогуле не хачу ні з кім біцца.

Дзяжурым мы ў школе толькі ў тыя дні, калі астатнія едуць у нейкае падарожжа — так вырашылі бацькі. Ім прапаноўвалася, каб дзяжурства ў нас ішло падчас урокаў, але бацькі «ведаюць кошт ведаў». Таму, калі ўсе дзеці з класа едуць кудынебудзь (у горад, у заапарк, у прыбярэжны запаведнік птушак, у геалагічны цэнтр глядзець на пароды зямлі, на тэкстыльную вытворчасць), некаторыя застаюцца дзяжурыць. Звычайна мы загадзя выбіраем, хто куды хоча ехаць, а хто не хоча — і дамаўляемся.

За школай ёсць кветнік. Там мы разам вырошчваем кветкі, дрэвы, ягады і разнастайныя расліны. Некаторыя прывозяць нават з-за мяжы. Некаторыя заказваюць з іншых школ, гарадоў. Гэта вельмі цікава. На ўроках біялогіі настаўніца паказвае, як трэба гадаваць тыя ці іншыя расліны. Ёсць нават велізарны кавун. Ён, праўда, адзін, таму што іншыя не выраслі ў гэтым годзе, але мы яго ўсё-ткі з’ямо.

Яшчэ на заднім двары ёсць жывы куток. У нас там жывуць малпы, адна лама, змяя і трус. Трус мне вельмі падабаецца. Таму што такіх я на вуліцах ні разу не бачыла. Я ведаю, праўда, што ў багатых дзяўчат з паўночнага раёна ёсць жывыя трусы, але ніколі не бывала ў паўночным раёне.

Чуі з'язджае. Мне хочацца плакаць, я нічога не разумею: як гэта можна? Як гэта стала магчымым? Ягоны тата, той самы вялікі лысы сусед, вырашыў, што Чуі будзе лепш у іншай краіне: халоднай, без сонца, чарапах, мора, нас, ракавін… Без нас!

А мы пасварыліся. Чуі і сам не рады, ён жа разумее, што ў той краіне, дзе яго рудыя валасы — гэта звыклая з'ява, няма чаго рабіць. Як можна жыць, не бачачы мора? Як можна жыць, ведаючы, што дзесьці пакінуў цудоўную краіну? Навошта быць «яшчэ больш шчаслівым» там, дзе шчаслівым не будзеш? Але яго бацька лічыць, што шчасце — гэта магчымасць зарабіць паболей грошай. Прычым так, што ты будзеш жыць спакойна. Яго бацька размаўляў з маім і сказаў нешта нядобрае пра нашу сям'ю. Тата пакрыўдзіўся і больш з ім не размаўляў. Усе ведаюць, што тата Чуі дурань, але калі я сказала пра гэта Чуі, ён таксама пакрыўдзіўся. Цяпер нашыя сем'і не стасуюцца. А заўтра Чуі з'язджае.

Непаразуменне паміж людзьмі — што можа быць горш? Калі я стаяла на пірсе, то бачыла, як у моры плёскаецца дэльфін — гэта было вельмі прыгожа. А яшчэ бачыла, што ў той жа час на пірс хацеў зайсці Чуі. Але ён убачыў мяне і не падышоў, бо мы пасварыліся. Не магу ўцяміць. Ён жа заўтра з'язджае, мог бы памірыцца са мной у апошні дзень. Хансі сказаў, што Чуі насамрэч не злуецца на мяне. Але ён не хоча са мною стасавацца. Я не ведаю чаму. Можа, гэта тое самае, што з'есці кавалачак цукру перад тым, як выпіць якую-небудзь горкую гідоту? Калі ты з'ясі цукар, то гідота ад гэтага не стане саладзейшай. Я супакойваю сябе гэтай думкай: калі я для Чуі цукар, то зразумела, чаму ён не хоча мяне бачыць.

Дома ў нас таксама растуць кветкі. Бабуля вельмі любіла іх, і таму пасадзіла за хатай адзін такі, «З вялікімі лапамі». Маці кажа, што ён так называецца. Канешне, у яго ёсць нейкая навуковая назва. Але па-навуковаму хай называюцца кветкі ў іншым месцы.

Гэтая кветка ўвіла ўсю заднюю сцяну. А бутоны ў яе фіялетавыя, яркія, з вострымі пялёсткамі і жоўтым цэнтрам. Раней кветку даглядаў дзядуля, але цяпер ён стомлены: ходзіць па хаце і маўчыць. Мама кажа, што дзядуля стаў дзіцёнкам — такім, якім была я і ўсе мае браты, калі не памяталі ні таго, што было, ні таго, што ёсць. Вельмі дзіўна глядзець, як дзядуля стаў дзіцёнкам. У яго добры, але вельмі дурны позірк. А мо, ён занадта разумны? Толькі я не разумею: хто ж цяпер будзе даглядаць бабуліны кветкі?

Чуі з'ехаў, але ў мяне цяпер ёсць сяброўка. Клічуць яе Лула. Яна жыве ў другім квартале на першай вуліцы. Гэта не так далёка, як здаецца маёй матулі, але яна ўсё роўна пакуль што мяне не пускае. Кажа, што ў другім квартале ёсць нядобрыя людзі. Але нядобрыя людзі ёсць паўсюль.

Мы з Лулай заўсёды застаемся дзяжурыць разам. Нават калі ёй вельмі хочацца паехаць, а мне вельмі не хочацца, мы вырашаем так, каб застацца ці паехаць разам. Мы паліваем задні двор вадой з сіняга бака. Ён вельмі высокі, пластыкавы, стаіць у куце, але каб дацягнуцца да яго і зачарпнуць ваду лейкай, Лула апускаецца на калені, а я караскаюся ёй на спіну. Вада ў баку белая, мутная, са смаўжамі, што нападалі ў яе. Гэтыя смаўжы звычайна лазяць па дрэве над бакам і ядуць нашу садавіну. Так ім і трэба, хай плаваюць!

Апошнім разам на дзяжурстве мы палівалі парнік. У ім растуць такія расліны, якім халодна нават у нас. Яны вельмі далікатныя, ім трэба шмат цяпла, а значыць, шмат клопату. Бываюць такія людзі, іх называюць «парніковымі», таму што ім трэба шмат цяпла і шмат клопату. Але не кожны можа ім іх даць. Зрэшты, і з простымі людзьмі, як і з простымі раслінамі, не кожны здольны справіцца…

Усё на свеце можна параўнаць з людзьмі: высахлую скарыначку з чалавекам, смаўжа на дзікай ружы з чалавекам і дзікую ружу са слізнем таксама можна

параўнаць. Калі б я была бегемотам, то, напэўна, усё ў свеце, параўноўвала б з бегемотамі.

Я не ведаю, як растлумачыць, але справа ў тым, што Ніфо з’язджае ад нас. Тата сказаў, Ніфо кідае нас і здраджвае нам. Але гэта няпраўда. Я ж ведаю, што мала хто любіць усіх так, як Ніфо. Проста ён з’язджае. Уяўляеце, у тую паўночную краіну, дзе мала сонца. Ніфо сказаў, там водзяцца трусікі. І калі я захачу, ён прывязе мне такога, як у дзяўчынкі з багатай сям’і. Насамрэч мне трошкі сумна. Але я ведаю, што Ніфо едзе туды, дзе ён заробіць грошай. Тата Чуі, кажуць, добра ўладкаваўся, а Ніфо з ім звязаўся і цяпер едзе туды быццам бы па запрашэнні працаваць разам з татам Чуі. А наш тата дагэтуль памятае, што была сказана пра іх з мамай, таму вельмі пакрыўдзіўся на Ніфо.

Цікава, Дарука паедзе з Ніфо ці застанецца з намі? З таго часу, як мама стала хадзіць на працу часцей, у сям’і з’явіліся грошы, іх было дастаткова, каб Ніфо ажаніўся. Праўда, жывуць яны не асобна, а з намі, у пакоі, які раней Ніфо падзяляў з Хансі. Хансі падсялілі да дзядулі, і з гэтага часу пакой быў для Ніфо з Дарукай. У мяне цяпер таксама свой пакой, таму што я падрасла і не магу ўжо жыць разам з Булі. Але ў новым пакоі занадта цесна, таму, калі Дарука з’едзе і месца стане больш, я буду рада. А ўвогуле яна добрая.

Дарука бачыць, што Ніфо не размаўляе з бацькам, і вельмі пакутуе ад гэтага. Яна добрая і разумная дзяўчына. Кажа, што супакой сям’і даражэйшы за грошы. Яна ўгаворвала Ніфо застацца, калі так будзе лепей бацькам. Але мама лічыць, што Ніфо мае рацыю, спадзяецца, што ў яго атрымаецца «вырвацца ў нармальнае жыццё, зарабіць грошай і набыць дом, дзе пакоі былі б з сапраўднымі сценамі». Я не вельмі разумею, чым ёй не падабаюцца нашыя сцены. Як па мне, фіранкі цудоўна раздзяляюць пакоі (іх у любы момант можна прыбраць).

Часам мне хочацца, каб бабуля вярнулася. Я не памятаю яе, але ўяўляю, як адчыняюцца дзверы, чутна рыпенне крокаў. Дзядуля ўскоквае з месца, падае зэдлік. Яму б стала лепей, я ўпэўнена.

У нас у школе ёсць туалет. Ён агульны для дзяўчат і хлопцаў, на чатыры месцы. Аднойчы настаўніца прыцягнула адтуль майго аднакласніка Ёхі. Ён цікаваў за намі, дзяўчатамі, — зачыняўся ў кабінцы, падцягваўся на руках і глядзеў уніз. Увогуле неяк няёмка. Я ведала, што ён падглядае. І шмат хто ведаў. У Ёхі няма ні братоў, ні сясцёр — зразумела, яму цікава.

Дасцё вы веры ці не, але сёння я збірала ягады ў Лулы. Мама адпусціла, бо мне ўжо цэлых дванаццаць год! Мама пускае гуляць, ты можаш уладкавацца падпрацаваць летам, назбіраць на квіток і з’ездзіць у горад, каб набыць марозіва, схадзіць у заапарк. Але я не раблю гэтага, таму што з Хансі цікавей.

Хансі, дарэчы, ужо працуе. Ён паступіў на вучобу ў сталіцу. Гэта апраўдана. У Хансі самыя высокія балы. У яго нават кніжкі ёсць. Цяпер Хансі ведае, што павінен з’ехаць на час навучання ў сталіцу, але для гэтага патрэбны грошы. Усім зноў патрэбны грошы. Заўсёды. Гэта мяне прыводзіць у шаленства. Я не хачу працаваць. Калі толькі вырошчваць птушак ды сланоў.

Гладзіць пальцамі зямлю пасля дажджу. Я люблю гэта. Зямля пульхная, вільготная. Кожная травінка з сокам, і можна парэзаць пальцы, выпадкова саслізнуўшы на край. Ты таксама ўвесь напоўнены сокам. І гэты сок чырвоны. Цікава, траве балюча, калі яе косяць? Тое, што кажуць нам у школе, не заўсёды праўда. І яшчэ больш складана з тымі рэчамі, якія нельга даказаць. Гэта значыць тыя, якія ты не бачыў сам. Пытанне веры — ці круціцца Сонца вакол Зямлі ці наадварот. Я сур’ёзна. Зразумела, хтосьці палічыў, хтосьці бачыў. Але лічыў не ты. І не ты быў

у космасе. А што, калі гэта ўсё прыснілася ці містыфікацыя? І вось яшчэ: якая мне розніца хто вакол каго круціцца? Я ж тут, на зямлі жыву маленькім і пацешным жыццём. І гладжу зямлю.

Я бачыла, што Булі будаваў паруснік. Маленькую мадэль. Ён канструяваў яе па малюнку, які прыдумаў сам! Тата заўсёды казаў, што ў Булі няма талентаў, акрамя таго як хлусіць і свавольнічаць. Ніфо рамантуе мэблю і сам яе вырабляе. Хансі будзе біёлагам, ён вельмі шмат ведае пра жывёл і расліны, а Булі лянуецца. Але гэта няправільна. Няпраўда. Нельга так казаць. І я дакладна бачыла, як Булі будаваў паруснік. На беразе мора, схаваўшыся ў зарасніках. Я падышла да яго і спыталася: «Калі ты станеш піратам, возьмеш мяне на борт?» — а ён адказаў, што будзе не піратам, а мараком. Я пакрыўдзілася. Гэта дзіўна: быць мараком, калі можаш стаць піратам. Піраты шчаслівыя, яны — увасабленне поўнай свабоды. Плаваюць, дзе хочуць. Спяваюць вясёлыя песні. Ніводная краіна не можа прымусіць іх ваяваць. А маракі — гэта так сабе. Спадзяюся, Булі перадумае яшчэ. Ён узяў з мяне слова нікому не казаць пра паруснік.

Неяк мы з братамі сядзелі ў сенцах і пілі ваду з лімонам. Я папытала Хансі, што мы будзем вучыць далей на анатоміі. Ён адказаў, што мы будзем вывучаць будову чалавека. І каб растлумачыць, пачаў расказваць, што людзі пабудваны нібы рухавікі, а на анатоміі вывучаюць, як гэты «рухавік» працуе. Я здзівілася. Як я працую, я ведаю: хутка! Хансі засмяяўся: «Ты нават не ведаеш, як хутка працуе самы лянівы чалавек з вашага класа. Унутры нас закладзена шмат розных механізмаў. Тысячы тысяч розных шасцяронак… І каб падняць руку, усім гэтым шасцяронкам трэба круціцца хутка-хутка, ахопліваючы адна адну і перадаючы імпульс астатнім для працы». А Булі ўклініўся: «Але перад анатоміяй вы будзеце праходзіць яшчэ шмат непатрэбных прадметаў. І ўвогуле, скажы мне, Хансі, да чаго гэтыя веды? Мы вучым, як пабудаваны чалавек, але нам жа не кажуць, дзе знаходзяцца кнопкі, каб зрабіць яго смялейшым, разумнейшым, багацеўшым. Палепшыць якасці». Хансі тады адказаў Булі, што мы не праходзім гэтыя кнопкі на чалавеку, таму што сам чалавек такая кнопка, і калі ён хоча нечага, ён гэтага дасягне, будзь гэта смеласць, сіла ці багацце. Увогуле, я не зусім згодна з Хансі: многія ж людзі нечага хочуць, але не дасягаюць. Ці проста не ведаюць, чаго хочуць?

Апошні раз у Лулы мы гулялі ў хованкі і вызваленне: я бегала з цацачным тамагаўкам і звяргала ворагаў, каб выратаваць Лулу з цямніцы. Яна прыкідвался не сабою, а маім паплечнікам-вызваліцелем, таму мы ваявалі разам. Усіх перамаглі, а потым прыйшоў брат Лулы і забраў у нас тамагаўк. Ён накрычаў на Лулу, што мы надта крычалі і пабудзілі яго. Лула заплакала. А я не пераношу, калі нехта плача. Асабліва калі яго пакрыўдзілі. Тады я ўзяла Лулу, абняла за плечы і адвяла пад дрэва. І мы прыдумалі Вялікі План Помсты яе старэйшаму брату. Увогуле, ён не сапраўдны брат, а стрыечны. Калі б быў сапраўдны, ён бы ніколі не крычаў так на Лулу.

З-за гэтага Плана Помсты здарылася самая страшная і небяспечная прыгода за апошнія гады майго жыцця. Справа ў тым, што ў нас побач з домам расце калючая расліна з такімі шарыкамі, якія вельмі чапляюцца да вопраткі. І мы нарвалі процьму гэтых шарыкаў! Падкраліся да бляшанага навеса, дзе брат Лулы рамантаваў свой скутар, на якім прыехаў з горада. Рамантаваў ён не адзін, а са сваім сябрам. Але мы таксама паклікалі родную сястру Лулы. Яна трохі старэйшая, ужо чатырнаццаць, але брат і яе крыўдзіць. Ён як прыедзе — хоць лезь пад стол. Дык вось, мы шпурнулі ў іх калючкамі! І Вірду з Лулай не трапілі ні разу, я патрапіла ўсімі калючкамі ў цэль. А брат яе як зараве! Ён схапіў лом і кінуўся за намі. Не чакала такога. Мы пабеглі ў бок поля, таму што ў Лулы і Вірду крайні дом. За полем — вялікі абрыў, таму

было глупствам туды бегчы, але мы не падумалі. Я ніколі не бегала так хутка. І тут Лула падвярнула нагу. Вірду бегла ззаду і спынілася, а я развярнулася і пабегла да іх, але дзяўчынкі пачалі крычаць, каб я бегла, бо ім раз'юшаны брат нічога не зробіць. А мне можа нешта зрабіць. Я спужалася не на жарт. Дабегла да ўзгорка і схавалася ў кукурузу. Бегчы больш не было куды, таму я зайшла як мага глыбей, старючыся не ламаць і не прыгінаць сцябліны, і прысела. Кукуруза хавала мяне з галавою. Але сэрца калацілася, як ніколі. Мне здавалася, што гэты грук чуваць па ўсім полі. Потым я пачула галасы. Злосныя, раз'юшаныя. Яны разумелі, што я ў кукурузе, і пайшлі шукаць. Мне было страшна. І яны прайшлі міма! Я амаль не дыхала і не шавялілася вельмі доўга.

Напэўна, я праседзела б там да вечара, але Лула і Вірду пайшлі па полі, выкрыкваючы маё імя. Я вылезла з кукурузы і яны адразу ж падхапілі мяне, бо ногі падкошваліся і дрыжэлі ад напругі. Ніколі я так не бегала. Лула і Вірду сказалі, што шалёна спужаліся, калі іх брат з сябрам вярнуліся, а за імі цягнуўся крывавы след. Аказалася, што Нуксі пашкодзіў нагу: на дарозе валялася шкло. Ён сказаў маме Лулы і Вірду, што шкло падкінула я і назваў мяне ведзьмай і рознымі нядобрымі словамі. Я паверыць не магла, што ён такі мярзотнік. Смяялася доўга, але мне было сорамна перад мамай Лулы: што калі яна паверыць Нуксі? Як мне трапляцца ёй на вочы? Не разумею, навошта вось так хлусіць.

Хаця, калі шчыра, цяпер я трошкі адчуваю сябе ведзьмай: я ж так хацела, каб яны мяне не заўважылі, што яны прайшлі паўз мяне так, быццам я стала невідзімкай! А што калі напраўду з-за маёй умольнай думкі, такой гучнай, вакол утварылася нейкае абарончае кола і нешта накшталт таго. Увогуле, абарона. Я ж унушала сабе, што я нябачная, што растварылася — і вось. Я выратаваная, а гэтыя злыдні сышлі. І нават шкло трапілася своечасова, бо калі б Нуксі не параніў нагу, яны шукалі б далей і знайшлі б мяне.

Яшчэ адно дрэнна: пасля гэтага выпадку хадзіць да Лулы я баюся. Баюся яе брата і яе мамы, перад якой брат узвёў на мяне такі паклёп. Ён жа старэйшы, яму павераць. Але гэта гідка. Да восені ён з'едзе, а пакуль мы з Лулу амаль не бачымся. Мне самотна. Але гэта добрая нагода, каб пайсці да мора і гуляць.

Неяк выскачыла з галавы, што ў гэтым годзе мы пераходзім у старшыя класы. І Лула ідзе ў іншую школу, дзе пансіён. Гэта значыць, што мы больш не ўбачымся на вучобе. У яе квартал я баюся хадзіць. Аднаго разу папрасіла Хансі звадзіць мяне туды. Мы схадзілі, але Лулы не было дома…

Булі сустрэў мяне ля брамы радаснай весткай. Падміргнуў, прыцягнуў да сябе: «У нас будзе маленькі!» — я сумелася. Дарука ж доўга жыве без Ніфо, як жа так, ад каго ж. Аказалася, мама цяжарная. Наш мама. Вось дык навіна. У мяне будзе брацік або сястрычка!!!

## Частка 2. СПЕЎ АДНОЙ ПЕРЛІНЫ

Сёння дзівосны дзень. Хутчэй, ён павінен быць дзівосным. Мне дзевятнаццаць гадоў. Паўналецце па нашых законах. Гэта значыць — адказнасць. Але яшчэ больш значыць — Свабода. І дзе яна? Абсалютна яе не адчуваю. Прачнулася, паварушыла вялікімі пальцамі, пагладзіла рукой жывот, што вуркоча. Усё як раней. Здаецца, я прачыналася так і ў чатыры, і ў чатырнаццаць. Сёння прыязджае Ніфо! Вось што дзівосна! Вось калі я ўскочыла! І добра выцялася галавою. Не, за ноч я не стала вышэй. А за апошнія некалькі гадоў — дакладна.

Ніфо-Ніфо-Ніфо-Ніфо!!! Я не бачыла яго паўтара года. Ён рэдка прыязджае, прывозіць грошы, задаволены такі. Змог уладкавацца. Спадзяецца атрымаць грамадзянства. Тата злуе, просіць яго не адʼязджаць. Дарука сумуе. Мама нарадзіла. Пасля апошняга прыезду Ніфо Дарука таксама зацяжарыла і нарадзіла. Цяпер у нас двое маленькіх з розніцай у два гады. Толькі яны ўжо не карапузы. Дастаткова вялікія. Булі ўладкаваўся на верф караблебудаўнікам. Ён жа пра гэта марыў! Мараком быць перадумаў, на шчасце, бо не ўзялі б па здароўі. Цяпер ён цудоўны работнік, які збірае караблі і пускае іх на ваду. Хансі адвучыўся, працуе ў запаведніку пад сталіцай. Гэта далёка адсюль, таму мы яго амаль не бачым.

Вось развесілі чырвоныя сцягі па парэнчах пірса, каб Ніфо і іншыя ведалі, што іх усе чакаюць. Мы мітусімся на беразе. Нехта рыхтуе пляж да вячэрняга свята, нехта прынёс сталы. Усё як пры прыездзе родных на сямейную вячэру. Бо сёння сапраўды на караблі прыплывуць усе, хто паехаў на заробкі ў паўночную краіну з нашага і суседніх гарадкоў. Вялікае сямейнае свята. Я збіраю ракавіны.

Дзіўная справа, калі ўсё вакол адбываецца быццам феерверк над галавою, а твой брат не едзе. Мы з мамаю моцна засмучаны. Бо Ніфо не папярэдзіў нас. І Дарука злосная. Я ведаю гэта таму, што яна ўзялася за пранне. Дарука рэдка злуецца, але калі ўжо яе давесці, то яна пачынае шалёна наводзіць парадак. Ніколі не плача, ніколі не крычыць. Усю хату пераверне з ног да галавы і вычысціць да бляску. Мы, канешне, і без гэтага да прыезду Ніфо прыбраліся, але цяпер… Можа, Ніфо спецыяльна зліць жонку? Не, гэта не справа. Можна і папрасіць. Ніякія чыстыя куты і крухмальныя прасціны не вартыя таго, каб мы перажывалі, пакуль усе сустракаюць сваіх. Чаму не папярэдзіў?

Мама паведаміла Хансі, што Ніфо не прыехаў, і ён адразу ўзяў адпачынак, прымчаў да нас. Маме ажно дрэнна стала. А Хансі яе супакоіў. Узяў камандаванне ў свае рукі і цяпер мы ўсе бегаем сюды-туды, выконваем загады Хансі, пакуль ён сядзіць ў пакоі мамы. Тата робіць выгляд, што ён прадмет мэблі. Увогуле, ён актыўны, але жудасна баіцца хвароб, таму, калі нехта хворэе, ён не ведае, што рабіць. З боку здаецца, што ён заняў месца дзядулі, калі той памёр: нехта ж павінен бадзяцца без справы.

Ніфо прыехаў! Я чую гэта па рыпенні брамкі, па крыку Хансі, па тупаце ног — бяжыць Дарук, па ўскрыку мамы з акна. Нават тата выйшаў у сенцы і абапёрся — гэта чуваць па рыпенні дошак — на кволыя парэнчы. Ён нахмурыць бровы, выкаціць ніжнюю губу і будзе чакаць, пакуль Ніфо падыдзе.

Я ўсё думала, у чым жа справа, што затрымала Ніфо. А казалася, што нічога не затрымала і прыплыў ён своечасова. Толькі не ў той порт. І не на тым караблі. А з сябрам. Вось што аказалася. Сябар у Ніфо — цудоўны чалавек. Гэта ён купляў білеты Ніфо, бо хацеў аплаціць выдаткі і так аддзячыць за тое, што Ніфо запрасіў яго дадому на два тыдні. Гэта значыць, да нас. Дарука ў жаху: усе браты зʼехаліся, дзеці носяцца, месца няма, тут госць. Ох, адчуваю, Ніфо чакае размова.

Ісці сваім шляхам — ці гэта не варʼяцтва? Прыкмета дурасці ці свабодалюбівага розуму? Некалі я марыла прыдумаць сваю рэлігію — не для народа, не для натоўпу людзей і нават не для маленькай групы, а толькі для сябе. Таго бога і тыя традыцыі, што я прымаю, і ў якіх няма непаразумення паміж мною, святымі кнігамі і іншымі вернікамі. Але нехта сказаў: «У пустую галаву ўваходзіць усё, выходзіць з яе яшчэ болей». Таму я баюся думаць самастойна. Але гэта ж бязглуздзіца. Калі не я думаю, то хто ж? І навошта я патрэбна, калі думаюць за мяне?..

Не вячэрайце за агульным сталом з людзьмі, якія не могуць не быць ворагамі. З кожным годам усё горш: тата робіцца больш злосным і варожа настроеным да ўсіх, каго залічвае ў «чужыя».

Наш госць — чалавек іншай культуры. Але я гэтага не адчуваю. Ніфо прадставіў яго як Рэмі. Ён вясёлы, смяецца, калі выходзіць на ўзбярэжжа. Мне здаецца, ён раней не бачыў мора. Або такога мора не бачыў. Па адчуваннях і розуму ён не адрозніваецца ад мяне, Ніфо, Хансі або таты. Але ў нечым ён іншая істота. Не перастаю здзіўляцца: такія бледныя прыезджыя людзі ўжо на другі дзень робяцца чырвонымі ад сонца і пакутуюць ад спёкі.

Рэмі жыве не з намі. Ён добры чалавек і кемлівы, бо адразу зразумеў, што госця наш дом не ў стане прыняць. Дарука супакоілся, Ніфо быў выратаваны ад сваркі. А Рэмі зняў пакой непадалёк. У нас рэдка бываюць заезджыя з Поўначы, таму дзён пяць вакол плота дома, дзе ён жыве, неслі варту дзеці. Ды і дарослыя пачалі часцей заходжваць у наш квартал і хадзіць па вуліцы. Быццам выпадкова.

Цяжка быць дачкой, цяжка быць нечым дзіцем. Бацькі глядзяць на цябе і думаюць: калі ж, ну калі ты зробіш нешта добрае ў свеце. А ты пад гэтым позіркам не разумееш, чаго ад цябе чакаюць.

Калі я моцна стамляюся, то звычайна мыю твар. Не важна, якой вадой — халоднай ці гарачай, — галоўнае, каб вада была. І яшчэ вельмі важна, каб было сонца. Пасля таго, як ты лінуў у твар вады, трэба абавязкова выйсці на сонца. Тады кроплі, што павіслі на вейках, пачнуць ззяць і з'явіцца вясёлка. Маленькая вясёлка стаіць прама на вейках! І гэта здымае ўсе клопаты: хіба можа быць нейкі сум або стомленасць там, дзе стаіць вясёлка?

Маленькія рыбкі прабіраюцца ў мае грудзі і грызуць сэрца. Вось гэта я называю дотыкам да прыгажосці. Няхай гэта вясёлка ад сонечных кропель ці судакрананне позіркаў — твайго і нечага чароўнага позірку з-за плота. У такія імгненні вельмі ярка адчуваецца шоргат травы пад нагамі, мурашка на брыве, выбоінкі на вільготным ад расы камені, якім падпіраеш брамку.

Я часцей думаю, што трэба ісці сваім шляхам. Якім бы ён ні быў дзіўным і пакручастым, як бы яго ні асуджалі людзі. Калі ты адчуваеш, што гэта твой шлях… Кажуць, усё мае свае межы. Я чула пра тое, што чалавек без мяжы можа звар'яцець. Але можа і набыць розум. Рэмі сказаў, што нельга быць абсалютна вольным. «Свабода выбару — вялізнае збачэнства, — сказаў ён. — Людзі не ведаюць, што з ёй рабіць». Калі не стрымліваць свае жарсці і «слухаць сэрца», можна стаць страшным чалавекам. Забіваць іншых. Ладзіць зверствы… Я не веру ў гэта. Свабода і хаос пераплятаюцца так цесна, што яны, напэўна, не маюць межаў. Свабода аднаго канчаецца там, дзе пачынаецца свабода другога, ці не так? Але ўсё гэта вельмі па-асабістаму, вельмі па-рознаму ў людзей. Вось я. І мой тата. Вось ён крычыць на Ніфо, увесь цёмны ад злосці. Вось ён стаіць у дзвярах і не пускае мяне, зямлісты ад страху. Я не хачу парушаць нечую свабоду, але мне трэба выйсці, каб убачыць рознае, каб ісці сваім шляхам. Але ж мы ўжо палім свабоду адно аднаго? Калі ўявіць, што свабода — гэта бясконцае палатно, выдадзенае чалавеку, каб ён маляваў на ім або расшыў ніткамі і прыгожым бісерам… у кожнага палатно з дзіркамі і прапалінамі. Калі палатно гэтае не бясконцае.

Ніхто з маіх родных, акрамя Булі і мамы, не ведае яшчэ, што я ныраю ў жыццё. З разгону! З пырскамі! На мацярык!.. Там, напэўна, іншыя птушкі.

Мне гаварылі, як цяжка равітвацца. «Развітанні — гэта заўсёды боль, страх». Але цяпер я нічога такога не адчуваю. Булі сціскае маю руку, пазірае з-пад нахмураных броваў сурова, але з надзеяй. Здаецца, ён хоча, каб мне было добра. Канешне хоча… Брацік мой. Гэта ён дапамог мне збегчы з дому, сустрэцца з Рэмі недалёка ад прыстані.

Сёння мы адплываем. І я веру ў цуды. Таму што там чакае цудоўнае, неадкрытае, нязведанае, а мне гэта будзе паказваць Рэмі! У яго рудыя валасы. Кранаючы іх, я ўспамінаю дзяцінства і свайго сябра Чуі, які з'ехаў. Часам здаецца, што ва ўсіх еўрапейцаў рудыя валасы. Але гэта не так, я ж іх бачыла. Некалькі чалавек. Але, напэўна, усё ж такі ў многіх еўрапейцаў рудыя валасы. І рукі з рабацінкамі. Белыя, смешныя.

Успамінаю, гледзячы на карабель, які падплывае, як мы развіталіся з Ніфо ў першы раз. Я была тады маленькая, дурная. І калі з палубы турысты пачалі кідаць манеткі, я спытала ў Булі, што гэта значыць. А ён адказаў, што ёсць традыцыя: калі з'язджаюць з мора, кідаюць у яго манеты, каб абавязкова вярнуцца. Тады я сказала, што калі вырасту ці проста калі куды-небудзь збяруся ехаць, то буду кідаць манеткі не ў мора, а ў людзей. Таму што хачу вяртацца не проста да мора, а да людзей. Цяпер зразумела, чаму прыдумалі грошы. Шкада, што людзі забыліся, што гэта значыць…

Павярнуўшыся да Рэмі, я прашу манетку. Ён смяецца, не разумее, але адчувае, што я зноў зраблю нешта забаўнае. Ён жа не адчувае мае думкі і не бачыць успаміны. Але я раскажу, дапамагу адчуць. Пасля. А цяпер я ўкладаю манетку ў злёгку дрыжачую руку Булі. Ён падцiскае вусны: «Кінула ў мяне манетку, праўда ж?» — ён гэтага не гаворыць. Я гэта чую. Бывае, праўда? Мы адплываем!!! Свабода здаецца мне смелым парусьнікам, які плыве па аблоках.

* * *

Свет наступае амаль не чакана. Хапае цябе за плечы — і вось ты тут. Глядзіш на яго, як у расчыненае акно. Вялізнае. Вялізнае расчыненае. І ўвесь выпадаеш, нахіліўшыся наперад. І вецер так цярэбіць валасы, а свет такі вялізны наўкола! І дрэвы дзіўныя, паласатыя, з дробнымі лісцікамі, і з лісцікамі, што нагадваюць сэрца, і з лісцікамі, падобнымі да пяра, з круглымі ягадамі кусты, і з дробнымі гронкамі. Проста цуд. Мне раней здавалася, што немагчыма любіць яшчэ больш, і яшчэ больш адчуваць пяшчоту. Кожны раз так здаецца. Спачатку я любіла тату і маму, бабулю, дзядулю, потым Хансі, Ніфо і нават Булі. Потым вельмі моцна любіла Чуі і Лулу. Мацней за ўсё я любіла пляменніцу і сястру. Здавалася, гэта мяжа пяшчоты, ты ўжо гэтай пяшчотай сплываеш уся, як надзьмутая мачалка. Ледзь дакранешся пальцам — і палілася ласка, клопат, замілаванне. Цэлыя рэкі шчасця. Але не, што вы. Чарачка не грааль і не балея. Гэта цэлы Сусвет Любові, калі даводзіцца некага любіць. Цяпер я адчуваю яшчэ больш пяшчоты да Рэмі. Як быццам вакол яго галавы пастаянна лётаюць матылі і з іх крылаў ляціць чароўная пыльца мне ў вочы, ад чаго адразу ўсё бачу вельмі прыгожым. Больш чым прыўкрасным.

На мацерыку вельмі мала сонца. Так мала, што неба белае, быццам малако. Малако — гэта цудоўна. Але калі з'яўляецца сонца, я шчыра плачу і спяваю. Ведаў бы Рэмі, як мне не хапае сонца. Напэўна, таму я ў пахмурныя дні прыціскаюся да яго і дыхаю валасамі, як быццам ён маё сонца — такое ж рудое, светлае і гарачае. І прабірае амаль наскрозь. Сапраўднае сонца. І не бывае апёкаў. Ад людзей жа не бывае апёкаў, так?.. Я не памятаю, што думала пра гэта раней.

Увесь пакой быццам свеціцца. Мы свецімся гэтым святлом. Бегаем вакол ложка, смяемся. Вось так. Быццам толькі што выкупаліся ў сонцы. Скачам па ложках!.. Які вялікі пакой… а я не хачу тут нічога! Ні шафаў, ні паліц! Няхай будзе так: вялізныя вокны і ложак. І больш мне нічога не трэба.

Як я люблю вялізныя вокны! Як я люблю, каб у пакоі было шмат святла! І каб там былі мы.

Выхадзіць на вуліцу трошачкі страшна. Хутка зіма і мне вельмі холадна ўвесь час. Але не ў гэтым бяда. Бяды ўвогуле няма. Проста палохае невядомае і касыя позіркі прахожых. Я не заўсёды разумею іх мову, але яшчэ горш разумею лад іхніх думак. Дзіўныя, яшчэ больш дзіўныя, чым у нас, людзі. Яны часта сумуюць, зайздросцяць, зневажаюць. Пускаюць час на незразумелыя рэчы. А яшчэ Рэмі падарыў мне кацяня. Паласатую маленькую істоту. Цяпер ён жыве ў нашым пакоі і я разумею, што акрамя вокнаў і ложка ў ім не хапала менавіта яго. З тонкім пісклявым голасам і кіпчастымі лапамі. А зубы пахнуць малаком.

Часам, заплюшчваючы вочы, я думаю пра будучыню. І яе не бачу. Ад няма чаго рабіць чытаю кнігі, каб больш разумець людзей, але не лепшае ў іх разумею. Не ўсе веды атрымліваць прыемна. Хочацца добрых і сонечных кніг, каб з кожнай старонкі на вейкі скакала вясёлка і смяяліся дзеці. Мне не хапае гэтага. Трошкі. Прызнаюся. Але тут свежы вецер, прахалода раніцай — і гэта радуе. А еўрапейцы амаль не рудыя. І вельмі розныя. Гэта праўда.

Калі зранку мяне будзіць кот, кусаючы за пальцы, здаецца, жыццё пачынаецца сонцам і смехам, як я хацела. У коўдры ты быццам у воблаку — можна кабурыцца, можна скруціцца калачыкам або разлегчыся зоркай, можна закінуць нагу на рудога чалавека побач. Жыццё пачынаецца кожны дзень і працягваецца бясконца… Што чакае мяне наперадзе? Што-небудзь чакае? Першая прастуда, першы снег, першая праца сярод гэтых дзіўных бледных людзей. Што яшчэ? Рэмі спіць. Я ўздыхаю, перабіраю пацеркі з белых перлінак і зноў сплю.

* * *

Высокія травы шумяць над маім братам. Мы разам ляжым недалёка ад пясчанага схілу: вялікія, старыя, зморшчаныя целы з трохі драблай, як парусіна, скурай. Здаецца, калі падзьме вецер, скура надзьмецца, як ветразі, і будзе трапятаць на ветры.

Я ўзнімаю ракавіну і гляджу на яе бялёсымі вачыма. Пальцы ўсе ў крапінкі — гэта, напэўна, ад старасці… Падносячы ракавіну да вуснаў, пачынаю дудзець у яе так, як некалі мой дзіцячы смешны сябра.

«Я так нічога і не зразумела, — кажу я брату, — але было весела. І сумна. І часам цёмна, але ўсё роўна здорава. Праўда, Булі, вельмі здорава было жыць».

І Булі адказвае: «Ведаеш, Ціралу, ты — спеў адной перліны».





*Сяргей ТРУНІН*

# КРЫТЭРЫІ АНАЛІЗУ ПРАЗАІЧНАГА ТВОРА

***Пачнём з парадоксу: любы літаратурны твор — гэта тэкст, але не кожны тэкст з'яўляецца мастацкім. Самымі складанымі для пісьменніка былі і застаюцца пытанні тэкстаспараджэння: як і з чаго ўзнікаюць апавяданне, аповесць, раман? Існуе вялікая колькасць самых разнастайных крытэрыяў і класіфікацый, у адпаведнасці з якімі адбываецца аналіз і інтэрпрэтацыя мастацкіх тэкстаў. Далей размова пойдзе пра прозу, таму будуць прапанаваны крытэрыі ацэнкі якасці празаічнага твора.***

Першы і самы істотны крытэрый — ***эстэтычны.*** Калі тэкст не адпавядае гэтаму патрабаванню, то літаратурай ён ніколі не стане. Важна памятаць, што нават рэалістычнае апавяданне не апісвае рэальнасць «як яна ёсць», а мадыфікуе, «алітаратурвае», пераводзіць і пераразмяркоўвае яе ў іншай сістэме каардынат.

Другі крытэрый — ***моўны.*** Правільнасць і пісьменнасць мовы робіць лягчэйшым доступ чытача да твора. Аднак важна ўлічваць стылістычныя адметнасці ў кожным канкрэтным выпадку: персанажы ў творы не могуць размаўляць **адной мовай. Маўленне** маркіруецца ў адпаведнасці з сацыяльным паходжаннем, полам, узростам, канцэптуальнай карцінай свету кожнага героя.

Трэцці крытэрый — ***наяўнасць выяўленча-выразных сродкаў***. Магчыма, у прозе яны менш заўважныя, чым у паэзіі, але, тым не менш, павінны абавязкова прысутнічаць. Для таго, каб чытач адрозніваў аднаго персанажа ад іншага, неабходна ўводзіць партрэтныя характарыстыкі, метафары, параўнанні, дэталі і г. д. Чым багацей чытацкі тэзаўрус пісьменніка, тым больш насычаным будзе яго мастацкі свет.

Чацвёрты крытэрый — абавязковая наяўнасць **мастацкіх вобразаў**. Без вобразаў немагчымы ніводны род літаратуры: ні проза, ні паэзія, ні драматургія. Часта вобраз выступае «стрыжнем» твора, вакол якога фарміруецца ўся мастацкая прастора. Вобраз можа выступаць у якасці знака пэўнай з'явы ці падзеі. У прозе вобраз (у іпастасі персанажа) утрымлівае ў сабе знакі гістарычнай эпохі, характараў, светапоглядаў. Персанаж — гэта своеасаблівы медыятар, пасрэднік паміж аўтарам і чытачом. Гэта патрабаванне з'яўляецца базісным для розных мастацкіх сістэм у літаратуры (як рэалістычнай, так і мадэрнісцкай і постмадэрнісцкай).

Пяты крытэрый — ***вобраз аўтара***. У празаічным тэксце ён можа прысутнічаць у розных іпастасях: у ролі апавядальніка (аповед вядзецца ад 3-й асобы і яна знаходзіцца за межамі свету, які апісваецца) ці расказчыка (які з'яўляецца непасрэдным удзельнікам апісаных падзей). Маладому пісьменніку варта адразу вызначыцца з выбарам і вырашыць, у якім выглядзе ў творы будзе рэпрэзентаваны аўтарскі пачатак.

Шосты крытэрый — ***наяўнасць сімвалаў.*** Гэта патрабаванне таксама іграе істотную ролю ў празаічным творы, паколькі праз сімвалы падключаецца культурны

кантэкст. Любы літаратурны твор існуе ва ўзаемадзеянні самых розных кантэкстаў: гістарычнага, літаратурнага, культурнага і г. д. Нават самыя наватарскія творы ў адлюстраваным выглядзе ўлічваюць папярэднюю традыцыю. Маладым аўтарам варта ўлічваць той факт, што літаратурны працэс мае сваю логіку, нічога не праяўляецца «проста так», усе з'явы ўзаемазвязаны.

Сёмы крытэрый — ***адпаведнасць абранай тэмы зместу***. Тэма і змест знаходзяцца ў непарыўнай еднасці. Акрамя таго, яны таксама вызначаюць выбар мастацкіх сродкаў, вобразаў і іншых неабходных элементаў тэксту (напрыклад, наяўнасць у творы псіхалагізму).

Восьмы крытэрый — ***арыгінальнасць кампазіцыйнага рашэння***. Любы празаічны твор незалежна ад жанру мае як мінімум 3 элементы кампазіцыі: уступ, развіццё сюжэту, заключэнне. Адсутнасць аднаго з гэтых элементаў можа пацягнуць за сабой непаразуменне паміж аўтарам і чытачом. Безумоўна, у літаратуры прадстаўлена дастатковая колькасць інверсій (перастановак), калі твор можа пачацца адразу з кульмінацыі. Але і ў такім выпадку перадгісторыя абавязкова павінна прысутнічаць.

Дзявяты крытэрый — ***наяўнасць падтэксту***. Ніводны мастацкі твор не апісвае гатовыя мадэлі, паколькі гэта банальна. У тэксце абавязкова прысутнічае падтэкст, з якога чытач даведваецца пра культурны кантэкст, эстэтычныя і ідэалагічныя перавагі аўтара, а таксама ўзноўленыя ім мадэлі свету. Часта падтэкст нават больш красамоўны, чым прадстаўлены ў творы сюжэт. Уменне праз сюжэтную лінію перадаць у падтэксце вялікі сэнсавы аб'ём — майстэрства, даступнае не кожнаму аўтару.

Нарэшце, дзясяты крытэрый — ***лагічнасць і паслядоўнасць выказвання***. Фантазія аўтара можа быць бязмежнай, але ні ў якім разе нельга забывацца на чытача, які чытае твор. У мастацкім творы ўсё павінна быць на сваіх месцах: і партрэтныя характарыстыкі, і апісанні месца дзеяння, і расстаноўка персанажаў. Пісьменнік, які захапляецца інверсіямі і замоўчваннямі, рызыкуе не знайсці паразумення ў чытача. У той жа час нельга без канца ўсё чытачу тлумачыць (для гэтага існуюць вобразы, сімвалы, падтэкст і г. д.). Нават тады, калі сюжэт іграе другасную ролю, у творы павінна прасочвацца логіка падачы падзей, герояў, эмацыянальных перажыванняў.

Безумоўна, усе апісаныя крытэрыі не валодаюць універсальным характарам і могуць успрымацца толькі як «шпаргалка» для пісьменніка-пачаткоўца.



# «КРУГЛЫ СТОЛ» НА ШМАТГРАННУЮ ТЭМУ

***Запіс размовы, якая адбылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ з прычыны правалу ў тамтэйшым конкурсе адной намінацыі.***

***Скарочана, але без «купюр».***

**Уладзімір Капцаў:** — З-за чаго, уласна кажучы, нарадзілася ідэя гэтага «круглага стала»? Сёлета мы паспрабавалі на фоне традыцыйных намінацый конкурсу запусціць яшчэ адну — «Белетрыстыка». У выніку гэта адзіная намінацыя, у якую не даслалі ніводнай працы. Прычым, нашы студэнты, якія курыруюць праект, адзначылі, што нават калі дасылалася тое, што можна аднесці да белетрыстыкі, яно ўсё роўна ішло з пазнакаю «Проза». У абмеркаванні гэтай тэмы мы вырашылі аб'яднаць сілы з часопісам «Маладосць».

**Святлана Дзянісава:** — Паколькі часопіс «Маладосць» прысвячае конкурсу цэлы нумар, а заяўлена было папярэдне, што ўсе намінацыі «БрамаМар» будуць прадстаўлены на яго старонках, то мы і змесцім сем намінацый. На месцы, дзе павінен быў стаяць твор пераможцы ў намінацыі «Белетрыстыка», размесціцца вось гэта гутарка. Мне хочацца, каб кожны яе ўдзельнік выказаў свае меркаванні адносна таго, чаму намінацыя не адбылася. Добра гэта ўвогуле ці дрэнна? Ну, і было б цікава пачуць разважанні пра мяжу паміж гэтымі намінацыямі — «Проза» і «Белетрыстыка». Думаю, з прычыны ўмоўнасці гэтай мяжы, можна дачакацца даволі цікавых думак.

**Ірына Шаўлякова:** — Вы, Уладзімір Анатольевіч, адчайны чалавек. Выстаўляючы дзве гэтыя намінацыі, вы (мяркую, гуманістычна настроеныя) ад самага пачатку паставілі ў непамыснае становішча альбо сябе як арганізатараў, альбо канкурсантаў. Вы ж, думаю, улічваеце, што існуе негатыўны стэрэатып у дачыненні да белетрыстыкі як да лёгкага чытва. Хто ж вам прызнаецца, што піша не прозу, а белетрыстыку? Як кажа адна мая калега, атрымалася інтрыга, прычым, не без каварства. Вам не падаецца, што вы ад пачатку асудзілі сябе на правал гэтай намінацыі? Трэба было выкладаць дакладныя патрабаванні да белетрыстыкі. Скажам так — «сістэму каардынат».

**Марына Елістратава:** — Я змяшчала патрабаванні, бо ведала, што такое пытанне будзе ўзнікаць. Ва ўмовах і прэс-рэлізах, якія высылаліся на сайты ўніверсітэтаў, творчых суполак і іншых арганізацый, кожная з гэтых намінацый была прапісана па жанрах. У «Белетрыстыцы» заяўляліся дэтэктыў, фэнтэзі, экшн, пародыя.

**Ірына Шаўлякова:** — Фантастыка — у «Прозе», а фэнтэзі — у «Белетрыстыцы»? Чаму?

**Людміла Рублеўская:** — Ведаеце, сёння нельга так фармуляваць, бо жанраў у чыстым выглядзе фактычна не засталося. Сёння ўсё муціруе. Уладзіміра Арлова, расійскага пісьменніка, раман — гэта што? Фэнтэзі? Сур'ёзная проза?

**Ірына Шаўлякова:** — Давайце падыдзем, хоць гэта і парадаксальна, з іншага боку. Першыя, што дасылалі свае творы ў «Прозу», пагаджаліся з тым, што будуць прызнаны аўтарамі нечага сур'ёзнага, а другія — з тым, што іх творчасць арыентавана на масавую аўдыторыю і, умоўна кажучы, на камерцыйны поспех. Вось калі б вы *так* патлумачылі, а не па жанрах раскінулі, то ў вас у «Белетрыстыцы» было б шмат усялякіх твораў. Я не вялікі спецыяліст у пытаннях класіфікацыі белетрыстыкі, але спецыяльна паглядзела ў даведнікі. Практычна ў кожным слоўніку XX і XXI стагоддзяў, тлумачальным або якім іншым, мяжа паміж белетрыстыкай і прозай праводзіцца паводле «лёгкасці ўспрымання». А гэта ж ужо тэрыторыя інтэрпрэтацыі! Мне падаецца, што (без крыўдаў!) твор, які дасылаецца на студэнцкі конкурс, наўрад ці можа прэтэндаваць адразу на тое, што ў ім будуць праглядвацца і стыль, і сістэма каштоўнасная, этычная і эстэтычная. Так ці інакш, ён усё роўна ўяўляе сабою «аблегчанае чытанне». Адсюль выснова даволі канкрэтная. Можа быць, ад яе парадаксавізмам патыхае, але тым не менш: давайце ўсё перакінем з «Прозы» ў «Белетрыстыку» — і, спадарыня Святлана, у вас будзе твор пераможцы. Я не чытала студэнцкую прозу, але мы з калегай Марыяй Дуброўскай прачыталі каля 80 твораў школьнай прозы. За выключэннем трох твораў усё гэта можа быць адпраўлена ў «Белетрыстыку».

**Таццяна Арлова:** — У мяне ёсць прапанова, улічваючы, што мы ладзім гэты конкурс у Інстытуце журналістыкі, увесці намінацыю «Публіцыстыка». Вы з боку літаратуры чытаеце, гэта адзін пункт гледжання, але для той арганізацыі, якую мы прадстаўляем, якой трэба шукаць добрых будучых журналістаў, такая намінацыя была б бліжэй і выгодней.

**Людміла Саянкова:** — Мне вельмі спадабалася, як Ірына Леанідаўна закруціла дыскусію і надала ёй стратэгію. Мы ўсе сталі кумекаць. Мне падаецца, што калі ставіцца да нашага пытання адначасова сур'ёзна і ў меру паблажліва, то тут абсалютна не трэба ўлічваць ступень сур'ёзнасці твораў. Трэба ацэньваць якасць. І проза можа быць самай рознай, і белетрыстыка можа мець высокі ўзровень. Гэта ў савецкі перыяд выраз «масавая культура» ўспрымаўся адназначна негатыўна. Але мы ўжо зразумелі, што ў розных відах мастацтва ўзровень твораў можа быць розным — і прымальным, і з прыстаўкай анты-. І жанравы падыход таксама мае слабыя бакі, і ім карыстацца тут нельга. Але ўсё роўна, што ні кажы, у паняцце «белетрыстыка» ўваходзіць камерцыйны элемент. Гэта тое, што прызначана для «павальнага захаплення». Можна сказаць «чытво», але я не надаю гэтаму слову негатыўнага адцення.

**Людміла Рублеўская:** — Калі добрая кніга напісана выдатным аўтарам і раптам яна разыходзіцца мільённым тыражом, то не абавязкова ж яна белетрыстыка і чытво ў горшым сэнсе.

**Таццяна Арлова:** — А параўноўваць белетрыстыку, скажам, напісаную Вячасла-





вам Бандарэнка, з белетрыстыкай трэцякласніка? Таксама ж розныя рэчы. А трапляе ўсё адно ў «белетрыстыку».

**Вячаслаў Бандарэнка:** — Прадавацца добра можа што заўгодна, гэта ўвогуле не паказчык якасці.

**Яўгенія Пастарнак:** — Глядзіце, што атрымліваецца. Вы, усе прысутныя, з вышэйшай філалагічнай адукацыяй ужо хвілін пятнаццаць спрачаецеся пра тое, што белетрыстыка, а што не. І вы сур'ёзна хочаце, каб маладыя людзі, якія адпраўляюць свае працы на конкурс, самі гэта вырашылі?

**Андрэй Жвалеўскі:** — Белетрыстыка — гэта проста знак няякасці для абываценя. А пісьменнік — заўсёды абывацель, філолаг ён ці фізік. Нам, фізікам, калі кніга выходзіць, адразу паведамляюць: вы, маўляў, напісалі славянскае фэнтэзі. І мы адказваем: «Абалдзець!».

**Яўгенія Пастарнак:** — Калі пішаш, ты ж увогуле не думаеш, што гэта будзе. «А ці не напісаць мне…» — так не думаеш. Спачатку пішацца кніга, а пасля крытык ці філолаг вызначае, што атрымалася.

**Андрэй Жвалеўскі:** — Тое ж і з камерцыйным поспехам: тут нават крытык ці філолаг не можа нічога сказаць. Болей за тое, маркетолагі, якія сядзяць хай сабе і ў маскоўскіх выдавецтвах, таксама нічога не петраць. Ведаеце, як яны працуюць? Яны выпускаюць трыста кніг у тыдзень, а пасля вядуць назіранне. «Вось! Гэта кніга прадаецца! Значыць, яна бестселер». Класічная гісторыя з Аляксандрай Марынінай. Дэтэктыў, лёгкі жанр. Калі яна напісала дзве ці тры кнігі пад сваім прозвішчам, ёй сказалі: «Вас не купляюць, бо прозвішча жаночае, пішыце пад мужчынскім». Яна напісала два раманы пад мужчынскім прозвішчам, але раптам пачалі прадавацца яе кнігі пад жаночым. Ніхто і дагэтуль не ведае, што і па якім прынцыпе робіцца прадавальным, а што не. І ў камерцыйным, і ў жанравым вызначэнні, а тым больш у вызначэнні такога размытага паняцця як белетрыстыка. Ад таго, што арганізатары конкурсу кінулі праблемы з дэфініцыямі на галовы саміх канкурсантаў, вынік, па-мойму, заканамерны: пісьменнікі не ведаюць, што яны белетрысты.

**Вячаслаў Бандарэнка:** — Або не хочуць сябе імі адчуваць. Або думаюць так: усё, што не вершы, — гэта проза. Вось і ўсё. Цяпер такі час.

**Людміла Рублеўская:** — Калі я даведалася пра намінацыю, мне проста цікава стала, хто туды што дашле. Я была ўпэўнена, выбачайце, што не будуць туды нічога дасылаць. Сапраўды, трэба было з таго, што прыслалі ў «Прозу», узяць, перабраўшы, і перакінуць у «Белетрыстыку».

**Уладзімір Капцаў:** — Пытанне тэхнічнае. Па ўмовах конкурсу мы не маем права перакідваць творы з намінацыі ў намінацыю. Калі аўтар рашыў, што яго казка — гэта вершы, то і ацэньвацца яна будзе па крытэрыях вершаў, бо гэта яго права. Другі момант. Я для сябе вызначыў, што галоўнае тут пытанне самаацэнкі. У такім узросце, як у нашых канкурсантаў, усё, што белетрыстыка, класіфікуецца як «нізкі жанр» пад уплывам асяродку, стасункаў і СМІ.

**Ганна Альхоўская:** — І я менавіта з такім сутыкалася. Асяродак і СМІ фарміруюць стаўленне. На адной з тэлепраграм адзін з калег-пісьменнікаў сказаў мне, што я — не пісьменнік, я — аўтар бульварнага чытва. Ён жа не напісаў ніводнай кнігі, а я — дваццаць. Але я сказала, што мяне можна называць як заўгодна, бо я з задаваль-

неннем прызнаю сябе і аўтарам бульварнага чытва, і аўтарам белетрыстыкі. Для мяне галоўнае слова — «чытво», бо гэта чытанне. Галоўнае — чытаць.

**Вячаслаў Бандарэнка:** — Чалавек, які спрабаваў вас абразіць, не разумеў, што калі кніга чытаецца некім на лаўцы на бульвары, то гэта высокая для яе ацэнка. Дай Бог кожнаму, каб яго кнігі так чыталіся.

**Уладзімір Капцаў:** — У Расіі за апошнія 15 гадоў белетрыстыка прайшла вялізны шлях. І ўсе гэтыя класіфікацыі якаснай белетрыстыкі з'явіліся не на пустым месцы. А па-другое, існуе шэраг даследаванняў і меркаванняў пра такія тэмы. Акунін першапачаткова пазіцыянаваў сябе як белетрыст. Данцова і сёння сцвярджае, што яна пісьменнік, таму што піша нейкія тэксты. Усцінавай спатрэбілася 15 гадоў, каб заявіць, што яна не пісьменнік, а аўтар, які піша гісторыі…

**Ірына Шаўлякова:** — Цікавую вы, калегі, размову завялі — беспрадметную. Хочам мы ці не, ёсць у кожным паняцці гістарычны кантэкст. Пры ўсёй безлічы інтэрпрэтацый ёсць у белетрыстыцы адно, што яднае абсалютна ўсе яе праявы. Гэта так званая сюжэтнасць ці апавядальнасць гэтых тэкстаў. Інакш кажучы, эсэ школьнага конкурсу ўжо дакладна ў белетрыстыку не трапляюць. Давайце ў іншы бок выварочваць, мы ж тут можам дагаварыцца да пытання, ці магчыма белетрыстыка ў беларускай літаратуры. Вяртаюся да пачатку і да спадарыні Святланы, якая будзе прымаць нашы разважанні на часопіснай плошчы. Своеасаблівы калектыўны адказ на пастаўленае пытанне: па-першае, белетрыстыка і конкурс фармату «БрамаМар» — гэта даволі дзіўнае спалучэнне, па-другое, будзем літасцівымі да нашых удзельнікаў, мы не можам заклікаць конкурсантаў да таго, каб яны так дакладна самавызначаліся, ідэнтыфікавалі сябе, — белетрысты яны ці не. Па-трэцяе, адмоўны вынік — таксама вынік. Сэнс не ў тым, што «БрамаМар» займела адмоўны вопыт. Мы будзем разглядаць гэта як унёсак у агульную літаратурную справу. У дачыненні да моладзевых



конкурсаў, асабліва тых, што маюць выразную ўзроставую мяжу, варта даваць больш мабільны жанравы абсяг. Няхай удзельнікі *сама*вызначаюцца. І будзе нават цікава, як яны самі сябе ідэнтыфікуюць у жанравым сэнсе. Заганяць у рамкі ад пачатку, прапаноўваць раздзяленне намінацый надалей не варта. Няхай застаецца «Проза», а ўнутры яе, дасць Бог, будзем назіраць дынаміку і эвалюцыю. Супастаўляць хутчэй з вонкавымі тэндэнцыямі, чым вылучаць жорсткую канкурэнцыю ўнутры.

**Святлана Дзянісава:** — Гэта цудоўна, што з'явілася намінацыя «Белетрыстыка» ў гэтым конкурсе, інакш не адбылася б гэта размова. Такія рэчы, якія прамаўляюцца, заўсёды цікава чытаць. Таццяне Арловай дзякуй за прапанову намінацыі «Публіцыстыка». Асабістая просьба як рэдактара «Маладосці»: увядзіце яе ў конкурс у наступным годзе.

**Ірына Шаўлякова:** — І хоць да публіцыстыкі трэба выспець — гэтаксама, як і да вялікіх празаічных твораў, — але заўважу, што элементаў публіцыстыкі ў конкурсных працах вельмі многа. І ў казках, і ў эсэ, і нават назіраецца некалькі спроб у жанры музычнай журналістыкі. Сустракаўся нам і нарыс з элементамі інтэрв'ю. І гэта таксама прыкмета часу — калі выснова не робіцца наўпрост, а публіцыстычныя прыёмы пранікаюць у творы прыгодніцка-авантурныя ці фэнтэзійныя. Тут таксама ёсць пра што гаварыць…

Ірына ШАЎЛЯКОВА:

# «ВАЖНА АДСУНУЦЬ СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ ЎРАЖАННІ»

***Мой вопыт удзелу ў «БрамаМар» як сябра журы развіваецца ў геаметрычнай прагрэсіі. Колькасць твораў, пададзеных школьнікамі, здзівіла. Іх 87. Мне падаецца, што ў такім конкурсе важна адсунуць суб'ектыўныя ўражанні, крытэрый «падабаецца ці не», а выпрацаваць шкалу адзнакі, якая носіць умоўны характар, але дазваляе растлумачыць удзельнікам, чаму з 87 твораў сябры журы адабралі менавіта гэтыя 20, чаму ацэньвалася так, а не інакш.***



Аргкамітэт сурова падышоў да сваёй працы: творы журы атрымала зашыфраваныя, мы не мелі ніякай інфармацыі пра аўтара: ні прозвішча, ні ўзросту, ні ідэнтыфікацыі па гендарнай прыкмеце — нічога, толькі нумар. Таму асабіста я прыняла для сабе такую шкалу ацэнкі. Спачатку падзяліла ўсе творы па жанрах, пасля разам з Марыя Дуброўская, з якой мы «журылі», прынялі за максімум 20 балаў — вышэйшая адзнака. Ацэньваючы змест і форму, мы дзелім гэтыя 20 балаў умоўна на дзве часткі. 10 балаў максімальна прысвойваем за сюжэтна-кампазіцыйныя асаблівасці: арыгінальнасць, адметнасць, актуальнасць праблематыкі і тэматыкі. Другія 10 балаў скіраваны на ацэнку моўных асаблівасцей. Вядома, што моўныя асаблівасці — гэта фраза, за якой стаіць усё, што заўгодна. Улічваючы, што гэта школьнікі, мы не ацэньвалі пісьменнасць, не палявалі за абдрукоўкамі, за неадпаведным ужываннем дзеепрыслоўяў ці дзеепрыметнікаў. Важна было эмацыйна-вобразнае адчуванне — наколькі вольна чалавек пачувае сябе пры неабходнасці адлюстраваць рэчаіснасць мовай мастацкіх вобразаў? Яшчэ звярталі ўвагу… ды проста цешаліся з дэталізацыі, з псіхалагізму, што для прозы школьнікаў не ўласціва. Яшчэ адзін пласт, які мы ацэньвалі, — гэта ўменне быць арыгінальным на ўзроўні лексікі: увядзенне фразеалагічных адзінак, выкарыстанне дыялагізмаў, адчуванне, што слова працуе на тэкст, а не запазычана школьнікам з Гугла, каб проста пасмакаваць і ўставіць яго. Пры ацэнцы 87 твораў не раз здараліся выпадкі, калі колькасць балаў была аднолькавай. Пры такой сітуацыі можна было ранжыраваць гэтыя тэксты далей. Адбіраць фіналістаў у другі тур было складана…

* * *

15 год таму школьнікі вельмі ахвотна прыносілі ў літаратурна-мастацкія часопісы буйныя творы. Я чамусьці чакала, што будзе вялікая колькасць урыўкаў з аповедаў, раманаў, нацэленасць на паўна-

**Яшчэ адзін пласт, які мы ацэньвалі, — гэта ўменне быць арыгінальным на ўзроўні лексікі: увядзенне фразеалагічных адзінак, выкарыстанне дыялагізмаў, адчуванне, што слова працуе на тэкст, а не запазычана школьнікам з Гугла, каб проста пасмакаваць і ўставіць яго**

вартасны вялікі твор. Але ж даслалі нам толькі недзе каля 30 апаведаў. Гэта не тыя апаведы, пра якія пішуць у класічных падручніках па тэорыі літаратуры, гэта кароткая проза, міні-проза, абразкі, мініяцюры. Аповесцей і навел звыклага для чытача фармату не так шмат. Думаю, гэта тэндэнцыі сацыякультурнага развіцця грамадства і прасторы, новая інфармацыйная рэальнасць, фрагментарызацыя свядомасці і камунікацый, паскарэнне вытворчасці інфармацыі. Усё гэта змушае паскарацца і чытача, спрыяе пераходу ад вялікіх форм да малых. Мне не падаецца, што якасць тэкстаў пагоршылася ці прыбавіла пры пераходзе з вялікіх форм да малых. Мне падаецца, да прозы вялікай, а тым больш малой, варта саспець унутрана. У 17 год найбольш удала можна спрабаваць сябе ў абразках, шот-прозе, аповесці.

* * *

Умоўна кажучы, гэтыя 80 твораў можна падзяліць на некалькі груп. Мне першапачаткова падавалася, што пераважная большасць іх будзе ці казачна-фэнтэзійнага кшталту, ці прыгодніцкага. Але атрымалася, калі ад жанраў, так. Прыкладна трэць — гэта казкі ў розных жанравых мадыфікацыях, часта з вельмі моцным прыпавесцевым пачаткам, хаця часам гэта прыпавесцевасць саслізгвае ў адкрытае маралізатарства. Гэта казкі адукацыйныя, экалагічныя і, скажам так, духоўна-маральнага кшталту: як трэба жыць, каб цябе ўсе любілі і каб ў свеце быў мір. Я не ўтрырую, а спрабую тэзісна пераказаць каля 30 твораў з 78. Яшчэ 20—25 твораў — паўнавартасныя эсэ на літаратурныя тэмы, як правіла, пра Максіма Багдановіча. Сустракаюцца публіцыстычныя эсэ, а ёсць такія, што больш нагадваюць школьныя сачыненні-разважанні. Прычым, школьнікаў, відаць, так аддрэсіравала… я не скажу школа — можа быць і жыццё, што яны часта ў гэтых эсэ выходзяць у чыстую рыторыку — гатовымі формамі, штампаванымі фразамі. Самыя папулярныя тэмы: я і школа, я — выпускнік, а таксама, як ні дзіўна, я і мая вёска. Менавіта вёска, а не горад. Астатнія 15—20 твораў — трошкі фантастыкі, зусім трошкі — прыгодніцкая або з элементамі фэнтэзі апавядальная проза. І, на жаль, у гэтай сферы нашы школьнікі нічога арыгінальнага ні ў сэнсе праблематыкі, ні ў сэнсе мастацкасці не прыдумалі. Як правіла, яны бяруць пэўныя літаратурныя ўзоры або капіруюць героя, які ў іх, натуральна, не Янка, а Джэк. Гэта калі пра прыгодніцкае. Самае моцнае, як мне падалося, вельмі невялічкія, непрэтэнцыёзныя творы ў стылі фантастыкі. Хаця ў нас прынята думаць, што фантастыка ў чыстым выглядзе саступае месца фэнтэзі, але нам з Марыяй Дуброўскай у дадзеным выпадку так не падалося. І яшчэ што цікава: было некалькі твораў, якія можна назваць сацыяльна-псіхалагічнымі апаведамі. Яны вельмі дакладна арыентаваны на ўнутранае сталенне, духоўнае аднаўленне чалавека, смяротна хворага на анкалагічнае захворванне. Гэта розныя тэксты, розныя сюжэтныя хады і калізіі, але ў кожным выпадку гэта несупадзенне ўзроста аўтара і героя.

* * *

Мы былі ў разгубленасці, мякка кажучы. Таму што ўсе творы можна падзяліць на катэгорыі паводле самастойнасці і несамастойнасці выканання. Ёсць рэчы, якія дзеці пісалі самі. Прычым, нават не па ступені недапрацаванасці ці дапрацаванасці гэта відаць, а проста: гэта заўсёды відаць. Ёсць рэчы, па якіх відаць, што настаўнік высту-

**Трэба адвучваць школьнікаў мысліць стандартна. Як толькі ты здраджваеш свайму меркаванню, цябе няма, ты знікаеш як творчая адзінка**

**Сталыя пісьменнікі думаюць, што менавіта фантастыка, фэнтэзі, прыгоды найбольш цікавыя падлеткам. Фантастыкі на «БрамаМар-юні» было даслана не так шмат, як можна было б чакаць, фэнтэзі ўвогуле выглядае як эпігонства**

паў у якасці першаштуршка. Гэта не значыць, хутчэй за ўсё, што ён прымушаў, але відавочна, што група аўтараў знаходзілася пад уплывам. Працы, дарэчы, былі зашыфраваныя. Уладзімір Анатольевіч казаў, што некаторыя працы дасылаліся ўдзельнікамі літаб’яднанняў, гурткоў, клубаў, майстэрняў. Можа быць, гэта ўплыў адмысловай школы. Сустрэлася і некалькі твораў, якія, на наш погляд, не маглі быць напісаны дзецьмі. Можа быць, яны трапілі да нас выпадкова — са студэнцкай часткі конкурсу? Тым не менш, калі ўзяць гэтыя 80 твораў, то прыблізна 60 пісаліся не тое што не пад прымусам, а нават і без прынукі. Мы можам спрачацца пра ступень іх дасканаласці, але тое, што тры чвэрці пісалася так, для школьнага конкурсу проста выдатна.

* * *

Наколькі цікавы школьнікам конкурс? Так, цікавы. Цікавы сам працэс уваходжання ў літаратуру, знаёмства з ёй і выяўлення з яе дапамогай сваіх меркаванняў альбо пазіцый. Я не ўпэўнена, што конкурс «БрамаМар-юні» павінен быць масавым, але ўпэўнена, што ён не павінен быць прымусовым. Калі ён не будзе прымусовым, ён будзе цікавым школе.

* * *

Тыя трэнды беларускай літаратуры, якія Раіса Баравікова і Алесь Бадак спрабавалі прасоўваць, відаць і ў школьнікаў. Гэта трэнды гістарычнай, прыгодніцкай, фантастычнай літаратуры. Цікава паназіраць, як яны суадносяцца з творчасцю моладзі. Сталыя пісьменнікі думаюць, што менавіта фантастыка, фэнтэзі, прыгоды найбольш цікавыя падлеткам. Фантастыкі на «БрамаМар-юні» было даслана не так шмат, як можна было б чакаць, фэнтэзі ўвогуле выглядае як эпігонства. Паказальна тое, што было літаральна некалькі гістарычных аповедаў, адсутнічалі творы з элементамі дэтэктыва. Галоўны тэматычны абсяг апавяданняў — перажыванні, сталенне я-героя, з аднаго боку, а з іншага — масавыя ўцёкі ў свет казкі. Я не думаю, што гэта тое, пра што кожны з удзельнікаў хацеў бы пісаць і надалей. Выразнай праграмы школьнікаў убачыць нельга. Хутчэй за ўсё, яны адчуваюць сабе прагматыкамі.

* * *

Трэба адвучваць школьнікаў мысліць стандартна. Як толькі ты здраджваеш свайму меркаванню, цябе няма, ты знікаеш як творчая адзінка. І тут трэба празрыста паказаць, чаму так рабіць не варта. Важна быць індывідуальным, непаўторным. Нават, калі тром-чатыром удзельнікам далей захочацца пісаць, развіваць сябе, для мяне гэта будзе спраўджаннем звышзадачы «БрамаМар». Ад майстар-класаў конкурсу варта чакаць жывой камунікацыі. Я хачу паглядзець на аўтараў тых твораў, якія чытала, вельмі хачу пачуць, чаго школьнікі чакаюць ад літаратуры, з якой мэтай ідуць у яе. Можна гарантаваць удзельнікам майстар-класа, што нашы зносіны могуць прагяцнуцца далёка за межы «БрамаМар». Сэнс у тым, каб пашырыць поле камунікацый.

* * *

Мне не хапіла ад школьнікаў здаровага авантурызму, бунту, гуллёвасці. Школьнікі засвоілі стандарты дарослых паводзін, праверaныя сродкі напісання тэкстаў, правераныя жанравыя сітэмы і прагматычна не хочуць эксперыментаваць.

***Запісала***
***Марына ЕЛІСТРАТАВА***

***Лепшыя творы ў намінацыях «Школьная проза» і «Школьная паэзія» конкурсу «БрамаМар-юні», а таксама творы пераможцаў у намінацыі «Дзіцячая літаратура» конкурсу «БрамаМар» чытайце на старонках «Бярозкі»***

Аксана БЯЗЛЕПКІНА

# ЯК СТАЦЬ КРЫТЫКАМ У ВАСЯМНАЦЦАЦЬ

***Намінацыя «Крытыка» ў студэнцкім і школьным творчых конкурсах звычайна не ўражвае колькасцю ўдзельнікаў: напісаць уласны паэтычны ці празаічны тэкст нашмат лягчэй і, падазраю, прывабней.***

## Калі вы зусім не ведаеце, з чаго пачынаць пісаць рэцэнзію, то можаце абаперціся на наступныя парады:

✓ 1. Каб напісаць рэцэнзію, трэба мець што сказаць. Таму выбірайце такую кнігу, каб тэма ці праблемы, узнятыя ў ёй, былі вам цікавыя (ці, прынамсі, вам хацелася пра гэта пагаварыць).

✓ 2. Сфармулюйце адну-дзве думкі, якія вам хацелася б сцвердзіць у тэксце. Запэўніцеся, што з гэтымі думкамі вы не будзеце выступаць у ролі Капітана Відавочнасці.

✓ 3. Калі вы рэцэнзуеце зборнік, то можна паспрабаваць выбудаваць яго канцэпцыю (яна можа адрозніваецца ад той, якую сфармулявалі ўкладальнікі).

✓ 4. Тэкст рэцэнзіі лепей рабіць цэльным: не заўсёды ўдала глядзіцца каструбаватае перавальванне: «у першым творы так, а ў другім — гэтак».

✓ 5. Рэцэнзія — гэта ВАШ тэкст, ваша рэакцыя. Там дамінуеце вы.

6. Праверце, каб паміж сказамі была лагічная сувязь.

✓ 7. Калі не ведаеце, як скончыць тэкст, то спачатку палічыце да 10 (каб пазбегнуць залішняга пафасу). Калі зусім-зусім няма ідэй — выратуе «рамка»: пачалі тэкст з вобраза, метафары, цікавай гісторыі — скончыце прыгожым, парадаксальным зваротам да яе ж.

## Што не трэба ці не варта пісаць у рэцэнзіі:

✓ 1. Не трэба ні спойлерыць, ні пераказваць твор. Трэба зрабіць так, каб пасля вашага тэксту твор захацелася прачытаць ці не прачытаць. Каб чытач зразумеў: «Твор не для мяне» ці «Твор для мяне».

✓ 2. Не трэба пісаць «аўтар нарадзіўся ў такім-та горадзе ў такім-та годзе». Калі вам карціць паказаць, што вы ведаеце біяграфію творцы, можна напісаць: «паколькі аўтар належыць да пакалення шасцідзясятнікаў / пакалення «Тутэйшыя» / пакалення «Бум-Бам-Літ», то ў ягонай творчасці…» альбо «Паколькі аўтар нарадзіўся ў сталіцы, то…» Любая біяграфічная інфармацыя цікавая, калі яна на нешта ўплывае ці нешта вытлумачвае (насамрэч вытлумачвае ці вам здаецца, што вытлумачвае).

✓ 3. Не варта навязваць сваё меркаванне: «я не зразумеў твор», «мне не спадабаўся твор», «твор не ўразіў», «у мяне не атрымалася сумясціць сэнс напісанага з названым». Калі б такое сказаў Васіль Быкаў ці Сціў Джобс, аўтар здрыгануўся б. А калі такое напішаце вы, то гэта скажа пра вас больш, чым пра аўтара. Сфармулюйце тую самую думку больш адстаронена, нават безасабова, каб «віна» за няўцямнасць ці нецікавасць ляжала не на вас, а на тэксце/аўтары.

✓ 4. Нельга пісаць «упершыню ў беларускай літаратуры…» Вы прачыталі не так шмат тэкстаў беларускай літаратуры, каб рабіць такія высновы. Напрыклад, самаўпэўненыя студэнты пішуць, што тэма мастака і мастацтва ўпершыню была ўзнята ў 1980-х — і ўсе папярэднія пакаленні пісьменнікаў варочаюцца ў магілах.

✓ 5. Устрымайцеся ад рэакцый на нецэнзурную лексіку, інтымныя сцэны і г. д. Нельга пісаць «а-я-яй, герой мацюкаецца і займаецца сексам». Можна задаць пытанне: навошта аўтар звяртае на гэта ўвагу? І калі вытлумачэнне не знаходзіцца, можна напісаць, што гэта ўсё было неапраўдана.

✓ 6. У заключэнні не варта пісаць: «нарэшце з'явіўся аўтар, які…»; «можна з упэўненасцю сказаць, што беларуская літаратура мусіць быць шчаслівай, што ў ёй ёсць…»; «чытаючы гэтыя творы, пачынаеш верыць аўтару…» Проста не варта так пісаць.



*Людміла САЯНКОВА*

# ШТО НЕАБХОДНА ДЛЯ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЙ КРЫТЫКІ

***На конкурсе «БрамаМар» шмат намінацый, якія ніколі не бываюць «пустымі». Але кожны раз нейкай няпоўнай застаецца адна — літаратурна-мастацкая крытыка. З аднаго боку, гэта лагічна: не ўсе маладыя аўтары (тым больш калі яны школьнікі ці студэнты) ведаюць, што гэтае паняцце ўвогуле азначае. Справа тут менавіта ва ўзросце. Каб паспрабаваць сябе ў ролі крытыка, трэба набыць жыццёвы вопыт, адукацыйны багаж, пэўны культурна-мастацкі бэкграўнд. А з другога боку, гэта выяўляе іншае: ступень запатрабаванасці такога віду дзейнасці.***

Літаратурна-мастацкая крытыка як аналітычна-эстэтычны від творчай дзейнасці (нездарма ж некалі Бялінскі вызначыў яе як «эстэтыку, якая рухаецца») патрабуе шмат чаго. Па-першае, запатрабаванасці мастацтва, культуры як важкіх складнікаў нашага агульнага жыцця. Важна, каб склалася такая сітуацыя, пра што некалі казаў вядомы англійскі філосаф, дыпламат Арнольд Тойнбі: «Культурны элемент прадстаўляе сабой душу, кроў, лімфу, сутнасць грамадства і цывілізацыі». У тых гістарычных перыядах, калі менавіта так адбывалася, назіраўся росквіт мастацтваў, інтэлектуальнай культуры, нацыянальнай самасвядомасці. Тады і крытыка была вельмі запатрабаванай. Падругое, пэўнага ўзроўню духоўна-маральных каштоўнасцей і этычнай сталасці. Крытыку ўспрымаюць як штосьці негатыўнае, нават калі там ідзе сапраўдны аналіз твора ці з'явы. Таму да яе ставяцца з насцярогаю і неспрыяльнасцю. Сапраўдная літаратурна-мастацкая крытыка нічога агульнага не мае з жаданнем «паставіць на від» або «выявіць недахопы». Па-трэцяе, існаванне і ўспрыманне літаратурна-мастацкай крытыкі патрабуе інтэлектуальнага ўзроўню. Як часта былі сітуацыі непаразумення, а то і абурэння, з-за таго, што не ўсё было зразумела таму ці іншаму «зацікаўленаму» чытачу. Я нават ведаю сітуацыю накшталт сваркі «Івана Іванавіча з Іванам Нікіфаравічам» з-за непаразумення сутнасці слова «сімулякр», якое было ўжыта ў адным кінааглядзе. Па-чацвёртае, каб існавала літаратурна-мастацкая крытыка, павінны быць крытыкі — неспакойныя, смелыя людзі, для якіх важным з'яўляецца як «любіць мастацтва ў сябе», так і «сябе ў мастацве», таму што без разумнай долі амбіцый тут не абысціся. Па-пятае, па-шостае... Шмат чаго патрэбна. Гэта прафесія, якая выключае масавасць: масавую падрыхтоўку, масавыя густы, масавую культуру. Тут патрэбна ўсё індывідуальнае і высокае. Напэўна, таму і няма жадаючых, каб паспрабаваць сябе менавіта на гэтай ніве. А шкада. «БрамаМар», як, дарэчы, і кафедра літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, вельмі чакаюць такіх аўтараў.

Сапраўдная літаратурна-мастацкая крытыка нічога агульнага не мае з жаданнем «паставіць на від» або «выявіць недахопы»

*Паліна ПЛАТАВА*

# ХІСТАННІ ВІТАЛЯ РЫЖКОВА

У 2010 годзе ў Віталя Рыжкова выйшла першая кніга вершаў «Дзверы, замкнёныя на ключы». У вершы «Тапаграфічны крэтынізм» аўтар піша:

бывае, падоўгу ледзь не па мапе шукаеш рыфму —
І тое не так, і гэтае не палезе,
Потым паставіш што-небудзь, схалтурыш крыху
І думаеш: паэзія гэта ці не паэзія?

Віталь вельмі сціплы і самакрытычны. Напэўна, нядрэнныя рысы для паэта. Але ж факт застаецца фактам: перад намі прыклад сапраўднай паэзіі без халтуршчыны. Паэзіі незвычайнай па сваёй мастацкай форме. І сумнай па змесце.

Так, сумнай, змрочнай. Хоць першы раздзел і называецца «Чорна-**белыя** вершы». Белага ў паэзіі Віталя мала. Пра што б ён ні пісаў…

Пра дабро і зло, пра філасофію чалавека XXI стагоддзя, пра жыццё (агульныя развагі, без якіх ні адзін зборнік ні аднаго паэта проста не можа існаваць) ён піша так:

праўда — тое, чым лупяць па твары, нібыта анучай.
праўда — рэкламны тавар, які надакучвае.
праўда — наіўная і пафасная, са зменлівай інтанацыяй.
праўда — зацюканая аднакласніца з прагаю падабацца.

Пагадзіцеся, зусім не прывабная праўда, і налёту ўзвышанасці ў ёй няма. Ва ўсіх вершах Віталя Рыжкова прысутнічае маркотны цынізм. Ён, малады цынік, знішчае сваімі нечаканымі параўнаннямі высокія катэгорыі, яднае з прыземленымі рэчамі. Дасталося не толькі праўдзе. Прарока Віталь параўновае з «дэсертам, які ўжо ў горла не лезе» (верш «Нічога святога»). Смела. У вершы «Зялёны чалавечак» Хрыстос параўноўваецца з зялёным чалавечкам, распятым на святлафоры. Яшчэ смялей. І цяжка зразумець: ці гэта атэізм, ці любоў-нянавісць да Бога, ці чыстая вера, якая толькі дзеля адводу вачэй прыкрываецца чорным. Дзверы Віталя Рыжкова сапраўды замкнёныя на ключы, каб знайсці іх, вершы давядзецца чытаць вельмі ўдумліва. Менавіта давядзецца,



***Паліна Платава нарадзілася 7 красавіка 1994 года ў Полацку. Шукае сябе. Часам знаходзіць у кнігах, зліваючыся з лёсам гераіні ці героя. Потым узнікае патрэбнасць вярнуцца ў рэчаіснасць — і яна вяртаецца. «Шукаю сябе ў сям'і, адчуваючы цеплыню роднай хаты».***

бо не прызвычаіліся мы чытаць вершы і думаць. Канешне, сентыментальныя банальнасці не прымушаюць мозг працаваць, але ў паэзіі Рыжкова банальнага вы не знойдзеце.

І чорны вэлюм яго  цягнецца далей… Роспач напаўняе вершы Рыжкова:

Выспела роспач, вые, нямая,
і проста так праз яе не пройдзеш,
ды скажыце ўсім: чалавек, што складае,
мае роспач на продаж.
(«Роспач на продаж»)

За роспаччу следам цягнецца адзінота. Снег, цені, цемра слізгаюць па радках. Часам хочацца выць ад такой усеабдымнай цемры Рыжкова.

Нават у каханні ягоным няма белага. Дакладней, яно, гэта белае, было раней. У Рыжкова каханне няшчаснае. У яго вершах — вобраз «былой жанчыны», якая адлятае:

Апантана ўчапілася ў неба,
на развітанне ўзмахнула, бачыце?
І мне да яе дацягнуцца — нельга.
Хоць я і ўстаю
На пальчыкі.
(«Узмах крыламі»)

Увогуле, вобраз жанчыны ў Рыжкова вельмі супярэчлівы. Яна не святая і далёка не манашка. У ёй куды болей інфернальнасці, жорсткасці і цынізму. У яе многа мужчын і яна грае… Але яна кахае і пакутуе, хоча ласкі. Застаецца толькі здзіўляцца, як малады Рыжкоў так тонка адчувае сэрца жанчыны. І ён прагне гэтага сэрца. Бо разам з жанчынай адлятае і каханне. Канчаткова адпусціць свой ідэал, сваё неадназначнае боства Віталь не можа. Вершы аўтара супярэчаць адзін аднаму. То яны напаўняюцца салодкімі ўспамінамі, то горкімі крыўдамі. То ён умольвае жанчыну вярнуцца, то атрымлівае асалоду ад сваёй гордай адзіноты. Такія любоўныя хістанні аўтара ўзрушваюць. Мы разам з ім цалкам губляемся: ці ёсць каханне, ці яго няма, ці патрэбна яно, ці не, боль гэта ці шчасце? Тое ж самае, што і з пытаннем рэлігіі — усё ў тумане. Шукаць ключы трэба! І магчыма, для кожнага ёсць свая звязка ключоў.

Калі вершы Віталя — дзверы, то яны не толькі чорныя. Яны жалезныя, куленепрабівальныя, непранікальныя для святла. Гэта форма, абалонка, якую мы бачым, над якой шмат працуе творца. Радкі яго дражняць сваёй рэзкасцю. Аўтар часта зневажае пунктуацыю, паслядоўнасць думкі. У яго — думкі з рыўкамі, плынь свядомасці. Для большай рэзкасці — украпванні сакавітых брыдкаслоўя, англійскіх слоўцаў. І мноства паўтораў, каб удзяўбці думку, каб удзяўбці жалезныя цвікі ў жалезныя дзверы… Знешняя жорсткасць яго вершаў нагадвае Маякоўскага, у якога кожнае грубае слова, параўнанне — кранае сэрца.

За жалезнымі дзвярыма наўрад ці жалеза. Цынічны і чорны Віталь Рыжкоў, мабыць, яшчэ большы рамантык за Байрана, Ясеніна і Багдановіча. Змрочны рамантык з яркай манерай пісьма, ён нават для перакладу падбірае змрочныя вершы.

Цікава, што будзе з гэтым аўтарам далей? Бо імглістасць вершаў, іх чорны подых прыемна смакаваць адзін раз. Калі ж увесь час глядзіш на цемру — сам робішся цемрай. Мабыць, далей у Віталя Рыжкова будзе больш светлага? Ну, ці 50 на 50… Напэўна, тут можа дапамагчы Хрыстос ці каханая…

*Наталля ЯЛЬКО*

# ГАРЫ ПОТАР, ПАСТАРЭЎШЫ, ЗАВІТАЎ У БЕЛАРУСЬ

***Людміла РУБЛЕЎСКАЯ. «Забіць нягодніка, альбо Гульня ў Альбарутэнію».***

Усе ў свой час чыталі Гары Потара. Ці амаль усе. Гісторыя пра складаны лёс хлопчыка, які спыніў самага злога мага ў свеце і змяніў жыццё ўсіх чараўнікоў, прывабіла вялікую колькасць чытачоў у многіх краінах. Неверагодныя прыгоды ўразілі дзяцей і дарослых з усёй планеты. У свае 11 год кожнае трэцяе дзіця чакала запаветнага ліста са школы вядзьмарства і чараўніцтва Хогварц. Не дачакаўся, аднак, ніхто.

У кнігах Джаан Роўлінг Потар разам са сваімі сябрамі рыжым і добрым Ронам ды разумніцай Герміёнай разгадваюць складаныя рэбусы, адпраўляюцца ў небяспечныя падарожжы, каб перамагчы смерць і Волан-дэ-Морта, які не дае спакойнага жыцця свету чараўнікоў. У сёмай кнізе звыклая троіца знішчае галоўнага злодзея і свет набывае прыгожыя колеры.

Змагацца са злом і несправядлівасцю — годная місія. Кожнаму хочацца змяніць свет, ход падзей, адшукаць сапраўднае каханне, і, магчыма, стаць героем. Персанажы Людмілы Рублеўскай — не выключэнне. Адрозненне ў тым, што ў іх атрымалася хоць штосьці змяніць. У гісторыях Роўлінг і Рублеўскай ёсць падобнае: у абодвух творах героі змагаюцца з несправядлівасцю. Аднак у брытанскай пісьменніцы ставіцца задача знішчыць галоўнага злачынца, а ў творы спадарыні Рублеўскай гэта зрабіць немагчыма. Героі толькі часткова ўплываюць на ход гісторыі — яны не могуць выправіць яе цалкам. Не ўсе будуць жыць доўга і шчасліва.

У гэты раз дзейныя асобы рамана Людмілы Рублеўскай — пяцёра маладых людзей. Кампанія склалася з абсалютна розных персанажаў: хакер Генусь; музыка Едрусь; студэнтка-архітэктар са здольнасцямі да літаратуры Руслана; маладая маці Даліла, якая працуе вахцёркай у медыцынскім цэнтры; аматар гісторыі Макс. Іх аб'яднала Альбарутэнія.

Наша кампанія атрымлівае доступ да «партала», які дае магчымасць вярнуцца ў 30-я гады XX ст. Яны па



***Наталля Ялько нарадзілася 2 ліпеня 1994 года ў Петрыкаве. Студэнтка Інстытута журналістыкі БДУ. Аўтар шэрага публікацый па гісторыі Беларусі. Удзельніца і пераможца шматлікіх рэспубліканскіх алімпіяд і канферэнцый па гісторыі.***

чарзе адпраўляюцца ў мінулае, дзе становяцца сведкамі допытаў над дзеячамі культуры. Уся тэхніка, якую сябры бяруць з сабою для занатавання падзей, не працуе. Пры пераказах яны спадзяюцца толькі на ўласныя зрок і слых. Са смерцю кожнага дзеяча беларускага Адраджэння герой вяртаецца ў сучаснасць. Аднак гэтага было мала для здзяйснення місіі. У Гульню ўступае прафесар БДУ Валяр'ян Скаловіч, якога фактычна выкралі з яго гістарычнага часу. І тут дзеянне толькі пачынаецца…

Пісьменніца вяртае нас амаль на сто год таму. Спадарыня Рублеўская робіць гэта, каб звярнуць увагу чытача на некаторыя моманты. За стагоддзе змянілася шмат кіраўнікоў дзяржавы, аднак нельга забываць тыя злачынствы, у якіх вінавата тая ці іншая ўлада. Рэпрэсіі беларускай інтэлігенцыі ў 30-я гг. мінулага стагоддзя і сёння хвалююць даследчыкаў. Цяжка ўявіць, якія адраджэнцкія сілы згубіла Беларусь у тыя часы. З гадамі статысты прыводзяць усё новыя вусцішныя лічбы, але ж сітуацыі гэта не змяняе.

Адважнасць герояў рамана Людмілы Рублеўскай упэўнівае ў магчымасці змяніць гісторыю.

Прафесара і яго каманду чакае шмат выпрабаванняў на шляху да ўсталявання справядлівасці. Маладыя беларусы не могуць паверыць у здзейсненае, аднак жыццё не пакідае ім часу на роздумы: праблемы патрабуюць хуткага вырашэння. Ды і прафесар не можа доўга знаходзіцца ў XXI стагоддзі: у нявветлівых 30-х яго чакае лёс і адна нявыкананая справа, якая зменіць ход гісторыі.

Спадарыня Рублеўская не пакідае чытача без лініі кахання. Калі ж першую лінію будучага хэпі-энду чытач адгадвае амаль адразу, то другую аўтар не раскрывае да канца твора. У Альбарутэніі заблытана не толькі несправядлівасць, якую героі спрабуюць выправіць.

Дзеянне ў творы адбываецца ў Мінску. Гарадскія матывы творчасці Людмілы Рублеўскай тлумачацца яе паходжаннем: у адрозеннне ад многіх беларускіх пісьменнікаў другой паловы XX ст., яна нарадзілася ў сталіцы Беларусі, што заўсёды падкрэслівае.

Пасля прачытання мне захацелася апынуцца ў рамане і разам з героямі падарожнічаць у 30-я гады і выпраўляць гісторыю. Моладзь у творы не баязлівая: не кожны адважыцца выкрасці прафесара хіміі з допытаў і перанесці яго ў XXI стагоддзе. Аднак і спадар Скаловіч здзіўляе чытача сваёй здольнасцю дастаткова хутка адаптавацца да новай рэчаіснасці.

Такая ўжо ў чалавека псіхалогія: ён верыць у справядлівасць і ў немагчымае. Часам, праходзячы міма цёмных двароў праспекта Незалежнасці, здаецца, быццам Даліла і кампанія адпраўляюцца за спадаром Скаловічам. Ці, можа, Гары Потар, пастарэўшы, завітаў у Беларусь. А мабыць, так і ёсць.

*Валерыя ВЯЛІНСКАЯ*

# ЛЕБЕДЗІ РАЗАМ, МЫ — ПААСОБКУ

***Сяргей ЕГАРЭЙЧАНКА. «Лебедзі паміраюць разам».***

Не ведаю, чаму сярод усіх сучасных беларускіх кніг я звярнула ўвагу менавіта на гэтую. Вольнага часу на чытанне цікавай мне літаратуры амаль няма: альбо чытаю тое, што неабходна па ўніверсітэцкай праграме, альбо нешта праглядаю ў метро. І, шчыра кажучы, пры выбары кнігі хацелася максімальна палегчыць сабе задачу: знайсці які-небудзь раманчык пра каханне, дзе старонак паменш ды над сур'ёзнымі праблемамі не трэба будзе задумвацца. Прачытаць, злёгку пакрытыкаваць — і забыць.

Калі вы хочаце выбраць твор, абапіраючыся на пералічаныя вышэй матывы, то кніга Сяргея Егарэйчанкі «Лебедзі паміраюць разам», безумоўна, не для вас. Гэта цяжкая кніга. Яна спусташае эмацыйна. Асабіста для мяне яна ўспрымалася нават цяжэй за «Любіць ноч — права пацукоў» Юрыя Станкевіча, а гэта, згадзіцеся, таксама твор няпросты.

Сяргей Егарэйчанка склаў кнігу з трох твораў. Першы — «Аповесць пра чалавека, які не хацеў быць Богам». Каментуючы гэтую частку кнігі, хацелася б сказаць, што, на жаль, большасць людзей не моцна арыентуецца ў гісторыі. Сапраўды, кожны назаве вывучаныя калісьці даты і прозвішчы. Нават, магчыма, пералічыць у правільнай паслядоўнасці рэвалюцыі, Першую і Другую сусветныя, распад СССР. Але ўсё, што застаецца паміж гэтымі падзеямі, як правіла, праходзіць міма, не выклікаючы ні цікавасці, ні эмоцый.

У аповесці адначасова вядуцца дзве сюжэтныя лініі — трыццатыя гады (падчас сталінскіх рэпрэсій) і нашыя дні. Пачынаючы чытаць, не разумееш, як звязаны раздзелы, героі, і чаму аўтар вырашыў весці аповед менавіта так. Пры гэтым, калі прыбраць з твора главы з сюжэтам нашых дзён і звярнуць увагу на стыль напісання, я б, напэўна, наўрад ці сказала б, што аповесць напісана літаральна пару гадоў таму. Вядома, выдае залішняя праўдзівасць, якую ніколі б не прапусцілі ў масы ў тыя далёкія часы.



***Валерыя Вялінская нарадзілася 15 снежня ў Мінску, вучыцца ў Інстытуце журналістыкі БДУ. З дзяцінства пісала вершы, крыху пазней стала складаць песні. «Мне падабаецца спрачацца і разважаць, таму маю зносіны з разумнымі і таленавітымі людзьмі».***

З кожнай прачытанай старонкай унутры аповесці накаляецца атмасфера. Вядома, шмат што залежыць і ад чытача — я эмацыйны чалавек і ў працэсе чытання прапускаю ўсё праз сябе, як праз сіта. Гэта цяжка. Ты быццам перажываеш тое, што перажываюць героі. Напэўна, менавіта таму я практычна прымушала сябе дачытваць першую частку кнігі. Страшна падумаць, што апісаныя падзеі адбываліся на самай справе...

Далей аўтар прапануе прачытаць творы «Права дараваць» і «Лебедзі паміраюць разам». Падзеі ў іх разгортваюцца ў нашы дні, і многія чытачы ўбачаць у іх падзеі, якія адбываліся, і, самае страшнае, будуць адбывацца і далей. Сяргей Егарэйчанка падыходзіць да пытанняў палітыкі, з аднаго боку, з надзвычай тонкай іроніяй, з другога — вельмі дакладна апісваючы сітуацыю, якая за шматлікія стагоддзі склалася ў славян. Аўтар не называе краін, не называе ніякіх прозвішчаў. Ён толькі з сумам смяецца над імі.

Калі кніга прачытана, міжволі задумваешся — на якім жыццёвым этапе ў людзей з'яўляюцца паняцці «радзіма», «бацькаўшчына», «спадчына»? Чаму нехта лічыць сябе сапраўдным патрыётам, а нехта саромеецца родных мясцін? Што людзі маюць на ўвазе, калі гавораць пра любоў да сваго краю? Мне б хацелася ўбачыць сотні краін, тысячы гарадоў, убачыць аблокі над кожным з іх. Пагаварыць на розных мовах, даведацца пра сотні культур і распавесці пра сваю спакутаваную культуру і стомленую краіну…

Кніга Сяргея Егарэйчанкі для тых, каму не ўсё роўна. Для тых, каму замест заўсёднай шэрасці бетонных будынкаў і стомленых твараў хочацца ўбачыць сонца і ўсмешкі.

І можа, канешне, варта было б проста выключыць тэлевізар, заплюшчыць вочы, удыхнуць чыстага паветра і неяк інакш прачнуцца заўтра раніцай. Але тое, якім будзе наступны дзень, залежыць толькі ад нас. І добра было б, калі б побач быў той самы лебедзь. Лебедзь, з якім не страшна памерці разам.



Паліна ПІТКЕВІЧ

# РАЙ, ПТУШКІ, РЭФЛЕКСІІ

## НА ПРЫЁМЕ Ў ПСІХІЯТРА

***Алена БРАВА. «Рай даўно перанаселены».***

Рэдка калі, але трапляюць у рукі кнігі, якім хочацца адпомсціць. Што дзіўна, гэта надта добрыя кнігі. Тут нават такая заканамернасць: чым больш якасная кніга, тым больш яна жорсткая да цябе. Адсюль і патрэба помсты.

Так сталася, што зборнік прозы Алены Брава «Рай даўно перанаселены» ў інтрыгуючай сваім выглядам вокладцы (карціна Малішэўскага нагадала жудасна-фантасмагарычныя выявы Босха) раўнадушнай не пакінуў. Давялося апынуцца сам-насам з мноствам трывожных пытанняў, прыкладам, пра агульную ўдаласць працы быційных механізмаў, — пытанняў без адказаў. Быццам той «камень сястрыцы Алёнкі» — цяжар, што добраахвотна ўскладаюць на свае грудзі гераіні твораў Брава, па задуме аўтара павінен перамясціцца на грудзі чытача (ці не занадта жорстка?).

Але хто тая гераіня? Гэта жанчына з нялёгкім дзяцінствам, што так і засталася нялюбым дзіцёнкам, няспраўджанай гарантыяй бацькоўскага шчасця, дзіцёнкам, чыё ўласнае шчасце з-за гэта ператворыцца ў недасягальны рай. Чулая інтэлігентка, яна пакутуе ад недахопу кахання і ад таго асяродку, у якім вымушана «варыцца» — з чалавекападобнымі істотамі, што «не ў стане глядзець на сваё пустое, убогае існаванне, і таму з ахвотаю выдумляюць самых сябе ды іншых». Але калі тыя лёгка набываюць бестэрміновы абанемент на наведванне краіны Ілюзій праз прыхільнасць да алкаголю, тэлебачання ці «актывісцкай дзейнасці», то гераіня Алены Брава спрабуе набыць яго, ахвяруючы «сваё Вялікае Каханне» — гэтую валюту, якая ў ейным асяродку даўно дэвальвавалася. Не дзіва, што гаротніцу зноў і зноў выкідаюць за парог таго чароўнага краю Самападману ў так званае «тут і цяпер», да Гаргоны, у чые вочы — вочы праўды — давядзецца зазірнуць пакінутай сатырамі менадзе, самотнай жанчыне на раздарожжы. І цалкам заканамерна тое, што гераіня ўсведамляе сябе мазахісткай і вырашае: «Калі я не магу быць шчаслівай у гэтым свеце, я хачу пакутаваць, толькі б адчуваць сябе жывой».

Вось яна — гераіня, але ж ці тоесны яе вобраз асобе аўтара «псіхааналітычнай Адысеі»? Хутчэй так, чым не.

Па-першае, лёсы гераінь пабудаваны на звестках з рэальнай біяграфіі, што «прачытваецца», нават калі яе не ведаеш. Прыкладам, некаторыя з гераінь працуюць у рэдакцыі, як і Алена Брава. А жыццё Юлі з рамана «Менада і яе сатыры», бадай, упісана ў тыя ж умовы, у якіх вырасла пісьменніца. Калі ведаць, што яна з Барысава, то становіцца зразумела, чаму фонам падзей паўстае правінцыйны горад з паветрам, забрудженым выкідамі шклозавода.

На думку пра аўтапартрэтнасць вобразаў наводзіць тое, што месцамі творы нагадваюць дзённікавыя запісы. І не проста разважанні з серыі «Сёння такое блакітнае неба, вось як было ў восемдзесят трэцім, калі…», а кшталту «Новае неба мае цёмна-шэры колер — колер сцяны насупраць. З некаторага часу Юлі здаецца, што не толькі прастора навокал стала цямнейшаю: святло выцякае з яе самой…» І неістотна, што ў тым жа рамане аўтар быццам занатоўвае назіранні за гераіняй, а не піша ад першай асобы. Гэта тым больш нагадвае ўмоўны тэатр Мейерхольда, дзе акцёр час ад часу выходзіць з ролі, каб пабачыць, як глядзіцца яго персанаж на сцэне. А што ўжо казаць пра творы Алены Брава з «я», не схаваным за «яна».

І насамрэч «псіхааналітычная Адысея» атрымліваецца самааналітычнай. Ад гэтага яна становіцца цікавейшай, зацягвае. Але не кожнаму чытачу захочацца апынуцца на прыёме ў псіхіятра — ды ў ягоным крэсле. Тым больш, што гісторыі «пацыентак» аднолькава трагічныя, часам жудасныя, поўныя несправядлівасці і болю, а самі жанчыны, дасягнуўшы трыццаці з лішнім гадоў, лічаць сябе «выпрацаваным біяматэрыялам».

Што да адлюстраванай у творах змрочнай рэальнасці 1980-х, то яна ўяўляецца нейкім трупам (безумоўна, жаночым), які аўтар-пата-

лагаанатам метадычна прэпарыруе, выяўляючы паражоныя хваробай месцы (нездарма нехта знаходзіць у прозе Брава «дыягнастычна-медыцынскі пачатак»). Калі над звычайным нябожчыкам бядуюць яго родныя, то па аналогіі, такім «родным» для той рэчаіснасці хутчэй стане чытач-равеснік Алены Брава, але і «няродны», больш малады чытач, мабыць, адчуе тое, што адчувае выпадковы чалавек у пакоі з памерлым. Зашмат у творах траўрнага, ад пагружэння ў багну якога не выратоўваюць нават праявы тонкага гумару, бо ён і сам найчасцей злосны — іранічны альбо саркастычны.

Вобразна кажучы, Алена Брава вымушае ўдыхнуць разам з яе гераіняй атручанага выкідамі паветра, і ад нязвыкласці ёсць рызыка закашляцца. Аднак, мабыць, і яго трэба паспытаць, калі гэта нешта прынцыпова новае, нешта са сваім метадам пошуку праўды.

## ПЕРАЦЯГНУЦЬ УВАГУ

### *Наста МАНЦЭВІЧ. «Птушкі».*

Наста Манцэвіч выпусціла з рук сваіх «Птушак» у беларускае літаратурнае неба — і яны разляцеліся. Імі зацікавіліся, паспрабавалі лавіць, а яны паслухмяна, без страху ішлі ў чужыя рукі, без сораму, нават з гонарам дазвалялі сябе разглядаць. Птушкі маленечкія — кароткія вершы, маленькія апавяданні ды мініяцюры, але ж сваімі крыльцамі колькі пылу тыя птушачкі ўзнялі…

Дэбютная кніга Насты Манцэвіч адразу стала скандальнай, на прэзентацыі — натоўп цікаўных, усхапіліся журналісты ды літаратурны асяродак. А ўсё чаму? Бо знайшлі творы, дзе апісваліся гомасексуальныя адносіны, учапіліся ў тыя тэксты, раздзерлі на цытаты, якімі ўзброіліся ў аргументацыі «за» і «супраць», каб распачаць бойку. Ад зборніка засталіся «ножкі ды рожкі», аднак яго заўважылі, ён атрымаў вядомасць — са знакам «мінус» яна ці «плюс», так і не вырашана, аднак гэта не істотна.

Насамрэч, творы са зборніка Насты Манцэвіч не ўяўляюцца нейкім «выклікам», гэта шэраг асабістых назіранняў, рэфлексіі з прычыны ўсведамлення сябе ў грамадстве, з аднаго боку, істотай з інакшым, не-такім-як-у-большасці светапоглядам, і адначасова — чалавекам, якому, як і ўсім, хочацца цеплыні, вяртання ў дзяцінства, жыцця, калі, здаецца, не варта жыць, які кажа:

Забяры мой цень<br>
Забяры мой сум<br>
Забяры мой боль

І мяне не стане.<br>
*(«Забяры мой боль»)*

Тэма аднаполага кахання — гэта толькі адна з граней, не лейтматыў. Калі ў вершах «Што мне рабіць з табою» і «Мы крочылі побач», напрыклад, паспрабаваць падставіць замест аднаполага кахання звычайнае мужчынска-жаноцкае, успрыманне твораў не зменіцца.

У дачыненні да прозы ўжо складаней. Тут нельга не лічыцца з асаблівасцямі фізіялагічнага працэсу кахання паміж жанчынай і жанчынай. Возьмем апавяданне «Птушкі», дзе ўвага акцэнтуецца ўсё ж не на гэтым, а на праблеме самаідэнтыфікацыі асобы ў чужым ёй па светаўспрыманні грамадстве, на тым, што жыць па сваіх законах, не навязаных з часоў дзяцінства, складана, трэба быць гатовым да таго, што за кожным тваім крокам пільна сочаць, глядзяць з асуджэннем. Аднак заўсёды знойдзецца той, хто прыме цябе такім, які ты ёсць. І для параўнання возьмем апавяданне «Танец», дзе фізіялогія аднаполага кахання ўжо цалкам дамінуе.

У некаторых іншых празаічных творах таксама шмат увагі надаецца цялеснаму, жывёльным інстынктам, сувязі сексуальнага жадання з пачуццём страху ці праяўленнем жорсткасці. Спробы адлюстраваць такую сувязь выглядаюць не зусім натуральна, яны з лёгкім налётам штучнасці, у іх адчуваецца намаганне стварыць рэальную сітуацыю. А ёсць апавяданні — «Дождж» і «Лета» — падобныя да ўспышак памяці, простыя і лірычныя. Як і вершы, яны не з'яўляюцца маніфестамі гомасексуальнасці, замалёўкамі заганных мужчынскіх учынкаў або чымсьці падобным. Вядома, сярод твораў ашаламляльных, скандальных, яны губляюцца. Аднак менавіта ў іх, як падаецца, змяшчаецца мастацкі патэнцыял усяго зборніка, тое, што ў будучым здолее «трымаць» творчасць аўтара. На адных «смачных» апісаннях фізіялогіі далёка не паедзеш. Ці паедзеш, аднак у напрамку безгустоўных эратычных раманчыкаў для аматараў вострых адчуванняў.

Скандальнае мае звычку даволі хутка пераходзіць у ранг прымальнага. Літаратурныя творы, якія сёння выклікаюць шумную рэакцыю і здольныя толькі на гэта, могуць стаць добрым стартам для пісьменніка, аднак праверку часам зазвычай не вытрымліваюць. Фінал будзе такім, калі аўтар не здолее ў далейшым прапанаваць нешта больш трывалае.

Марыя АЛАДЗЬЕВА

# ЗАЛЕЗЦІ Ў НЕТРЫ

***Андрэй ФЕДАРЭНКА. «Мяжа».***

Нават не магу сказаць, чаму выбрала гэты твор для разгляду. Можа, мяне прывабіла нейкая таямнічая і незвычайная назва, можа, тое, што спадабалася яе першая глава (напісана простай мовай, лёгкай для ўспрымання), ці ўсё адразу. Але з цягам часу, пакуль паступова «ўцягвалася» ў яго, шмат у чым мяняла свае ацэнкі.

Анатацыя падказала, што раман аўтабіяграфічны, ды і ўвогуле не зусім гэта і раман. «Мяжа» — раман-эсэ. Да таго ж, казалі, што гэты раман стаўся з'явай у беларускай прозе. Захацелася пацікавіцца інтрыгуючым «своеасаблівым успрыманнем рэчаіснасці галоўным героем, абвостраным пачуццём справядлівасці і прыгажосці».

Я практыкавала чытанне гэтай кніжкі ў розных месцах. Найбольш добра атрымалася ў цягніку, вядома, пры ўмове, што людзі навокал — такія ж студэнты-чытачы. Можна было чытаць і ва ўніверсітэце, метро, аўтобусе, бібліятэцы, але тады нельга зразумець сэнс таго, што гаворыцца ў творы. Менавіта таму, што кніга складаецца з невялікіх фрагментаў. І калі згубіць увагу, можна не зразумець таго, што адбываецца далей. А ўсё таму што фрагменты вельмі насычаны падзеямі і героямі. Што ні глава — то ўсё новы герой. Зрэшты, нягледзячы на гэта, ёсць нязменны персанаж — Андрэй Федарэнка, аўтар гэтага твора. Усё ж такі хачу параіць чытаць гэтую кніжку ў цішыні.

Першая глава, як нагадвае сам аўтар, здаецца паўмастацкім творам. Аўтар увогуле да сваёй творчасці ставіцца з нейкага боку саркастычна і скептычна. Яго аповеды нагадваюць кпіны з уласнага лёсу, з сябе, з жыццёвых сітуацый. Чытач, надзелены пачуццём гумару, адзначыць гэты твор як «добры» хаця б праз гэта, я ўпэўнена. Што ж датычыцца самой ідэі, то аўтар яе вызначае як «прасачыць, адкуль што бярэцца». Мэта Андрэя Федарэнкі на працягу ўсяго твора — дакапацца да праўды, залезці ў нейкія глыбокія нетры жыцця, зразумець, што ў іх ляжыць з самага пачатку і ці закладзена ў чалавеку прыродай пэўнага кшталту інакшасць і спадчыннае даўгалецце. Гэтыя тэмы не падымаюцца ў творы так канкрэтна, але прасочваюцца паміж радкоў і праходзяць праз усю «Мяжу». Што немалаважна, тут надаецца шмат увагі жанчыне як рухавіку творчасці ці, наадварот, яе тормазу. І на тое, як яна ўплывае на творчасць пісьменніка.

Каму можа спадабацца гэты твор? Хто яго будзе чытаць? Кажуць, што для чалавека кніга будзе цікавай, калі яна ў нейкай ступені закране чытача, а ўжо стоадсоткавае супадзенне будзе ў выніку супадзення думак аўтара і чытача. Так, па маім меркаванні, кніга спадабаецца чытачу, калі:

а) той будзе з пачуццём гумару;

б) разважае ці ўвогуле калі-небудзь разважаў наконт сутнасці быцця, вытокаў таленту, мэты жыцця, рэалізацыі чалавека як асобы і ўплыву на ўсё гэта маленства і юнацкасці;

в) хоча занурыцца зноў у гэтыя разважанні ці адкрыць у працэсе нешта новае для сябе.

Твор разлічаны на сталага чытача са сваімі перакананнямі і поглядамі. Але гэта не значыць, што падлетак не можа яго прачытаць. Канешне, можа, але той эфект, які хацеў зрабіць аўтар, не дасягнецца. Для непадрыхтаванага чытача ён будзе проста зборнікам нейкіх маленькіх апавяданняў з жыцця аднаго чалавека.

Юлія АНАЦКА
Мінскі дзяржаўны лінгвістычны
ўніверсітэт, перакладчыцкі факультэт

# І СКАРБ ГЭТЫ БУДУ ЗАХОЎВАЦЬ БЯСКОНЦА

**Henry Longfellow**

## THE ARROW AND THE SONG

I shot an arrow into the air,
It fell to earth, I knew not where;
For, so swiftly it flew, the sight
Could not follow it in its flight.

I breathed a song into the air,
It fell to earth, I knew not where;
For who has sight so keen and strong,
That it can follow the flight of song?

Long, long afterward, in an oak
I found the arrow, still unbroke;
And the song, from beginning to end,
I found again in the heart of a friend.

**Генры Лангфела**

## СТРАЛА І ПЕСНЯ

Стралу пусціла я ў паветра,
Яна ў бязмежжы знікла з ветрам.
Страла так хутка паляцела —
Заўважыць вока не паспела.

Прапела песню я ў паветра,
Яна ў бязмежжы знікла з ветрам.
Бо не знайсці такі зрок дзесьці,
Каб прасачыў ў палёце песню.

І толькі потым каля дуба
Знайшла цалюткую стралу я.
А песню да апошніх слоў
Знайшла я ў сэрцы сябра зноў.

**Charles Mackay**

## NO ENEMIES

You have no enemies you say
Alas, my friend, the boast is poor.
He who has mingled on the fray of duty
That the brave endure
Must have made foes.
If you have none —
Small is the work that you have done.
You've hit no traitor on the hip,
You've dashed no cup from perjured lip.
You've never turned the wrong to right,
You've been a coward in the fight.

**Чарльз Макей**

## БЕЗ ВОРАГАЎ

Не маеш ворагаў, ты кажаш.
Хвальба твая незразумелая:
Хто ў спрэчцы гонар свой дакажа
І годнасць абароніць смела,
Павінен ворагаў нажыць.
Калі нікога на ўвазе —
Дарма ты жыў ў гэткім разе.
Ты здрадніку не заступіў дарогу,
Пакінуў хлусу пенны келіх,
Ты, баязліўца, крок за крокам
Душой згубіў адвагі веліч.

***William Shakespeare***

**SONNET 76**

Why is my verse so barren of new pride,
So far from variation or quick change?
Why with the time do I not glance aside
To new-found methods, and to
compounds strange?
Why write I still all one, ever the same,
And keep invention in a noted weed,
That every word doth almost tell my name,
Showing their birth, and where they
did proceed?
O! know sweet love I always write of you,
And you and love are still my argument
So all my best is dressing old words new,
Spending again what is already spent:

For as the sun is daily new and old,
So is my love still telling what is told.

***Уільям Шэкспір***

**САНЕТ № 76**

Чаму я вызваліў паэзію сваю
Ад цяжару багацця і паспешных змен?
Чаму не паважаю мітусню
Вакол прыёмаў новых
і безгустоўя тэм?
Чаму ізноў былое паўтараю,
Пакінуў выдумцы яе мінулы строй,
Дзе слова часам ледзь не прамаўляе
Маё імя і паўстае самім сабой?
Ды ўсё таму, каханая, што толькі
Я пра цябе і пра любоў заўжды пішу.
Мая заслуга — словы ва ўборы новым,
Я тое зноў аддам, што вечна аддаю.

Адно і тое ж сонца — позна ці то рана.
Вось і каханне кажа, што ўжо сказана.

***Gustavo Adolfo Bécquer***

**RIMA XI**

— Yo soy ardiente, yo soy morena,
yo soy el símbolo de la pasión,
de ansia de goces mi alma está llena.
¿A mí me buscas?
— No es a ti, no.
— Mi frente es pálida, mis trenzas de oro,
puedo brindarte dichas sin fin.
Yo de ternura guardo un tesoro.
¿A mí me llamas?
— No, no es a ti.
— Yo soy un sueño, un imposible,
vano fantasma de niebla y luz.
Soy incorpórea, soy intangible,
no puedo amarte.
— ¡Ohven, ventú!

***Густава Адольфа Бекер***

**ВЕРШ XI**

— Імя мне агмень і імя мне спякота,
Імя маё жарсць у паўдзённым святле.
Душа мая прагне ўцех асалоды.
Мяне ты шукаеш? — О не, не цябе.

— Як месяц мой твар і як золата косы,
Спакойнае шчасце ствару я табе.
І скарб гэты буду захоўваць бясконца.
Маё ты імя прамаўляеш? — О не.

— Імя маё мроя, я ёсць сюррэальнасць,
Я прывід святла, што мяжуе з імглой,
Я цень, я ілюзія, я неадчувальнасць.

Кахаць не змагу. — О, застанься са мной.

*Яўгенія ЮШКОВА*

# АДНААКТОВАЯ МІСТЭРЫЯ «DERGEIST»



***Яўгенія Юшкова нарадзілася 16 лістапада 1992 года ў Мінску. Вучыцца на факультэце філасофіі і сацыяльных навук БДУ. Засвяцілася ў якасці валанцёра ў Школе юнага філосафа «Пайдэя», у дадзены момант працуе над праектам фонда дапамогі жывёлам.***

### ДЗЕЙНЫЯ АСОБЫ:

**Распавядальнік** (голас за сцэнай),
**Анёл** (бяскрылая духоўная сутнасць) — *адзін і той жа акцёр*.
**Адам.**
**Ева.**
**Змей, Голас з натоўпу** — *адзін і той жа акцёр*.
**Лекар.**
**Чума**.
**Мікола,** сын Лекара.
**Сем галасоў.**
**Паэт.**
**Святар.**
**Дзяўчынка.**
**Хор.**
**Удзельнікі макабарычных скокаў.**
**Жыхары горада** (пазней — Натоўп).

## ДЗЕЯННЕ ПЕРШАЕ ДЫ АПОШНЯЕ

Сцэна-батлейка. На ніжнім ярусе адбываецца дзеянне, на верхнім размяшчаецца Хор. На верхні падчас усёй містэрыі падае святло, на ніжні — толькі тады, калі неабходнасць гэтага прапісана.

**Распавядальнік.**
Увес час, што існуе наш чалавечы род
Вабіла яго, цягнула неўміручасць.
Прымусіла яна яго парушыць
Закон прысутнасці ў прасторы, часе...
За што і расплаціўся ён.

### З'ЯВА ПЕРШАЯ

Ніжні ярус сцэны асвятляецца святлом. Ля дрэва стаіць Ева ды разглядае яго вачамі, поўнымі жадання. У каранёў дрэва раздалося шамаценне.

**Ева** *(спужана)*. Хто тут шамацеў?
**Змей.** Жанчына, не бойся мяне. Я не нашкоджу табе.
**Ева** *(зацікаўлена)*. Ты хто?

**Змей.** Змей. Прыгожае дрэва, праўда?

**Ева** *(летуценна)*. Так...

**Змей** *(ласкава)*. Ці сапраўды сказаў Пан Бог, каб вы не частаваліся пладамі з дрэў райскіх?

**Ева** *(хітравата)*. Не-не, мы можам частавацца пладамі з усіх дрэў, забаранілі дакранацца да дрэва ў цэнтры рая нам, інакш памром.

**Змей.** Вы не памроце. Але ж Бог ведае, што ў дзень той, калі спазнаеце вы ўласцівасць дрэва, адкрыецца вам разуменне сутнасці ўсяго і станіце, як богі. Пачастуйся, калі не верыш мне.

Ева, усміхаючыся, частуецца. Змей адпаўзае назад у карані. Жанчына падыходзіць да Адама.

**Ева** *(Адаму, хвалебна)*. Глядзі, Адам, які прыгожы плод! Які салодкі... Пачастуйся!

Адам бярэ плод з рук жанчыны. Частуецца.

**Адам**. Салодкі. Ты маеш рацыю...

Святло над ніжнім ярусам гасне.

**Хор.**
Праз гэты цяжкі грэх жывём мы ў муках,
Шукаючы адказ на ўсе пытанні
У розных у сутнасці сваёй навуках
Не гледзячы на розніцу ў светаўспрыманнях.

З'ЯВА ДРУГАЯ

**Распавядальнік.**
«Ад усялякага дрэва ў садзе можаш есці, мой твор,
Але не ад дрэва спазнання зла і дабрыні, Бо
памрэш літаральна ты ў дзень пачуццёвай спакусы».
Менавіта такі паміж творам ды Творцай існаваў дагавор.
*(пасля паўзы, ціха)*... Сапраўды, у той час Чалавек памёр.
**Хор.**
Але ж не быў супраць спазнання Усемагутны Пан!
Бо чалавек меў вольны выбар першапачаткова,
Бог даў магчымасць спазнаваць сусвет
Праз творчасць. Дзеля шляху, дзеля Бога...

Святло над ніжнім ярусам запальваецца. Паўзмрок. За сталом сядзіць задумлівы Лекар. Стук у дзверы прыпыняе ягоныя развагі.

**Лекар.** Па якой нагодзе грукаеш ты, невядомы, у дзверы ў такі позні час?

**Чума** *(за дзвярыма)*. Ці магчыма на ноч у цябе спыніцца, добры чалавек? Я вельмі стамілася падчас свайго шляху, іду ўжо чацвёрты дзень амаль без перапынку.

**Лекар** *(выходзіць насустрач, адчыніўшы дзверы)*. Бачу. Ты ледзь жывая! Праходзь, будзеш госцяй.

**Мікола** *(голас з боку пакоя хлопчыка)*. Хто гэта, тата?

**Лекар.** Толькі падарожнік стомлены, Мікола. Спі.

З боку пакойчыка Міколы прагучала нейкае мармытанне. У пакой уваходзіць стомленая, схуднелая жанчына. Яна сядае за стол насупраць месца, на якім сядзеў Лекар. Тым часам Лекар дастае віно ды хлеб, каб пачаставаць сваю познюю госцю. Яны сядаюць адно насупраць аднаго. Ядуць.

**Лекар.** Ну, хто ты ды і адкуль? Кудой ідзеш? Павінен ведаць я, каго прымаю.
**Чума.** Іду я з захаду на ўсход, збягаю ад чумы.
**Лекар.** Так, чуў, заходняя мяжа краіны пацярпела ад зладзейкі.
**Чума.** Так, чалавек.
**Лекар** *(задумліва)*. Мяркую, хутка і да нас яна зазірне.
**Чума.** Хвароба распаўсюджваецца хутка. Не паспела я выйсці з дому добрых гаспадароў, прыняўшых мяне, як у пасяленні, у якое я накіроўвалася, пачалі з'яўляцца першыя расткі хваробы.
**Лекар.** Дзіўна, што ты сама не захварэла.
**Чума.** Сапраўды.
**Лекар.** А што з жыхарамі таго сялення, з якога ты трапіла да нас?
**Чума.** Ужо другі дзень як там усе памерлі.
**Лекар.** Шкада. Няхай іх душы Пётар прыме! Ты ведаеш, калі чума надыдзе, я не баюся паміраць. Я стары... баюся толькі за Міколу.
**Чума** *(безэмацыянальна)*. Таго хлопчыка?
**Лекар** *(здзіўлена)*. Вы пранікліваяя! Так, яго. Мы адзінокія: толькі ён ды я, няма ўжо ў нас з ім болей анікога, жонка мая сканала падчас родаў. Пяць год мінула з тых часоў, але ён малы хлопец, адзін загіне ў гэтым жорсткім свеце. Тым больш падчас чумы.

Маўчаць. Раптоўна ў дзвярах з'яўляецца ланцуг людзей, якія трымаюць за рукі адно аднаго, розных па ўзросце ды сацыяльным паходжанні.

**Чума** *(шыкае на іх)*. Знікніце з вачэй маіх!

Ланцуг знікае.

**Лекар.** Хто людзі гэтыя?
**Чума** *(спалохана)*. Яны? Ніхто.
**Лекар** *(павышае голас)*. Я недзе бачыў іх... так, так! На фрэсцы з «Танцам Смерці»! Пакуль вяла расповед ты, адкуль ды хто ты, я сумняваўся. Думаў, простая жанчына, якая родных страціла, бяжыць, не ведае куды, якая стомлена, спалохана, не мае спадзяванняў...
**Чума** *(паспешліва)*. Што ты, што ты...
**Лекар** *(з урачыстасцю)*. Няма цяпер сумневаў, ты — чума!
**Чума** *(халодна)*. Што ж, чалавеча... разумны ты. Я сапраўды чума. І ты ўжо пад пагрозай заражэння.

Змагаюцца; удзельнікі макабарычных скокаў абступілі іх у кола, моўчкі за імі назіраюць, чакаючы выніку барацьбы. На шум выбег са свайго пакоя Мікола.

**Мікола.** Татачка! Што адбываецца?
**Лекар** *(крычыць сыну)*. Ідзі ў пакой, Мікола, і болей не выходзь!

Мікола заварожана назірае за барацьбой. Раптоўна яна сціхае — Лекар перамог.

**Чума** *(дакранаючыся да хлопчыка)*. А вось і не!

Міколу спрабуюць зацягнуць у ланцуг удзельнікі макабарычных скокаў, але ж Лекар вырывае ягоную руку з рукі памерлага.

**Чума** *(Лекару)*. І ўсё роўна твой сын загіне праз пяць дзён!

Лекар падбягае да сына ды абдымае яго. Тым часам удельнікі макабарычных скокаў ды Чума знікаюць.

**Мікола.** Што значыць — загінуць?

Лекар маўчыць.

**Мікола** *(працягвае)*. Тата, я сапраўды загіну, як сказала тая жанчына?
**Лекар** *(са слязамі на вачах)*. Супакойся, сыне. Я перамог хваробу.

Святло над ніжнім ярусам гасне.

**Хор.**
Справы вялікія толькі распачнуцца, бо чалавек,
Што паўстаў з гліны, зрабіў першы ўжо крок!
**Распавядальнік** *(ціха)*. Як пакуты асэнсавання, што не розум адзіны кіруе Жыццём.

З'ЯВА ТРЭЦЯЯ

Змрок над ніжнім ярусам, бачны толькі фігуры акцёраў. Чутны галасы.

**Голас першы.** Нам трэба прыпыніць гэтыя ўмоўнасці! Бо кожны, хто не верыць у розум — вораг наш.
**Голас другі.** Вы правы, трэба выкараніць забабоны ў людскіх галовах.
**Голас трэці.** А што іх стварае ды распаўсюджвае — гэтыя забабоны?
**Голас першы.** Рэлігія!
**Голас другі.** Так! З даўніны ёю карысталіся, каб люду прамываць мазгі ды ўсяляць веру ў падпарадкаванне нябёсам, царадворцам, біскупам ды іншым.
**Голас чацвёрты.** І хто павінны ў тым?
**Голас першы.** Арыстакраты, прагніўшыя наскрозь у няроўнасці сваёй з народам.
**Голас другі.** Бо менавіта іхняя заслуга ў тым, што рэлігія паўстала.
**Голас пяты.** Не толькі іхняя! Яшчэ і біскупаў-аматараў нажывы.
**Голас шосты.** Я згодны цалкам! Пакуль Антуанэта весяліцца на балах, у бедных паміраюць дзеці. Ад голаду ды неспрыялых абставін жыцця.
**Голас трэці.** Далоў манархію! Свабода, роўнасць ды братэрства!

Хор звяртае ўвагу на ніжні ярус. Ён прыслухоўваецца.

**Голас другі.** Мы маем натуральнае права ды абавязак на розуму выкарыстанне. Sapereaude! Разам з тым мы ўсе разумныя ў разумнасці сваёй.
**Голас першы.** Але не па здольнасцях... не ўсіх нас імі аднолькава ўзнагродзіў Абсалют.
**Голас пяты** *(з агідаю)*. Абсалют, асбалютызм... як сугучны гэтыя словы!
**Голас сёмы.** Такім чынам, калі мы ўсе роўныя ад прыроды, няма сялян, арыстакратаў, біскупаў ды манарха, а ёсць браты, то застаецца вырашыць пытанне здольнасцей. Калі нашыя здольнасці нам дадзены ад прыроды, то яны ўсе праяўляюцца ад розуму, а розум — у нашых галовых, значыцца, нам трэба зраўняць усіх!

Хор з сумам сочыць за тым, што адбываецца на ніжнім ярусе.

Чутна, як паўстае натоўп. Кожны ўдзельнік працэсіі выконвае адпаведны ягоным поглядам куплет «Марсельезы» ў арыгінале. Рэфрэн выконваюць усе разам. Пад перадапошні рэфрэн акцёры збіраюцца ў шыхт. Пад гукі апошняга рэфрэна яны маршыруюць у бок куліс. Святло над ніжнім ярусам гасне. За сцэнай раздаюцца гукі стрэлаў, крыкі, гам. Пасля — выгук урачыстасці. Гучыць урывак з «Марсельезы» (Marchons, marchons! Qu'un sang impur Abreuve nos sillons!). Занавес.

## З'ЯВА ЧАЦВЁРТАЯ

Гандлёвая плошча з аднастайнымі будынкамі, напоўненая людзьмі. Па ёй крочыць Паэт.

**Паэт** *(пачынае дэкламаваць)*.
Гэты месяц з-пад капкана
Лоўчы выхапіць шторазу
Воран мой з-за пад дывана
Вой падняў ды вырваў таз.

З'еў яго ды быў такоў,
Воран з'ехаў у сто гадоў.
Я тым часам пісаў вершы
У год сто сорак сёмы...

**Першы жыхар горада** *(прыпыняе Паэта)*. Цьфу-ты! Блазан нейкі...
**Паэт** *(першаму жыхару)*.
Болей не было б бяды,
Чым здавацца ўсім блазанам,
Духам неба ды вады,
Рымскім папам з Ватыкана.

*(Працягвае сам сабе, ягоны голас паступова знікае з-за шуму натоўпу, сярод якога чутны галасы ўдзельнікаў мінулай з'явы).*

Бюстам Леніна ў вядры,
Тым, каторы быў патоплен
Маткай дзёрзкага, калі
Той патрапіў пад пантофлі.

«Не трапляйце пад пантофлі —
Лепей хавацца ў картоплі». —
— Не, трапляйце пад пантофлі —
Нельга хавацца ў картоплі!

**Жыхарка горада** *(прыслухоўваецца да Паэта, пасля крычыць)*. Дык ён вар'ят!
**Жыхары горада** *(адно аднаму)*. Вар'ят... Вар'ят...
**Голас з натоўпу.** Забіць вар'ята!
**Натоўп** *(крычаць)*. Забіць!

Праз натоўп прарываецца Святар.

**Святар** *(звяртаючыся да натоўпу)*. Спыніцеся! Канешне ж, словы гэтага чалавека могуць быць непрыемнымі для вас, аднак вы не можаце забіць яго! Пан Бог

запаведаваў нам любіць бліжняга нашага як самога сабе, палюбіць часцінку Бога ў іншым, бо ўсе мы — стварэнні Боскія. Да таго ж...

**Жыхарка горада** *(перапыняе яго)*. Вар’ят заўсёды заступіцца за вар’ята. Можа, ён сам вар’ят?

**Натоўп жыхароў горада** *(паўтарае за ёй)*. Вар’ят! Забіць вар’ятаў!

З натоўпу выбягае Дзяўчынка. Яна выскоквае паміж натоўпам ды Святаром з Паэтам.

**Дзяўчынка** *(натоўпу)*. Калі ласка, спыніцеся! Ім балюча!

**Жыхар горада.** Яна таксама вар’ятка! Мы разумныя, нам лепей ведаць, хто тут хто.

**Натоўп** *(крычыць)*. Забіць яе!

Дзяўчынку разам з Паэтам ды Святаром акружае натоўп. Святло над ніжнім ярусам гасне.

Цішыня. Яе раптоўна перапыняе карканне крумкачоў. Калі яно сціхае, святло над ніжнім ярусам запальваецца. Дзяўчынка, Святар ды Паэт ляжаць нежывыя. Ля іх моўчкі сядзяць удзельнікі макабарычных скокаў, сярод якіх бачны фігуры Міколы, Лекара, Адама, Евы. Хор таксама маўчыць, не звяртаючы ўвагі на ніжні ярус.

**Ева.** Не нам судзіць іх...

**Стары ўдзельнік макабарычных скокаў.** Ну ўжо не! Нам, памерлым. Што нарабілі вы, нашчадкі Адама, у празе сваёй страціўшы розум? Ці ў ведах неўміручасць? Так, згодны. У іх.

**Паэт.** Але што веды ёсць? Чаму ў іх неўміручасць?

**Стары ўдзельнік макабарычных скокаў.** Яны не тое, што без веры ёсць. Бо веды — тое, што з мінулым звязвае нас.

**Паэт.** Тады і прагнулі яны да тых вос ведаў!

**Стары ўдзельнік макабарычных скокаў.** Але без веры. Таму і згінулі, ахвяры самаўпэўненасці.

Удзельнікі макабарычных скокаў ды Паэт падымаюцца і сыходзяць. На сцэне застаюцца духі Святара ды Дзяўчынкі.

**Святар.** Няма пакаяўшыхся! Бо ўсе памерлі...

**Дзяўчынка.** Калі б мне даў Пан Бог магчымасць пажыць яшчэ, я б усё змяніла. Усё было б інакш!

**Святар** *(злёгку ўсміхнуўшыся)*. Хадзем са мной, дзіця маё. Нічога мы не зменім...

Святар ды Дзяўчынка сыходзяць.
Святло над ніжнім ярусам гасне. Цішыня. Якую потым парушае Хор.

**Хор.**
Мы прагнулі не гэтага! Але прадчуванне
было, што ўсё менавіта так завершыцца.
Бязмерна наша глупства, бо не паслухаліся прадчуванняў.

**Анёл** *(выходзіць з-за сцэны на верхнім ярусе, Хору)*. Такі канон — лёсу закон... Трагічны ён для нас. *(Гледзячы ў далячынь.)* У чым сэнс быцця, Стваральнік наш? Не ў гэтым сэнс быцця...

Хор ды Анёл сыходзяць.



*Рубрыка Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта*

# 8 ПАЭТЫЧНЫХ ГІСТОРЫЙ АД МЭТА МЭЙСАНА

***Яго першая кніга «Рэчы, якія мы не ведаем, што мы не ведаем», апублікаваная ў 2006 годзе, стала бестселерам — за яе Мэт Мэйсан атрымаў паэтычную ўзнагароду «Небраска Бук Эворд». Мэт Мэйсан з'яўляецца не толькі паэтам, але і актывістам-перформерам у Амаха, штат Небраска: рэгулярна бярэ ўдзел у паэтычных слэмах, а таксама выступае іх арганізатарам. Ён рэдагуе інтэрнэт-сайт «Паэтычнае меню», дзе прадстаўлены розныя літаратурныя падзеі яго рэгіёна. Тэмы, якія закранае Мэт у сваіх творах, тычацца міжасабовых стасункаў, рэлігіі і простага жыцця Сярэдняга Захаду. Раннія працы прынеслі яму славу гумарыстычнага паэта, але цяпер ён піша ў жанры драмы і трагедыі.***

***У 2000 годзе Мэт Мэйсан прыязджаў у Мінск і браў удзел у арганізацыі слэм-фестывалю. Калі даведаўся, што яго вершы перакладзены на беларускую мову і будуць надрукаваны, вельмі ўзрадаваўся і адзначыў, што быць перакладзеным на беларускую для яго гонар і што ён часта ўзгадвае сваю вандроўку ў Беларусь.***

## КАНЧАТКОВАЯ АЦЭНКА

Мы пачнём з тыдня секундаў
І спаць не станем, хіба толькі для чыстай асалоды,
кранаючыся ўласнымі целамі, бы закрытыя нажніцы.

Мы даведаемся смак кожнай з'едзенай крошкі,
атрымліваючы асалоду ад кожнай калорыі
з кожным сполахам секунды.

У тыдні хвілін
Мы палюбім дотык травы
І даведаемся смак сапраўднай піцы.
Мы адправімся ў Ёсеміці, заглушаючы
сваімі размовамі песні па радыё
і тыя, што граюць з касеты
Ван Морысана. Смак ананаса
стане надзвычай прыемным
На тыдні хвілін.

Мы прапусцім тыдзень гадзінаў
Прыступіўшы амаль адразу да тыдня дзён;
Бо мы будзем непрадказальнымі.
Асабліва ўнутры вершаў.

Калі наступіць тыдзень дзён,
Мы будзем адно аднога чытаць і кахацца,
Потым, у рамантычным духу, мы
Будзем гуляць у амаль поўнай цемры, прыдумляючы
Новыя імёны сузор’ям,
якія нейкі шчасліўчык выпадкова
ўбачыў раней за нас.
На гэтым тыдні — што вельмі важна —
Мы зразумеем, што нам не хапае словаў.

Калі прыйдзе тыдзень тыдняў,
Мы падумаем, што ж будзе далей:
Тыдзень месяцаў? Тыдзень двух тыдняў?
дзесяцігоддзяў? Прапушчаны тыдзень гадзін?
А можа быць, святло,
Што мы назапасілі за ўвесь гэты час,
раптам да нас вернецца?
Ці там, наперадзе, нас чакае тыдзень,
Пазбаўлены мілых дзівацтваў,
Ці ўжо не будзе ніякага тыдня
Або гэта тыдзень канца ўсяго?
калі прыходзіць Бог.
Ну, ці не Бог, а хтосьці з Яго супрацоўнікаў,
Хто працягне нам стос паперак
памерам з тэлефонную кнігу,
Папрасіўшы ацаніць усе стварэнні
Па шкале ад 1 да 5?

## КАВА І АСТРАНОМІЯ

Яна — адна за столікам на чацвярых у кавярні кнігарні,
Як і я.
Мы сустракаемся вачыма, і я думаю:
«Шкада, што я недарэка», і:
«Магчыма, я мог бы выправіцца, калі б гэта азначала верагоднасць пацалунка»,
І яна сядзіць, зусім як кніга, якую мне трэба прачытаць, і кожны з нас
Займае восем галактык унутры аднаго памяшкання;
Мы маглі б эканоміць і дзяліцца дэвізамі,
«Думай глабальна, дзейнічай лакальна»,
Сядзець за адным столікам у ветлівай таямніцы адно аднога,
Прымаць разам душ, каб зэканоміць ваду,
Але я не ведаю, ці клапоціць яе
Эканомія вады,
Толькі адно магу сказаць дакладна: яе валасы спадаюць дажджом,
І яна лепш за мяне разбіраецца ў адзенні, мы сустракаемся вачыма,
І я палохаюся яе,

Усіх яе «не»
І ўсіх яе «так»,
Усіх яе «хачу дзетак»,
Яе вочы
Далёкія, як зоркі,
І спатрэбяцца гады, каб іх святло дасягнула мяне
Тут, за гэтым гіганцкім сталом, памерам з маё жыццё.

**РЭВАЛЮЦЫЯ НЕ БУДЗЕ НАПІСАНА**

Падчас некаторых рэвалюцый па-ранейшаму кідаюць вершы
З выбуховымі рэчывамі, уяўляеце?
пакуль я змешваю вершаваную сумесь
Пра тое, як пакутліва быць белым сярэдняму класу
І такім незразуметым.

Падчас некаторых рэвалюцый яны па-ранейшаму кідаюць
Вершы з выбуховымі рэчывамі,
Не маленькія смешныя гісторыі, не маленькія мілыя парнаграфіі,
Нічога маленькага, бо маленькае не заб'е
тыгра, маленькае не паставіць пад пагрозу свабодную прэсу,
Маленькае не пусціць кроў тырану.

А гэта — якраз тое, што яны па-ранейшаму робяць
У некаторых рэвалюцыях.
Яны тоўпяцца вакол сталоў,
Збітых з дзвярэй ці вокнаў, яны нашэптваюць
Свае кактэйлі, змешваюць
Дзеясловы ў адным слоіку, назоўнікі — у іншым, падключаць таймер
І патнеюць. Ведаеце, большасць пацешак
адважна кпіла з уладароў,
Гэтыя «Лонданскія масты», мяснікі, пекары,
Вытворцы падсвечнікаў — усе яны разам больш
дасведчаныя за мае вершыкі пра каханне,
Мае вінаградныя хайку, мае дадатковыя колы і марозіва,
Яны б паклапаціліся пра такі час, як зараз,
і пра напісаныя словы, якія б не пакінулі
каменя на камені ад дамоў у нашым горадзе.

**ВЕРШ БЕЗ НАЗВЫ ДЛЯ САРЫ**

Кожную раніцу ты думаеш,
Што ўсе матылі маглі б кінуцца і
аддацца сонцу.

Але насамрэч яны чакаюць,
каб вулічныя ліхтары
спажылі іх
сполахамі свайго
кашлю.

Мая дарагая,
Мая дарагая,
Мая дарагая: я перастаў
прыслухоўвацца да сваёй матыльковай душы.
Мая дарагая, я больш
не імкнуся да вулічных ліхтароў.

Мае папяровыя крылы лунаюць,
ледзь кранаючы
тваё палымянае сэрца.

## ЁЙ

Начамі не магу заснуць, у маёй галаве яна;
Не, не фантазіяй ці парнаграфіяй і нават не рамантыкай,
а толькі імя,
Толькі цені, што спадаюць з яе,
Быццам яна сядзіць у канцы пакоя на ускрайку месяцовага шэпту.
Я нават не магу ўявіць яе сабе,
Быццам не магу зірнуць на яе наўпрост,
быццам я занадта ветлівы або занадта нясмелы;
Але ў яе імені цэлы храм, які выступае з маёй сляпой плямы.

Ведаеш, я мог бы чытаць па ёй,
Яна вядзе мяне праз усе вершы, запаўняе паветра,
Як радыёсігналы, яна не часціца і не хваля,
Яна — прыцягненне, што звязвае мяне
З гэтым светам, і адліў, што адцягвае прэч;
Я мог бы дыхаць толькі ёй.

## НАСТУПСТВЫ

Ёсць пацалункі, якія не забыць.
Ты з лёгкасцю ўзгадаеш
Тую напругу ў левым сцягне
ад сядзення на канапе так, каб быць да яе тварам.
Стоячы дзесьці ў Макдональдсе,
Ты ўсё яшчэ ўяўляеш паўзмрок, начнік на ейнай кухні
У прастакутніку на падлозе, трохкутнікі
На жоўтай коўдры, накінутай на ейныя ногі,
Яе заплюшчаныя вочы, нахіл галавы.
Калі адгукаецца больш за ейнае цела,
разумееш, што зрабіў нешта непапраўнае.

## Я МАГУ НЕ ВЕДАЦЬ, КУДЫ ІДУ, АЛЕ МНЕ ТУТ ВЕЛЬМІ ВЕСЕЛА

Мы ямо адзін у аднаго бульбу фры ў Ліёне, сказаць больш
Няма чаго, хопіць пісаць пра сваю былую дзяўчыну ва ўсіх вершах;
Можа, яна робіць гэта знарок: можа, тэлефануе і

Кажа, што яшчэ кахае мяне, сумуе — так, каб ёй не трэба было сыходзіць
З маіх вершаў. Можа, я кахаю яе, можа, хачу, каб яна была
тут, у маёй кватэры, а не ў сваім Портлендзе. Каб рыхтавала ежу
ў мяне на пліце, у маіх рондалях, гледзячы тэлевізар у суседнім пакоі,
Чысцячы зубы ў маёй ракавіне, засынаючы побач са мной.

Мы жывём адзін ад аднаго не блізка
ейная поўнач — гэта мае 2 гадзіны ночы, увесь час Скалістых гор,
Расцягнуты паміж намі, — гадзіна, пра якую ніхто з нас не мае ўяўлення;
Можа быць калі-небудзь мы ўбачым гэту гадзіну, тады зразумеем,
што яна спазняецца на гадзіну,
а я на гадзіну спяшаюся, мы маглі б сустрэцца ў Пуэбло
Або Альбукерке і адшукаць колькі сонечнай гармоніі паміж намі.
Што б на гэта сказаў Эйнштэйн?
Але я рабіў і больш дурныя рэчы.

І бачыў, што яны спрацоўваюць. Я загортваў ківі ў блін, залез
У пазыкі, вывучаючы паэзію, рабіў стаўкі на Вікінгаў Мінесоты,
Ехаў дзве сотні міль за прыстойным пончыкам. Богу часам становіцца сумна
І Ён заахвочвае творчы ідыятызм; пекла, любы ідыятызм.
І верагодна, Бог будзе першым, хто прызнае,
якое нудоцце парадак. Як жа яшчэ можна растлумачыць
Сатану? Ніксана? Паэтаў,
што пішуць вершы пра кароў?

Але што я магу сказаць, апускаючы чарговую лустачку бульбы ў густы соус,
Што яшчэ? Шэсць месяцаў таму, калі б яна патэлефанавала
Шэсць месяцаў таму, я мог бы займацца сексам
Замест таго, каб пісаць гэты верш, я мог бы быць на возеры Тахо
Замест Ліёна. Я мог бы. Я мог бы
Трапіць у лапы мутантаў месяцовых ламаў;
Ды што заўгодна. На гэтай планеце няма гадзінных паясоў, дзе час ідзе
На шэсць месяцаў раней за мой. І нават калі б ён быў,
Я, напэўна, не змог бы дазволіць сабе міжчасавыя званкі.
Я не змог бы патэлефанаваць
сам сабе, так ці інакш.
Усе грошы сышлі б за хвіліну праслухоўвання свайго аўтаадказніка:
*Добры дзень, я цяпер не магу падысці да тэлефона,*
*Калі я буду ў сілах скарыстацца тэлефонам, я вас набяру,*
*калі толькі не нейкі выпадковы абрыў...*
Ды і што б я сказаў сабе? Сказаў бы: «Трымайся»,
«Што будзе, тое будзе!» «Змяні гэта чортава паведамленне!»
Ці я б патэлефанаваў
Ёй, сказаў, што я ў лютым,
І ідзе дождж,
І яна зноў кахае мяне,
І хіба гэта не дзікасць?
Шэсць месяцаў. Што
У рэшце рэшт змянілася?
Калі
Час паспеў стаць адлегласцю,
А адлегласць перарасці ў аб'ём?

Чаму я працягваю запіхваць
бульбу ў рот, спрабуючы
Адшукаць лустачку, якая зробіць мяне шчаслівым?
Навошта размаўляць, пісаць вершы, займацца каханнем,
есці, глядзець з надзеяй, як быццам бы
гэтым разам Бог адарвецца ад
Сваёй бульбы фры, адкашляецца
І зробіць нешта больш, чым проста хітра ўсміхнецца?

## САГА ПРА КЕПСКА ПРАЧЫТАНЫ НА ІМПРЭЗЕ ЛЮБОЎНЫ ВЕРШ

Калі я не даў ёй нічога, ёй было больш чым дастаткова;
А калі я даў ёй усё, яна забылася на гэта
У попельніцы, недзе ў блінным.
Так, я ведаю, вы ўжо чулі гэты верш: і не істотна пра каханне ён ці пра абурэнне,
які нехта зараз чытае ва ўласнай інтэрпрэтацыі
На імпрэзе у Портлендзе і Мансі,
У Barnes & Noble у Манхэтэне, у бары Гранд Форкса; менавіта ў гэтую секунду
менавіта гэты верш пішуць у Вініпегу і Альбукерке,
яго перакладаюць на іспанскую, кітайскую і бамана,

Адкрыты па ўсім свеце, як смак яе
Ці яго, што аддае кіслым у роце,
Але страта яе становіцца саладзейшай
За пончык, за кулфі, за кока-колу, гуарана,
Яблык, два апельсіны, толькі што пачышчаны ківі.

Усе гэтыя страты проста жах, быццам сусветная мова — не проста музыка,
А няўдалая кантры-вестэрн балада,
сумная песня пра каханне, рэквіем, блюз;

Усе мы стогнем,
што калі Бог зачыняе дзверы, Ён ускрывае
Вены; што ёсць тысячы рыб у моры,
Але я да гэтага часу жыву без мора недзе ў штаце Небраска.
Вавілонская вежа сціраецца,
У нас ва ўсіх ёсць адзіная мова,
Эмацыйнае эсперанта, якую ніхто не чуе
За шумам кавамолкі, але ўсе ўсё адно пляскаюць у ладкі,
Таму што некаторыя дзейнічаюць слушна, некаторыя пазнаюць
гэту сутнасць, гэты боль, гэта каханне,
Пададзенае з вяршкамі, двума кавалкамі цукру, ад якога ідзе пара,
Натуральна з кафеінам, занадта гарачае, каб піць адразу,
Лепш павольна пацягваць,
Каб між іншым састыла.

***Пераклад з англійскай Вольгі БУБІЧ,***
***рэдактура Вольгі ГАПЕЕВАЙ***

***Пераклад зроблены па выданні Matt Mason***
***«Things we don't know we don't know» (2006, The Backwaters Press).***



*Арцём КАВАЛЕЎСКІ*

# КАБ ВЫРАЗНА АДЧУЦЬ СМАК БЯГУЧАЕ ХВІЛІ…

***У паўсядзённым жыцці нас атачаюць парадоксы, а ў жыцці творчым — і пагатоў. Адзін з іх я заўважыў даўно і не перастаю яму здзіўляцца: пісаць пра тое, што добра ведаеш і любіш, — надта складана, а пра тых, каго ведаеш здаўна і любіш сапраўды, — цяжэй нашматкроць. І справа тут не толькі ў адказнасці перад героем аповеду, хутчэй у самім характары апісання — антрапалагічным.***

Нездарма ж кажуць жывапісцы і фатографы, што партрэт — не проста адлюстраванне чалавека, гэта — выява, адбітак нашага прачуленага і своеадмысловага да яго стаўлення; трансляцыя, згустак тых пачуццяў і адчуванняў, якія задаюць танальнасць камунікавання з асобай.

Так, парадоксы сустракаюцца паўсюль. Літаральна за некалькі хвілін перад тым, як узяцца за гэты матэрыял, мне ў рукі трапілася папка з маімі старымі вершамі, якія я даўно не праглядаў. Я не збіраўся прысвячаць час на іх перачытванне, але позірк выхапіў адну страфу і спыніўся на ёй:

Я не ўмею скрыжоўваць
Мінулае з будучым,
Каб выразна адчуць
Смак бягучае хвілі…

Радкі ўласнага твора мяне крыху здзівілі, бо гэты верш неяк выпаў з маёй памяці. І я задумаўся: а ці наогул магчыма выразна адчуваць смак бягучае хвілі, моманту, які не паўторыцца ніколі і назаўжды застанецца фактам нашай шэрай (альбо расквечанай усімі колерамі вясёлкі) будзённасці? Ці каму-небудзь з нас падуладны талент такога «выразнага адчування»?.. І тут зноў здарыўся парадокс: я рэзка адклаў тэкст верша і цяпер у полі майго зроку была яркая аранжава-рудая вокладка кнігі з выявай жменькі кляновых лістоў, пісаць пра якую я збіраўся яшчэ хвілін пяць таму і ніяк не адважваўся. Але цяпер, у гэты вось момант зрокавага палёту, я зразумеў, што напішу пра яе абавязкова, бо страфа даўняга верша і раптоўнае перамяшчэнне погляду на ТУЮ кнігу падштурхнулі мяне да думкі, што людзі з талентам выразнага адчування бягучай хвілі ЁСЦЬ, яны побач з намі! Ітак, **Людміла Саянкова** і яе новая кніга **«Минский международный кинофестиваль «Лістапад»: 20 лет спустя»**.

* * *

Прэзентацыя ўнікальнай, але цалкам заканамернай і своечасовай кнігі адбылася 5 лістапада 2013 года ў кінатэатры «Цэнтральны» і была прымеркавана да юбілейнага года ў жыцці МКФ «Лістапад»*, да яго дваццацігоддзя. Яе аўтар, знакаміты беларускі кіназнаўца, крытык і журналіст, мой настаўнік, калега і сябра, асоба выбітная — Людміла Саянкова, загадчыца кафедры літаратурна-мастацкай крытыкі Інстытута журналістыкі БДУ, кандыдат філалагічных навук, дацэнт — інфармацыю пра падрыхтоўку і выхад зборніка трымала ў таямніцы. Звычайна, людзі, якія працуюць над кнігай, неаднаразова падкрэсліваюць у прыватных размовах і неабходнасць сваёй працы, і цяжары творчых памкненняў, і значнасць будучага выдання. А тут — нічога. І толькі фраза, нібыта незнарок кінутая сярод калег: «Спадарства, прыходзьце, калі ласка, на прэзентацыю маёй кнігі» — аша-

ламіла і ўзрадавала адначасова. Дарэчы, у такім слоўным пасажы не было ані фальшу, ані падкрэсленай фанабэрлівай какетлівасці. Як сведчанне гэтаму — апошні абзац прадмовы да выдання. Аўтар прызнаецца: «Мяркую, што для тых, хто гэты кінафорум прыдумляў, развіваў, узбагачаў ідэямі, фільмамі, праграмамі, удасканальваў фармат, хто ім кіраваў і кіруе, лічба “20” здаецца нейкай нечаканай, што настала так хутка. Гэтак жа нечакана сталеюць дзеці альбо мяняюцца поры года, гэтак жа нечакана мяняецца само жыццё. Галоўнае, каб усё працягвалася. І, магчыма, з часам будзе так, што першая “дваццатка” падасца толькі пачаткам…»

Гэтак жа нечакана і мы, калегі і шанавальнікі таленту Людмілы Саянковай, даведаліся пра з’яўленне ў «Выдавецкім доме «Звязда» цікавай і, безумоўна, карыснай для ўсіх кінааматараў (і не толькі) кнігі сапраўднага летапісу МКФ «Лістапад», дзе аўтарскі маналог крытыка мяжуецца з надзвычай цікавым і змястоўным вязьмом журналісцкіх гутарак з «кіношнікамі».

* * *

…а пад яркай аранжава-рудой вокладкай кнігі з выявай жменькі кляновых лістоў скрупулёзна і старанна сабраныя аўтарскія матэрыялы пра кінафестываль «Літапад», пачынаючы з 1994 года: артыкулы пра конкурсныя стужкі, кінаагляды, лірычныя эсэ, інтэрв’ю з арганізатарамі форуму — Сяргеем Арцімовічам, Аляксандрай Захарэвіч, Анжалікай Крашэўскай, Ігарам Сукманавым, Ірынай Дзям’янавай. Жанравая палітра твораў Людмілы Саянковай надзвычай разнастайная, і аўтар выкарыстоўвае яе для стварэння шматпланавай панарамы развіцця кінамастацтва ў сістэме агульначалавечых каштоўнасцей.

Некаторыя прызнанні Людмілы Пятроўны, зробленыя на старонках кнігі, мне падаюцца асабліва важнымі і пранізліва-спавядальнымі, дзе аўтар раскрываецца не толькі як тонкі апавядальнік і ўдумлівы публіцыст, але і як неверагодна шчырая асоба: «Разам з фестывалем мы, пражываючы сваё жыццё, змяняліся, сталелі, набывалі, страчвалі, радаваліся, адчувалі шчасце, а часам — невыносны боль. Гэтая “лінія жыцця” іншы раз бывае вельмі заўважнай у аўтарскіх тэкстах. За некаторымі з іх адчуваецца тое, што здараецца падчас розных узроставых перыядаў: інфантыльнасць, максімалізм, памылковасць, скептыцызм, дыдактызм, уважлівасць, разважлівасць, паважнасць. Але ніколі не было раўнадушша і няшчырасці, эгаізму і жадання кагосьці ў чымсьці папракнуць».

Аўтар называе сваю працу «кнігай-кінааглядам» і лічыць, што з пункта гледжання кіназнаўства матэрыялы, сабраныя ў ёй, падаюцца «не вельмі цікавымі». Але, нягледзячы на такое самакрытычнае меркаванне, можна сказаць, што кніга Людмілы Саянковай мае як дакументальную, так і даследчую каштоўнасць.

* * *

На прэзентацыі кнігі прысутнічалі студэнты, калегі, паплечнікі, сябры. Выказаўшы словы падзякі ўсім-усім, у першую чаргу сваім універсітэцкім, журфакаўскім настаўнікам, прафесарам Ефрасінні Бондаравай і Таццяне Арловай, без педагагічнага таленту і прафесійнага майстэрства якіх — хто ведае? — можа, і не склаўся б творчы лёс Людмілы Пятроўны, яна слушна падсумавала: «Фестываль “Лістапад” уводзіць нашу краіну ў сусветную культурную прастору. І дай Бог, каб і надалей выдаваліся кнігі і пісаліся матэрыялы. Хай усё гэтым дыхае. Хай будзе КІНО!»

* Першы фестываль «Лістапад» адбыўся ў Мінску ў 1994 годзе і меў на мэце аб’ядноўваць лепшыя карціны, створаныя на постсавецкай прасторы. Менавіта таму ён дэбютаваў пад назваю «Фестываль постсавецкага кіно «Лістапад». У першыя гады існавання ў кінафоруме ўдзельнічалі карціны з Расіі, Украіны, Казахстана, Азербайджана. З цягам часу кінафестываль пашырыўся, набыў аўтарытэт, а ў 2003 годзе афіцыйна набыў статус міжнароднага. Тады ў Мінску былі прадстаўлены карціны з Польшчы, Сербіі, Балгарыі, Чэхіі, ЗША, Ірана, Кітая і Японіі. У 2013 годзе Мінскі міжнародны кінафестываль «Лістапад» атрымаў пастаянную акрэдытацыю Міжнароднай федэрацыі асацыяцыі кінапрадзюсараў — ФІАПФ (FIAPF). Сярод акрэдытаваных ФІАПФ больш за 50 кінафестываляў найвышэйшага класа, у ліку якіх Берлінскі, Венецыянскі і Канскі.






# НЕ ФІЛАЛАГІЧНЫЯ МЕТАДЫ

***Пануе меркаванне: калі жанчына сыходзіць у дэкрэт, то выпадае з грамадскага, культурнага і ўсялякага іншага жыцця, апрача свету дзіцяці. Усе магчымыя размовы вірують у сферы памперсаў, коштаў на адзенне, сурвэткі і іншага кшталту дзіцячую прадукцыю.***

***Усё гэта часам слушна. Але ёсць матулі, для якіх дзіця — не нагода вырывацца са звыклага асяроддзя. Журналіста, літаратурнага крытыка Маргарыту Аляшкевіч можна павіншаваць не толькі з нараджэннем дачушкі, але і са з'яўленнем кнігі «Мадэль для забойства» (электроннае выдавецтва BYBOOKS, 2013).***

***Таму пытанні на «Кухні» не будзем прысвячаць пялюшкам, а застанемся ў кулінарна-літаратурнай сферы.***

**— У цябе быў выбар: пасля ліцэя БДУ паступаць у Мінскі дзяржаўны лінгвістычны ўніверсітэт або на філфак БДУ. У выніку ты апынулася на журфаку. Як атрымалася?**

— Я нават хадзіла два гады на курсы ў лінгвістычны ўніверсітэт. Але на журфак іспыты былі ў першай плыні, і я выпадкова туды паступіла. Прычым, атрымала даволі высокія балы, таму пабаялася забіраць дакументы і спрабаваць сябе дзесьці яшчэ.

**— У цябе добрая філалагічная база, выдатнае веданне мовы. Ты не шкадуеш, што вучылася не там, дзе планавала?**

— У мяне заўжды ёсць комплекс філфака. Мне хочацца атрымаць філалагічную адукацыю, я нават хадзіла да тамтэйшых выкладчыкаў на лекцыі. Але ўсё адно баюся, што сапраўды дыхтоўнай філалагічнай адукацыі не маю. Я не прачытала найбольш важныя кнігі. Можна было б падвучыць мовы, бо лаціну я так і не адолела. Мож быць, яшчэ збяруся вучыцца.

**— Ты сябе ў якой ролі больш уяўляеш: журналіст, крытык, філолаг?**

— Насамрэч у мяне шмат іпастасей, і ўсе завязаны на слове. Але ёсць іншыя сферы, якія мяне вабяць, напрыклад, экалогія, бо падабаюцца жывыя істоты. Мне б хацелася атрымаць нейкую экалагічную адукацыю, можа, ветэрынарную.

**— А калі ты канчаткова вызначылася з кірункам дзейнасці?**

— У 8 гадоў напісала першы вершык, а тата пасмяяўся і напісаў да яго працяг, прычым, значна лепшы. Тады я раззлавалася і стварыла цэлую кнігу вершаў, якую сама выдала. І у той момант вырашыла — буду пісьменніцай. А цяпер думаю, што літаратура — не самае моцнае маё месца. Я пакуль раблю перапынак у паэтычнай творчасці. А сапраўдныя паэты ніколі не могуць перастаць пісаць. Яны хоць і кажуць: усё, дакладна апошні верш, але праз некаторы час зноў нешта паэтычнае ў іх нараджаецца. Я таксама не буду сцвярджаць, што канчаткова скончыла з вершамі. Мне вельмі хацелася разабрацца, што такое літаратура, з чаго яна складаецца, а гэта — шлях літаратурнага крытыка. Я стала корпацца ў гэтым. Што і паўплывала на маю творчасць. Бо калі ты ведаеш, з чаго павінен складацца верш, табе значна цяжэй напісаць штосьці, што адпавядала б тваім патрабаванням.

Літаратурная крытыка — цудоўны від творчасці, тым больш крытыкаў у нас мала.

**— А выкладаць табе хацелася?**

— Спачатку — вельмі. Мне падавалася, што гэта цікавы досвед. Потым стала ненавідзець студэнтаў, бо яны аказаліся гультаямі, цягаліся да мяне на пераздачы па сто разоў. А затым настала стадыя прымірэння, калі я вырашыла, што хоць яны не такія, якой я была падчас вучобы, але ўсё адно з імі цікава, ад іх можна шмат што ўзяць. Стараешся даць максімальна, але і з аўдыторыі выходзіш не спустошанай.

**— Ты прасачыла за тры гады выкладання розніцу пакаленняў?**

— Старэйшыя заўжды скардзяцца на малодшых. А паміж першым і другім курсамі дужа вялікая розніца. На першым — яшчэ дзеці. Яны цягам года прыстасоўваюцца, цывілізуюцца. На другім курсе гэта ўжо асобы.

**— Мне падаецца, што, калі выкладчык скончыў ВНУ з чырвоным дыпломам, яго студэнтам даводзіцца цяжка.**

— Я была заўзятым «батаном» і заўжды зайздросціла тым, хто сядзеў на галёрцы, бо яны маглі прыўносіць у сваё жыццё лайдацтва. І таму стаўлюся з разуменнем да такіх людзей. Я не ведала, што можна па дваццаць «хвастоў» назбіраць перад сесіяй. А пасля давялося зразумець, што гэтыя студэнты вельмі цікавыя, з імі ёсць пра што пагутарыць, калі знайсці падыход. Між іншым, беларуская літаратура — гэта пэўны стэрэатып, што ўсе тэксты марудныя і нецікавыя. А калі прымусіш студэнтаў чытаць, дык кажуць — класна.

**— А як прабіцца праз гэтыя стэрэатыпы?**

— Мы чаго толькі на занятках не рабілі! І праз вогнішча скакалі, і танчылі — вельмі не філалагічныя метады! Аднойчы нават пяклі блінчыкі і елі на занятках. Ездзілі ў Строчыцы, глядзелі, якая была страха, кухня, вучылі, як выглядае андарак, прызба. Я сама ў старажытнай літаратуры не ўсе словы ведала. А як можна захапіцца чытаннем, калі палова тэксту незразумелая?

**— Дзіўна чуць, што ты была выдатніцай. Пры гэтым ты шмат дзе працавала, ладзіла імпрэзы, наведвала літаратурныя вечары. Як паспявала быць у віры падзей?**

— Праўда, я тады шмат чаго рабіла. І вакалам займалася, і конным спортам, і на экскурсіі ездзіла. Мне хацелася гэтага, а цяпер і час ёсць, але ахвоты няма. А калі ёсць ахвота, знойдзецца і час.

**— Ты цяпер пішаш дысертацыю. Ці ёсць планы надалей?**

— Планаў шмат. Калі здзейсню штосьці — выдатна. Я мяркую знайсці свой шлях да паляпшэння свету. У мяне вялікія амбіцыі. У літаратурнай крытыцы ўзяла пакуль таймаўт. І зразумела, што не магу чытаць па кнізе ў дзень. Тэксты блытаюцца, і таму патрэбен перапынак. Мы згубілі ўменне маруднага чытання, калі ад працэсу атрымліваеш асалоду. Таму хачу быць крытыкам-аматарам, які сам абірае тэмп чытання.

Для прафесійнага крытыка патрэбна вялікая начытанасць і азарт. Вельмі добра прачытаць класікаў. Чым крытыка больш вострая, тым лепей. Яна не павінна абыходзіць вуглы.

**— А да сваёй паэзіі ты часта звяртаешся, перачытваеш яе?**

— У мяне часам прачынаюцца амбіцыі, і я пачынаю хацець кнігу. Спачатку я чытаю добрымі вачамі, мне ўсё падабаецца, а пасля ўключаецца крытык і пакідае толькі 12 прыстойных вершаў. Якая тут кніжка!

**— Што табе трэба, каб напісаць добры верш?**

— Калі чытаю добрую паэзію, гэта мяне натхняе. Праблема заключаецца ў нашых літаратарах, бо яны не арыентуюцца на прафесійных замежных пісьменнікаў, а звяртаюцца да сябе. Мяне натхняюць вершы Барадуліна і Разанава. Пакуль што мая паэзія — інтэлектуальная забаўка. Што да крытыкі, дык я люблю пісаць пра кнігі, да якіх у мяне не адназначнае стаўленне.

**— А даводзілася адмаўляцца ад артыкулаў?**

— Толькі калі не паспявала. Ды на кнігі сябра я не вазьмуся пісаць рэцэнзію. Яму хочацца падказаць, дапамагчы. А ў публічнай прасторы гэта будзе абразай, а не падказкай.

Калі ў крытыка моцны паэтычны талент, ён не будзе пісаць вершы. А калі свярбіць нешта ўнутры, а слоў выказацца паэтычна не хапае, значыць, будзе добры крытык.

Паэзія, як музыка. Толькі ў музыцы дастаткова сесці за інструмент і адразу бачна: таленавіты ці не. Шкада, што ў паэзіі гэта не заўжды відавочна.



# РУХ ДА СЯБЕ: ЗАГАДКАВЫ МАРШРУТ

***Вялікі Бах ніколі не ступаў па беларускай зямлі! Аднак гэты геніяльны немец дасканала асвоіў «модны» ў нас жанр паланэза, а сваю грандыёзную Сі-мінорную імшу прысвяціў Фрыдрыху Аўгусту Моцнаму, курфюрсту саксонскаму і каралю Рэчы Паспалітай, які, між іншым, выношваў ідэю незалежнасці ВКЛ і якога падтрымлівалі Радзівілы.***

Сын кампазітара — Карл Філіп Эмануэль Бах быў настаўнікам і сябрам Яна Голанда, які ў маладосці пакінуў родную Германію, на доўгія гады звязаў свой лёс з асяроддзем Радзівілаў, а оперу «Агатка, або Прыезд пана» (яе прынята лічыць першай беларускай операй) напісаў у Нясвіжы на лібрэта Мацея Радзівіла. Голанд — сучаснік Моцарта, які, дакладна вядома, ніколі не гасцяваў у Нясвіжы. Аднак абодва кампазітары, «авангардысты» XVIII стагоддзя, не згаворваючыся, працавалі ў агульным інтанацыйна-стылявым полі. Ці варта здзіўляцца, што напісаныя ў адзін год знакамітая нясвіжская «Агатка» і моцартаўскі шэдэўр «Вяселле Фігара» маюць у гучанні шэраг падабенстваў і нават супадзенняў? У пазнейшы час менавіта пад уплывам творчасці Моцарта, нават цытуючы яго музыку, ствараў оперу «Фаўст» (паводле арыгінальнага лібрэта самога Гётэ!) Антоній Генрык Радзівіл, які ў маладыя гады прыехаў у Германію, атабарыўся там на ўсё жыццё, а ў доме ягоным знаходзіў прытулак Фрыдэрык Шапэн — між іншым, прыхільнік фартэпіянных паланэзаў Агінскага... Чым не гістарычны серыял з удзелам легендарных персон!

Зрэшты, веды такога кшталту пачалі распаўсюджвацца ў нас адносна нядаўна. Гадоў 30 таму ўсё яшчэ заставаліся актуальнымі падручнікі па гісторыі беларускага музычнага мастацтва, са зместу якіх вынікала: яно з’явілася і пачало развівацца толькі ў БССР, а ў дарэвалюцыйны час тут, апроч фальклору, сваёй музыкі не існавала. Такая аднабокая выснова не ўсімі прымалася на веру. Удумлівым і дапытлівым суайчыннікам яна падавалася спрошчанай, ідэалагічна «заангажаванай», не адпаведнай глыбінным повязям гістарычных рэалій. Сумніў пранікаў у асяроддзе спецыялістаў, змяняўся цікаўнасцю, цікаўнасць — навуковым інтарэсам.

Вядома, нешматлікія шукальнікі праўды пра музычную мінуўшчыну не збіраліся спрачацца з відавочным. Хіба можна адмаўляць, напрыклад, што наша нацыянальная кампазітарская школа фарміравалася менавіта ў савецкі час, калі была створана Беларуская дзяржаўная кансерваторыя (цяпер акадэмія музыкі)? Але на падставе гэтага факта нельга замоўчваць і выкрэсліваць са свядомасці ўсё, што дзеелася ў нас на радзіме да XX стагоддзя, адлучаць новыя пакаленні ад унікальнай духоўна-мастацкай спадчыны народа, яго найскладанага, часам парадаксальнага гістарычнага досведу. Энтузіясты нацыянальна-культурнага адраджэння сярэдзіны 1980-х імкнуліся пераадолець «масавае бяспамяцтва» і, угледзеўшыся ў былое, нагадаць, што ў беларусаў ёсць не толькі цудоўны аўтэнтычны фальклор ды яскравыя набыткі савецкай эпохі, але і шматвяковыя традыцыі надзвычай разнастайнай прафесійнай творчасці, багатая старасвецкая музычная культура, вельмі своеасаблівая і неад’емная ад еўрапейскага кантэксту.

Неўзабаве да гэтых энтузіястаў далучылася і выпускніца Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі па класе фартэпіяна Вольга Дадзіёмава. Захоплена ўспрыняла новую для сябе сферу дзейнасці, пад навуковым кіраўніцтвам знанага музыколага Іны Назінай вызначыла ўласны напрамак. На

пачатку 1990-х выйшлі першыя кнігі Вольгі Дадзіёмавай, якія сталіся своеасаблівым компасам у музычным свеце Беларусі XVIII стагоддзя...

**— Вольга Уладзіміраўна, якім бачыцца сёння той незабыўны рамантычны перыяд узлёту шырокай цікавасці да гісторыі нашай музыкі?**

— Абсалютна містычным чынам ідэя ўзнаўлення спадчыны захапіла з часам усе ўстановы і арганізацыі, якія маюць дачыненне да мастацкага жыцця. І акадэмія музыкі, і ўніверсітэт культуры, і філармонія, і творчыя калектывы — тыя волаты і стаўпы, на якіх трымаецца гэты працэс. Але на самым пачатку нават паверыць у падтрымку такога працэсу было немагчыма, бо вельмі супярэчлівыя пачуцці выклікалі самі нотныя крыніцы, у якіх не было праяў «глебавага фермента», акрэсленага фальклорнага падмурка. І калі на самым першым этапе гэтыя знойдзеныя крыніцы, выяўленыя матэрыялы прапаноўваліся прафесіяналам — і выканаўцам, і вучоным, іх рэакцыя далёка не заўсёды была спагаднай і зычлівай. Першай арганізацыяй, якая звярнула ўвагу на ідэю ўзнаўлення занядбанай спадчыны, быў саюз музычных дзеячаў. Яго кіраўнікі ды актывісты падтрымалі гэты рух менавіта сэрцам, бо людзі з меркантыльным і прагматычным падыходам за «справу-ўтопію» ніколі не возьмуцца. Да таго ж намеснік старшыні БСМД Наталля Кузняцова-Вітчанка, з якой мы разам вучыліся ў кансерваторыі, папросту давярала маёй захопленасці. Саюз падтрымаў таксама правядзенне першага фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы», з энтузіястамі якога Віктарам Скарабагатавым і Ганнай Каржанеўскай мы літаральна ішлі насустрач адно аднаму. І вось яшчэ што: Аляксандр Друкт, музыказнаўца і кампазітар, якога ўжо не было сярод жывых на той час, гэты рух прадбачыў! Як Мендзялееў паводле сваёй табліцы вылічыў адсутныя хімічныя элементы, прадказаўшы іх існаванне і адкрыццё, так і Аляксандр Друкт, не маючы канкрэтнага матэрыялу, проста вылічыў існаванне таго, чаго не стае, прадбачыў, што будуць знойдзены нотныя помнікі, якія пацвердзяць: і рэнесанс, і класіцызм, і рамантызм — усе



*Вольга Дадзіёмава вядзе канцэрт.*

гэтыя стадыі прайшла музычная культура Беларусі, у асаблівым, магчыма, выглядзе. І гэты стадыяльны працэс ён у тэарэтычным плане паказаў нават у сваёй брашуры. Ды на той час нашы музычныя ўтопіі не маглі знайсці падтрымку ў большасці прафесіяналаў. Я іх разумею і з імі ніколі і не спрачалася. Проста тым, хто не трымаў у руках такія архіўныя матэрыялы, рэзка перабудавацца, разгарнуцца ў іншы бок немагчыма. Добра, калі ёсць падсвядомае, а, можа, і ўсвядомленае адчуванне таго, што павінна існаваць гісторыя ў **народа** — народа ў шырокім катэгарыяльным сэнсе гэтага паняцця. Народа, які яднае і носьбітаў фальклорнай традыцыі, захавальнікаў гэтай уласна этнічнай, вельмі магутнай нацыянальнай плыні, і сваю інтэлігенцыю, і колішнюю эліту, магнатэрыю, тых прадстаўнікоў, што адышлі ў іншую моўную сферу, іншую этнакультурную галіну, але ўсё роўна з'яўляюцца рэпрэзентантамі Беларусі.

**— Такім разуменнем і вылучаўся саюз музычных дзеячаў?**

— Думаю, гэтыя дзівосныя, «блажэнныя» людзі падтрымалі нашу ўтапічную



*Вольга Дадзіёмава прадстаўляе выканаўцаў.*

ідэю не таму, што чакалі, калі яна стане агульнапрынятай і нават запатрабаванай. А таму, што яны вызначаліся плюралістычным стаўленнем да рэчаіснасці і не трымаліся за пэўныя каноны, пры якіх усё, што не адпавядае складзенай дактрыне, не мае права на жыццё. Вельмі рызыкоўна было на той час прэзентаваць музычныя помнікі, якія і да сённяшняга дня нават не ўспрымаюцца ў свядомасці многіх прыналежнымі да культуры Беларусі. Дык сёння існуе ўжо адпаведная тэорыя! А на той момант? Прывозіш музычныя помнікі, адшуканыя ў архівах замежжа, — а там ніводнага беларускага слова, ніводнай фальклорнай мелодыі. Нясеш у саюз, Наташа Вітчанка радуецца: «Бяро-ом!!! Будзем іграць, спяваць, адраджаць». Падкрэслю, тады курсаў гісторыі музычнай культуры Беларусі да ХХ стагоддзя не тое што ў вучылішчах і школках — у кансерваторыі не існавала. Таму сёння асабліва істотнай мне ўяўляецца падтрымка гэтай дзейнасці адметнымі асобамі. Кагосьці ўжо няма сярод нас... Ядвіга Грыгаровіч, незабыўная рэктарка БДУКіМ, тады інстытута, дзе я выкладала, адпусціла мяне на працу ў акадэмію музыкі дзеля таго, каб і там развівалася беларуская справа, вывучалася гісторыя музычнай культуры Беларусі — тое, што заўсёды падтрымлівала Ядвіга Дамінікаўна. Нездарма ў інстытуце існавала кола даследчыкаў: незабыўны Гурый Барышаў, а таксама Анатоль Грыцкевіч і тройца «ўтапістаў», якія займаліся ХІХ стагоддзем, — Вера Пракапцова, Аляксандр Капілаў і Алена Ахвердава. Я далучылася да іх дзейнасці з яшчэ больш утапічным ХVІІІ стагоддзем. І вучыліся мы па кнігах Адама Мальдзіса, які тады быў ужо гуру. З намі поруч працавалі дырэктар былога Інстытута праблем культуры Уладзімір Скараходаў, маэстра Міхась Казінец, салісты Леў Гарэлік, Юрый Гільдзюк, Уладзімір Дулаў, Ігар Алоўнікаў, многія іншыя выканаўцы, у тым ліку цэлы калектыў энтузіястаў на чале з Міхаілам Фінбергам.

* * *

Больш як чвэрць стагоддзя Вольга Дадзіёмава з’яўляецца навуковым кіраўніком асветніцкіх фэстаў, якія ладзіць у розных рэгіёнах краіны Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі са сваім лідарам Міхаілам Фінбергам. «Музы Нясвіжа», «Мірскі замак», «Чачэрскія сустрэчы», «Гасцёўня Напалеона Орды», мастацкія святы ў Заслаўі, Мсціславе, Тураве, Навагрудку, Хойніках, Любані... Для кожнага, з улікам мясцовых гістарычных традыцый, распрацоўваецца навукова абгрунтаваная канцэпцыя, адпаведна якой складаецца праграма. Калі ў яе ўключана правядзенне навуковай канферэнцыі, Вольга Уладзіміраўна загадзя апякуецца выданнем зборніка дакладаў і паведамленняў, падрыхтаваных удзельнікамі гэтых чытанняў, піша прадмову. А яшчэ яна вядзе канцэртныя праграмы такіх фестываляў: іх рыхтуюць камерныя калектывы, што працуюць у складзе знакамітага аркестра. Ды як вядзе — заслухацца можа нават чалавек, далёкі ад класікі! Жывы, даходлівы, дасціпны навукова-асветніцкі каментарый вядучай захапляе залу і спрыяе таму, што ў беларускай глыбінцы выхоўваецца ўжо не адно пакаленне аматараў і знаўцаў даўняй беларускай музыкі, знаёмых таксама і з айчыннай класікай ХХ стагоддзя, і з шэдэўрамі сусветнага музычнага мастацтва. І ўвесь гэты складаны асветніцкі працэс ладзіцца праз вобразную і яскравую беларускую мову.

**— «Беларускі след» у вашай свядомасці пакінула сям'я. Бацька Уладзімір Дазіёмаў быў пісьменнікам і журналістам. Маці Марыя Захараўна выкладала беларускую літаратуру ў Рэспубліканскім каледжы пры акадэміі музыкі...**

— Толькі цяпер, успамінаючы бацьку, я асабліва востра адчуваю, як шмат ён значыў для мяне, хаця яго прысутнасцю былі ўпрыгожаны некалькі гадоў майго дзяцінства — той кароткі шчаслівы час, калі ўсе мы жылі разам, у адзінай сям'і, у адным доме... Толькі цяпер пачынаю разумець, што менавіта першыя дзіцячыя ўражанні шмат у чым вызначылі контур, змест і стыль далейшага майго існавання, лад якога фарміраваўся на прыкладзе менавіта бацькавага жыцця. А яго жыццё вызначалі магутная творчая дамінанта, высокая мастацкая нота, вяршэнства інтэлектуальнай працы і няспынны пошук, кампанейская адкрытасць і ўнутраная адзінота, усмешлівая самаіронія і глыбінны душэўны трагізм. Прыгадвецца, як ён чытаў маці, брату і мне чарговы раздзел свайго рамана «Над Нёманам». Мы таксама першымі ацэньвалі «на слых» радкі з яго «Белазёрскага дзённіка», уладкаваўшыся на падлозе пакоя (бо крэслы і нават ложкі завалены рукапісамі). Вось — прастора новай кватэры, дзе не змаўкалі строкат друкавальнай машынкі і тэлефонныя званкі: як адказны карэспандэнт «Литературной газеты» бацька па некалькі разоў на дні перадаваў тэрміновыя паведамленні, рэцэнзіі, артыкулы. Маці цалкам была занята рэдагаваннем яго рукапісаў, але час-почас звярталася да нас з братам: «Цішэй, тата працуе». Тое ж на лецішчы, дзе таксама не сціхалі ні мы, ні татава машынка. Але прыход яго калег і суседзяў Андрэя Макаёнка, Аляксея Кулакоўскага спыняў працу, час мінаў у шчырых размовах і творчых спрэчках. Іх удзельнікамі былі ў розныя гады Іван Шамякін і Васіль Быкаў, Максім Лужанін, Уладзімір Карпаў, Іван Новікаў, Аляксей Карпюк. Добра памятаю Льва Касіля, з якім бацькі пасябравалі ў Доме творчасці ў Крыме, памятаю Расула Гамзатава і Чынгіза Айтматава, з чыімі сем'ямі жылі побач у гады бацькавай вучобы на Вышэйшых літаратурных курсах у Маскве. І Белавежскую пушчу, дзе былі з Нілам Гілевічам і ўпершыню пабачылі некрануты сасновы бор, які літаральна зачараваў тату. Берагу яго пранізлівыя вайсковыя нататкі — бадай, самае каштоўнае, што засталося ў мяне з яго рукапісаў...

* * *

Прэм'ера на Беларускімі радыё оперы «Агатка», ноты якой былі знойдзены і прывезены Вольгай Дадзіёмавай. Канцэрт «Шляхі мецэнацтва. Да 500-годдзя дынастыі Радзівілаў», які ладзіўся ў аднаўленай зале вялікакняжацкага палаца і паяднаў музыку розных эпох, стыляў і жанраў. Гучалі творы Вацлава з Шамотул, Яна Карловіча, Яна Голанда, Міхала Казіміра Агінскага, прадстаўнікоў роду Радзівілаў: Мацея, Антонія ды Соф'і. Навуковыя канферэнцыі «Шэсць стагоддзяў беларускай музыкі», «Беларуская музыка ў каардынатах еўрапейскага мастацтва»... Ёсць што ўспомніць, пра што паразважаць.

**— Перад нашымі сучаснікамі адкрываецца заваблівы, нязведаны і ўсё яшчэ загадкавы беларускі музычны абсяг. Як не заблукаць між утопіяй і рэальнасцю, вандруючы па ім?**

— У навуцы вельмі важна казаць праўду. Нават у тым выпадку, калі гэтая праўда не падабаецца і нам, даследчыкам, і слухачам. Вельмі хацелася б, каб беларуская музыка мела высокае нацыянальнае аблічча пачынаючы ўжо з часоў рэнесансу, барока, і каб эпоха класіцызму ў нашай музычнай спадчыне была пазначана велічнымі імёнамі, кшталту Моцарта, Гайдна, Бетховена; каб эпоха рамантызму ўражвала рэалізацыяй ідэі стварэння нацыянальнай кампазітарскай школы ўзроўню Мусаргскага, Чайкоўскага, Рымскага-Корсакава... Глінка мог бы стаць беларускім класікам, як і Манюшка мог бы стаць беларускім класікам рамантызму. Але мінуўшчына ўжо адбылася. І даўніна застаецца для нас замкнёным пакоем, ключы ад якога назаўжды страчаны. Але тое, што не збыліся нашы мары і пэўныя спадзяванні, не значыць, што даследчыкі мусяць разглядаць гэтую праўду толькі ў негатыўным аспекце. Мы мусім і казаць праўду, і тлумачыць, чаму гэты

«музычны сцэнарый» разгортваўся ў часе і ў прасторы не паводле тых законаў, да разумення якіх мы прызвычаіліся на прыкладах розных культур. У культуры Беларусі была іншая функцыя, іншая жыццядайная, выніковавая місія ў разгорце еўрапейскага музычна-гістарычнага працэсу. Наша культурнае донарства, гэтае дараванне сваіх лепшых сыноў іншым народам трэба ўспрымаць як сінонім ахвярнасці. А без тых ахвяр не магла б здзейсніцца гісторыя еўрапейскай музычнай культуры. Сказана, магчыма, занадта ўзнёсла — ну, няўжо без культуры Беларусі не ажыццявіўся б еўрапейскі музычна-гістарычны працэс? Не ажыццявіўся б! Я магу з поўнай дакладнасцю як вучоны гэта казаць. Сапраўды, без удзелу музычнай культуры Беларусі ніколі не ажыццявіліся б тыя працэсы, якія зведалі культуры суседніх ці больш далёкіх краін. Бо наша культура прымала, адаптавала, пераносіла вельмі важныя і плённыя заходнееўрапейскія плыні, праявы высокага мастацтва і мастацтва побытавага. Калі б яна не адаптавала на сваёй глебе і не перанесла, не падаравала нешта культуры, скажам, Расіі, дык была б бяднейшая і зусім іншая культура нашай усходняй суседкі. І не магла б развівацца ў тым рэчышчы, у якім яна развілася, культура Польшчы, якая ўзбагацілася дзейнасцю і Станіслава Манюшкі, і Яна ды Мячыслава Карловічаў. Многія выхадцы з Беларусі, плён іх дзейнасці — непадзельная спадчына і беларускага, і польскага, і літоўскага, і рускага народаў. У часы існавання Расійскай імперыі Беларусь, якая ўваходзіла ў яе склад, даравала свае таленты, якія з'язджалі ў расійскія сталіцы, дзе яшчэ з XVII стагоддзя былі пажаданымі гасцямі, а то і станавіліся сынамі Расіі — я маю на ўвазе Восіпа Казлоўскага, аўтара першага расійскага гімна, і Міхаіла Глінку, чый талент сфарміраваўся на беларускай глебе і чыя «Камарынская» насамрэч з'яўляецца нашай славутай «Лявоніхай па-даўнейшаму». Аднак думаю, што ўсе тыя кампазітары, якія жылі і дзейнічалі на тэрыторыі Беларусі, калі гэтая тэрыторыя ўваходзіла ў склад Расійскай імперыі, у роўнай ступені належалі рускай, беларускай, літоўскай і польскай культурам. Гэтаксама ўся расійская спадчына мае поўнае дачыненне, асабліва ў XIX стагоддзі, і да культуры Беларусі. Я цяпер, дарэчы, пішу вялікую работу, звязаную з беларускімі рэаліямі ў жыцці і творчасці Чайкоўскага. Ды і каго б мы ні прыгадалі з заходнееўрапейскіх, усходнееўрапейскіх, чэшскіх, польскіх, украінскіх і рускіх кампазітараў, няма ніводнага, які так ці інакш, наўпрост ці апасродкавана не быў бы звязаны з культурай Беларусі.

Калі я прыязджаю ў іншыя краіны на навуковыя канферэнцыі і пачынаю расказваць вучоным з сусветнымі імёнамі пра культуру Беларусі, пра яе спецыфіку і пра яе даследаванні, яны не толькі шмат пра што даведваюцца, але і шмат што прасвятляюць для разумення культуры сваёй. Напрыклад, на шапэнаўскім кангрэсе ў Польшчы разгарнулася дыскусія, звязаная менавіта з рэаліямі беларускай культуры, што дала Польшчы не Шапэна, а Яна Карловіча, які сваю рапсодыю назваў «літоўскай», выкарыстаўшы ў ёй матэрыял беларускіх жніўных песень. Я даводзіла, што гэта абсалютна натуральная справа для беларуса (згадвала і творчасць Міцкевіча, які пісаў па-польску, у Польшчы не жыў, стаўся польскім класікам і выкарыстоўваў беларускі фальклор). Ды мне не верылі, пакуль не ўзяў слова 96-гадовы польскі даследчык, прызнаны аўтарытэт, і не сказаў: спадарыня абсалютна мае рацыю, я да гэтай жа высновы прыйшоў яшчэ ў 1950 гады, калі пісаў пра «Літоўскую рапсодыю» Карловіча, і вось цяпер у мяне «ўсе файлы сышліся». Тут жа мяне пачалі распытваць пра іншыя праявы культуры Беларусі, якая шмат што дала розным народам і аказалася настолькі цікавай, не падобнай у сваім гістарычным разгорце, у сваёй функцыянальнай спецыфіцы, у сваім месцы сярод іншых культур суседніх і далёкіх народаў, што выклікае вялікую ўвагу нашых замежных калег.

І камплексаваць з-за таго, што наша старадаўняя музыка не мае нацыянальнага аблічча, — бессэнсоўна. А дапускаць тэрміналагічныя перакосы і трактаваць беларускі музычны шлях як бездакорна нацыянальны ад самага пачатку — няправільна. Музыка Беларусі, музыка на тэрыторыі Беларусі мае вельмі шырокую трактоўку, многія помнікі з'яўляюцца агульным скарбам некалькіх народаў, іх агульнай спадчынай. І мы не прысабечваем ні польскую, ні рускую, ні літоўскую спадчыну і не трактуем яе як

нацыянальную беларускую, а толькі глядзім на факты і імкнёмся іх трактаваць вельмі карэктна. Гэтай карэктнасці я патрабую ад сваіх студэнтаў. У грунтоўнай кнізе маёй колішняй аспіранткі Святланы Немагай пра Міхала Клеафаса Агінскага вы не знойдзеце адназначнага сцвярджэння, што гэта толькі беларускі, наш нацыянальны кампазітар. Хаця па ўзроўні яго папулярнасці ў нас ён перасягае многіх свядомых будаўнікоў беларускай нацыянальнай кампазітарскай школы.

**— Падчас асветніцкіх фестываляў у малых гарадах даводзілася назіраць, з якой цікавасцю слухае вас моладзь, як шчыра цікавяцца навучэнцы музычных школ адпаведнай літаратурай, просяць дапамагчы ў набыцці вашых кніг. Напэўна, хтосьці з юных меламанаў марыць вучыцца ў вас... А якія праблемы «прыносяць» учарашнія абітурыенты?**

— Праблема ў тым, што мы не выхаваныя на дакладных ведах не тое што музычнай — агульнай гісторыі. Я заўважаю гэта на першых занятках з беларусістамі — студэнтамі, якія свядома прыходзяць у акадэмію музыкі дзеля таго, каб паглыблена вывучаць гісторыю айчыннай музычнай культуры. Размову з першакурснікамі пачынаю, можна сказаць, пасля толькі што здадзенага імі тэста па гісторыі. За ўсе мае гады выкладання ніводны з іх не адказаў на зусім простае пытанне: «Хто быў нашым Вялікім князем у часы Пятра І?» У маладых людзей круглеюць вочы: «А што, не Пётр І?» Хто ў тыя часы намі кіраваў — нават прозвішчаў не ведаюць, але ж здалі тэст па гісторыі! І калі яшчэ Стэфан Баторый для іх усё ж такі асоба, звязаная з беларускай гісторыяй, бо яго палац стаіць у Гродне, ды і прозвішча Радзівілаў «замацавана ў камені», а пра Агінскага нагадваюць і сядзіба ў Залессі, і помнік у Маладзечне, дык у веданні гісторыі Беларусі ў цэлым — белая пляма. І гэта датычыць не толькі студэнтаў, сарыентаваных на музыку, але і ўсяго вучнёўскага пакалення, і не толькі сённяшняга, але і некалькіх папярэдніх. Наша пакаленне было таксама адлучана ад гістарычных ведаў, ад сваіх гістарычных рэалій. Праўда, мы ў школе атрымалі дыхтоўны падмурак класічных ведаў — перадусім па літаратуры. Вядома, выхоўваліся на рускай літаратуры, а не на беларускай. Хаця я гадавалася ў сям'і філолагаў і дома размаўлялі па-беларуску, першымі маімі кніжкам былі класічныя казкі Чукоўскага, і ўся далейшая адукацыя праходзіла пад сцягам Пушкіна, Лермантава, Талстога, Дастаеўскага... Але ж гэта не горшая літаратура ў свеце, і глыбіня яе ведання — прыкмета пэўнага інтэлектуальнага поля. Ды непакоіць думка: чаму адначасова з тым і на тым самым узроўні не выхоўваліся і мы ў дзяцінстве, як і дзеці цяперашнія, і мой унук таксама, — чаму не выхоўваліся на беларускім слове, на беларускай дзіцячай літаратуры, на беларускіх казках? Пакуль гэтага не будзе ў садку і пакуль гэтае слова не стане арганічным для толькі што народжанага пакалення, мы не будзем глыбока дасведчанымі ні ў айчыннай літаратуры, ні ў айчыннай гісторыі.

Аднак, глянуўшы на сённяшнюю сітуацыю вачамі аптыміста, здзіўляешся, што

***ДАВЕДКА «М»***

***Вольга Дадзіёмава — доктар мастацтвазнаўства, лаўрэат спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Беларусі дзеячам культуры і мастацтва, уладальніца міжнароднага тытула «Жанчына Года», прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Даследчыца старадаўняй айчыннай музычнай культуры, «здабывальніца» нотных рарытэтаў у замежных бібліятэках і архівах, яна рупіцца пра ўзнаўленне ў рэпертуары выканаўцаў і як мага шырэйшую прапаганду той музыкі, што калісьці стваралася і гучала ў нашым краі. Ёю апублікавана больш як 200 арыгінальных работ, і не толькі на радзіме, а і ў Германіі, ЗША, Літве, Польшчы, Расіі; выдадзена 5 манаграфій, 8 хрэстаматый. На занятках са студэнтамі «агучвае» матэрыял, які не ўвайшоў у навучальныя дапаможнікі. Адна з новых кніг — «Гісторыя музычнай культуры Беларусі да ХХ стагоддзя» воляю яе аўтаркі размешчана ў інтэрнэце і даступная для ўсіх.***

при жыцці аднаго пакалення — гэта проста неверагодна! — адбылася поўная рэканструкцыя ўсяго музычна-гістарычнага працэсу, які разгортваўся на Беларусі ва ўсіх кірунках, у навуковым, крыніцазнаўчым полі, у навучальным працэсе, у выканальніцкай практыцы. Ва ўсіх спецыялізаваных установах, ад мастацкіх школ да ВНУ, гісторыя музычнай культуры Беларусі да XX стагоддзя ўжо зрабілася нармальным прадметам, пра ўвядзенне якога гадоў 20 таму нават падумаць было немагчыма. У гісторыі ніводнага народа не было такога выпадку, каб літаральна за чвэрць стагоддзя ідэя авалодала масамі і была падхоплена, распрацавана гуртам даследчыкаў, узведзена з няворанага цаліка ва ўражлівы гмах новай галіны ведаў. Ва ўнутраным дворыку гэтага гмаха — шырачэзнае мастацкае поле, дзе ўсё жыве, пераліваецца рознымі фарбамі: тут шчыруюць выканаўцы, і мы, даследчыкі, не паспяваем ужо сачыць за тым, што яны робяць: іх нават не пералічыць, бо, апроч вядомых прафесіяналаў, сотні аматарскіх, школьных, студэнцкіх, народных гуртоў з прыемнасцю граюць старадаўнюю музыку Беларусі.

Грамадства з задавальненнем успрымае гэты рух праз стагоддзі як рух да сябе. І лягчэй, чым спецыялісты, прымае вельмі простую ідэю: старажытныя архітэктурныя помнікі на нашай зямлі — не маўклівыя сведкі мінуўшчыны, а сведкі былога жыцця, яны поўніліся рознымі мовамі ды музычнымі гукамі. Грамадства не бянтэжыць, што наша музыка, наша гукавая прастора з'яўляецца агульным здабыткам некалькіх народаў, што яна ўзнікала ў такім полі, якое мела ўніверсальны характар, а не вузка лакальны, што спецыфіка беларускага гістарычнага шляху абумовіла асаблівасці шляху музычнай гісторыі Беларусі. Гэта трэба прымаць, тлумачыць і ведаць. Вось такая ўнікальнасць і такая навуковая загадка, разгадаць якую вельмі важна, пачэсна і надзвычай цікава.

*Святлана БЕРАСЦЕНЬ,*
*фота аўтара*

## *ПАРТНЁРЫ-ІНФА*

**Сваіх 75-гадовых юбіляраў** віншуе Беларускі саюз музычных дзеячаў. Уладзімір Скараходаў — заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, доктар навук, прафесар, аўтар актуальных даследаванняў у сферы музыкі, настаўнік многіх ужо вядомых кларнетыстаў і таленавітай моладзі; зрабіў значны ўнёсак у нацыянальную культуру падчас працы на адказных дзяржаўных пасадах. Валерый Аўраменка — знаны хормайстар, прафесар, арганізатар і кіраўнік разнастайных спеўных калектываў, адзначаных на міжнародных конкурсах і фестывалях; актыўна далучаецца да падрыхтоўкі новых пакаленняў харавых дырыжораў; спрыяе развіццю традыцый аматарскага харавога спявання.





**Моладзь — актыўны наведвальнік** новага цыкла канцэртаў «Спяваюць праваслаўныя хары». Яго распачаў у Беларускай дзяржаўнай філармоніі некамерцыйны прадзюсарскі цэнтр «Класіка» БСМД (арт-дырэктар Валерый Уколаў). Моладзь таксама актыўны ўдзельнік такіх музычных праграм. Падчас нядаўняга канцэрта на філарманічнай сцэне выступілі, сярод іншых, моладзевыя хары Мінскага Свята-Пятра-Паўлаўскага сабора і Свята-Духава кафедральнага сабора нашай сталіцы. Чарговы канцэрт храмавых спеўных калектываў рыхтуецца ўжо на вясну. Ён будзе прысвечаны святу Вялікадня.

# Бярозка

№ 2/2014(1029)











**bjarozka@mail.ru**
**vk.com/club 34570145**



# Алесь Бадак, Алена Масла: Праз літконкурс — да дзяцей



***Наколькі значнае месца конкурсы займаюць у літаратурным працэсе? Трэба высветліць. Удзельнікі размовы пра конкурсныя творы для дзяцей — не проста эксперты, а людзі, якія самі пішуць для дзяцей, ведаюць выдавецкую справу і даволі часта ўваходзяць у склад журы разнастайных літаратурных спаборніцтваў, — Алена МАСЛА і Алесь БАДАК.***

**— Ці патрэбен сучаснай беларускай дзіцячай літаратуры такі спосаб выяўлення лепшых, як літаратурны конкурс?**

**А. Б.** — Безумоўна патрэбен, прычым, незалежна ад жанру літаратуры. Таму што конкурс, у якім бы фармаце ён ні праходзіў, якую б ні меў аўдыторыю і ўзровень, мае права на жыццё, ад конкурсу — толькі карысць.

**А. М.** — Падтрымліваючы Алеся Мікалаевіча, хацела б нагадаць, што цяпер праводзіцца шэраг літаратурных конкурсаў. Гэта не нейкае новаўвядзенне, не адкрыццё. Проста быў перыяд зацішша, які зусім не спрыяў развіццю літаратуры. А мы з Алесем Мікалаевічам, як сябры па юнкараўскай працы, можам засведчыць, што ў нашы школьныя і юнацкія гады конкурсы праводзіліся газетамі і часопісамі для дзяцей і падлеткаў. Сёння вяртаемся да традыцый.

**А. Б.** — Літаратурныя прэміі — гэта таксама конкурсы, бо адбіраюць лепшае. Нават не важна, якога памеру гэтая прэмія, галоўнае, што яна ёсць. Кожнаму аўтару, не важна — пачатковец ён ці ўжо прызнаны, хочацца, каб яго ацанілі, каб праца не была дарэмнай. А для пісьменніка яна рэалізуецца часцей за ўсё ў яго вольны час. Прыйшоў з працы — пачаў пісаць.

**— Сёння літаратурны конкурс можа задаць арыенціры?**

**А. Б.** — Хутчэй аўтары, якія сталі пераможцамі. Таму што выбіраецца ж лепшае і самае арыгінальнае. Гэта магчымасць звярнуць увагу чытачоў на больш перспектыўнае, што створана тым ці іншым аўтарам. Чым больш з'явіцца новых чытачоў, тым больш спадзяванняў, што дзякуючы конкурсам нейкі жанр атрымае развіццё, на яго звернуць увагу тыя, хто яшчэ шукае сябе ў літаратуры.

**А. М.** — А яшчэ конкурсы дапамагаюць аўтарам зразумець і ацаніць правільнасць абранага творчага вектара. Творчая праца — гэта бясконцыя эксперыменты і адкрыцці. Цікава, як на іх рэагуе чытач — прымае ці адпрэчвае.

**А. Б.** — Калі прыгадаць творы для дзяцей, што пісаліся ў 1960—1980-я, то трэба сказаць, што літаратура тады была досыць беднай на жанры. Напрыклад, дзіцячая фантастыка амаль не развівалася. Янка Маўр напісаў фантастычную аповесць «Фантамабіль прафесара Цылякоўскага» — і на яго адразу накінулася крытыка: твор ненавуковы. А паспрабуйце ўспомніць казачнага героя, створанага аўтарскай фантазіяй, якога да гэтага не было ў прыродзе. Цяжка! Бо героямі аўтарскіх казак былі вядомыя нам жывёлы, ды і самі творы нярэдка стылёва падрабляліся пад беларускія народныя, з-за чаго таксама выглядалі даволі аднастайнымі. А сёння дапамагаюць разнастайнасці твораў і конкурсныя працы. Нават тыя, што ў гэтым годзе дасылалі на «БрамаМар»: хоць у мяне ёсць шмат пытанняў да ўдзельнікаў, але ў цэлым яны парадавалі. Тут вам сярод герояў і князь Альгерд, і ноўтбук!

**А. М.** — Мой улюбёны жанр — казка. Калі ў 2006 годзе стала працаваць у выдавецтве «Мастацкая літаратура», пачала рабіць укладанне зборнікаў — і хутка ў нас пачаўся бум на казку... Спачатку гэта вельмі цешыла, а цяпер ужо ёсць з чаго выбіраць. І можна нават гаварыць пра паджанры: казка як прыпавесць, казка для самых маленькіх, казка-фэнтэзі і іншыя. Таму, безумоўна, творы-пераможцы задаюць вектар.

**— Ці ўздзейнічае на выбар чытачоў удзел аўтара ў літаратурным конкурсе?**

**А. М.** — Ёсць проста ўдзел у конкурсе, ёсць шорт-ліст, у які трапляюць мацнейшыя творы, ёсць намінанты на прэмію і пераможцы. Дык вось, існуе шэраг такіх літаратурных конкурсаў, трапіць у шорт-ліст якіх — ужо рэкамендацыя для чытача, што з творам варта азнаёміцца... У дадзеным выпадку ўсё залежыць менавіта ад прэстыжнасці, вядомасці конкурсу і ўзроўню цікавасці да яго публікі.

**А. Б.** — Кожны конкурс ставіць перад сабой пэўныя задачы, якія могуць адрозніваццa. Хтосьці шукае лепшага аўтара для выдання кнігі, іншыя выбіраюць матэрыялы, каб потым іх экранізаваць, ці выдаюць па выніках конкурсу калектыўны зборнік. Але ўсё гэта стымулюе аўтараў. Чым цікавейшыя ўмовы для пераможцаў, тым больш удзельнікаў прыцягне конкурс.

**— Літаратурны конкурс можа адэкватна ацаніць літаратурную якасць твораў і дапамагчы адфільтраваць тое, што мае сэнс чытаць дзецям, ад таго, што не варта?**

**А. М.** — Калі размова ідзе пра конкурсы для пачаткоўцаў, то абавязкова ў журы запрашаюцца спрактыкаваныя людзі, якія не першы год у літаратуры і маюць літаратурны густ.

**А. Б.** — Тут, канешне, на сто працэнтаў усё залежыць ад журы, але не трэба забываць, што ў кожнага з членаў журы свая думка і ўласны літаратурны густ. І, на жаль, пэўная суб'ектыўнасць тут не выключана. Але гэта тычыцца больш вызначэння лепшых сярод прафесіяналаў. Паглядзіце, напрыклад, кожны раз пасля вызначэння чарговага лаўрэата Нобелеўскай прэміі абавязкова пачуеш ці прачытаеш, што зноў не таму далі! Але калі мы гаворым пра літаратурны конкурс, у якім прымаюць удзел пачаткоўцы, то адрозніць слабое ад цікавага даволі проста. Іншая справа, што ў такіх конкурсах трэба думаць пра творчы рост удзельніка. І творы адзінаццацікласніка нельга ацэньваць па той жа шкале, што і першакласніка. З Аленай Сцяпанаўнай мы часта ўваходзім у склад журы розных дзіцячых конкурсаў, і сутыкаемся з такой праблемай.

**А. М.** — Таксама складана ацэньваць працы розных жанраў.

**— На якім узроўні творчасці аўтару больш перспектыўна ўдзельнічаць у конкурсе?**

**А. Б.** — Для кожнага ўзроўню павінны быць свае конкурсы. Калі гэта пачатковец, то для яго «БрамаМар» і перспектыва надрукавацца ў зборніку. Для чалавека, у якога ўжо ёсць некалькі кніжак, будзе цікава ўдзельнічаць там, дзе пераможца атрымлівае сур'ёзную прэмію альбо магчымасць перакладу яго твора на замежную мову. Але мне здаецца, што цікавей удзельнічаць пачаткоўцам — калі ўсё яшчэ наперадзе.

**А. М.** — Прэмія Астрыд Ліндгрэн прыцягвае ўвагу дзіцячых пісьменнікаў усяго свету. За яе змагаюцца прызнаныя, мэтры. Тут размова не пра ўзровень творчасці, а пра тое, што конкурсаў павінна быць багата, каб і пачатковец, і сталы пісьменнік бачылі стымулы да ўдзелу ў іх.

**А. Б.** — Прычым, не заўсёды матэрыяльныя. Бывае, што ўдзельнічаць у прэстыжным, але «малабюджэтным» конкурсе больш перспектыўна, чым атрымаць грашовую прэмію.

**— А вы самі ўдзельнічалі калі-небудзь у конкурсах?**

**А. Б.** — Усё дзяцінства ў гэтым прайшло. Я толькі і чакаў, калі ў «Бярозцы» ці «Піянер Беларусі» будуць праводзіць чарговы конкурс. Быў у мяне яшчэ стымул для творчасці — творы сяброў. Вось прачытаў некалькі вершаў у газеце ці часопісе — і мне таксама захацелася напісаць. Такая вось жыццёвая неабходнасць. Гэта была вельмі добрая практыка.

**А. М.** — Праз газеты і часопісы, якія праводзілі літаратурныя і юнкараўскія конкурсы, даваліся парады юным карэспандэнтам і літаратарам, аналізаваліся дасланыя імі творы... На рэспубліканскім радыё больш за дваццаць гадоў ішла перадача «Вашы першыя сцяжынкі», якую вёў Мікола Чарняўскі. Зачытваліся дасланыя творы, нешта ўхвалялася, некаму рабіліся заўвагі. Такім чынам людзі, якія імкнуліся пісаць, атрымлівалі бясцэнныя ўрокі. І наогул, конкурсы павінны аб'ядноўваць розныя групы творцаў.

*Запісала Юлія ВАЎЧОК*

# Лепшыя творы ў намінацыі «Школьная паэзія»

*Кацярына ШАРАЧЭНКА,*
*14 гадоў, Негарэльская базавая школа № 2*
*Дзяржынскага раёна*

## Балада пра сон

**I**

Свет у акенцы ўжо не гарыць,
Ціха коцяцца светлыя мары...
Спіць дзяўчынка і ў сне сваім сніць,
Як цалуюцца белыя хмары.

Як блакітнае неба наўсцяж
Ёй махае ласкавай рукою.
Прабяжыць басанож па расе
І пакіне ўсмешку наўкола.

Белы бусел на лузе стаіць
І вітае яе доўгай дзюбай...
Спіць дзяўчынка і ў сне сваім сніць
Светлы край свой прыгожы і любы.

Пратаптанай сцяжынкай яна
У полі жытнім ціхенька крочыць,
Васілёчкаў нарвала спаўна
Ды рамонкаў упляла ў свой вяночак.

Лёгкі ветрык ёй вее ўслед,
Ціха песні спяваюць ёй птушкі.
Дома маці рыхтуе абед
І чакае дадому дачушку.

**II**

Але трэснула неба. На ім
Паказаліся чорныя хмары.
І ахутала цемра маўчаннем глухім,
І разбіліся светлыя мары.

Закрычалі вакол вараннё, груганы,
І бяда на зямлю наступіла...
Хто ўкрасці пасмеў нашы светлыя сны?
Хто пусціў тыя цёмныя сілы?

Стала страшна дзяўчынцы, дадому бяжыць,
Ног не чуе яна пад сабою.
— Мама! Мамачка! — гучна крычыць.
— Ты не бойся, дачка, я з табою.

— Не дазволіць народ груганам, варанню
Адабраць нашы светлыя мары.
Мы сцяною закрыем радзімы наш край,
Не дадзім мы ў крыўду абшары.

І стагнала зямля, і крычала душа,
Было страшна, і смерць усюль хадзіла.
Толькі нашу краіну скарыць не змагла
Тая чорная, цёмная сіла.

**III**

Паднялася дзяўчынка, да акенца бяжыць,
Адхінае рукой занавеску...
Ціха лес за туманамі спіць,
Мяккі снег ляжыць на ўзлеску.

Спіць зямля пад коўдрай снегавой,
І сінее неба над палямі.
У мірным небе шчасце і спакой,
Варання ўжо няма над намі.

**IV**

— Добрай раніцы, матуля.
— Як жа спала ты, дачушка?
— Мама, мне прысніўся край
Увесь у чорных птушках.

Як хацелі загубіць яны нашу зямлю.
Як хацелі нас скарыць, пацягнуць у цемру.
Як лілася кроў ракой, сілы пакідалі,
Але вытрымалі мы, светлых дзён прычакалі.

— Сонейка наша, гэта не сон. —
Гаварыла дачушцы матуля.
Тры гады цягнуўся той бой,
Шмат людзей вайна заглынула.

Мы ўдзячны байцам, хто нам мір падарыў,
Засланіў нас ад ворага злога.
Будзем помніць мы вечна, хто зямлю бараніў,
Збярог ад няшчасця ліхога.

**ЭПІЛОГ**

Свет у акенцы ўжо не гарыць,
Ціха коцяцца светлыя мары...
Спіць дзяўчынка і ў сне сваім сніць,
Як цалуюцца белыя хмары.

***Анастасія АЎХІМОВІЧ,***
***15 гадоў, Лошніцкая гімназія, Барысаўскі раён***

## Таямніцы прыроды

Прырода — таямніца, адкрыццё,
Дзівосны цуд, спакой і хваляванне,
Надзея на бясконцае жыццё
І чалавечых душ выратаванне.

Душу кранае жаваранка спеў,
Што з вышыні нябёсаў льецца.
Пра што ён расказаць хацеў?
Чаму ён пад аблокі рвецца?

Трывожна голас кнігаўкі гучыць.
Яна ўсё дожджыку чакае.
Гады імкнецца палічыць
Зязюлька мудрая і ў лес нас заклікае.

Глядзяць рамонкаў вочкі на мяне.
Валошкі з жыта хітра пазіраюць.
Праменьчык сонечны іх ласкава кране,
Лагодны ветрык з імі пагуляе.

Якое хараство навокал!
Рака з чаротам, сенажаць.
Прасторы — не акінуць вокам...
Ісці павольна і душой адпачываць!

## Мілы край

Усю зямлю абыдзі з краю ў край,
Паглядзі, падзівіся, паслухай
І вяртайся назад. Тут ён — рай.
Беражы яго, абараняй!

Ранкам тут абуджае гаі
Промняў сонечных, ясных святло.
Песняй шчырай звіняць салаўі,
І душу напаўняе цяпло.

Рэкі з чыстай, як слёзы, вадой
Удаль нясіце, змывайце з Зямлі
Гора, смутак, людскі неспакой,
Каб шчаслівымі дзеці раслі.

Беражы, лес, зязюльку, шануй,
Не стамляй яе чэрвеньскай спёкай.
Не змаўкай, дарагая, кукуй
Для краіны маёй сінявокай!

Беражэ наша шчасце знарок,
На буслянцы клякочучы, бусел,
Нібы шле ў нябёсы зарок:
Вечна жыць і квітнець Беларусі!

## Мірнае заўтра

Па вялікай планеце
Мы ўпэўнена крочым.
То згаджаемся з некім,
То камусьці пярэчым.

Злыя думкі, намеры
У душы не трымаем.
Мы адкрыта, гасцінна
Да сябе запрашаем.

Як жа хочацца верыць,
Што такі час настане,
Калі стануць народы
У душы сваякамі.

Толькі мірныя думкі,
Толькі добрыя словы.
І ўсмешкі, як сонца,
І не хмурацца бровы.

Узаемападтрымка,
Спакой з дабрынёю
Род людскі аб’яднаюць,
Зробяць дружнай сям’ёю.

● БрамаМар

# Лепшыя творы ў намінацыі «Школьная проза»

***Ксенія ПЕТРАШКЕВІЧ,***
***17 гадоў, Гімназія № 2, Слуцк***

## Скарбы

Папера была яго скарбам: ён бярог яе, часта даставаў, асцярожна праводзіў рукой па гладкай белай паверхні. Уздыхаў і хаваў зноў. Не цяпер, яшчэ можна крыху пацярпець. Але зусім хутка ён напіша свой першы ліст…

**23.11.21.**

Дарагая, я заўсёды мала гаварыў і цяпер, сапраўды, вельмі шкадую, што не казаў табе пра самае галоўнае. Ты памятаеш нашы доўгія вечары, якія праводзілі мы ў каміна і гарбата, якую ты так і не навучылася заварваць? Як жа я сумую па гэтай гарбаце! А нашы гутаркі без усялякага сэнсу… Злосны шум ветру, пакінутага за ганкам утульнага дому. Як жа добра нам было!

**12.03.50.**

Мілая, я шмат працую, каб не думаць пра цябе. Самы страшны час — ноч: баюся заснуць — раптам ты мне не прыснішся. Я вельмі сумую па тваім ціхім голасе. Памятаеш, як ты ўмела мяне сцішваць: абдымала, як дзіцяці, прыціскала да сябе, ласкава праводзіла па валасах, прыгаворваючы: «Усё будзе добра, усё будзе добра…» Словы ў пакоі раздаваліся ціха, ледзь чутна, іх паўтаралі гадзіннік і вецер за акном. Потым ты прыносіла гарбату, пахла яна сенам, але я піў у спешцы, апякаючыся.

**16.11.56.**

Іх больш няма. Нікога не засталося побач — толькі я і гэта бяздонная ноч. Мы ўжо даўно глядзім адно на аднаго з нянавісцю. Усё часцей мне мроіцца твае крокі, і нават чамусьці пахне гарбатай, што ты заварвала раніцай. Я ведаю, што гэта немагчыма.

**19.04.01.**

Вось ты і прыйшла. Як добра адчуваць твае пальцы на сваім твары. Мы будзем піць гарбату, дарагая, і думаць пра дробязі…

Калі карабель дзіўнай канструкцыі быў выяўлены памежным катарам паблізу планеты Коспа-17, з базы СМК-78 адшвартаваўся вайсковы каборт і пайшоў на збліжэнне з невядомым аб'ектам.

Ужо падлятаючы, капітан Самал ціха ўздыхнуў: ён здагадваўся, што можа выявіць на гэтым караблі, акружаным чорным аксамітам космасу.

Пасля таго, як сышліся стыкоўныя шлюзы і пачуўся пранізлівы сігнал, які абвяшчаў пра завяршэнне стыкоўкі, Саман адчуў: нервы не ў спакоі, нібы ён першы раз абследуе карабель-прывід. Пакінуўшы на капітанскім мастку галоўнага намесніка, ён сам, як у даўнія часы, калі толькі скончыў Пяты марсіянскі ўніў, вырашыў пайсці разам з байцамі групы абследавання.

Карабель сустрэў атрад амаль што адчувальнай чарнатой, пахам металу ды яшчэ чымсьці дзіўным, але быццам знаёмым. У глыбіні галоўнага калідора можна было разгледзець цьмяныя водбліскі — там знаходзіліся дзверы ў камандны адсек.

Саман з байцамі павольна ішлі наперад, крокі прыглушана разносіліся па пустым караблі. Тое, што ён быў мёртвы, капітан зразумеў адразу: адчуванне было такім жа, як і ў знакамітай Пячоры Мёртвых на планеце Сагос — нуда і адзінота.

Падышоўшы да дзвярэй каманднага адсека, байцы, трохі правазіўшыся, узламалі яе і, як цені, праслізнулі ўнутр.

Капітан на некаторы час затрымаўся каля дзвярэй...

— Капітан Саман! — пачуўся голас сяржанта Марыкава.

Увайшоўшы, Саман убачыў, што байцы стаялі каля крэсла кіравання. Перад імі сядзеў чалавек, дакладней тое, што ад яго засталося. Гнуткія шчупальцы маніпулятараў, якія некалі давалі яму магчымасць кіраваць караблём, адарваліся.

— Капітан, паглядзіце сюды! — прагучаў у напружанай цішыні голас аднаго з байцоў.

Саман зірнуў туды, куды паказваў радавы: на галоўнай панэлі кіравання акуратным стосам у празрыстым адсеку для запасных крышталаў ляжалі белыя лісты паперы... Паперы! Ён бачыў яе ў дзяцінстве, калі ўвесь іх клас наведаў Музей старажытнасцей на Зямлі. Капітан узгадаў, як робат-экскурсавод Эк-34 падвёў іх да пластшкла і з дзіўнай для механічнага голасу глыбокай павагай стаў распавядаць пра кнігі. Тады Саман упершыню ўбачыў жаўтаваты аркуш, на якім размяшчаліся дзіўныя знакі.

Капітан асцярожна дастаў адзін з аркушаў — і раптам убачыў сябе, адлюстраванага ад паверхні сістэмы жыццезабеспячэння: чорнавалосы мужчына ў шэрым форменным адзенні са значком на кіцелі ў выглядзе зялёнага кола стаіць з аркушам паперы на фоне прыбораў і ззяючай чорнай дзіркі цэнтральнага экрана.

«Як недарэчна, — падумаў ён, але сіл расстацца з шурпатай паверхняй паперы не было. — А гэты пах адкуль? Даволі знаёмы пах!»

Саман убачыў на падлозе пластыкавую ўпакоўку нявызначанага колеру і нейкія цёмныя высмаглыя травінкі. Ён падняў адну і асцярожна панюхаў — пах падаўся знаёмым.

Байцы, якія паспелі ўжо забраць з цэнтральнай панэлі крышталі, што запісваюць інфармацыю, сабраліся каля капітана. Саман разумеў, што яны чакаюць нейкіх слоў, але нічога, акрамя банальных фраз, у галаву не прыходзіла.

— Яны былі першымі, хто адкрыў для нас далёкія міры, — пачаў ён і змоўк.

Гучна і ўрачыста прамаўляць гэтыя словы не атрымлівалася: голас здрадліва дрыжэў, але байцы, стоячы каля цела чалавека, які аддаў жыццё зоркам, усё разумелі і маўчалі.

Усё гэтак жа моўчкі яны зачынілі капітанскую рубку, у поўным маўчанні прайшлі па калідоры да пераходнага шлюза, несучы крышталі памяці. Капітан ішоў апошнім, вельмі асцярожна і з нейкім асаблівым хваляваннем прыціскаючы да грудзей скарб.

Ужо пакідаючы карабель-прывід, нехта з байцоў спытаў:

— А што за знаёмы пах стаяў у рубцы? Чым гэта так пахла?

— Домам, — ледзь чутна прамовіў капітан, адчуваючы пад пальцамі шурпатасць паперы.

*Пераклад з рускай Дар'і ШОЦІК*

***Аліна СМЯТАНКА,***
*17 гадоў, Гімназія № 2, Слуцк*

## Дзень з прышэльцамі для зямлян мінуў непрыкметна

* * *

Калі вы надумаеце прыходзіць у сябе пасля аварыйнай пасадкі выратавальнай капсулы, то лепшага месца, чым закінутая пустэча, вам не знайсці.

* * *

Інсэн Х2000//2 з цяжкасцю расплюшчыў вочы: над ім узвышаліся ногі ў нейкім дзіўным абутку і здзяйснялі незразумелыя рухі. Гаспадар ног нахіліўся над Інсэнам і вымавіў дзіўны гарлавы крык.

Прадстаўнік гэтай планеты разглядаў Інсэна з цікаўнасцю і страху не адчуваў. Напэўна, сустрэчы з прадстаўнікамі пазаземных цывілізацый адбываліся тут не ўпершыню.

* * *

— І адкуль ты? — спытаў ён.

— З Парнаса, — адказаў я, радуючыся, што перад адлётам усё ж такі пагадзіўся імплантаваць галактычны размоўнік.

— З Парнаса, — паўтарыў чалавек і, пачухаўшы патыліцу, дадаў: — Не чуў пра такі раён.

Зямлянін дапамог мне падняцца, абтрос камбінезон. Нарэшцэ я атрымаў магчымасць разгледзець месца майго прызямлення: паблізу стаяла выратавальная капсула, удалечыні ўзвышаліся нейкія шэрыя квадраты, а пад нагамі — зямля брудна-карычневага колеру, на якой раслі маленькія кусцікі.

Чалавек, заўважыўшы, што галава мая амаль дакранаецца да правага пляча, бадзёра прамовіў:

— Эх, як жа цябе прыклала! Нічога — падлечым. Тут недалёка, у гаражах, нашы размясціліся...

Раптоўна на пустэчу выехалі дзіўныя сродкі руху ў выглядзе скрынак на колах. З іх пачалі выскокваць людзі ў камбінезонах і масках чорнага колеру. Яны хутка нас акружылі, нешта крычалі, і не паспеў я апамятацца, як зноў апынуўся на зямлі ў вельмі нязручнай позе. Побач са мной ляжаў і зямлянін. Ён павярнуўся да мяне і прашаптаў: «Наркотыкі шукаюць».

Я нават не паспеў уявіць, што гэта такое і як выглядае, як майго знаёмага хутка падхапілі і кудысьці павялі. Людзі ў чорным падвялі і мяне да нейкага невысокага каржакаватага чалавека, самага галоўнага тут, побач з якім стаяў мой знаёмы. Здавалася, яны знаходзяцца ў прыяцельскіх адносінах, бо камандзір ласкава гаварыў пра «радасць ад іх ранейшых сустрэч».

Потым ён загадаў сваім падначаленым вярнуць майго знаёмага «ў асяроддзе пражывання» і паказаў на кусты, што раслі ўздоўж плота. Загад быў неадкладна выкананы.

Наступным быў я. Пільна ўгледзеўшыся ў мой твар, заўважыў трохступенчаты нос, заўсміхаўся:

— У спецназе служыў, сынок? Пазнаю руку сяржанта Петрачэнка.

У адказ я пачаў ківаць галавой. Камандзір паблажліва паляпаў па плячы і крыкнуў нешта сваім падначаленым, але перакладчык з доўгай фразы агучыў толькі: «Адвезці яго ў бальніцу».

Мяне ўнеслі ў сродак руху. Я вырашыў выконваць усё тое, што яны скажуць. Спадзеючыся, што сігнал, пасланы капсулай, хутка дасягне галоўнага карабля, і за мной прышлюць выратавальную шлюпку.

Але мы чамусьці не ўзляцелі, а пакаціліся па зямлі. Уціснуўшыся ў сцяну, я маўчаў. Прысутныя ажыўлена перамаўляліся паміж сабой (перакладчык абмяжоўваўся некалькамі словамі «служыў», «бацяня», а на астатнія рэагаваў толькі піскам). На шчасце, неўзабаве мы спыніліся, дзверы адчыніліся і я ўбачыў велізарную лесвіцу, якая ўпіралася ў белы будынак з празрыстымі дзвярыма.

Камандзір крыкнуў людзям, якія спускаліся з лесвіцы: «Забярыце пацярпелага!»

Не паспелі зачыніцца дзверы сродку руху за маімі новымі знаёмымі, як мяне адразу падхапілі пад рукі людзі ў белых халатах, і мы ўзляцелі па лесвіцы, праімчаліся праз вялікі светлы хол, пераадолелі доўгі і звілісты калідор і спыніліся каля дзвярэй.

Я аказаўся ў кабінеце, дзе мяне сустрэў невысокі сталы чалавек у белым халаце.

— На што скардзіцеся, хворы? — спытаў ён, і, заўважыўшы сіні колер маёй скуры, дадаў: — Да чаго ж вы сябе давялі?

Я маўчаў, баючыся выдаць нейкае глупства, чалавек дастаў незразумелы прадмет, загадаўшы мне расшпіліць камбінезон, стаў прыкладваць халодны металічны кружок да маіх грудзей. Ён накіроўваў яго то ўправа, то ўлева, нарэшце спыніўся і задаволена сказаў: «А з сэрцайкам у нас справы дрэнныя».

Я хацеў спытаць, што такое «сэрцайка», але ў гэты момант спрацаваў сігнал аб прылёце выратавальнай шлюпкі.

Думаю, што чалавек у белым халаце надоўга запомніць дзіўнага пацыента, бо пасля атрымання сігналу, я высока падскочыў, высунуў язык, што, дарэчы, на нашай планеце з'яўляецца знакам вялікай падзякі, і, перакуліўшы крэсла, шпарка выскачыў з кабінета.

Апошні раз я так бегаў на спаборніцтвах у родным горадзе Сінкоке, дзе, да вялікай радасці, прыйшоў першым з новым рэкордам: дваццаць місекунд. Дрэвы, дамы ператварыліся ў змазаныя, неразборлівыя плямы.

Падбягаючы да пустэчы, убачыў выратавальную шлюпку. Набраўшы патрэбны апазнавальны код, рвануў у адчынены люк, забраўшыся ў крэсла кіравання, націснуў кнопку «Старт». — Усё! Дадому! Да родных, блакітных лясоў, — з палёгкай прамармытаў я, зручней уладкоўваючыся ў крэсле.

Шлюпка стартавала, а я глядзеў на маленькую планету і думаў: «Прылячу і абавязкова абнаўлю перакладчык, а то перад зямлянамі няёмка: такія ветлівыя людзі, а я і паловы слоў не зразумеў. Нядобра гэта, не па-гуманоіднаму...»

*Пераклад з рускай Дар'і ШОЦІК*

***Валянцін ГІРАЕЎСКІ,***
***15 гадоў, Горкаўская СШ, в. Жацэрава, Стаўбцоўскага раёна***

# ВАВЁРАЧКА СКОЧКА

## Замест уступу. Лес

За Горкамі ды іншымі вёскамі паўночна-ўсходніх стаўбцоўскіх мясцін раскінулася поле, на якім па чарзе сеялі жыта, пшаніцу, ячмень, авёс, рапс, садзілі бульбу. Пасярод многіх паселішчаў працягнулася шаша Мінск—Брэст.

За полем на поўнач і ўсход паўкругам бачыўся лес. Спачатку перад ім была дзікаватая лугавіна, за ёй, пры балотцах, нарасло рознай травы, а далей гусціліся алешыны і бярозы, папараць. Гэтае, здаецца, малапрыдатнае месца аблюбавалі белыя і чорныя грузды. З жывых істот — сарокі. Менавіта адсюль рабілі набегі на поле статкі дзікоў. З'яўляліся лісы, палюючы на зайцоў альбо курапа-

так, а то і падкрадваліся да вёсак, каб паблізу ад іх напасці на гусей ці курэй. За ліставым гаем пачынаўся яловы лес. Месцамі ён быў такі густы, што раскідзістымі шчыльнымі галінамі не дапускаў сонечных промняў да зямлі, таму тут мала што расло, толькі суцэльным слоем ляжала старая пажоўклая ігліца. Сям-там спрабавалі пабачыць свет мухаморы, зрэдку — сыраежкі. Калі збочыць на поўнач, то можна было патрапіць у сасновы лес. З бярозамі, з палянамі, дзе гусціўся сунічнік, з барамі, дзе па сівым моху і паблізу ядлоўцаў ці сярод верасу ў добрае лета сямейкамі красаваліся баравікі. Маглі грыбніка ранняй вясной парадаваць смаржкі, пазней — лісіцы, падбярозавікі, на высечках — апенькі.

Калі збіраеш ягады ці грыбы, захопішся ўдачай, то можаш падумаць, што ў лесе ёсць толькі птушкі, якія час ад часу падаюць свой голас. А звяроў няма. Але гэта не так. Яны таксама тут маюцца, толькі здалёку чуюць пах чалавека і загадзя сыходзяць, не жадаючы з ім сустрэчы. Бо лес заўсёды жыве сваім уласным жыццём, і гэта з самых першых дзён жыцця спазнала галоўная гераіня аповеду, вавёрачка Скочка.

## Маміна любіміца

Так назвала яе мама. За тое, што яна змалку любіла не толькі бегаць навыперадкі з сябрамі па галінах дрэў, але, каб апярэдзіць іх, спрытна пераскоквала з аднаго дрэва на другое. Разлічыць зрокам прамежак, набярэ поўную грудзіну паветра, загадае сабе: «Скок!» І гойсне. І амаль заўсёды ўдала. Вось маці і пачала з усіх сваіх дзяцей менавіта яе называць Скочкай. А слова «амаль» тут ад таго, што аднойчы ёй не пашанцавала. Зусім трошкі не даляцела да галіны суседняй яліны, упала долу і пашкодзіла нагу. А потым, калі вавёрчаняты падраслі і ўжо самі маглі завесці сваю сям'ю, маці адправіла іх у белы свет, а яе, пакалечаную, пакінула пры сабе. Удваіх яны мясціліся ў яловым дупле, якое некалі выдзеўбаў іхні сусед-дзяцел Стук. Маці толькі павялічыла яго. Жыла Скочка і гора не ведала. Маці дбайна рабіла запасы на зіму, аберагала ад варон і шулякоў, якія ў галодную часіну не супраць былі займець яе на абед...

Але аднаго дня Скочка засталася адна. Быў лютаўскі дзень. Неба было высокае, ужо даволі блакітнае, сонца ззяла, нават прыпякала, дык і не хацелася сядзець у цемнаватай дуплянцы, было прыемна пабегаць, паскакаць па лесе, хмялеючы ад незразумелай радасці. Гарэзавала і маці, шукаючы сябровак і сяброў. У мітусні і не заўважылі, як да іх падкраўся высокі мужчына ў валёнках, ватоўцы і лахматай вушанцы, трымаючы ў руках стрэльбу.

Прыкмецілі, калі бухнуў стрэл і далёка разнеслася па лесе рэха. Адзін з матчыных сяброў піскнуў і кулем зваліўся на снег.

— У дупло! — крыкнула дачцэ маці.

Скочка хутка паскакала, не заўважаючы, што маці не спяшаецца за ёю, адцягвае ўвагу паляўнічага. Зноў грымнуў стрэл.

Скочка ўскочыла ў прасторнае дупло, якое сагравалі мох і птушынае пер'е, прынесены з поля палын. Сэрца моцна білася. Яна ўздрыгвала, заплюшчвала

вочы, калі зноў чула стрэлы. Упершыню адчувала непераадольны страх за сваё жыццё.

Хоць стрэлы і аддаляліся, а пасля іх наогул не было чуваць, яна не асмельвалася вызірнуць з дупла. Сонца пачало заходзіць. Нечакана ўсхадзіўся вецер, лес застагнаў. Памацнеў мароз. Маці не вярталася, не было да каго прытуліцца, пачуць ласкавыя словы на сон. Навалілася пачуццё адзіноты.

Задрамала Скочка пад раніцу. Але сон быў не моцны. То будзіў стрэл (яго на самай справе не было), то апаноўвала відовішча: з дрэва падае вогненны клубок. Яна прахоплівалася і слухала, як свішча, шалее мяцеліца. Нават сюды, у дупло, сыпле снег, што халодзіць цела. Яе хвост яшчэ не быў такі вялікі і пухнаты, як у маці, ім было не накрыцца. І ўсё болей браў жах: як жыць далей без маці?

## Сарока Балабола

Мяцеліца гула, снег сыпаў у лесе ўвесь дзень, ноч. Скочка нерухома ляжала на сваім ложку, асцерагаючыся нават паварушыцца. Адчувала голад, але не спрабавала наталіць яго. Ды гэта было няпроста зрабіць: у дупле нічога з ежы не захавалася, трэба было вылазіць і шукаць зробленыя маці ўвосень схованкі. Паспрабуй знайсці іх пад снегам!

На другі дзень, прачнуўшыся, пачула знаёмае стракатанне. Сарока. Яна была чорна-белая, з зеленавата-сіняватым бляскам. Галава, шыя, спіна, крылы і хвост — чорныя, брушка, грудзінка, плечы — белыя. Доўгі хвост. Яшчэ маладая, вясёлая. Сядзіць паблізу і кліча: «Красаўка! Скок! Жывыя вы ці не?»

Яны, лясныя насельнікі, паміж сабой перамаўляліся па-свойму, але разумелі і гутарку іншых. Вось сарока хоча пабачыць яе і маці, якую яна называла Красаўкай. Скочка не хацела падымацца, але змусіла сябе вызірнуць. А раптам яна прынесла важную навіну.

— Жывая, здаецца, — парадавалася тая. — А маці?

— Яе няма, — прашаптала Скочка, прыплюшчваючы вочы ад яркага святла.

— Шмат набіў вавёрак паляўнічы з Горак, — сказала сарока. — Усю тваю радню выбіў. Была там, аглядала агароды, каб чым пажывіцца, дык бачыла іх, пабітых, на свае вочы. Ён даставаў іх з мяшка і азіраў. Неасцярожныя вы былі, разгуляліся ў цёплы дзень. А я часта перасцерагала тваю маці: менш стрыжы вялікімі чорнымі вачыма, менш паказвай усім свае вушы з кутасікамі, мяккую поўсць, па баках і на спіне шэрую, свой вялікі хвост. Ды не слухала яна мяне, любіла пакрасавацца.

— Яна ратавала мяне, — прашаптала Скочка, глытаючы слёзы. — Мяне ўратавала, а сама...

— Маці ёсць маці, — сёння, звычайна балбатлівая і насмешлівая Балабола (так называлі за вочы сароку), была спагадлівая. — Я сваіх дзетак не маю. Летась адзін падлетак-бузун гняздо з яйкамі раскідаў. А ты цяпер месяц-другі, пакуль на табе будзе зімовая вопратка, менш займайся гулямі. Паела — і ў

дупло. На цябе точаць дзюбы і шуляк Дзюбан, і варона Кара. Сама чула, як яны пагражалі расправаю тваёй маці. Схованкі матчыны ведаеш?

— Ведала тыя, адкуль ужо выбралі арэхі, грыбы.

— Наведайся ў дубовы гаёк, — павяла ўбок дзюбаю Балабола. — Там павінны пад снегам быць жалуды. Калі не знойдзеш жалудоў, шышак, зусім агаладаеш, то зрывай хваёвыя пупышкі.

Задрала галаву ўверх, пакпіла:

— Кара паляцела ў вёску. Дык не пажывіцца. Я там ўжо ўсё абгледзела і падабрала.

Страпянулася ўсім целам.

— Сонца свеціць, грэе, але стыла тут у вас, — паскардзілася Балабола. — Лес густы, цяністы, глухі. Я тут не жыла б. Я люблю ўзлессе. Светла, усё вакол далёка відаць, весела.

Ёй вельмі ўжо хацелася пагаварыць.

— Мая сястра, якая ў горадзе жыве, пасміхаецца з майго ўзлесся. Яна там у скверыку пры высокім доме жыве, пры святле з вокнаў, пры музыцы. Харч са скрыняў здабывае. І не мошкі ці чарвячкі, а, бывае, белы хлеб, пячэнне, каўбасу, заморскую розную садавіну і гародніну. Модніца. На назе бліскучую бранзалетку мае.

Скочка слухала пра дзівоснае жыццё сарокі-гараджанкі і не ведала, што «бранзалетка» — не проста ўпрыгожанне. Акальцавання знак. Там, у парку, і вавёркі жывуць. Ніхто іх не ганяе і не страляе. Яны так прызвычаіліся да чалавека, што з яго рук ежу бяруць. І не абы-што, а яйкі, пячэнне.

Сарока заціхла. Прыслухалася.

— Стук азваўся. Значыць, прынёс новую шышку і пачаў дзяўбаць. Сёлета шышак мала, але яму лягчэй іх знайсці, чым табе. Зазірні да яго. І не саромейся красці. У нас свае, лясныя, правілы.

## Дзяцел Стук

Дзе па дрэвах, дзе па снежным доле Скочка наблізілася да ўзмежжа хваёвага і яловага лесу. Менавіта там, на засохлай сасне, Стук прыладзіў сваю «кухню». Быў ён маляўнічы: верх галавы і шыі, спіна і надхвосце — чорныя, з сіняватым адлівам, брушка — белаватае, падхвосце — чырвонае. Такім было і цемя. Цяпер ён упёрся хвастом у дрэва і ў выдзеўбанай ямачцы ўпарта церабіў яловую шышку. На доле ўжо высілася горка смецця.

Асцярожны. Падзяўбе раз-другі і азірнецца. Вось заўважыў на суседняй высакаватай сасне Скочку. Незадаволена натапырыў пёры.

— Што трэба? — буркнуў. — Шышку? Не! Сябар мой, але ем хлеб свой! Хопіць таго, што я вам дуплы саступаю. То на жытло, то на прыпасы.

Каб маці, то тая магла б папужаць яго і адабраць спажыву. А Скочка не асмелілася. Дзяцел, хоць і не мае сілы вароны ці шуляка, але ўсё ж у яго моцная дзюба. Не ўцякае, беражэ ласунак, які, можа, прынёс здалёку. Будзеш берагчы, калі хочаш перажыць халодную зіму!

## Лісіца-хітрыца

Скочка зноў павандравала па лесе. Напружвала памяць, каб успомніць матчыну схованку пажывы. Вунь на невялікай прагалінцы, здаецца, знаёмая маладая разлапістая елачка, амаль уся накрытая белай гурбачкаю. Варта разгрэбці снег.

Толькі падумала так, хацела ўжо спускацца з тоўстага яловага ствала, як пачула мяккія крокі. Сцішылася, агледзелася. Да елачкі падбіралася рудавата-чырвоная, з жоўтым адценнем лісіца, якую маці заўсёды называла лісіцайхітрыцай. Тая навастрыла вушы, убачыўшы на дрэве вавёрку, але акінула Скочку позіркам толькі на кароткае імгненне. Уся ўвага лісіцы была скіравана да елачкі. Адтуль данёсся тоненькі піск.

Лісіца затаілася, слухала-слухала, а затым кінулася, пачала скакаць вакол елачкі, утоптваючы снег. Пасля кінулася да дрэўца, загрэбла лапамі, напалову схавалася ў снезе, а праз хвіліну вынырнула, трымаючы ў зубах мыш. Калі яна адышлася, Скочка спусцілася на дол, лёгка падалася да елачкі і пачала разгортваць ямку. Тут была схованка. Але цяпер яе лапкі выграбалі толькі цвёрдае шалупінне арэхаў, скрадзеных і з'едзеных мышкай, якой так не пашанцавала. Але Скочка не стала яе шкадаваць, бо вельмі пакрыўдзілася за арэхі.

У мёрзлай траве яна ўсё ж знайшла адзін цэлы арэх. Вельмі цвёрды. Ды яе маладыя зубкі асілілі яго. Але што адзін арэх?! Толькі на асмакаванне.

## Дзік-Бадзяга і воўк Бандыт

Пошук ежы прывёў Скочку да адзінокага дуба, які невядома як тут прыжыўся, бо сапраўдная дубрава знаходзілася далекавата. Там кожны год раслі баравікі, сёе-тое з іх даставалася і маці. Яна сушыла іх і іншыя грыбы на дрэвах, а пасля хавала ў адным з дуплаў паблізу ад свайго жытла.

Але цяпер у ім было пуста...

Да дуба нельга было дабрацца па галінках суседніх дрэў і нейкі прамежак вавёрачцы давялося бегчы па снезе. На ім птушкі і звяры нарабілі шмат слядоў. Маці ўмела «чытаць» іх. Дзе пакінулі знакі вароны, дзе зайцы, а вось тут прайшоў ноччу дзік. Скочцы цяпер трэба было ва ўсім гэтым разбірацца самой.

Калі ў яловым лесе снег быў мяккі, то тут цвярдзеў: на прагаліне ўдзень награваўся, крыху адтаваў, а ноччу прамярзаў, пакрываўся лядовай скарынкай. Ды яго было так шмат, што нават дзікі з іх моцнымі лычамі не рыліся тут, шукаючы смачныя жалуды. Толькі ў адным месцы мелася невялікая паўзамеценая ямка з такімі пошукамі, але, мабыць, нічога не знайшоўшы тут, дзікі сышлі. Скочка саскочыла ў ямку, пагрэбла лапкамі. Толькі снег ды мёрзлая трава, нідзе ніякіх жалудоў. Можа, і ёсць, толькі ў іншым месце.

Насцярожылася: пачулася гучнае сапенне. Выслізнула з ямкі, азірнулася: з супрацьлеглага боку, правальваючыся ў глыбокім снезе, крочыў вялізны дзік, празваны маці Бадзягам.

— Не пацярплю! — грозна рохнуў дзік. — Мае жалуды! Мой дуб!

Скочка не ведала, што гэтай ноччу Бадзяга дапаў да Горак, да бурта з бульбай, але там на яго нацкавалі сабаку, а пасля па ім яшчэ і стрэлілі. Не патрапілі, але не далі спатоліць голад. Зразумела, быў не проста сярдзіты, а злы. Скочка абачліва шуснула на дуб.

Бадзяга бурчэў, рыўся ў яміне, выкідваў камякі бруднага снегу.

— Няма, — ажно кіпеў ён ад злосці. — Усё падабралі. Ды, як перадала Балабола, перапала тваёй радні! Уся пойдзе на вушанкі ці каўняры!

Скочка не паспела нічога адказаць, як з таго боку, адкуль прыбегла, з'явіўся воўк, якога ўсе ў лесе звалі Бандытам. Ваўкам таксама несалодка ўзімку, можа, таму і асмеліўся Бандыт напасці на вялізнага злоснага дзіка.

Вопытны Бадзяга і ў лютасці не страціў пільнасць. І сярод снежнага пылу адразу ж угледзеў ворага. Выскачыў з яміны, грозна павёў лычам на ваўка.

— Прэч! — грозна рохнуў ён. — Іначай, павітаюікламі!

— Уга! — хмыкнуў Бандыт. — Сёння ты будзеш мне на абед.

І пачалося: воўк падпаўзе, кінецца, а дзік, выцягнуўшы лыч і наставіўшы хіб, пасунецца да яго. Воўк — ходу, але недалёка. І зноў тое ж самае. Воўк больш рухомы, але ж дзік ёсць дзік. І можа лычам так падкінуць ворага ўгору... а потым яшчэ і падлавіць ікламі.

Калі раней Скочка магла ўспрыняць гэтыя наскокі-адскокі за гульню, то цяпер разумела: гэта — змаганне за жыццё. І саступіць тут нельга. Вось праціўнікі задыхаліся, пасталі, свідруючы адно аднаго позіркамі. Бандыт, разумеючы, што не адолее Бадзягу, сеў на заднія лапы. Задраў галаву і завыў:

— Я перастрэў Бадзягу. Пахуднелы, але хопіць на абед усёй зграі. Толькі адзін я яго не звалю. Збірайцеся, прыбягайце сюды.

Дзік зразумеў гэты воўчы покліч, як і тое, што супраць зграі цяжка ўстояць. Вынослівыя, ваўкі могуць гнаць яго перад сабою дзясяткі вёрст, не дадуць адпачыць ні хвіліны, каб выбіўся з сіл, а потым саб'юць з ног. Лежачы, ён не зможа адбіцца. Таму, пакуль Бандыт падвываў, клічучы помач, Бадзяга павярнуўся і, зусім не лічачы, што ён збаяўся, абачліва патрусіў ад дуба. За ім не было пагоні, драпежніку было даволі таго, што ён зможа ў любы час пайсці па следзе і заспець уцекача ў якім-небудзь ломе ці пад вываратнем.

Скочка памылялася, думаючы, што яна адна назірае за гэтай сутычкай зацятых ворагаў. За ўсім назіралі і яшчэ адны пільныя вочы...

## Дзюбан

Так, за сутычкай цікаваў з краю паляны ястраб-шулян. Звычайна, ягонае племя на зіму ў лесе не застаецца, ляціць у больш цёплыя краіны ці перабіраецца ў гарады, але гэты, якога ўсе лясныя жыхары звалі Дзюбанам, быў з аселай сям'і.

Калі каля дуба пацішэла і пасля святла пачала згушчацца шэрань, Скочка спрытна саслізнула з дрэва і кінулася праз паляну ў родны ельнік.

Але не паспела ўскочыць на першае дрэва. Занадта позна заўважыла: зверху навальваецца нешта цёмна-шэрае, жудаснае. Затым убачыліся сінявата-бурая вострая дзюба, такія ж вострыя кіпці на лапах. Дзюбан!

Не сказаць, што цяжкі, але ў палёце ён збіў яе з ног, упіўся вострымі кіпцюрамі ў цела з радасным усклікам:

— Кік-кік-кік! Папалася!

Тут жа ўзляцеў, ад чаго ў вавёрачкі пацямнела ў вачах. Працяла трывога за сваё жыццё, пагроза пагібелі. А яна ж яшчэ так мала чаго пабачыла і спазнала. Звядзецца вясёлы род Рудахвостак.

У лесе Дзюбан, каб галіны не вырвалі здабычы, прыўзняў вавёрку і нават прыціснуў яе лапамі да жывата. І тут не розумам, а нейкім нязнаным пачуццём Скочка яшчэ болей падалася да ястраба, выгнулася і зубамі хапнула драпежніка за шыю. Яна была маладая, але зубкі яе былі вострыя і моцныя, маглі лёгка раскусваць арэхі.

Дзюбан папярхнуўся, уздрыгнуў усім целам. Вось, здаецца, задыхнуўся без паветра, знясілеў і пачаў падаць долу. Адчуўшы гэта, Скочка яшчэ мацней сцяла ягоны гарляк. Дзюбан упаў на снег і аслабіў поціск кіпцюроў. Ірванулася і вырвалася. Хоць цела пякло ад ран, але яна не зважала на тое, пашыбавала па снежным доле, потым скокнула на знаёмую елку, з яе — на суседнюю. І так — да свайго дупла. А там была ўжо ў поўнай бяспецы.

Канешне, і гэтая ноч была неспакойнай. Сон то прыходзіў і запалоньваў, то раптоўна зноў прападаў. Тады вярталася памяць пра перажытае. Асабліва пра гэты цяжкі апошні дзень, які і сапраўды мог для яе стацца апошнім...

Назаўтра Скочку пабудзіла тоненькае, але звонкае «пінь-пінь». А потым — «пілі, пілі-пілі-ін-ча-ін-ча». Прыслухалася: сінічка. Яна які ўжо год жыве паблізу, займае пакінутае імі невялікае дупло.

Скочка высунула галаву з дупла: сапраўды, непадалёку добрая суседка. Пер'е на галаве і падхвосці — чорнае, на галаве — з сінім адлівам. Шчочкі белыя, верх на спіне жаўтавата-зялёненькі, крылы шаравата-блакітныя, са светлай палосай, брушка жоўтае, з чорнай палосай, хвост амаль чорны, нібы пасыпаны блакітным пылам. Колькі той птушачкі, а столькі на ёй колераў! Зграбненькая, прыгожанькая.

— Глядзі, Скочка, які светлы дзень пачынаецца! — парадавалася тая. — Як ужо вясной пахне!

Што так, то так. Ёсць мароз, але без ветру не пячэ. Цяперашнюю смугу хутка разгоніць сонца, прыгрэе, і ад яго цяпла пачне раставаць снег каля кустоў і дрэў, соладка задухмяніць смала.

Хоць і выпалі нягоды, але трэба жыць! Тым больш, што яны не будуць заўсёды, будзе і радасць, замілаванне жыццём, лесам. А з гэтым і новыя вавёрчыны прыгоды.

● БрамаМар

# Лепшыя творы ў намінацыі «Дзіцячая літаратура»

*Зарына КУДЗЁЛКА*

## Казка пра Альгерда і чароўны пярсцёнак

Даўным-даўно гэта было, калі свет толькі нарадзіўся, цемень зышла ў небыццё, а сонца стала правіць сусветам. З'явілася на свет маленькая планета, а на планеце той — яшчэ меншае княства. Меншае не значыць слабейшае, яно было моцнае духам і не падуладнае ніякай сіле.

Правіла гэтым княствам князёўна Аленачка. Правіла яна добра і спагадліва. Сяляне яе любілі і паважалі, старэйшыя людзі нават дачкой называлі, гасцінцы Аленачцы розныя перадавалі, калі тая аб'язджала княства падчас святаў або калі сядзець у пакоях дзяўчыне надакучвала.

А жыццё ў вёсках ішло павольна і нязменна. Вякамі адладжаны лад жыцця сялян нельга было змяніць. Але лёс вырашыў іначай...

Сваталася да Аленачкі шмат князёў і каралевічаў з розных краін і княстваў, розных нацыянальнасцей і народнасцей, бо чуткі пра прыгажосць Аленачкі па ўсім свеце ходзяць і князёўну праслаўляюць. Але, на жаль, князёўна ўсім адмаўляла, і ехалі каралевічы дадому адны, без жонкі і княства ў дадатак. Аленачка не хацела ісці замуж толькі таму, што так спакон вякоў рабілі яе продкі і так было ўсталявана жыццём. Яна верыла ў сапраўднае каханне і марыла аб простым шчасці. Яна ведала, што недзе на свеце ёсць такі чалавек, які пакахае яе не за тое, што яна князёўна. Яму не трэба будуць яе багацці і ўладанні, яму патрэбна будзе толькі яна. Удваіх яны пройдуць праз усе нягоды.

Але прыйшоў час расказаць вам пра іншага героя гэтай казкі.

На супрацьлеглым канцы маленькай планеты было яшчэ адно княства. А правіў ім князь Альгерд. І ўсё там ладна і складна было. Людзі жылі багата і душу гатовы былі аддаць за свайго князя, песні розныя складалі, каб добрая слава пра яго па свеце хадзіла і ў вяках жыла. Жыццё ў княстве ішло так, як наканавана было лёсам, месяцы змяняліся, поры года ішлі сваёй чарадой.

Але дзе ж тая казка, калі ўсё ва ўсіх ідзе так добра?

Нешта засумаваў Альгерд, з твару змяніўся, думу нейкую думаў.

Усё ў яго княстве было добра. Сяляне яго любілі і паважалі. Дружыну князь меў такую, што ніякі вораг не страшны. Ад любой навалы абараніцца

зможа. Паплечнікаў меў добрых, якія ў любой справе дапамогуць. Ураджай сёлета добры зямля нарадзіла, галадаць ніхто не будзе. Што яшчэ трэба добраму князю?

Шчасця ў Альгерда не было, любай жонкі, якая будзе заўжды побач. У кожнага князя павінна быць такая...

Думаў князь, думаў і вырашыў ехаць у свет, каб шчасце сваё шукаць.

Сабраў Альгерд дружыну, паплечнікаў і люд просты на сход.

— Усё добра ў маім княстве, усе ёсць, толькі аднаго не маю я — шчасця! — сказаў так, сеў на каня і паехаў у свет шчасця шукаць.

Засумавалі людзі, але нічога не маглі зрабіць. Так і засталіся жыць без князя.

Доўга ці коратка ехаў князь, у розных краінах пабываў, з рознымі людзьмі пазнаёміўся. І невядома колькі часу прайшло з той пары, як паехаў Альгерд з княства. Неяк заехаў князь у лес. А хутка цямнець пачало. Бачыць, агеньчык між дрэў свеціцца. Прыгледзеўся, а там хатка стаіць. Пагрукаў князь, дзверы адчыніў яму дзядок-лесавічок.

— Заходзь-заходзь, князь, госцем будзеш! — сказаў дзядок, ветліва павітаўшыся.

Здзівіўся Альгерд, але нічога не сказаў. Пагаварылі трохі і спаць леглі.

Раніцай устаў князь, бачыць, каня няма — знік.

— Гэта я вінаваты, князь, не трэба было яго тут пакідаць. Бачу я, што добры ты чалавек, трымай ў падарунак чароўны пярсцёнак! — сказаў дзядок-лесавічок. — Перакінеш яго з адной рукі ў другую — цуд зробіцца! Зямля і неба табе дапамогуць!

Падзякаваў князь дзядулю і пайшоў сваім шляхам.

Хутка прыйшоў Альгерд у княства, якім Аленачка правіла.

А тым часам у княстве бяда здарылася. Напаў на яго люты цмок. Палі папаліў, людзей шмат загубіў, будынкі парушыў. І нічога з ім не маглі зрабіць. Розныя каралевічы прыязджалі з ім змагацца, але адразу ўцякалі, а самыя мацнейшыя нават змагаліся з цмокам, але ледзь жывыя дадому вярталіся.

А цмок тым часам скраў Аленачку і схаваў яе ў нетрах зямных.

Звярнуўся з малітвай Альгерд да неба і спытаў:

— Як мне князёўну Аленачку выратаваць, люд просты ад цмока абараніць?

Пачула неба яго малітвы. Ударыў гром сярод яснага неба. Разышоўся небасхіл, і скочыў адтуль конь залатагрывы. Ды, як кажуць, ні ў казцы пра яго сказаць, ні пяром апісаць. Конь той — сын бацькі-ветру і маці-навальніцы. Скокне раз — зямля трасецца, скокне два — горы рассыпаюцца, скокне тры — зоры з нябёсаў сыплюцца.

Успомніў князь словы дзядулі-лесавічка. Перакінуў персцёнак з адной рукі ў другую. З'явіўся перад ім меч, ды такі, што ўся моц зямлі ў ім схавана. Сеў князь на каня, той у адзін момант данёс яго да логава цмока. Там ён Аленачку ў няволі трымаў.

Не на жыццё, а на смерць бойка тая была. На смерць цмокаву. Забраў Аленачку князь і дадому з ёй паехаў. Зашчымела сэрца дзявочае. Зразумела

Аленачка: вось ён, сужаны. І Альгерду яна спадабалася, і не трэба яму ані багацці яе, ані ўладанні. Толькі трэба яна, свет-Аленачка!

Пабраліся яны, парадніліся, княствы аб'ядналіся.

А на вяселлі тым увесь свет гуляў. І князі, і каралевічы, некаторыя нават з жонкамі. А некаторыя на вяселлі тым любых жонак сабе пазнаходзілі. Колькі дзён там была, ужо і не ўспомню я. Вельмі ж весела было. І вяселле тое людзі памятаюць, маладых у вяках праслаўляюць!

А галоўнае — добра ўсё! Добра тое, што добра канчаецца.

*Крысціна* ***БАНДУРЫНА***

## Маленькі Рамонак

Жыў-быў маленькі Рамонак. Ён быў такім нясмелым, што нават у лужыне ён бачыў кагосьці іншага, а не сябе. Рамонак яшчэ не ведаў, які ён прыгожы. Якія прыгожыя яго бялюткія пялёсткі, што цягнуцца да сонейка, якім пяшчотным быў яго тварык, што дарыў цяпло шчырай усмешкі. На жаль, яна зрэдку з'яўлялася і хутка знікала. Шэры натоўп душыў свабоду ў ім. Яму цяжка было дыхаць сярод пакрытых пылам вуліц, цені шматпавярховых будынкаў закрывалі сонца, а цвёрдыя падэшвы імкнуліся растаптаць яго. Рамонак глядзеў на сінія кавалачкі неба, якія зрэдку мільгацелі над галавой, і марыў як аднойчы паляціць і апынецца вышэй за гэтыя чэргі за фаст-фудам, як рамонкавыя пялёсткі будуць зліваца з бясконцай сінню неба.

Так праходзіў кожны яго дзень. Яго штурхалі бяздомныя сабакі, вецер раскідваў пялёсткі ў розныя бакі, і не было каму прытуліць, абараніць і пашкадаваць яго. Ён жыў толькі тым, што глядзеў, як жывуць іншыя. І адначасова радаваўся іх шчасцю.

Нечакана скончылася лета, гэтак жа нечакана, як шакаладныя цукеркі ў пакунку. Неба станавілася ўсё больш пахмурным, дні — халоднымі, а свет — абыякавым. Аднойчы Рамонак расплюшчыў вочы, салодка пацягнуўся пасля сну і застыў ў здзіўленні: вакол усё было такім жа белым, як яго пялёсткі.

А снег падаў і падаў, замятаў усё навокал: слупы, дарогі, трамвайныя шляхі, пажоўклую траву... Снег замятаў тое, што прайшло, што не збылося, у што страцілі веру душы. З тых дамоў, што стаялі побач, пахла святам і шчасцем. Пах цяпла стаяў камяком у горле маленькага Рамонка, які не скарыўся зіме, выстаяў перад холадам яе адзіноты. Цяпло вабіла, клікала да сябе, але не было ў гэтым свеце ніводнай душы, якая адкрыла б Рамонку дзверы і падзялілася маленькім кавалачкам гэтага цяпла. Колькі яму трэба было — такому далікатнаму і безабароннаму? Усяго толькі маленькая жменька сапраўднага цяпла.

Холад і завіруха закалыхвалі яго сваім скуголеннем, а гурбы вакол абяцалі сагрэць штучным цяплом, якое забівае ўсё жывое, усё сапраўднае, што трапляецца на іх шляху. Рамонак ледзь не паверыў іх абяцанням і амаль

 

заснуў, але штуршок знутры прымусіў яго расплюшчыць вочы. Незразумелая трывога, нейкае прадчуванне захапілі яго, пялёсткі бездапаможна трапяталі па ветры, спрабуючы адшукаць каго-небудзь, хто мог бы супакоіць і сагрэць. Усю ноч рамонак не заплюшчваў вачэй. Ужо пачынала віднець, а трывожнае пачуццё ўсё не праходзіла. Ён пільна ўглядаўся ў начную цемру, шукаючы прычыну свайго неспакою. Вочкі балелі ад напружання і тапілі снег горкімі слязьмі.

«Чаму я нікому не патрэбны? — думаў ён. — Як бы я хацеў, каб хто-небудзь навучыў мяне лётаць! І я б паляцеў прэч ад гэтага злога ветру, ад халодных снягоў, якія заўсёды хлусяць, і ад людзей, якім ніхто не патрэбны, акрамя іх саміх. Не! Я б застаўся, калі б хто-небудзь сказаў: “Застанься, Рамонак! Я буду грэць цябе і расказваць казкі. А яшчэ я пакажу табе сапраўднае сіняе неба”. Калі б хто-небудзь...»

Світанак біў па вачах водбліскамі белага снегу, адлюстроўваючы адзіноту Рамонка ў гэтым царстве абыякавасці. А што рабіць, калі ты прывязаны да месца, дзе нарадзіўся і вырас? Калі больш няма прычын некуды ісці, да нечага імкнуцца, калі тыя, хто жыве толькі для сябе, галоўным законам лічаць: «Народжаны поўзаць лётаць не можа»? І любое адхіленне ад яго робіць кветкі, птушак, дождж на траве і сонца ў небе выгнаннікамі, непатрэбнымі гэтаму свету і асуджанымі змерзнуць сярод снежнай пустыні.

«Дачакацца б вясны, яна добрая. Калісьці яна лашчыла мяне праменьчыкамі сонца і прасіла птушачак праспяваць для мяне. Праспяваць для ўсіх людзей, каб яны прачнуліся ад зімовага сну, адагрэлі змёрзлыя душы і адчулі, якая цудоўная вясновая раніца, пералівы расталага снегу паміж ручаёў, шолах маіх пялёсткаў, сіняе неба, усмешка сонца. Ах, так бывае толькі ў казках! Калісьці мама казала мне, што калі чагосьці вельмі моцна захацець, то мара можа спраўдзіцца і казка стане явай. Пачуй мяне, незнаёмы і далёкі сябар! Мне вельмі не хапае твайго цяпла. Ты будзеш грэць мяне і не аддасі снягам, праўда? Калі б ты мяне пачуў...»

Але пралятталі гадзіны, а ніхто не прыходзіў. Рамонак стаміўся чакаць, снег больш не грэў, пялёсткі паніклі, а пад снегам галодныя мышы грызлі яго худзенькае цельца. Нікому не было справы да яго.

Людзі прывыклі браць, нічога не даючы ў адказ. Цяпер значна прыемней рабіць кветкі з каляровых паперак, якія людзі дораць адно аднаму, атрымліваюць нешта замест іх і зачыняюць дзверы яшчэ больш шчыльна. Хтосьці залівіста смяецца, атрымліваючы гэтыя паперкі, хтосьці пачынае плакаць, аддаючы іх. Але кветкі з іх ніколі не падабаліся рамонку. «Яны ж нежывыя! Несапраўдныя! І нават не пахнуць. І што ў іх прыгожага? Чым яны лепшыя за мяне? Чаму мяне не заўважаюць?» Аднойчы такая выпадкова сарваная папяровая кветка згубіла свой лісток і ён упаў перад Рамонкам. Малы з цікавасцю пачаў разглядаць дзіўны лісток, такі непадобны да ягоных бялюткіх пялёсткаў. Ён нізка нахіліўся, калі нечакана шэрыя падэшвы скураных ботаў спыніліся перад ім, а нечая рука схапіла за далікатную шыю і адарвала зялёны лісток на сцяблiне, затым забрала паперку і знікла.

Доўга яшчэ памятаў Рамонак той боль, які яму давялося перанесці, калі ён страціў свой лісток. З тых часоў ён ніколі не адважваўся ўзнімаць галаву, калі побач былі папяровыя кветкі. І яшчэ больш лічыў сябе нявартым сіняга неба.

Усё, у што верыў Рамонак, аказалася растаптаным гэтымі шэрымі падэшвамі, што так спяшаліся за сваімі несапраўднымі кветкамі, якім так радуюцца людзі ў кавярнях і дзеці на вуліцах. І не засталося ніводнага кутка, дзе б усё яшчэ ўзыходзіла сонца і гучалі песні.

А тым часам далёка-далёка, за белымі аблокамі, там, дзе губляецца край вясёлкі і пачынаецца сіняе неба, ранішняе сонца расказвала анёлам пра маленькага Рамонка, які марыць пра тое, каб атрымаць сваю кропельку цяпла. У анёлаў было шмат клопатаў: трэба было пазбавіць свет ад папяровых кветак, якія нясуць зло людзям, і шэрых падэшваў. Сярод усёй гэтай мітусні на небе, просьба Рамонка здавалася нязначнай і дробнай, бо што такое адно сэрца супраць цэлага свету? «Усё, — сказаў адзін анёл з маленькімі крыламі, але вялізнымі блакітнымі вачыма, які выпадкова пралятаў міма. — Адно сэрца — гэта і ёсць увесь свет».

Цяпер трэба было заслужыць клопат пра яго добрымі справамі, бо ніхто не можа проста так спускацца з нябёсаў на зямлю і ўздымацца назад.

І анёл пачаў старанна знішчаць папяровыя кветкі і шэрыя падэшвы. Па начах ён прыходзіў у людскія дамы і, пакуль усе спалі, адкрываў альбомы са старымі фотаздымкамі і прыносіў іх да людзей у сны. Людзі ўспаміналі сябе ранейшых, свае мары і тое, што ім падабалася рабіць да таго, як з'явілася мода на шэрыя падэшвы. І тады яны выкідалі папяровыя кветкі, пачыналі хадзіць басанож па траве і ўздымалі вочы адно на аднаго. Анёл прыводзіў іх да тых, хто паміраў ад голаду, да тых, каму не было куды ісці і каму патрэбна была дапамога. Ён падбіраў катоў і сабак, нёс іх да людскіх дамоў, запальваў у іх каміны і грэў тых, хто змерз. Ён грэў сэрцы.

І зіма адышла. Тады анёл зразумеў, што прыйшоў час успомніць пра маленькага Рамонка, які амаль звяў без ежы і цяпла. Ён не бачыў каляровых сноў, не заўважаў таго, што зіма сыходзіла і снягі вакол раставалі і знікалі пад кроплямі дажджу. У свае правы ўступала вясна. А разам з ёй на зямлю спусціўся анёл з маленькімі крыламі.

Рамонак прачнуўся, расплюшчыў вочы і падумаў, што памёр. «Ну вось я і заслужыў сваё цяпло. Шкада, што людзі гэтага не ўбачаць».

— Убачаць, маленькі, абавязкова ўбачаць, — пачуўся аднекуль голас. І Рамонак убачыў босыя ногі перад сабой. Ён падняў вочкі і ў промнях ўзыходзячага сонца ўбачыў вялізныя блакітныя вочы. «Зусім як неба!» — падумаў ён.

— Я наўрад ці навучу цябе лётаць. Мае крылы занадта маленькія для нас дваіх. Але я буду дарыць табе сваё цяпло і ніколі не аддам цябе снягам. А ты пакажаш людзям, якія прыгожыя сапраўдныя кветкі, што нясуць у сабе жыццё.

— Мая мама казала мне, што калі чагосьці вельмі моцна пажадаць, гэта абавязкова адбудзецца. Я падару табе свае пялёсткі. Няхай усе бачаць, што

 

можна лётаць, нават калі твае крылы для гэтага занадта маленькія. Ты будзеш грэць мяне сваім цяплом, і мы станем часткай гэтага неба. Мама мела рацыю. Казка можа быць сапраўднай. Трэба толькі вельмі моцна пажадаць — і ў цябе будзе свой анёл. А ў яго — твае крылы.

## Рамонак і сябры

Моцны пах чагосьці прыемнага побач прымусіў маленькага Рамонка расплюшчыць вочкі і ўсміхнуцца сонейку. Гэта быў адзін з тых ранкаў, калі нейкае незразумелае чаканне цуду прыходзіць аднекуль здалёк і застаецца на доўгі час. Гэта чаканне вясны. Вясны з яе пралескамі, пах якіх абуджае раніцамі птушак з іх спевамі і верай у лепшае, гэта чаканне сонца. І цяпла.

Хіба гэта не цуд, калі душа прачынаецца пасля столькіх тыдняў амаль што смерці і абуджае вакол сябе ўсё, што толькі бачыць? Спачатку вясёлымі чарцянятамі загараюцца агеньчыкі ў Рамонкавых вачах. Потым гэтыя чарцяняты пачынаюць мяўкаць дзесьці на ніжніх паверхах душы, узнімаючы цуд абуджэння ўсё вышэй і вышэй. І раптам — пялёсткі! Душа ляціць насустрач вясне, цяплу, каханню. Душа шукае страчанага зімой шчасця.

Таму што толькі зіма можа падкінуць яго, як мяшэчак з падарункамі, пад ногі, а потым схаваць у снягах. Але не будзем такімі няўдзячнымі: гэтая зіма падарыла маленькаму Рамонку кавалачак крохкага шчасця — такога ж, як і крылы яго Анёла.

Калі цэлы свет быў непатрэбны настолькі, наколькі непатрэбным яму быў ты, напэўна, пачынаеш цаніць больш, чым усе-ўсе папяровыя кветкі, маленькія кавалачкі цяпла і клопату пра цябе. А калі сустракаеш каханне, уся непатрэбнасць свету, уся сіла нянавісці да людзей замяняецца каханымі вачыма.

Калі Бог нешта дае, ён нешта і адбірае. Шчасця не бывае шмат, таму што чалавек — істота вельмі капрызная: яму трэба разнастайнасць, ён не можа жыць увесь час у адным стане. І шчасце перастае цаніцца, быць чымсьці жаданым. Хутка надакучвае. І чалавек пачынае шукаць прыгод.

Мы не цэнім тое, што маем. І для таго, каб пачаць нешта цаніць, трэба гэтае нешта нечакана страціць. Так і Рамонку наканавана было губляць свайго Анёла кожны раз для таго, каб зноў і зноў сустракаць, укрываць сваімі пялёсткамі і ўпрыгожваць імі тыя кавалачкі шчасця, якія ён прыносіў на сваіх крылах.

Маленькі Рамонак сумаваў кожную хвілінку, апусціўшы пялёсткі долу, не звяртаючы ўвагі на тое, што зіма ўжо адыходзіла, што чуваць было, як спяваюць птушкі. Не звяртаў увагі ён і на сонейка, якога чакаў доўгую зіму. І нават неба, велізарны блакітны кавалак вачэй Анёла, не захапляла, як раней. Усё было ніякім, пустым, не вартым ні кроплі з Рамонкавых вачэй, але сум яго толькі так і выходзіў. І зноў пякучыя кроплі-слязінкі падалі на зямлю побач з вясёлкавымі лужынамі.

Здавалася, таго цяпла і не было, яно прыснілася. Хтосьці жорстка пасмяяўся з Рамонка, паказаўшы, што каханне павінна быць такім казачным. Але казка — выдумка. А значыць, няма яго. І няма чаго чакаць.

Так думаў Рамонак, пакуль пралятали дні, пакуль холад змяняўся цяплом, а снег падаў і падаў... Было холадна і сумна, нягледзячы на тое, што ў свае правы ўступала вясна.

І ў той момант, калі мы думаем, што нікому не патрэбныя, не вартыя жыцця і сонца, Хтосьці вялікі і добры назірае за намі з нябёсаў, стварае наш лёс. Калі Рамонак апускаў свае пялёсткі, хлюпаючы носікам пад сумныя думкі, гэты самы Хтосьці дарыў яму сяброў...

Вечарам аднаго шэрага дня Рамонак падумаў, што, калі ніхто не хоча сябраваць з ім, варта было б прыдумаць сабе сяброў сярод зорак ці іншых рэчаў. Цікава, якімі б яны былі? Маленькімі, як мурашкі, або вялікімі, як той чалавек, што калісьці адарваў яго зялёны лісток, шукаючы папяровыя грошы.

Чыталі б яны казкі Рамонку ці гулялі б з ім у гульні? Рамонак не ведаў... Ён ведаў толькі тое, што гэта былі б сапраўдныя сябры. Такія, якія ніколі б не закрылі сабой сонейка, ведаючы, што дыхаць без яго немагчыма. Якія ніколі б не дазволілі завірусе здзекавацца з маленькай кветкі, калі зімовай ноччу больш нікога побач не было. Гэта былі б тыя сябры, побач з якімі ніколі не падумаў бы, што ты адзін.

І Рамонак знайшоў такіх для сябе. Ён не бачыў ганарлівых кветак вакол, не звяртаў увагі на іх здзекі. Рамонак расказваў ветру і зоркам пра тое, што б ён рабіў, калі б яму далі крылы.

У сваіх марах ён быў бы такім знаёмым, родным і цёплым Анёлам, які лётаў недзе далёка-далёка. Ці ўспамінаў ён пра Рамонка? Ці засталося хоць нешта ў памяці ад тых рэдкіх кропель аднаго на дваіх часу? Ад таго цяпла, што бегла ручаінамі па маленькіх рамонкавых жылках, скрозь паветра і нясмелыя дотыкі ляцела да блакітных вачэй Анёла.

Рамонак хацеў дапамагаць людзям знаходзіць сябе, захоўваць яшчэ не страчаную дабрыню і чалавечнасць. Каб зноў і зноў вучыцца клопату пра тых, хто не можа дбаць пра сябе, хто хворы і слабы. Хто яшчэ застаўся чалавекам.

Ён прыходзіў бы ноччу ў чалавечыя сны і паказваў бы ўсё самае лепшае, што праходзіць міма, але ніхто гэтага не бачыць. Тое, пра што людзі здымаюць фільмы і пішуць кнігі. Пра тое, што яны называюць шчасцем. Ён быў бы побач, калі чалавек не ведаў, куды яму бегчы і каго прасіць, ён быў бы побач у роспачы і журбоце, паказваючы іншы бок жыцця — тое выйсце, якое ёсць заўсёды, нават калі здаецца, што выйсця няма.

Калі б толькі гэта было трэба...

Ды і што можна зрабіць, калі ты ланцугамі прыкаваны да роднай зямлі? Калі гадамі вакол адзін адчай, які калісьці застыў у чаканні лепшага, незнаёмага, жаданага? Нічога. Толькі марыць.

Напэўна таму настолькі прывязаны быў Рамонак да свайго Анёла, што той усё ж нешта мог і нешта рабіў, каб не здавацца, каб людзі верылі і жылі гэтай верай.

Аднойчы ноччу прачнуўся Рамонак ад таго, што вялізныя халодныя кроплі білі яго пялёсткі, змываючы з іх апошні подых зімы і абыякавасці. Гэта было сапраўды незвычайна.

«Як жа хочацца дыхаць! — думаў Рамонак. — Дыхаць і жыць. Бегаць па лужынах, зрываць букеты кропель з неба, дарыць іх людзям разам з усмешкай, цёплым дотыкам пялёсткаў і самым незабыўным, самым чаканым пахам вясновай адлігі». Напэўна, толькі з узростам пачынаем мы цаніць такія простыя, звычайныя і паўсядзённыя моманты, як стук дажджу па падаконні ў вечаровай цішыні, першы сонечны промень скрозь шэрае неба, першую кветку з цудоўным пахам імгнення жыцця, першы снег на далоні, калі на ўласныя вочы бачыш тыя прыгожыя ўзоры бялюткіх маленькіх сняжынак. Нельга наогул сказаць, што жывеш, калі не адчуваеш прыгажосці, незабыўнасці, непаўторнасці такіх імгненняў.

Доўга яшчэ Рамонак не мог надыхацца дажджом, не заўважаючы таго, што ўсе яго пялёсткі і тоненькая сцяблінка дрыжэлі ад холаду і напору кропель. Ён рызыкаваў сур'ёзна захварэць, але не было куды хавацца: побач была толькі імгла...

Паступова праходзіла ноч, але хмары быццам згаварыліся і не рухаліся з месца. Дождж ліў такі, што, здавалася, быццам зіма памерла. Не будзе яе больш ніколі. Таму і плача горка неба, страціўшы сваё дзіця, быццам імкнецца адпомсціць людзям за іх жорсткасць і злосць.

Неўзабаве стала цямней. Рамонак прыпаў да зямлі і ўжо не заўважаў цемры. Сумныя думкі пасяліліся ў яго маленькім сэрцы. Не заўважыў Рамонак, што неяк нечакана скончыўся дождж, што стала цёпла і нават ўтульна. Хтосьці грэў малечу нечаканым цяплом. Рамонак адкрыў вочы. Яго маленькае сэрца амаль выскоквала з грудзей, яно імкнулася туды, дзе яшчэ хвіліну таму быў Ён.

«Анёл, даражэнькі мой! Я дачакаўся... Няўжо ты побач?..» Але прайшла адна хвіліна, другая — і Рамонак ад страху яшчэ больш прыціснуў да зямлі свае пялёсткі. Не было побач ні Анёла, ні следу яго крылаў. Сядзеў толькі велізарны чорны цмок, хлюпаў носам і жаваў шакалад.

— Хочаш кавалачак?

— Не, дзякуй... А ты хто?

— Як хто?! А ты хіба не бачыш? Я — велізарны страшны цмок! Мяне ўсе баяцца. Ты ж мяне баішся, так?

— Ц-ц-цмок? Баюся... — прашаптаў Рамонак. — Я ўсяго баюся. Асабліва тых, хто плюецца чымсьці ліпкім і салодкім. Ты хочаш з'есці мяне?

— Цябе? Я не ем ўсякую драбязу!

— Хопіць ужо плявацца! Дажджу на цябе мала будзе. Цябе не вучылі, што гэта непрыгожа?

— О, ачомаўся ўжо? Мяне ўвогуле ніхто не вучыў. Я сам сабе настаўнік. А вось цябе не вучылі, што небяспечна размаўляць з незнаёмцамі?

— Ну ты ж не збіраешся мяне есці. Таму я цябе ўжо не баюся. Я Рамонак, а тваё імя як?

— А мяне ніяк не завуць. Сам дзіўлюся. А мама калісьці ў дзяцінстве, калі я губляўся ў якім-небудзь дупле, на ўвесь лес крычала «Цмакоша-а-а». І я адразу знаходзіўся.

— Цмакоша... Так цёпла. А можна я буду называць цябе Коша? Гэта будзе нашай маленькай таямніцай.

— Можна, калі толькі асцярожна.

Рамонак нечакана расплюшчыў свае вялікія прыгожыя вочкі, здзіўлена паглядзеў на дракона і ледзь чутна сказаў:

— Адкуль ты ведаеш? Гэта немагчыма! Не можа быць...

— Гэй, ты чаго? Што здарылася?

— Адкуль ты гэта ўзяў? Адкуль у цябе «асцярожна»? Толькі Ён мог гэта ведаць! — амаль крычаў Рамонак.

— Цішэй ты. Раскрычаўся тут. Я, канешне, люблю свайго сябра, але ўсё ж не хачу быць такім жа глухім, як ён.

— Ты... Ты ведаеш Яго, так? Гэта Ён цябе даслаў?

— Ніхто мяне не дасылаў! Гэта толькі я магу загарнуць як паперку і выспяткам па Дняпры адправіць. Імгненна даімчыцца. І крылы не патрэбныя будуць. Дарэчы, кавы хочаш?

— Хачу... — млявым голасам праспяваў Рамонак. — Я люблю, вельмі люблю каву, таму што яе любіць мой Анёл.

— Ййй-эх! Чаго толькі твой Анёл не любіць! То рыбы яму налаві, а потым насушы, каб смярдзела ёю за кіламетр, то агуркоў у чым-небудзь агародзе пазыч ды насалі. То кавы падагрэй.

— Як гэта?

— Што як?

— Як гэта — кавы падагрэй?

— Ды так. Бярэш кубачак кавы, кладзеш туды трошкі шакаладу (я ўсюды яго кладу), набіраеш ў лёгкія паветра — і гатова! Толькі бывае так, што ад кубка нічога не застаецца, але затое заўсёды ёсць шакалад! Дык хочаш кавы?

— Неее, дзякуй. Я перахацеў. Як-небудзь потым, добра? Лепш раскажы, як вы пазнаёміліся з Анёлам.

Дракон уздыхнуў.

— Ну, Коша! Ну ты ж такі добры! Калі ласка, раскажы!

Дракон набраў паветра.

— Уууу, — плакаў Рамонак. — Коша мне не расказвае нічога. Які я няшчасны!

Дракон спаліў каву.

— І як толькі Анёл цябе церпіць? Да пажару давядзеш! — сказаў ён нарэшце. — Сядай бліжэй ды слухай. І толькі пікні мне! Спалю з шакаладам!

— Коша злуецца. Ой, кідай ты гэтую справу! Не пасуе яно табе. Так, пачакай, я ўладкуюся лепей.

— Тады слухай. Ляцеў я аднойчы над незнаёмай мясцовасцю. Я наогул люблю лётаць і адкрываць для сябе нешта новае. Бывае, ляціш сабе, ляціш... А тут раптам бах — і закахаўся. У нейкую дробязь. Ды так, што па самыя вушы!

— Коша!

— Лячу я, значыць, лячу і адчуваю: стаміўся. Трэба спыніцца. А дзе, калі я нічога не ведаю? Хоць бы якую сталоўку пабудавалі для такіх дурняў, як я,

ці што. А то ж чорт яго ведае, куды прыткнуць сваю «дзюбку»! Я ж сляпы, мне як сонейка ў галаву напячэ, дык увогуле нічога не...

— Коша!

— Кхм. Дык я ж і кажу, што іду па нейкай брыдкай зямлі, поўнай смецця ўсялякага, і раптам чую: над самым вухам бурчыць нехта, ды так злуецца! І самае цікавае, што маімі ж думкамі злуецца! Адзін у адзін мае словы. Ну, думаю, з глузду з'ехаў. Нельга мне больш лётаць. І шакаладу трэба менш есці. Сеў я на тым жа месцы, разнюніўся, шакаладу з гора напляваў. І слухаю далей. А яно і кажа: «Чорт яго ведае, што робяць! Жах які, ні прайсці, ні ўзляцець! Глядзець брыдка, да чаго дакаціліся гэтыя людзі. І не дзіўна, што носяць цяпер гэтыя таўшчэзныя боты, бо босымі нагамі тут не ступіш. Паглядзіш на гэта, дык адразу падумаеш, што з глузду з'ехаў!» Мяне як токам шыбанула. Сяджу і думаю: спаць. Хутчэй спаць. І брыкнуўся драмаць. Расплюшчваю вочы — і што ты думаеш? — Сядзіць твой Анёл побач з маёй «дзюбкай» і песні спявае. Усё, думаю, клініка. Ужо той свет сніцца. А можа... Не! Не мог я памерці так хутка!

— Вядома, не мог, — кажа ён мне. — Ды не палохайся ты так, а то яшчэ лопнеш тут сваім шакаладам! Я ж, напэўна, на чорта не падобны, чаго ж тут млець?

Разгаварыліся мы з ім. Так я даведаўся пра тое, што не заўсёды нават анёлы могуць лётаць. Дзіўна, але бываюць такія моманты, калі крылы здаюцца занадта маленькімі, каб падняць у неба моцную душу маленькага Анёла. Гэта вельмі цяжка прыняць, асабліва калі ўсё жыццё прывык рухацца толькі наперад, ніколі не спыняючы шэпту крылаў за спінай.

Так ён і хадзіў па зямлі ў пошуках сіл для новага ўзлёту. Яго босыя ногі павольна крочылі ў напрамку бязмежнага, няспыннага шчасця, якое ён мог бы даць людзям адной сваёй прысутнасцю ў іх жыцці. Але людзям гэта было не патрэбна. Яны прасілі кахання, жадаючы толькі супакаення свайго эгаізму, яны марылі пра сям'ю, думаючы толькі пра тое, каб хтосьці пра іх клапаціўся. Людзі не ўмеюць аддаваць. Гэта час, калі прынята толькі браць. Гэта бясконцы рух у нікуды.

Словам, наслухаўся я жахаў ад яго ў той дзень. З тых часоў мы заўсёды былі разам, хоць ён часта адсутнічаў, блытаўся недзе. Бывала, прыйдзе ўвесь мурзаты, бы чорт, толькі вочы блішчаць, а ты стаіш і думаеш: «Ну і дзе яно лазіла?» А ён луп-луп тымі вачыма, і ты ўжо ляціш хутчэй грэць яму каву.

— Ой, як цікава. А калі ты даведаўся пра мяне? Што ён казаў? Як паводзіў сябе ў гэты час? Няўжо ні разу не падавіўся тваім шакаладам?

— Не, даражэнькі мой, гэтую халеру нічога не бярэ! Ведаеш, ён вельмі скрытная асоба. Я ўсе зубы абадраў, пакуль выцягнуў з яго хоць нешта пра цябе.

І гэта яшчэ не канец!

● **Зубронак**

# Нікому не хацелася ад'язджаць...



Уявіце сабе, што ў вас з'явілася магчымасць патрапіць у казку. У самую сапраўдную казку з незвычайна прыгожымі мясцінамі, з неверагоднымі прыгодамі, цікавымі героямі і добрымі чараўнікамі. Напэўна, кожны хоць раз у жыцці марыў пра гэта.

Мне ж выпала магчымасць патрапіць у казку. Атрымаўшы пуцёўку ў лагер «Зубронак», я вельмі ўзрадавалася, бо неаднаразова даводзілася чуць пра тое, які гэты лагер цудоўны, і як там цікава. Але, як выявілася, я нават не ўяўляла, наколькі.

## Казка пачалася

Ад самага пачатку, калі я толькі прайшла некалькі крокаў па шырокай дарожцы, мяне сустрэлі першыя «жыхары» гэтага незвычайнага месца — вялікія, пакрытыя зялёным мохам Зубр і Лось, якія накіроўваліся адно аднаму насустрач. Як я потым даведалася, гэта было «Месца сустрэчы лясных сяброў» — славутасць «Зубронка», якая сімвалізуе сяброўства, што перамагае адлегласць і час.

На твары з'явілася ўсмешка, і далей ўжо шла, зацікаўлена пазіраючы па баках.

А паглядзець было на што: абапал сцежкі «раслі» цудоўныя дрэвы з яркіх лямпачак, высокія будынкі зіхацелі вадаспадамі рознакаляровых гірлянд, над сцежкай раскінуліся аркі са штучных яловых галінак, упрыгожаныя агеньчыкамі і бліскучымі шарамі, а сапраўднымі галінкамі ад холаду былі «схаваны» клумбы з кветкамі...

Корпус «Лазурны востраў», у якім мне давялося пасяліцца, уражваў чысцінёй і ўтульнасцю. Светлыя пакоі з усімі выгодамі, тэматычнае афармленне... І нават падлога была з падагрэвам, што не магло не парадаваць.

Далей адбылося знаёмства з «персанажамі»: з важатымі, суседзямі па пакоі і «аднаатрадаўцамі». І якімі ж усе выявіліся цікавымі! Кожны — індывідуальнасць — таленавітая, незвычайная і непаўторная. Увогуле, усе, каго давялося сустрэць у гэтым месцы, чымсьці запомніліся. Нават людзі, з якімі бачыліся толькі раз ці два.



## Прыгоды працягваліся



З самага першага дня нас захапіў вір уражанняў і мерапрыемстваў. На сум і нудоту не было ні хвіліны, бо мы заўсёды былі чымсьці занятыя. І сапраўды, не вельмі хочацца сумаваць, калі вы ўсім атрадам прыдумваеце кліп на песню, малюеце плакат, дружна імправізуеце на дыскатэцы (трэба зладжана танцаваць пад музыку, якая пастаянна змяняецца), здымаеце відэакліп пра гісторыю «Зубронка» або намагаецеся гучней за ўсіх спяваць на «музычнай гадзіне»...

Паколькі змена, на якую я трапіла, прадугледжвала клопат пра здаровы лад жыцця і экалогію, мы не маглі застацца ў баку ад гэтай тэмы. Але што ж мы рабілі? Напрыклад, стваралі мноства маленькіх картачак пра ЗЛЖ і раздавалі ў сталоўцы. А чаго вартыя плакаты «Абдымі эколага», з якімі хадзілі падлеткі...

І вядома ж, вучыліся ў школе. Але, паверце, гэтая школа не зусім звычайная. У ёй былі свае конкурсы і разнастайныя пазакласныя мерапрыемствы, а навучанне праходзіла лёгка і цікава.

А яшчэ мы ездзілі на экскурсіі, глядзелі кінафільмы ў кампаніі сяброў, для нас арганізоўвалі канцэрты. Адзін з іх, самы вясёлы, арганізаваны нашымі важатымі, мы ўсім лагерам успаміналі да канца змены. Ён (канцэрт) стаў для нас вельмі прыемным сюрпрызам — абяцалі дакументальны фільм пра Бацькаўшчыну, а самі...

## Надышло развітанне

За час, праведзены разам, мы вельмі пасябравалі. Прычым, не толькі ў атрадзе, але і паміж атрадамі, карпусамі і класамі. Можна смела сказаць, што мы сталі адной сям'ёй.

Увогуле, уся атмасфера была ўтульнай і дружнай, сямейнай. Важатыя клапаціліся пра нашае здароўе (паспрабуй толькі выйсці на двор без шапкі!), пра наш настрой, і ўвогуле за змену паспелі стаць вельмі блізкімі нам людзьмі. У атрадзе мы заўсёды падтрымлівалі адно аднаго, дапамагалі (варта толькі прыгадаць, як весела мы — прадстаўнікі перадкавагодняй змены — упрыгожвалі родную «Лазурку» да свята). І нават ежа ў сталоўцы была не толькі разнастайнай, але і па-хатняму смачнай...

У апошні вечар, калі мы ўсе стаялі ў крузе і ціхенька спявалі развітальныя песні, многія плакалі. Нікому не хацелася ад'язджаць...

І вось я дома.

Але, ведаеце, казка не скончылася.

Перад ад'ездам мы дамовіліся зноў сустрэцца.

І мы выканаем абяцанне!

*Ірына РАДЗІХОЎСКАЯ, вёска Дворнае Сяло, Мёрскі раён,*
*фота з архіва лагера «Зубронак»*

● **Верасок**

# Краса для вока любая заўжды…

## Зімовы вечар

Гляджу ў акно і думаю: вось бы ў казку трапіць. У тую, што за акном. Шэрань блішчыць на галінках дрэў, пераліваецца пад ліхтарамі, іскрыцца каляровым салютам. Прыгожа! Мароз такі моцны, што паветра звініць самымі высокамі нотамі. Ад гэтай музыкі нават зоркі пачынаюць спяваць калыханку. Яны ўжо зусім замерзлі, бедненькія… Прыгожая казка, але халодная… Марыць жа лепш у цёплай кватэры, пазіраючы на вечаровую казку зімы праз акно. Мне цёпла і ўтульна. На падаконніку, ціха вуркочучы, засынае мой коцік Барсік. Ён таксама любіць глядзець у акно.

***Аляксандра НОВІК,***
***Ждановічы, Мінскі раён***



 

## Халодная прыгажосць

Абрусам белым снег зямлю пакрыў
Чысцютка, белізною слепіць вочы...
Ён прыгажосць прыродзе падарыў,
Але не кожны да яе ахвочы.

Насталі вельмі цяжкія часы.
Узімку кепска птушкам і жывёлам.
Ну, што ім да зімовае красы,
Калі складана ў сцюжу выжыць кволым?!

Абрус таўшчэзны... і пячэ мароз,
Турботы мучаць і няма спакою...
І для жыцця ўзнікае шмат пагроз
Бялюткаю прыгожаю зімою.

Краса для вока любая заўжды,
Ды прыгажосць душу не саграве!
Наадварот, прыносіць шмат бяды,
Калі яна халоднаю бывае...

*Алена КАРП,*
*Прылукі, Мінскі раён*

## Да першага цяпла

Люблю глядзець на вокны, калі па іх прайшоўся марозік. Глядзіш — і вырастаюць на шкле ружы, лілії, елкі, казачныя палацы, сцяжынкі, нават феі... Дыяментамі пераліваецца аконны малюнак на сонцы. І звычайнае акно дорыць сапраўднае свята. Дзіўную казку можна прыдумаць, калі глядзець на шэдэўры мароза-мастака. Срэбраныя — ноччу ў ззяні месяца, залатыя — удзень на сонцы...

Які багаты мароз!

Толькі ненадоўга, да першага цяпла.

*Дар'я САЛАНІНКА,*
*Ждановічы, Мінскі раён*

## Лес зімой

На кронах снег, стаяць у шапках сосны,
Цудоўныя зімовыя лясы!
З красой іх параўнацца могуць вёсны,
Другой такой амаль няма красы!



Зялёнае і белае — прыгожы,
Зімовы лес, і сосны, і мароз!
Краса пейзажу хутка дапаможа
Пазбегнуць смутку ці яго пагроз.

На сонцы снег вясёлкаю іскрыцца,
Калі злятае, нібы пух, з галля,
У змозе казка дзіўная прысніцца,
Але наяве казку бачу я.

Лес кліча: «Завітайце, калі ласка!»
Зімовы лес, што ў свеце лепш яго?
Чароўная, як цуд, чакае казка...
Наяве казка — даражэй ўсяго!

***Анастасія ЧЭПІК,***
***Прылукі, Мінскі раён***

## Усмешлівыя фарбы і альбом

Яшчэ з вечара ў ранцы апынуліся фарбы і альбом — заўтра ўрок малявання! Я вельмі люблю гэты ўрок. Калі прыходзіць настаўніца і дае нейкае заданне, то гэта не так цікава, а вось калі яна кажа, што можна маляваць усё, што хочацца, то тут ужо мая фантазія пачынае, бы тая цудоўная кветка, распускацца самымі рознымі колерамі. Я звяртаюся да сваіх верных сяброў, фарбаў і альбома, са шчыраю просьбай здзейсніць мае запаветныя мары: ажываюць кветкі, матылькі, вясёлка, сад, наш дом, дзе жывём дружнаю сямейкаю. Побач з намі, зразумела, апынуліся нашы любімцы — кот і сабака. А над нашым утульным домікам заззяла сонейка. Яно ўсмешліва пазірае на нас і ціха кранае сваімі далікатнымі промнямі куст руж. Мама вельмі любіць гэтыя кветкі і заўсёды робіць на зіму для іх цёплую хатку з яловых лапак, прамаўляючы:

— Захінаю вас, ружы, каб не ведалі сцюжы.

Ого, як цудоўна усё ж такі мецць у ранцы фарбы і альбом!

***Віялета МЯДЗЕЛЬСКАЯ,***
***Мядзельскі раён, вёска Камарова***



● **Да свята 8 Сакавіка**

# Ласкавыя рукі маёй мамы

***Хутка кожны з вас, шаноўныя чытачы, будзе віншаваць матуль, бабуль, сясцёр з лепшым вясновым днём — святам 8 Сакавіка! У такі дзень удвая прыемней пачуць цёплыя і ласкавыя словы ад самых родных.***

***Вось і нашы юныя аўтары вырашылі павіншаваць сваіх матуль са старонак «Бярозкі».***

## Кветкі для маці

Віншуюць кветкамі каханых,
Калі прыходзяць на спатканне.
Сяброў, знаёмых паважаных
Ці юбіляра ў знак прызнання.

І вельмі рэдка ў роднай хаце,
Калі дадому прыязджаюць,
У рукі стомленыя маці
Букеты сціплыя ўручаюць.

Дарыце маці ружы, астры.
Ёй вашай ласкі не хапае.
Яна з пяшчотай, шчырай ласкай
Вас на парозе сустракае.



## Рукі маці

Я люблю вас, рукі маёй мамы,
У калысцы вы мяне люлялі,
Цешылі, пяшчотна абдымалі,
Ад напасці, бед засцерагалі...

Ласкавыя рукі маёй мамы!

*Ілля БЛІЗНЮК,*
*Мачулішчы, Мінскі раён*

## Мая мама — самая лепшая!

Кожнаму вядома, што няма на зямлі бліжэй і даражэй за маму чалавека. З самых першых хвілін майго жыцця яна атуляе мяне сваёй цеплынёй і клопатам, становячыся больш сталай, я давяраю ёй мае таямніцы і страхі, дзялюся з ёй сваімі ўражаннямі аб навакольным свеце і заўсёды спадзяюся на поўную падтрымку і разуменне з яе боку.

Мая мама — мой самы блізкі і родны чалавек!

Мама...

Гэта першае слова, якое я вымавіла, яшчэ несвядома звяртаючыся да яе. Усё, што адбываецца вакол мяне, звязана з яе прысутнасцю. Я часта думаю пра яе, часцей, чым думала ў раннім дзяцінстве. Аб усіх маіх нягодах і радасцях я заўсёды перш за ўсё распавядаю менавіта ёй.

Якая яна, мая мама?

Можна знайсці мільёны слоў, самых далікатных і ласкавых, прыгожых і пяшчотных, але нават яны не змогуць перадаць усе мае пачуцці да яе.

Добрая і справядлівая, ласкавая і сур'ёзная, адважная і пяшчотная, працавітая і ўважлівая і яшчэ, і яшчэ... кожны раз яна новая, розная і ўсё ж тая самая — мая адзіная!

Напэўна, я магла б бясконца расказваць пра яе, але сваё кароткае сачыненне мне хочацца закончыць вядомымі радкамі:

Хай заўсёды будзе сонца!
Хай заўсёды будзе неба!
Хай заўсёды будзе мама!

*Марыя ЛІТВІНЕНКА,*
*Мінскі раён, Мачулішчы*




## Маёй маме

Вельмі добрая яна —
Мама родная мая!
У яе так шмат работы:
Дома — клопаты, турботы...

Мама ежу нам гатуе
І бялізну нам прасуе...
Кожным вечарам, без стомы,
Робіць мама ўсё па доме...
Калі ж трэба дапамога —
Падмяту заўжды падлогу...

Мы з мамай гуляем,
Мы з мамай спяваем,
Ці сядзем ціхенечка і размаўляем...
Нам з мамай цяплей,
Нам з ёй весялей.

Люблю цябе шчыра,
Матулечка родная!
Самая добрая і лагодная!

*Ліза КЛІМКОВІЧ,*
*Барысаў*

 

## Дзякуй табе, матуля!




Дрэвы, травы, птушкі, жывёлы, рэкі, неба, сонца...

Якая прыгажосць!

Я магу бегаць, скакаць, спяваць, хадзіць у школу...

Які цуд!

Я існую! Я жыву!

Усё, што вакол мяне, усё, на што я здольна — гэта маё жыццё!

І даравала мне яго мая маці. Самая добрая і ласкавая, самая прыгожая і добразычлівая.

Мая матуля...

Да яе я тулюся ў смутку, з ёй радуюся сваім поспехам. Самы надзейны сябар — гэта мая маці...

Ніхто так, як яна, не падтрымае, не паклапоціцца. Не дарма ж першае слова кожнага дзіця — «мама».

Я вельмі люблю сваю матулю. Я ўдзячна ён за пяшчоту і ласку, за кожную ўсмешку, за ўсё, што яна дзеля мяне робіць і адчувае. За тое, што я існую ў гэтым свеце.

Дзякую цябе, матуля!

Ад усяго сэрца, шчыра віншую ўсіх мам, бабуль, дачок з Міжнародным святам 8 Сакавіка! Жадаю ўсім вам шчасця, здароўя, дабрабыту і вясновага настрою. Да віншавання далучаюцца мой тата і браты.

*Ліза САЕВІЧ,*
*Мінск*



**● Конкурс**

# Казкі са школьнага ранца

*Умовы абвешчаны ў вераснёўскім нумары «Бярозкі».*
*Дасылаць свае казачныя гісторыі можна на паштовы адрас:*
*220034, Мінск, вул. Захарава, 19, рэдакцыя часопіса «Маладосць»*
*(з пазнакай «Бярозка»), на электронны —*
***bjarozka@mail.ru.** альбо **maladost@bk.ru***



## Сон у навагоднюю ноч

Надыходзіў навагодні вечар. Пяцігадовая дзяўчынка Аленка сядзела побач з маці і чакала надыходу Новага года. А разам з ім — Дзядулю Мароза.

— Ты не хочаш спаць, дачушка? — спытала маці.

— Не, мамачка, я буду чакаць Дзядулю Мароза! — адказала дзяўчынка.

Аленка надзела прыгожую сукенку, прычасала валасы, упляла ў іх бліскую стужку, уладкавалася ля тэлевізара і... сама не заўважыла, як заснула. І прысніўся ёй дзіўны сон.

Быццам, ідзе Аленка па зімовым лесе, а там прыгажосць такая, што ні словам сказаць, ні пяром апісаць: дрэвы стаяць у срэбным убранні, па іх галінках скачуць крыштальныя вавёрачкі, якія пераносяць з месца на месца шкляныя арэшкі; вось непадалёк прабегла ліска, апранутая ў сапраўднае футра з каўнерыкам, а пад вялізнай старой сасной зайчык паклаў свой беленькі кажушок, відаць, угрэўся, бегаючы па лесе...

І ўсе лясныя жыхары былі вельмі рады неспадзяванай госці:

— Дзень добры, Аленка! Хадзі хутчэй да нас на навагодняе свята, Дзядуля Мароз будзе падарункі раздаваць!

Ідзе дзяўчынка далей і бачыць: стаіць незвычайнай прыгажосці векавая ёлка, уся ўпрыгожаная рознакаляровымі цацкамі, шышкамі і агеньчыкамі. Вакол ёлкі сабраліся лясныя жыхары, а Дзядуля Мароз раздае ім падарункі і віншуе кожнага з надыходзячым Новым годам.

Неўзабаве Дзядуля Мароз заўважыў Аленку і сказаў:

— Падыдзі сюды, дзяўчынка, не бойся, — Аленка падышла. — Я ведаю, ты вельмі добрая дзяўчынка, паслухмяная. Які падарунак ты б хацела атрымаць у навагоднюю ноч?

Аленка вельмі хвалявалася, але потым нясмела сказала:

— У мяне няма ні брацiка, ні сястрычкі, таму я хацела б мець ляльку, якая ўмее гаварыць.

Дзядуля Мароз тры разы пляснуў у далоні — і ў Аленкі ў руках апынулася ружовашчокая прыгажуня-лялька...

— Мама! — звонка прагаварыла лялька, расплюшчваючы вочы.

І ў гэты момант Аленка пачула бой курантаў, якія абвяшчаў наступленне Новага года. Яна расплюшчыла вочы і ўбачыла, што пад навагодняй ёлачкай, якую яны ўпрыгожвалі разам з маці, сядзіць ружовашчокая прыгажуня-лялька.

— Мама! — зусім як у сне прагаварыла лялька, калі Аленка падхапіла яе на рукі. — Мама!

З таго часу Аленка верыць, што ў навагоднюю ноч могуць адбывацца сапраўдныя дзівосы.

*Марына ШКАДУН,*
*вёска Слабада, Мядзельскі раён*

## Паўлінка

Жыла-была бедная дзяўчына Паўлінка. Адзінокая яна была ў сваёй сям'і: маці памерла, бацька быў зусім хворы, не ўставаў з ложка, а мачыха і яе дачка не любілі Паўлінку.

Яны прымушалі бедную дзяўчынку рабіць усе хатнія справы, хадзіць у лес па грыбы і ягады, збіраць галлё для печы, даглядаць агарод і скаціну. Цяжка даводзілася сіроцінцы, але было ў яе добрае сэрца, не злавала Паўлінка на людзей, не скардзілася на свой лёс.

Аднойчы восенню адправіла мачыха Паўлінку ў лес па грыбы. Узяла дзяўчына з сабой толькі акрайчык хлеба: больш ёй нічога не далі. Хадзіла Паўлінка да самага вечара па лесе, адышла далёка ад дому, але набрала поўны кошык грыбоў. Вельмі стамілася, вырашыла прысесці на пянёк і падмацавацца хлебам. Раптам бачыць — на палянцы бялюткі бусел. Бездапаможна расставіў свае вялікія крылы, сумна апусціў уніз галаву. Падбегла да яго дзяўчынка, пагладзіла па галаве і заўважыла, што ў бусла перабіта адно крыло.

— Бедны бусел! Ён не зможа паляцець у вырай і загіне! Што рабіць?

Адламала дзяўчынка ад свайго акрайчыка хлеба кавалачак і пакарміла бусла. Вырашыла Паўлінка забраць хворую птушку дадому і да вясны падлячыць ёй крыло.

Так і пайшла яна: у адной руцэ поўны кошык грыбоў, у другой — хворы бусел. Ішла яна гадзіну, ішла другую. Цяжка ісці, вырашыла адпачыць. Толькі прысела — раптам бачыць: да яе падыходзіць незнаёмая бабулька. Згорбленая,

бедна апранутая, а вочы ў бабулі такія блакітныя, што аж свецяцца. Гаворыць старая:

— Ох, цяжка мне, дзяўчынка! Стамілася я, не ела ўвесь дзень. Можа, у цябе будзе, чым падсілкавацца?

Паўлінка аддала бабульцы апошні кавалачак хлеба. А тая ўсміхнулася і кажа:

— Дзякуй табе, дзяўчынка! Я не простая бабулька, я — чараўніца. Бачу, што сэрца ў цябе добрае. А за тое, што ты мне дапамагла, я дам табе цудоўную скрыначку. Тры разы можаш адчыняць яе, і тры разы загадваць жаданне. Усе тры жаданні здзейсняцца.

Узмахнула чараўніца чароўнай палачкай — і ля ног дзяўчынкі з'явілася скрыначка. А сама бабулька знікла, быццам яе і не было.

Узяла дзяўчынка скрыначку і ідзе далей. Падыходзіць да ракі. Што гэта? Хтосьці боўтаецца ў вадзе, вось-вось патоне. Гэта малы зайчык трапіў у ваду і не можа выбрацца. Шкада стала Паўлінцы беднага зайчыка, адчыніла яна сваю скрыначку і загадала, каб хваля вынесла малога да берага. Так яно і выйшла. Зайчык хутка ачуняў і пабег у лес.

Прыйшла Паўлінка дадому. Стомленая, галодная. Але мачыха раззлавалася на яе за тое, што яна прынесла ў хату бусла:

— Шмат вас тут, дармаедаў. Забірай свайго старога бацьку, сваю птушку і вон з дому!

Расхвалявалася, заплакала дзяўчынка. Як яна забярэ бацьку? Ён жа не можа хадзіць! Што рабіць? І тут успомніла пра чароўную скрыначку. Ёсць жа яшчэ два жаданні!

Хуценька загадала Паўлінка, каб бацька яе быў здаровы. Так і выйшла. Бацька адразу выздаравеў, павесялеў, потым абняў дачку ды заплакаў ад радасці.

Усяго адно жаданне засталося ў дзяўчыны. І загадала яна, каб у бусла загаілася крыло.

І раптам здарыўся цуд. Бусел нечакана ператварыўся ў прыгожага прынца.

— Дзякуй табе, мілая Паўлінка! Мяне зачаравала злосная чараўніца, а ты мяне выратавала! Будзь жа цяпер маёй жонкай. Хадзем да майго бацькі ў каралеўскі палац. Будзем святкаваць вяселле.

Нечакана з'явілася Чараўніца. Яна зноў узмахнула сваёй чароўнай палачкай, і Паўлінка апынулася ў вясельнай белай сукенцы. А побач з ёй стаяла карэта, запрэжаная шасцёркай вараных коней. Паехалі яны да караля ўсе разам: бацька, дзяўчына і прынц. А на наступны дзень усё каралеўства святкавала вяселле.

І я там быў, мёд-піва піў, па вусах цякло, а ў роце не было.

*Раман ШАГУН,*
*Салігорск*

## Чаму ў зайца няма хаткі



У адным лесе ваяводам быў Мядзведзь, паважаны Міхайла Патапавіч. Ён быў сумленны, дбайны гаспадар і ўважліва сачыў за парадкам у сваіх уладаннях. Аднойчы вырашыў Міхайла Патапавіч праверыць, ці дружна жывуць між сабою лясныя жыхары, ці не крыўдзяць вялікія і дужыя малых і слабых. Паклікаў Зайца, растлумачыў, пра што хоча даведацца:

— Ты бегаеш шпарчэй за ўсіх, таму я даручаю табе гэтую справу. Зразумеў заданне?

— Зразумеў, — адказаў Заяц.

— Тады выконвай!

І Заяц з усіх ног кінуўся ў лес.

Першая яму напаткалася Вавёрка. Заяц пахваліўся, што яго паслаў з даручэннем сам Мядзведзь, і спытаў, ці не крыўдзіць хто яе. Вавёрка адказала, што пакрыўдзіць яе ніхто не зможа, каб і хацеў, бо ніводзін звер не пераскоквае з дрэва на дрэва так спрытна, як яна.

Не пачуў Заяц скаргаў і ад іншых звяроў. Так ён дамчаў да барсуковай нары. Але замест Барсука сустрэў Лісіцу, ягоную суседку. Яна вылезла са сваёй нары і ліслівым галоскам спытала:

— Што ты тут робіш, Зайчык?

Заяц расказаў ёй пра заданне ваяводы і папрасіў паведаміць, ці не крыўдзіць Барсук меншых звяроў і птушак. Лісіца азірнулася па баках і зашаптала:

— Сама не ведаю, што здарылася з маім суседам. Раней жыў ціха-мірна, а цяпер... Выйдзе раніцай і давай гойсаць па паляне. А потым, натрэніраваўшыся, бяжыць у вёску і хапае курэй, гусей, качак. — І яна паказала лапай на кучу пер’я, што ляжала недалёка ад яе нары. — А самае непрыемнае: усе думаюць, быццам гэта мая работа! — працягвала між тым Лісіца. — А я ж з вясны пачала карміцца адной зелянінай. Часам схаплю мыш-палёўку, дык гэта ж шкоднік... Так і скажы Мядзведзю. Няхай пакарае злодзея Барсука.

— Абавязкова скажу! — паабяцаў Заяц.

Міхайла Патапавіч, выслухаўшы Зайца, паклікаў да сябе Барсука.

— Барсук, як ты сябе паводзіш? — зароў ён разгневана. — Ганьбіш усіх лясных жыхароў!

— А што такое? — не зразумеў Барсук.

— Як што? Бегаеш у вёску, крадзеш там курэй, гусей, качак...

— Гэта няпраўда! — закрычаў Барсук. — Ды кожны ведае, што я ем толькі чарвякоў ды жукоў, а яшчэ ахвотней: грыбы, ягады ды розныя карэньчыкі?

І стары Барсук заплакаў ад крыўды. Мядзведзь супакоіў яго. Сказаў, што паклёпніка строга пакарае.

Назаўтра Міхайла Патапавіч зноў паклікаў да сябе Зайца.

— Навошта ты зняславіў сумленнага Барсука? — пагрозліва спытаў ён. — Навошта назваў яго злодзеем? Р-разарву цябе за гэта на дробныя кавалачкі!

У Зайца ад страху пачалі дрыжаць вушы і хвост.

— Я нічога не выдумляў, — толькі і змог прамовіць ён. — Мне Лісіца сказала... Ды і пер'яў там ляжала шмат...

— А-а, Лісіца?.. Цяпер мне ўсё зразумела, — крыху супакоіўся Мядзведзь. — Зараз жа знайдзі Барсука і папрасі ў яго прабачэння. А Лісіцы перадай, каб хуценька да мяне з'явілася!

Заяц ад радасці, што застаўся цэлы, кульнуўся і паімчаў да пакрыўджанага Барсука. Але той ад крыўды і знявагі кудысьці ў іншае месца перасяліўся. Не знайшоў Заяц і Лісіцы: яна прачула, што ваявода ведае праўду, і таксама збегла немаведама куды...

І пабег бедны Заяц шукаць Барсука і Лісіцу. Так ён бегае і дагэтуль. І хаткі не будуе, і ніякіх запасаў на зіму не робіць. Не мае часу!

*Кацярына ЛЕАНАВЕЦ,*
*Столін*

## Як Аловак пасябраваў з Тачылкай

У адным прыгожым пенале жыў-быў Аловак-Прастачок. Такі ладненькі, з тонкім вострым носікам. Ён любіў завіхацца на сваёй доўгай ножцы: то малюе нешта, то чэрціць, то падкрэслівае... Не любіў сядзець без справы.

А яго суседка, Тачылка-Пілілка, назіраючы за гэтым, бурчала незадаволена: «Усюды сваім носам паводзіць гэты Прастачок! Не ляжыцца яму!..» Сама ж яна цальнюткімі днямі ляжала на баку без справы. Сумавала, таму і злавалася. Аловак-Прастачок не крыўдзіўся на суседку. Ён быў добрым. За дзень так напрацуецца, што ледзьве ўкоціцца ў свой пенальны ложак. Калі ж тут звяртаць увагу на нейкае бурчанне Тачылкі-Пілілкі.

Але аднойчы здарылася бяда!.. Аловак-Прастачок так захапіўся маляваннем восеньскага пейзажа, што зусім забыўся пра асцярожнасць. Яму заставалася намаляваць толькі кропелькі дажджу... На апошняй кропельцы ён радасна падскочыў і так націснуў носікам, што той не стрываў і зламаўся. Прастачок разгубіўся, ён не мог адразу зразумець, што здарылася. А калі ўсё стала ясна, ледзьве стрымаўся, каб не заплакаць. Ціхенька закаціўся ў пенал і сумна прашаптаў: «Цяпер я нікому не патрэбен без вострага носіка. А калі так, пакачуся на сметнік!..»

— А я на што?! — пачуў ён раптам голас суседкі Тачылкі-Пілілкі.

Праз хвілінку Аловак-Прастачок зноў пакручваў ладненькім доўгім носікам. Які ён быў шчаслівы! І не толькі ён. Тачылка-Пілілка цяпер важна паварочвалася вакол Алоўка-Прастачка. Яна любавалася сваёю працай.

З той пары Аловак і Тачылка пасябравалі.

*Ганна СІМАНОВІЧ,*
*Альшаны, Столінскі раён*

# Андрусь Такінданг — мастак ці музыка?

***У кожнай краіне ёсць таленавітыя людзі са сваім непаўторым лёсам. Яны з'яўляюцца раптоўна і нечакана, як зоркі ў небе, і не кожны заўважыць іх трапяткое чароўнае ззянне. Так у Беларусі нарадзіўся Андрусь Такінданг — чалавек здольны ствараць прыгожае, а таксама надзелены любоўю да мастацтва. Гэты маладзён — мастак-рэстаўратар, музыкант гуртоў «Рэха» і «Гаротніца», паэт, вядучы рубрыкі «Беларуская мова» ў праграме «Наше утро» на АНТ.***



## Першыя крокі да прыгожага

Бацькі Андруся — беларуска і ўраджэнец Чаду. У савецкія часы гэта быў даволі арыгінальны саюз паміж маладымі людзьмі. Але сэрцу не загадаеш — каханне перамагло! І ў свеце з'явіўся прыгожы хлопчык, які ад маці ўспадкаваў вяснушкі, а ад таты — цёмны колер скуры.

Сваё дзяцінства Андрусь правёў у вёсцы на Лепельшчыне. Яго выхаваннем займаліся бабуля і дзядуля, настаўнікі. Маленькі ўнучак быў непаслухмяны: рабіў, што хацеў (ніхто не мог яго супакоіць), энергіі было столькі, што нават мэблю ламаў, свавольнічаў і шкодзіў. Аднак вясковае жыццё вымушае працаваць з ранку да вечара. Так Андрусь зведаў фізічную працу: навучыўся касіць траву, калоць дровы, зарабіўшы не адзін спрацаваны мазоль.

Вясковыя заняткі ды хараство прыроды натхнялі хлопца на творчасць, ён пачаў цікавіцца маляваннем. Браў кавалак кардону, гуаш, пэндзаль і маляваў абстрактныя карціны, рознакаляровыя пісягі. Андрусю пашчасціла: бацькі падтрымалі яго памкненне да прыгожага. Ва ўзросце адзінаццаці гадоў ён паступіў у Рэспубліканскі каледж мастацтваў імя Ахрэмчыка. Вучоба не толькі фарміравала прафесійныя навыкі, але і вучыла свабодна думаць, разважаць, аналізаваць. «Вучоба — гэта яшчэ і фарміраванне пэўнай філасофіі, свабодалюбства, крытычнага погляду на жыццё. Мы спрачаліся з настаўнікамі, а яны

нас заахвочвалі ў гэтую спрэчку, каб мы разважалі. Мы да ночы заставаліся ў майстэрні і працавалі. Гэта была асалода ад мастацкай работы. Паміж вучнямі панавалі шчырыя адносіны, завязвалася сяброўства», — узгадвае Андрусь.

Пакуль маленькі мастак жыў у вёсцы, размаўляў на трасянцы, аднак сёння выдатна валодае беларускай мовай. «Мая маці размаўляе па-беларуску. У вёсцы хадзіў у беларускамоўную школу. У каледжы мастацтваў выкладалі па-беларуску. Так што родная мова заўжды са мной», — кажа Андрусь і дадае: «Сам я чалавек досыць прагматычны і не схільны рамантызаваць мову, мова для мяне ў першую чаргу сродак зносін».

## Выратавала музыка

Каб быць арыгінальным мастаком, трэба не проста вучыцца маляваць, неабходна мець свой стыль, сваю разынку. Андрусь вырашыў працягваць адукацыю ў Акадэміі мастацтваў. Аднак вучоба стала шкоднай для маладога творцы. «У Акадэміі мастацтваў ёсць такі прынцып — каб зрабіць з цябе мастака, цябе мусяць перамяць, як цеста, а пасля з яго вылепіць штосьці. Ёсць людзі, якія лепяцца, ёсць тыя, каму ад гэтага цяжка, але яны церпяць, а ёсць такія, што ламаюцца. Я з тых, хто зламаўся.Чым больш я працаваў і маляваў, тым горш у мяне атрымлівалася. Пачаў страчваць тое, што меў, і не мог узяць тое, чаму мяне вучылі», — прызнаецца Андрусь. Выключэнне з акадэміі стала для яго трагедыяй. Кажа, што адчуванне было як у піяніста, у якога адсохлі рукі. З’явіліся думкі і жаданне працаваць кіроўцам тралейбуса, вартаўніком ці ахоўнікам, каб проста рабіць нейкую працу і ні пра што не думаць. Выратавала музыка. Пачаліся гастролі, горыч трошкі разбаўлялася радасцю жыцця музыканта. Так ён перажыў лета і паступіў у Беларускі дзяржаўны Інстытут культуры і мастацтваў на рэстаўратара.

Сёння Андрусь лічыць, што пасля выгнання з акадэміі, стаў больш-менш адэкватным мастаком. Паглядзеўшы на яго карціны, кожны заўважыць характэрныя менавіта для такіндангаўскіх малюнкаў рысы. Мастак, несумнеўна, мае ўласны стыль. І каб яго не згубіць, па меркаванні Андруся, трэба мець задавальненне ад працы, адэкватна ацэньваць уласную работу і час ад часу хадзіць на выставы, глядзець на чужыя карціны. Выяўленчае мастацтва для Такінданга — гэта спосаб мыслення і візуалізацыі светапогляду, думак, рэчаіснасці. Не толькі праца і частка яго жыцця, а сродак камунікацыі з грамадствам. Мастак мяркуе, што ў будучым мастацтва звернецца да абароны традыцыйнай маралі, а сістэма выяўлення стане ўраўнаважанай і гарманічнай.

## Простыя словы пра самаем галоўнае...

Жаданне ствараць не толькі карціны, але і музыку ўзнікла яшчэ падчас навучання ў Парнаце. Выбраць інструмент Андрусю было лёгка. Гітарыстаў было і так хоць гаць гаці, таму малады мастак выбраў домру — інструмент,

на яго погляд, прыгожы і інтымны. Спачатку музыка нагадвала гульню ў музыку, а калектыў складаўся з аднаго музыканта і трох мастакоў. У 2002 годзе, на свет з'явіўся гурт «Recha» (Рэха), які сёння складаецца з пяці жыццярадасных хлапцоў. «Recha» не прытрымліваецца ніякіх стылістычных межаў і пазіцыянуе сябе як поп-музыку. Гэта і рокавыя матывы, і джазавыя, і крыху фольк. «Простая музыка і простыя словы пра самае галоўнае ў жыцці» — вось слоган гурта.

У 2007 годзе цёмнаскуры музыкант стварае яшчэ адзін гурт «Гаротніца» — дэструктыўны пажарны аркестр з жаночым вакалам. Як кажа музыка: «Ідэя стварыць "Гаротніцу" з'явілася, калі быў крызіс у гурта "Recha" і калі ўзнікалі тэмы, якія "Recha" не магло агучыць праз свой фармат. Я хацеў зрабіць стылізацыю. "Гаротніца" — гэта галашэнне гаротнай душы чалавека, не абавязкова жанчыны. Гэта душа, якая пакутуе з-за свайго жыцця. У кожнага чалавека ёсць цяжкія перыяды, перыяды суму, якія трэба выказваць. Тэма вельмі цікавая для мастацкага ўяўлення». Безумоўна, абодва гурты паспяховыя і заслугоўваюць увагі.

Андрусю даспадобы гастраляваць з гуртом па вёсках, па маленькіх гарадках Беларусі. Вулічныя канцэрты любіць больш, чым клубныя. Кажа, што едзеш і дзівішся прыгажосці краіны. Які каларыт! Кожны раз нейкая новая гісторыя. А калі казаць пра замежжа, то музыка аддае перавагу гарадам, дзе развітая вулічная культура, дзе ёсць месцы, у якіх людзі адчуваюць сябе свабоднымі. Так гурт ездзіць у туры па Польшчы, удзельнічае ў розных конкурсах накшталт «Басовішча» і «Бардаўская восень», аднойчы выступаў у Санкт-Пецярбургу.

## Мастак ці музыка?

Андрусь мае шмат іпастасей: ён і мастак, і музыка, і паэт, і вядучы. Канешне, аддаваць усе сілы на ўсе заняткі пароўну — немагчыма. Больш часу Такінданг аддае мастацтву і музыцы. Але!..

«Музыка займае больш часу, чым заняткі мастацтвам. Яна вымагае больш адказнасці і рэгулярнасці. Частыя рэпетыцыі, паездкі, арганізацыя транспарту і шмат яшчэ якіх побытава-творчых момантаў. Песні ствараюцца ў галаве. Але, каб іх агучыць, патрэбна агульная праца. Што тычыцца выяўленчага мастацтва, тут усё больш проста», — прызнаецца ён. Праўда, выбраць штосьці адно — мастацтва ці музыку — не хоча. Кажа, што выбар падобны да таго, якую руку адсекчы — правую ці левую, таму і зрабіць канчатковы выбар немагчыма.

Не столькі важна, што ў Андруся атрымліваецца лепш — граць ці маляваць. Важна тое, што гэты аптымістычны, жыццярадасны чалавек галоўнаю мэтаю сваёй творчасці ставіць людскую радасць.

*Ганна ШЫБУТ*

# Мой родны кут



## Прыгажосць

Я прыйшла дадому. За дзень вельмі стамілася, прысела на падаконнік і пачала прыглядацца да зімовага пейзажу.

Не так даўно, гледзячы ў акно, мне здавалася, што я бачыла яркае сонца, дзяцей, якія гулялі ў розныя гульні, людзей, апранутых у лёгкае адзенне яркага колеру. Усё гэта нагадвала карціну, намаляваную рознакаляровымі фарбамі. Так, гэта Лета.

Прытуліла галаву да шыбы. Усё белае-бялюткае, і я ўзгадала пра Восень.

Палітра чырвоных і жоўтых адценняў... Сонца ледзь-ледзь праглядвае праз светлыя аблакі, а ў мяне такі цудоўны настрой. Я ўспомніла тое адчуванне, калі лёгкі ветрык пяшчотна лашчыць твар. Але пастурова ён ператвараецца ў моцны вецер, зрывае з дрэў лісце, каб Зіма змагла накрыць іх сваім белым кажушком, які ніколі не выйдзе з моды.

Я па-ранейшаму гляджу ў акно і думаю, што Зіма старанна ўпрыгожыла наваколле, укрыла кожны кавалачак зямлі пухнатай белай коўдрай. З-за воблачка ўсміхнулася сонейка, працягнула свае промні да зямлі, прымусіла зіхацець і пераліваццa снегавыя сумёты. Зіме засталося не так шмат часу, каб валадарыць, бо спяшаецца да нас іншая дзяўчына.

Гэту дзяўчыну завуць Вясна. Яна ўжо дасылае першыя вестачкі пра сябе: робіць дзень даўжэйшым. Хутка Вясна пакліча дадому птушак, прачнуцца лясныя жыхары, расплюшчаць свае блакітныя вочкі пралесачкі. Пастурова прыгажуня пакрые зямлю зялёным аксамітам, пакліча людзей на вуліцы, каб тыя палюбаваліся, як усё расквітнела. Канчаткова падрыхтаваўшыся, Вясна пакліча Лета. І ўсё пойдзе сваёю чарадой, імкліва зацягваючы нас у штодзённыя справы.

На жаль, не ўсе могуць заўважыць, як вакол прыгожа, як прырода насычае колерам, расквечвае нашы шэрыя будні.

***Юлія ФЕДУКЕВІЧ,***
***Мачулішчы, Мінскі раён***

## Два пазлы: РАДЗІМА і СПОРТ

Часам здараецца, што дробныя ці выпадковыя падзеі так уразаюцца ў памяць, што ў дэталях памятаеш іх праз гады.

Тады я яшчэ нават у школу не хадзіла... Па тэлевізары прыгожая маладая жанчына выконвала песню, у якой былі словы: «Месца адно ёсць такое, адно, дзе ты нарадзіўся на свет...»

Потым не раз чула гэту песню, вывучыла яе, спявала. І з таго часу чамусьці, калі гавораць пра радзіму, вялікую і малую, у памяці ўсплываюць і вобраз гэтай абаяльнай жанчыны, падобнай да матулі, і мелодыя, падобная да павольнага цячэння нашых беларускіх рэк. Нават, здаецца, сама радзіма — гэта тая жанчына — добрая, ласкавая, сардэчная...

Матуля патлумачыла, што гэтую песню, у выкананні Валянціны Талкуновай, яна чула з дзяцінства. Імя Валянціна азначае здаровая. Калі я пра гэта даведалася, у розуме склаліся два пазлы — радзіма і здароўе. Зразумела, што ў маім жыцці яны дакладна зліліся ў адно цэлае.

Я жыву ў самым цудоўным месцы на зямлі! Мая родная зямля — Сноў. Ён невялікі, даволі вядомы... але ні тое, ні другое зусім не ўплываюць на маю любоў да яго. Ведаеце, гэта як плюс і мінус на магніце, такія розныя, але так і цягнуцца адно да аднаго. Мяне радуе тое, што не адна я такая, што ёсць людзі, якія таксама гавораць і думаюць пра Сноўшчыну з цеплынёй і любоўю.

Аднойчы ў класе мы праводзілі конкурс сінквейнаў «Мой край». Як было



прыемна чуць з вуснаў сяброў дзіўныя па сваёй прастаце і шчырасці словы! Даша назвала Сноў домам, а Валодзя напісаў, што ніхто ніколі не заменіць яму Сноўшчыну. Хлопцы называлі родны край матуляй, прытулкам, нават радзімай плямкай.

Прыемна, калі ўсе разумеюць, як гэта важна: шанаваць месца, дзе ты нарадзіўся. Можна бясконца прыводзіць прыклады, але хочацца расказаць пра спартыўнае жыццё людзей нашага маленькага гарадка.

Станіслаўскі казаў, што тэатр пачынаецца з вешалкі. А з чаго ж тады пачынаецца спорт? Ці ёсць адказ на гэтае пытанне? Думаю, калі казаць пра спартыўна-аздараўленчы цэнтр нашага аграгарадка, то спорт пачынаецца ўжо з вестыбюля. Утульны сучасны хол, пастэльны колер на сценах — хочацца прыходзіць сюды зноў і зноў. У зале — сучасныя трэнажоры, тэлевізар...

Спорт — важная частка нашага жыцця. Яшчэ ў дзіцячым садзе мы любілі эстафеты, а ў школе — спаборніцтвы. Я з задавальненнем займаюся чэрлідзінгам — спадарожнікам спартыўных балельшчыкаў.

Хоць Сноў невялікі, але за дзень у наш спартыўны цэнтр прыходзіць да трыццаці чалавек. Наведвальнікі прыязджаюць з розных куткоў Беларусі. Лепшы адказ на пытанне: «Што для вас спорт?» — гэта адказ: «Стыль жыцця».

Мае аднакласнікі пасля ўрокаў ідуць на трэніроўку: адны рыхтуюцца да конкурсу па армрэслінгу, другія хочуць палепшыць сваю расцяжку, а хтосьці проста хоча трымаць сябе ў форме. У кожнага свае мэты і задачы, таму наш трэнер спачатку ўдакладняе, чаго менавіта хоча наведвальнік, і толькі потым складае для яго індывідуальную праграму.

Самая галоўная ўзнагарода для спартыўнага цэнтра — гэта перамога на першынстве Рэспублікі Беларусь па армрэслінгу сярод юнакоў і дзяўчат. Усяго ў скарбонцы ў нас чатыры кубкі за першыя месцы і васямнаццаць дыпломаў за прызавыя.

Крыху прыкра бывае за паражэнні, але трэба вучыцца знаходзіць свае недахопы і працаваць над імі. Менавіта гэтаму трэнер і вучыць сваіх вучняў, накіроўвае іх на правільны шлях і ўсяляе веру ў перамогу.

Людзі, якія ходзяць на трэніроўку, смела ідуць да сваёй мэты, ёсць нават такія, што ходзяць у спартыўны цэнтр кожны дзень і займаюцца там па 3—4 гадзіны. Так, для пачатку цяжка, але амаль усе пачынаюць з нуля, а пасля некалькіх месяцаў мы бачым вынік, над якім хочацца працаваць больш руплівей.

 

Вельмі важна сачыць за сваім здароўем, таму трэнер дае парады па правільным харчаванні, расказвае, як дасягнуць поспеху. Я прыходжу дадому і адчуваю, як унутры мяне кіпіць энергія, таму хочацца займацца больш.

А як зрабіць так, каб усе зразумелі плюсы заняткаў спортам? Цяжкае пытанне. Можа, для пачатку падаць прыклад? А можа, угаварыць займацца разам? Так, у кожнага свой выбар, але хочацца, каб людзі зразумелі, што жыццё ў іх адно і не трэба марнаваць яго на глупствы. Для мяне важна, каб людзі даведаліся пра гэта, зрабілі правільны выбар і шлі да сваёй мэты.

У спорце няма ўзроставых абмежаванняў. Аднойчы ў спартыўным цэнтры заўважыла дзядулю, які хутка круціў педалі ровара. На другі дзень ён таксама быў там, на тым жа трэнажоры. Вам не перадаць мае адчуванні! Калі гэта ўбачыла, на маім твары міжволі з'явілася ўсмешка.

...Калі-небудзь я паеду вучыцца, але месца, дзе нарадзілася і якое дало мне так шмат — не забуду ніколі! Вялікая радзіма пачынаецца з малой... Цяпер я гэта добра разумею...

Сноў, дзякуй табе за гэта!

«Месца адно ёсць такое, адно, дзе ты нарадзіўся на свет...» — гучаць у галаве словы прыгожай жанчыны, падобнай да матулі, і мелодыя, падобная да нашых беларускіх рэк.

*Анастасія ЕЎТУХ,*
*Сноў, Нясвіжскі раён*

## Мая любімая вёсачка

Дачакаўся, каб нікога не было дома... Дастаю з верхняй паліцы свой сшытак. Здаецца, толькі цяпер, калі я ўжо дзевяцікласнік, зразумеў, навошта людзі вядуць дзённікі. Яны пішуць там пра асабістае: пра перажыванні, пачуцці, калі няма з кім падзяліцца або мала хто іх разумее. У мяне ёсць, з кім падзяліцца, але...



І я зноў разгортваю амаль спісаны сшытачак...

Вось ужо восем год наша сям'я жыве ў Чэрвені. Мы пераехалі ў горад з вёскі Дамавіцк, у якой закрылася школа, дзе мая матуля працавала настаўніцай пачатковых класаў. Немагчыма словамі

перадаць тыя пачуцці, якія кожную хвілінку вярталі мяне ў родную вёсачку, такую дарагую, непаўторную для мяне. Гэта маё дзяцінства, шчаслівае маленства, што назаўсёды застанецца ў памяці.

Прайшло ўжо нямала часу, але я вельмі люблю бываць у вёсцы, дзе засталіся жыць бабуля Кацярына і дзядуля Віктар. Гэтая невялічкая вёсачка прытулілася ля лесу, у якім я любіў і люблю бываць у любую пару года. Вось і ў мінулы прыезд я не забыўся наведаць лес. Як і заўсёды, з душэўным хваляваннем уваходзіў у яшчэ сонныя шаты, міжволі запавольваючы крок, прыслухоўваючыся да кожнага шолаху.

Пасля па знаёмай сцяжынцы паспяшаўся да рэчкі, што працякае за вёскай. Я вельмі люблю яе за гарэзлівасць і непаўторнасць. Прыгожа тут у любы час. Зімой вецер-свавольнік замятае снегам берагі, утвараючы казачныя сумёты-палацы. Летам у люстэрка вады ўглядаюцца высокія прыгожыя вольхі і кучаравыя лозы, што растуць на беразе. А як прыемна пасядзець з вудай летнім ранкам, сустрэць узыход сонца, паслухаць прывітальную песню жаўрука!..

Грыбны лес, духмяныя сады, жытнёвыя палі з сінімі валошкамі — гэта ўсё, што мы з бацькамі ўспамінаем амаль кожны вечар. Таму ў кожную свабодную хвіліну мы абавязкова прыязджаем сюды, і мая матуля проста маладзее, а я набіраюся сіл і вучуся шанаваць роднае.

З маленства мне запалі ў душу словы Якуба Коласа: «Вобразы мілыя роднага краю, смутак і радасць мая...» Чамусьці амаль з кожным годам яны набываюць для мяне новы змест, па-іншаму кладуцца на старонкі майго жыцця, такога зменлівага, бо я расту, сталею і гляджу на жыццё інакш, па-даросламу. Радуюся спеву птушак, жытняму коласу, высокаму лёту жураваоў, зялёнаму бору. Пакланяюся маёй зямлі, шчодрай на хлеб і таленты. Пасля школы вывучуся і абавязкова вярнуся ў Дамавіцк, маю родную вёсачку, пачну займацца сельскай гаспадаркай, каб быць ёй па-сапраўднаму карысным.

Увогуле, разважаць добра, а з дзённікам, напэўна, гэта больш зручна... Але ніколі не трэба спяшацца ставіць у канцы развaжанняў кропку ды хутчэй перагортваць старонку! Бо развaжанні толькі тады карысныя, калі могуць стаць пачаткам цікавых спраў ці новага жыцця...

***Ягор НЕВЯРОЎСКІ,***
***Чэрвень***



● **У свеце фантазіі**

# Незнаёмка з Чароўнай вуліцы

Аднойчы глыбокай восенню я гуляў па вуліцах горада. Задумаўся, разглядаючы асфальт пад нагамі. Ішоў і не заўважыў, як трапіў у незнаёмы раён. Непрыкметна надыходзіў вечар, на вуліцы не было ні душы.

Раптам нехта дакрануўся да майго пляча. Я павярнуўся і ўбачыў дзяўчыну, якая міла мне ўсміхалася. Не ведаю чаму, але мне здалося, што ёй можна давяраць.

На выгляд дзяўчыне было гадоў сямнаццаць. Усмешлівы твар атачалі каштанавыя валасы. Вялікія крыштальна-блакітныя вочы прыцягвалі і зачароўвалі. Поўныя вусны і акуратны носік надавалі ёй выгляд дзіцяці. Дзяўчына прапанавала прагуляцца разам па горадзе і я, вядома ж, згадзіўся.

— Як завецца гэтая вуліца? — запытаўся я.

— Чароўная, — адказала незнаёмка пяшчотным голасам.

Падумаў, што яна жартуе і больш не звяртаўся да яе. Аднак аказалася, што гэта не мой горад. У прамым сэнсе «не мой». Замест знаёмых вуліц і праспектаў былі прыгожыя алеі, выбрукаваныя чырвоным каменнем. Раскошныя белыя будынкі, маленькія таверны, якія вабілі апетытнымі водарамі. Крамы, у якіх можна было знайсці ўсё: ад іголак і нітак да розных зелляў і даспехаў. Нярэдка нам на шляху траплялiся людзі з дзіўнай знешнасцю, як я зразумеў пазней, гэта былі эльфы, феі, гномы...

Больш за ўсё я быў здзіўлены, калі мы прайшлі міма жанчыны, якая прапаноўвала пакупнікам жывёл. У гандляркі меліся велізарныя скарпіёны, ездавыя яшчары, маманты, мядзведзі і нават драконы!

Так мы гулялі ўвесь вечар. Але паступова цямнела, пачалі запальвацца ліхтары. Мы сталі паварочваць у нейкія завулкі, пятлялі паміж будынкаў, ішлі сярод зялёных кучаравых дрэў...

А вось і знаёмая вуліца, мой дом. Мы дайшлі да пад’езда і сталі развітвацца. Мне было вельмі сумна расставацца з дзяўчынай. Нечакана я пачуў дзіўны гук падобны да звону, у вочы мне ўдарыла яркае святло. Я хацеў спытаць у сваёй сяброўкі, што адбываецца, але яе нідзе не было відаць. Потым гэтак жа знікла і ўсё астатняе. Я расплюшчыў вочы і ўбачыў столь свайго пакоя. Гэта быў усяго толькі сон...

Прайшоў дзесьці месяц. Я забыўся пра тое здарэнне і, як звычайна, гуляў па вуліцах. Нечакана рука легла на маё плячо. Перад вачыма прабег сон. Гэта аказалася дзяўчына, вельмі падобная да той, са сну.

— Гэй, памятаеш мяне? — падміргнула яна.

А я ўсміхнуўся і падумаў, што ўсё ж цуды зрэдку здараюцца...

***Валерыя ГМЫЗА, Маладзечна***



Часопіс «МАЛАДОСЦЬ»
лепш за ўсё набываць
праз падпіску —
гэта не толькі беражэ час,
але і эканоміць грошы.
Пасрэдніцтвам «Белпошты»
або пры дапамозе паслугі
«да запатрабавання»
ў крамах «Белсаюздрук»
можна падпісацца
нават на адзін нумар часопіса,
прычым, якой заўгодна колькасці
экзэмпляраў.

*Яшчэ сустрэнемся?!*



***Льготная падпіска для ўстаноў Міністэрства культуры і Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Ведамасны льготны індэкс — 00731; падпісная цана на 1 месяц — 46 800 руб.***

***Індывідуальная падпіска. Індэкс — 74957. Цана на 1 месяц — 19 100 руб.***
***Ведамасная падпіска. Індэкс — 749572. Цана на 1 месяц — 59 300 руб.***

***Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў. Індэкс — 00592. Цана на 1 месяц — 13 500 руб.***

Дызайн лагатыпа на вокладцы *Веранікі ШНІП*
Тэхнічнае рэдагаванне і камп'ютарная вёрстка *Святланы СТАРАВЕРАВАЙ*
Стыльрэдактар *Кацярына ГОЛУБ*



Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.
Паштовы адрас: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19. Тэлефоны: 284-85-24, 284-41-88, 288-20-72.

Падпісана да друку 10.02.2014. Фармат 84×108 $^{1}/_{16}$. Папера газетная. Друк афсетны. Умоўн. друк. арк. 16,80.
Ул.-выд. арк. 15,15. Тыраж 2299 экз. Заказ 0000. Кошт нумара ў розніцу 19 100 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск, праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009 г.

Часопіс «Маладосць» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэг. нум. 16.


**maladost@bk.ru http://maladosc.livejournal.com**

**Заснавальнікі — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь;
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»;
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**